*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ*
*ЧАСОПІС*



# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Выдавецтва ЦК КП Беларусі * Заснаваны ў 1953 годзе *



**2**

**ЛЮТЫ**

МІНСК, 1973



Вокладка В. Шрамякова.

Шмуцтытулы П. Драчова (стар. 3) і В. Ждановіча (стар. 99).



# ПАЭЗІЯ

- Кастусь ІЛЬЮШЧЫЦ
- Сяргей ГРАХОЎСКІ
- Алесь РАЗАНАЎ



- Антон АЛЕШКА
- Аляксандр КАПУСЦІН
- Мікола КУТАС
- Міхаіл ПРЫШВІН

# ПРОЗА





*кастусь ільюшчыц*



# паэзія



■

**Штурмуюць войскі палігон.**
**Ідуць вучэнні дзень каторы.**
**Прайшлі праз воду і агонь,**
**Дадуць загад — мы ўсё паўторым.**

**А тут сігнал:**
**— Глушы матор!..**
**І кухні дым... Прывал вялікі...**
**Лагчына схоўвае прастор,**
**Які нядаўна ўдалеч клікаў.**

**Вакол зямная цішыня.**
**Ніхто не б'е агнём прыцэльным,**
**Нібыта вымерла вайна,**
**І мір, і мір на свеце цэлым.**

**Ва мне ж не моўкне ні на міг**
**І гнеў правінцыі Хаціні,**
**І анямелы стогн Сангмі,**
**І скамянелы боль Хатыні.**

■

**Тайгі каляровая хустка**
**Пажухла за восеньскі дзень.**
**Граніца...**
**Змяркае. І хутка**
**Патухне апошні прамень.**

**З акопа, які пад рабінай**
**Схаваны на той старане,**
**І вочы, і ствол карабіна**
**Прыцэльна глядзяць на мяне.**

**Не цела абмацваюць, здэцца, —**
**Гатовы абмацаць душу**
**За тое, што я — савецкі,**
**Савецкую форму нашу.**

**Я знаю: не мы вінаваты,**
**Што сопкі між намі сцяной...**
**Радзіма! Усім, чым багаты,**
**Табе абавязан адной.**

**І сэрца пяшчота атуліць**
**За мірнасць ў маёй старане...**
**Айчына з трывогай матулі**
**З граніцы чакае мяне.**



## ПРОЗА



*сяргей грахоўскі*

# ГАРАЧАЕ ЛЕТА

## АПОВЕСЦЬ

Мал. І. Немагая

### 1

Мы ваявалі ўсё лета. Ваяваць было з кім і было за што.

Вайна пачалася за абгарэлы ксяндзоў дом. Пусты, закураны, без вокнаў, стаяў ён непадалёк ад стромкага белага касцёла з дзвюма званіцамі. Увесь касцельны дзядзінец агінаў высокі земляны вал. У забросненых сажалках крумкалі і краклалі зялёныя жабы, берагі зараслі аерам і чаротам, старыя дуплаватыя вербы паласкалі тонкае веццe ў густой зеленаватай вадзе і хілiлiся тоўстым парэпаным голлем на крутыя схілы здзірванелага валу.

Касцельны двор зарос палыном, крапівою і дзікім хрэнам. Каля пустога дома разлапушыліся кусты бэзу. На высокай старой таполі з вясны да выраю клекаталі буслы, на званіцах вяліся галубы, а ноччу з піскам вылятаeлі сухія трапятлівыя кажаны. Яблыневы сад дзічэў і сох, сцежкі густа зараслі рамонкам і трыпутнікам. Замкі і завалы на касцельных дзвярах парудзелі ад іржы. Часам у касцёл прыходзіў сівенькі арганіст, адмыкаў дзверы і пацiху іграў нешта доўгае і журботнае. Ксёндз уцёк разам з войскамі Пілсудскага, ратуючыся ад нянавісці і помсты местачкоўцаў. Дом загарэўся яшчэ пры ім. Тушылі яго толькі салдаты, а местачкоўцы пазіралі здалёк, цешыліся, што добра шугае смольнае бярвенне, і клялі юду ў чорнай сутане.

У нашым мястэчку было дзве ці тры каталіцкія сям'і, але спрадвеку стаяў касцёл, самы вялікі, прыгожы і багаты на ўсё наваколле.

Па нядзелях і на фэсты сюды з'язджалася процьма засцянковай шляхты. Званілі ўсе званы, іграў арган, палалі свечкі, пахла воскам і ладанам. Мы часта бегалі паглядзець на шыкоўнае набажэнства, шнырылі і круціліся паміж шлехцюкоў і модных шляхцянак. За гэта нашым патыліцам нямала перападала пстрычак і кухталёў.

Пры белапольскай акупацыі ксёндз выказаў жандарам ціхага, добрага душою, прыгожага местачковага хлопца Федзю Жыжкевіча. Федзя адразу пасля рэвалюцыі быў у рэўкоме за пісара і разам з камісарам апісваў касцельнае золата. «Святы ойча» адпомсціў яму, як толькі прыйшлі ўланы Пілсудскага.

У нядзелю жандары вывелі Федзю на базарную плошчу. Над мястэчкам было чыстае веснавое неба, капала са стрэх, пад нагамі хлюпаў набрынялы вадою снег. Жандары сагналі вялікі натоўп людзей да адзінае цаглянае крамы. Непадалёк духавы аркестр іграў вясёлыя маршы. Федзю паставілі да сцяны, хацелі завязаць вочы, але ён сарваў і затаптаў у снег рабенькую хустачку. Маленькі афіцэр у рагатай канфедэратцы пастроіў шарэнгу салдат. Галасілі і затыкалі вушы ў натоўпе жанкі. Федзеў бацька, стары ганчар Андрон, прарваўся наперад, плюхнуўся на калені ў мокры снег, рвануў на грудзях кашулю і з паднятымі рукамі нема заенчыў: «Людзі, адумайцеся, што вы робіце? Хіба ж можна забіваць дзіця, ён жа і кураняці не зачапіў! Памажыце, злітуйцеся!»

Федзя памкнуўся да бацькі. Грымнуў залп. Калі расплыўся дымок, у паружавелай лужыне ляжаў скурчаны Федзя з выцягнутаю наперад рукою.

Я ўпершыню ўбачыў, як забіваюць. Быў чалавек — і няма. Ад жаху і жалю заліўся слязьмі, асеў на брудны, перамешаны нагамі снег. Злосць, адчай і страх душылі горла. Тады я зразумеў, што ёсць **мы** і ёсць **яны**, люта ўзненавідзеў высокага прыгожага ксяндза і таго афіцэра, што скамандаваў: «Палі!»

Здавалася, зараз Федзя ўстане, ацярэбіцца ад бруднага снегу. Але не паварушыўся, не ўстаў. Людзі разбягаліся ў жаху з плачам і галашэннем, натоўп радзеў: яго ўжо ніхто не сунімаў. Салдаты з вінавата ўнуранымі галовамі пратупалі ў гміну. Уткнуўшыся ў жужаль размешанай дарогі, ляжаў непрытомны Андрон.

А духавы аркестр, стоячы кругам на растаптаным, азызлым снезе, усё яшчэ іграў нешта гучнае і маруднае. Невысокі немалады капрал неяк вяла махаў праваю рукою, а леваю праціраў шкельцы акуляраў.

Андрона паднялі двое дужых мужчын. Ён зірнуў на сына, зноў асунуўся і папоўз да яго, прыпаў да твару:

— Яшчэ цёплы. Памажыце! Можа жывы. Памажыце!

Я заходзіўся ад плачу, захлынаўся слязьмі і, як праз туман, бачыў, што нехта спыніў фурманку. Конь натапырыў вушы, адварочваўся і трывожна хроп. Мужчыны паднялі і асцярожна паклалі Федзю ў палукашак, з развалак звісла збялелая мокрая рука. За санямі, падтрымліваючы пад пахі, павялі Андрона. Ён толькі круціў галавою і безнадзейна разводзіў рукамі. На вуліцы людзі саступалі дарогу фурманцы, праводзячы жалобныя сані доўгімі поглядамі, іншыя панура ішлі следам.

Замоўк аркестр. Зладзеявата, як пабітыя, разыходзіліся музыканты з бліштастымі трубамі, падобнымі на бляшаныя вантробы.

Мястэчка зацята і трывожна замоўкла. Раптам у царкве ўдарылі званы. Так звоняць толькі па нябожчыку.

Я ўпершыню бачыў, як людзі забіваюць чалавека, і не мог зразумець, чаму такі вялікі натоўп не кінуўся на салдат, чаму не адабралі

ў іх стрэльбы, чаму глядзелі, як забіваюць такога маладога і ціхага хлопца.

Праз два дні загарэўся ксяндзоўскі дом. І вось каторы ўжо год ён стаіць закураны і пусты. Бляшаны дах асеў, на тоўстых дубовых калонах абгарэла і аблузалася фарба, паміж маснічын прабіўся палын, апусцеў і зарос касцельны дзядзінец. Толькі ў пустых пакоях адгукалася рэха.

Ціхая паўнаводная Пціч падмывала адхоны касцельнага валу. Пасярод ракі ўздымаўся невялікі астравок, зарослы алешнікам і кустамі парэчак, ад яго цягнулася пясчаная каса і знікала ў цёмным віры. Астравок для нас быў недаступны і таямнічы. Хацелася верыць, што там жывуць вадзянікі і русалкі, растуць нябачаныя кветкі. Мы прыдумлялі сабе казкі і жылі ў іх: воблакі праплывалі то прывідамі караблёў, то імчаўся ў блакіце белы, з доўгаю грываю конь, станавіўся на дыбкі і на вачах рабіўся сумётам снегу, а з яго паказвалася галоўка прыгожай дзяўчыны, плыла і раставала ў блакіце. Усё здавалася загадкавым, незразумелым і поўным таямніц.

На прырэчным куп'істым выгане бялелі чароды гусей. Іх пасвіў высокі і тонкі, як сцежар, дзядзька Яўхім. Яму некалі неаб'езджаны панскі стаеннік перабіў нагу, косткі зрасліся не так, як трэба, і ён ледзьве клыпаў з кійком за гусямі, збіраў пер'е і пух у торбачку і расказваў байкі.

Хлапчукі з нашай вуліцы кожны дзень боўталіся ў рэчцы, пакуль не пасінеюць і з галавы да пят не пакрыюцца гусінымі пупышкамі, бегалі навыперадкі па выгане, а то садзіліся вакол дзядзькі Яўхіма і прасілі расказаць. Расказваў ён ахвотна і так, што аж дух займала ад страху. Паскрабе пасівелую шчаціну на барадзе, бліcне хітрымі цыганскімі вачыма, усміхнецца і пачне павольна і абыякава, нібы расказвае нейкую дробязь, што была з ім учора ці пазаўчора.

— Ты ж помніш, Алёшка, майго Буланчыка? — звяртаецца дзядзька Яўхім да мяне.

— Ён яшчэ ў Бярозавым балоце заграз, і вяроўкамі выцягвалі,— адказваю я.

— Валацужны быў конь. Цягаўся, пакуль на грэблі нагу не скруціў. Павёў я яго на начлег у Дубень, спутаў, бразгатку на шыю павесіў, закруціўся ў кажух і прымасціўся каля прысаку. Зямля росная, парная. Ляжу сабе на грудку і з зоркамі перамірграюся. Аж якраз у поўнач, чую, пад самым вухам грукае нешта, нібы молатам па кавадле гасіць — бух-бух-бух! Прыслухаўся. Галасы нема пераклікаюцца пад зямлёю, а потым як загалосіць нехта, і зноў: бух-бух-бух. Усхапіўся, думаю — сніцца. Прыслухаўся — бухае, і плач не сціхае. Шапка заварушылася на валасах. Гляджу — Буланчык скача да вогнішча. Стаў, вушы натапырыў, дрыжыць, толькі ноздрамі храпе. Конь чуе лепш за сабаку. Тут і яго, небараку, страх апанаваў. Я не паварушыўся — здранцвела ўсё. А пада мною ўсё нешта бухае і плача, бразгае, бытта ланцуг аб вядро. Потым усё пачало глухнуць і сціхаць. Я — за каня, ды ходу на гэты бераг. Тут толькі ўспомніў: нябожчык бацька, царства яму нябеснае, некалі расказваў, што і ён чуў, як грукае.

Дзядзька Яўхім хітра паглядзеў на нас, прыцішаных і спалатнелых.

— Хто ж там грукаў? — не ўтрымаўся большы з нас Лукер'ін Лаўрэн.

— Гэ, каб хто ведаў...— дзядзька Яўхім дастаў скураны капшук і пачаў рудымі пальцамі скручваць доўгую цыгарку. Тоўстая папера



не склейвалася, і ён доўга жмакаў зубамі і слініў беражок. Папыхкаў, памаўчаў.

— Алёшка, скокні завярні маіх гергетуноў да рэчкі.

— Толькі ж вы без мяне не расказвайце далей,— папрасіў я і пабег адварочваць гусей. Баяўся вялізнага шэрага гусака: ён не толькі сыкаў і ганяўся за малымі, а налятаў коршакам, біў крыламі і да крыві шчыкаў доўгаю дзюбаю. Але хто не паслухаецца дзядзьку Яўхіма, калі яшчэ не расказана самае цікавае? Я схапіў доўгую хлудзіну і пабег да чарады. Чым бліжэй, тым павольней. Здалёк крычаў: «Гыля! Гыля!» і махаў дубцом. Гусак выцягваў шыю, сыкаў, але не кідаўся на мяне і павольна тэпаў да маленькай азярынкі, зарослай густым плюснікам. За ім, валюхаючыся збоку набок, паўзла ўся чарада.

Я бег хутчэй да дзядзькі Яўхіма. Здалёк бачыў, што ён нешта гаворыць, а хлопцы аж заходзяцца ад смеху. Значыць, не тое, не самае цікавае. Цяжка дыхаючы, садзіўся бліжэй і глядзеў у вочы старому, нібы прасіў: «Ну, расказвайце, ну хутчэй».

А ён не спяшаўся. Пыхкаў цыгаркаю і пасміхаўся:

— Нешта мой гусак цябе ўпадабаў. Можа ў падпасічы ноймешся? Усё роўна ўсё лета гарцаеш.

— Мама не пусціць. Трэба грады пільнаваць, а то Дуніны куры ўвесь агурэчнік златашылі.

— Ну, кажыце, дзядзька Яўхім, Алёшка прыбег ужо,— прасіў Лаўрэн.

Стары, апякаючы пальцы, дакурыў цыгарку, папляваў на недакурак і загроб яго зямлёю.

— Некалі яшчэ мой нябожчык-дзед расказваў, што з-пад касцёла пад ракою аж да самага Гарадка, можа яшчэ за царом Гарохам, пракапаны патайны ход. У сутарэннях стаяць жалезныя скрыні, поўныя золата і такіх каменняў, што ўпоцемках ад іх светла. Кажуць, паны і ксяндзы там хавалі вялікае багацце. А ў скляпеннях замуроўвалі сваіх ворагаў, на ланцуг саджалі няверных служак. Можа яшчэ хто жывы і енчыць начамі, а можа душы няшчасных просяцца на волю.

— А дзе ў чалавека душа, дзядзька Яўхім? — не стрымаўся я.

— Ці-ха ты,— тузануў мяне Лаўрэнаў брат Васіль,— не перабівай.

— Душа? — перапытаў стары.— Яна, брат, дзе калі. Наляціць на цябе гусак — душа ў пяткі. Пахваліць маці, што добра грады пільнуеш,— яна от тут, пад сэрцам таххае.

— Ат, не слухайце яго. Што далей? — запытаў Лаўрэн.

— Ну што далей? Грукаюць і цяпер. Значыць, нешта ёсць. А можа гэта юда-«пан пробашч» цішком вярнуўся ды сваё золата выграбае. Ці мала іх перапаўзло назад з бандамі Балаховіча? Казаў мне адзін чалавек, што бытта на кірмашы ў Пяценцы пазнаў таго самага ксяндза, што Федзю парашыў. У світу, кажа, адзеўся і бараду адгадаваў, а з морды выліты ксёндз. Бажыўся, што не ўкляпаўся.

— А адкуль гэты ход ідзе? — зноў запытаў Лаўрэн.

— Каб жа хто ведаў! Кажуць, яшчэ ў тую, германскую вайну, Есіпавы хлопцы лазілі пад касцёл. Пазвязваліся вяроўкамі, спусціліся ў акенца, што пры самай зямлі, паляць свечку, а яе нехта тушыць. Трохі агледзеліся — тры жалезныя дамавіны стаяць, чыркнулі запалкі і ледзь не ўмерлі. На адной века зашклёнае, а пад ім, як жывы, ляжыць сівы пан. Медалі блішчаць на зялёным мундзіры і «палеты» — на плячах. У кутку косці валяюцца. Нешта гудзе, і вецер ходзіць. Яны — ходу. Старэйшы меншага падсадзіў, а той яго ўжо вяроўкаю выцягнуў. Пасля таго ніхто болей не лазіў. Яшчэ плявузгалі, праўда ці не, што

і з-пад ксяндзовага дому ёсць ход у сутарэнне. Можа хто калі і знойдзе.

Дзядзька Яўхім устаў, узяў кіёк, перакінуў праз плячо торбачку і пачыкільгаў па выгане збіраць гусінае пер'е. Мы сядзелі моўчкі.

— Хадзем! — скамандаваў Лаўрэн, падцягнуў зрэбныя, пафарбаваныя альховаю карою, штонікі з шырокаю шлейкаю, і мы пайшлі, не пытаючыся, куды.

Ён быў старэйшы і камандаваў усімі хлапчукамі трох суседніх вуліц. Малодшыя браты, Васіль і Іван, баяліся і слухаліся Лаўрэна. Сцэпяцца, бывае, біцца, а ён здыме з цвіка салдацкую папругу і давай ёю разбароньваць братоў. Пасля паўдня чухаюцца абодва, толькі праз зубы сыкаюць адзін на аднаго. Бацьку свайго яны не ведалі: як пайшоў на вайну з германцам — так і канцы ў ваду. А маці, куртатая, шырокая ў клубах цётка Лукер'я, пры Мікалаі, пры Саветах, пры немцах і пры паляках усё служыла старожкай у воласці. Мыла падлогу, зімою паліла печы, насіла ваду ў дзежачку з кубкам на ланцужку. Пры воласці яны і жылі. Цяпер, калі зноў камісарылі свае местачковыя мужчыны, Лукер'я хвалілася, што яна ўжо не старажыха, а «кульверша». Ніяк ёй не давалася гэтае чужое слова, хоць і часта казырылася сваім новым «чынам», але ні разу не магла правільна назваць сваю пасаду. У яе рабоце нічога не змянілася, толькі, апрача ўсяго, трэба было яшчэ адносіць паперкі і пакеты ў суд, у міліцыю, ляснічаму і ў школу. Чытаць Лукер'я не ўмела, дык збярэ ўсё разам, прынясе і кажа: «Выбірайце сваё, а што астанецца, панясу далей». Часта з пакетамі і паперкамі бегаў Лаўрэн. Разнясе і зноў ляціць на выган. Па дарозе заскочыць у сад пані Лабацэвічыхі, налатошыць поўную пазуху яшчэ зялёных, кіслых, як воцат, яблыкаў, дражніць нас, а мы падлізваемся і выпрошваем хоць самы чарвівы.

Цяпер Лаўрэн вёў нас да валу. Крутыя схілы зараслі травою, дробным рамонкам і дзядоўнікам, ад касцельных сажалак старыя вербы хіліліся да зямлі. На іх можна было сядзець, звесіўшы ногі на сцежку, і глядзець з вышыні на зарэчныя лугі, далёкія дубровы, на пясчаныя выдмы, зарослыя чырвоным ракітнікам.

Месцамі схілы паасыпаліся, і з-пад пяску вытыркаліся тонкія чырвоныя цагліны. Значыць, у сярэдзіне было мураванае скляпенне. Можа той самы патаемны ход, пра які расказваў дзядзька Яўхім, быў і пад валам.

Вал, касцёл і абгарэлы ксяндзоў дом былі ахутаны таямніцаю, здаваліся страшнаю казкаю, і мы ішлі за Лаўрэнам, каб разгадаць яе.

Узышлі на круты адхон, збеглі ўніз і па мокрай сцежцы каля сажалкі выйшлі на апусцелы касцельны дзядзінец. Каля дому чулася нейкая гамана, нехта бегаў і хаваўся сярод здзічэлага саду.

Каля ганка хлапчук гадоў дванаццаці трымаў на плячы выструганую з тоўстай дошкі вінтоўку. Яна была добра пафарбавана і вельмі падобная на сапраўдную.

— Стой, хто ідзе? — убачыўшы нас, крыкнуў хлапчук.

На ім былі кароткія штонікі, белая матроска з сінім каўнерыкам і скураныя сандалікі. Звалі яго смешна, як дзяўчынку,— Лёлік. Яго бацька трымаў вялікі на той час аптэкарскі магазін, насіў капялюш і залатыя акуляры, лічыўся ў мястэчку багатым і разумным чалавекам. Ён без дактароў прадаваў лекі ад любой хваробы: баліць у грудзях — мікстуру, ад галавы — парашкі, ные сярэдзіна — чорную мазь, лячыў ад ікаўкі і пераляку. Яны мелі свой дом з верандаю, зашклёнаю каляровымі шыбкамі. Праз акно відаць была вялікая лямпа з зялёным гарусавым абажурам. І раптам гэты мамін сыночак стаіць тут і пытае «Хто ідзе?»



— Псік адсюль, смаркач,— цыкнуў на яго Лаўрэн і грабянуў убок, каб не замінаў.

Лёлік адскочыў, выхапіў скручаны з бляхі свісток і зацвырчэў на ўвесь сад. З дому павыскаквалі такія ж чысценькія хлапчукі, большыя і меншыя, з вінтоўкамі, бляшанымі шаблямі, кінжаламі, з выбітага акна высунулася рыльца кулямёта. Ён быў з фанеры і бляхі, але настолькі падобны на сапраўдны, што здавалася: зараз засакоча гарачымі кулямі.

На ганак выйшаў здаровы плячысты Гога. Яму было гадоў пятнаццаць. На плячах белай кашулі паблісквалі сапраўдныя афіцэрскія пагоны, на шапцы — круглая кукарда з арлом. Шчокі — як недаспелыя сунічыны, пад рудымі брывамі — маленькія свіныя вочкі.

— Што вам тут трэба, басатва? — гаркнуў ён на нас.— Марш, пакуль па карку не надавалі.

— Ты не каркай, рудая падла,— агрызнуўся Лаўрэн.— Што гэта, твой дом? Бач ты яго, пагоны начапіў. От скажу Будніку, дык у два шчоты на Салаўкі загрыміш.

Гога ведаў, што Лаўрэн носіць пакеты начальніку міліцыі Будніку, і пачаў заікацца.

— Мы... гэта самае... у вайну гуляем. У белых і чырвоных. А пагоны знайшоў, дальбог, знайшоў. А вы не лезьце. Мы тут гуляем. Ідзіце за касцёл і гуляйце сабе. Месца ўсім хопіць.

Гогава войска, гатовае рынуцца на нас, разгубілася разам з камандзірам. Лаўрэнава пагроза напалохала ўсіх. Відаць, і дома ў іх пабойваліся Будніка. Міліцыя часам начамі трэсла мясцовых гандляроў, уласнікаў і спекулянтаў — шукала золата, зброю, а то і бандытаў, што не-не ды і пракрадваліся ў мястэчка. А банды яшчэ шасталі па лясах, рабавалі вёскі, адбівалі абозы з хлебам, часам стралялі сельскіх актывістаў.

У ксяндзовым доме і садзе сабраліся дзеці местачковых гандляроў і ўласнікаў. У Гогавага бацькі быў двухпавярховы млын з вальцоўкаю, крупадзёркаю, ваўначоскаю і пільняю. Трымаў ён чалавек шэсць рабочых. Невысокі, згорблены, нейкі зліняля, гаспадар і летам хадзіў у суконнай паддзёвачцы, у хромавых, пабеленых мукою ботах са зморшчанымі халявамі. Местачкоўцы жартавалі, што Стральцэвіч нанач кладзе чобаты пад падушку, бо абцасы і куртатыя насы набітыя залатымі чырвонцамі. Можа выдумлялі, а можа і праўда.

Затое Гога быў не ў бацьку — рослы і сыты, як малады кормнік, заўсёды дагледжаны і чысценькі. Ён таварышаваў толькі са «сваімі», як казалі, благароднымі. Нас, «басатву», ніколі не заўважаў. А тут Лаўрэнавай пагрозы спужаўся і ён. Лаўрэн ды і мы адчулі, што нас баяцца, і ўзышлі на ганак. Дзверы нам загарадзіў Гога. З пустых пакояў падышло яшчэ пяцёра хлапчукоў з добра выструганымі і расфарбаванымі вінтовачкамі.

— Хлопцы, лепш не лезьце,— расставіў рукі Гога.— Калі хочаце біцца, дык нас больш. А пагонамі мяне не страш,— ён іх зняў з плячэй, паляпаў адным аб другі,— я іх аднясу Будніку і скажу, дзе ўзяў, можа там яшчэ што знойдуць. А вы не лезьце сюды.

Лаўрэн тузануў яго за грудзі. Гога паляцеў за парог і ледзь утрымаўся. Лёлік схапіў сваю зграбную вінтовачку і хацеў агрэць Лаўрэна ззаду, але Васіль так сунуў яму кулаком пад дых, што над ганкам толькі бліснулі жоўценькія сандалікі, і Лёлік потырч паляцеў пад бэзавы куст. З саду збягалася Гогава войска. Нас чатырох яны б збілі

на горкі яблык. Але Лаўрэн за парогам падняў доўгі абгарэлы прэнт, я скочыў за Лёлікам і схапіў яго вінтовачку, а Васіль з Іванам трымалі па кавалку цэглы.

Лаўрэн вакол сябе размахваў прэнтам і лаяўся, як п'яны шавец:

— А ну, падыходзь, каму жыць агоркла! Як агрэю па макаўцы, дык да кутніцы развалю!

Ён сапраўды быў страшны ў гэтую хвіліну. Вузкія чорныя вочы гнеўна блішчалі, пабялеў кончык дзюбатага носа, у куточках губ запяклася белая пена.

— Я вам павcausaваю, царскія недабіткі!

Спалоханы Гога толькі моргаў рудымі вейкамі. У праёме акна паказаліся дзве галоўкі ў белых касыначках з чырвонымі крыжыкамі на лбе — Ліля і Маля. Іх бацька трымаў краму з «чырвоным таварам». Так некалі называлі розныя тканіны, што ішлі на спадніцы і кофты вясковым маладзіцам і дзяўчатам. Дзве сястрычкі ў Гогавым войску былі міласэрнымі сёстрамі.

Таму, відаць, камандзір і не пускаў нас у ксяндзоў дом.

— Хлопцы, паляньце,— закрычаў Іван, за чарнату празваны цыганом,— з імі і дзяўкі гуляюць,— і замахнуўся на іх цаглінаю. З піскам сёстры зніклі за падваконнікам.

— Ты, Гогаль-могаль, слухай сюды,— скамандаваў Лаўрэн,— каб заўтра вашага духу тут не было, і дарогу забудзьцеся. А злаўлю гэтых пстрычак, крапівою перахрышчу ў нашу веру — тыдзень за стол не сядуць.

— Гэта што, ультыматум? — трохі ачухаўшыся, спытаў Гога.

— Хочаш з матам, хочаш без мату, а вымятайцеся да аднаго. Мы тут будзем гуляць. Наша ўласць і ўсё наша. А вы сваіх даганяйце, дзе Макар цялят не ганяў.

Размахваючы прэнтам, Лаўрэн саскочыў з ганка. Мы пайшлі за ім. Васіль з Іванам трымалі цагліны, а я — вінтовачку. Аптэкараў Лёлік бег следам і скуголіў: «Эй, ты, бацян, аддай вінтоўку, а то тату скажу. Ён табе пакажа». Я выставіў яму дулю з накрыўкаю.

— Па-ча-кай, от схопіць трасца, тады і папа табе дулю пакажа.

Мы, азіраючыся, адыходзілі праз сад. Па галінах і лісці ляцелі камяні і палкі нам услед. Спыніліся і агледзеліся толькі на вале: Гога, зноў у пагонах, строіў сваё войска.

Лаўрэн праз зубы цыркаў слінаю і лаяўся:

— Ну, гадзяняты,— войска сабралі! Пагоны пачаплялі!

— Можа і яны ход шукаюць, га? — занепакоіўся Васіль.

— Трасцу яны знойдуць. Гэтыя смятаннікі пацука баяцца. Іх туды і ланцугом не зацягнеш. А мы знойдзем. Толькі каб ніхто-ніхто не ведаў. А вы глядзіце, нідзе не гаўкайце,— загадаў Лаўрэн.

— Што, калі і праўда золата знойдзем? От цукерак папаямо,— аж аблізнуўся Іван, худы, чорны, як грак, увесь твар у лішаях, на руках цэлыя гнёзды бародавак.

— Цукерак яму захацелася. Унь штаны, як рэшата, свіцяцца, качаешся на голай печы, зімою босы за хлеў бегаеш, а табе цукеркаў захацелася,— перадражніў брата Лаўрэн. Ён у свае пятнаццаць гадоў быў за гаспадара ў сям'і: памагаў маці насіць ваду і шараваць падлогі, рэзаў дровы і паліў у печы, наймаўся адпасваць чаргу. І пагуляць хацелася, як і ўсім равеснікам. Браты слухаліся Лаўрэна больш, як маці. Толькі не паслухайся, дык ён такую ўрэжа аплявуху, што тры дні ў вушшу звініць і зоркі ў вачах круцяцца.

— Я ведаю, куды дзець, калі знойдзем,— ціха сказаў Лаўрэн.



— Толькі б знайсці, дык я так схаваю, што і ты не знойдзеш,— усміхнуўся Васіль.

— Куды ж ты схаваеш?

— Які разумны! Скажы яму. Знойдзеш, тады пабачыш.

— Дурань ты, дурань, Васіль. А што рабіць будзеш? Яго ж не ўгрызеш. Купіш раз, купіш два, цябе і спытаюць «дзе ўзяў»? Што тады?

— Скажу «знайшоў».

— Так яно і валяецца, каб кожны дурань знаходзіў.

— Дурань, дурань,— пакрыўдзіўся Васіль.— Разумнік вялікі.

— От і разумнік. Ведаеш, каму аддам?

— Ну каму? — не стрымаўся я.

— Будніку або камісару.

Мы здзівіліся.

— Каб адправіў на хлеб Паволжжу. Там жа людзі мруць з голаду. Спаліла ўсё да каліва. Скрозь хлеб па фунту збіраюць, каб людзей ратаваць ад смерці. А ён на цукеркі...

— А нам што? — занепакоіўся расчараваны Іван.

— На бульбе пражывем, а некалі і цукеркі будуць. Сам чуў, як камісар Зубарэвіч пра Паволжжа з газеткі так жаласна чытаў. Ледзь не заплакаў.

— Бач, бач, пайшлі «ваякі»,— паказваў Васіль. Хлопчыкі з вінтоўкамі спускаліся з валу. Апошні цягнуў фанерны кулямёт.

— На абед бягуць. Каб хаця курыца не астыла і смятанка не скісла,— сказаў Лаўрэн і злосна цыркнуў праз зубы.

## 2

Паблізу не было ні гарадоў, ні вялікіх гасцінцаў. Войска толькі часам праходзіла праз наша мястэчка. Спынялася на тыдзень, на два і гэтак жа нечакана, як прыйшло, пакідала ціхія вуліцы.

Назаўтра пасля нашай першай бойкі пылам закурыўся шлях, па мосце зацокалі падковы, загрымелі абозы, забразгалі паходныя кухні. У мястэчка ўваходзіла чырвонаармейская часць.

Местачкоўцы высыпалі на вуліцу паглядзець, а ўся басаногая дзетвара навыперадкі памчалася насустрач.

Паперадзе на вараным жарабку ехаў камандзір у чырвоных галіфэ, кароценькай сіняй венгерцы, перакрыжаванай рамянямі. З левага боку вісела загнутая шабля, а з другога ў доўгай калодцы целяпаўся маўзер. За ім ехаў чырвонаармеец з палінялым сцягам. Побач з ім на плячах двух коннікаў паблісквалі шаблі. Следам тупала чалавек шэсць з малымі і вялізнымі, закручанымі праз плячо, трубамі. Паперадзе невялікі салдацік валок залатаны турэцкі барабан з меднымі накрыўкамі. Як толькі ўвайшлі ў вуліцу, бабахнуў барабан, грымнулі трубы, пад камандзірам заскакаў конь. Суладна затупалі разбітыя боты, чаравікі, мякка шлёпалі лапці. На загарэлых тварах сцякалі кроплі поту, пакідаючы на шчоках светлыя разоркі.

Да валасці сышоўся натоўп мужчын, кабет і дзяўчат, чырвонаармейцы падміргвалі і ўсміхаліся ім.

На ганак выйшаў старшыня рэўкома Іван Мазалеўскі і валасны камісар Павел Зубарэвіч. З-пад расшпіленага каўняра чорнай касавароткі відны былі палоскі матроскай цяльняшкі, на грудзях — заўсёды чырвоны бант, на галаве скураная шапка з бляшанаю зоркаю, на папрузе кабура з доўгім плеценым раменьчыкам ад ручкі нагана.

Камандзір лёгка саскочыў з каня, узбег на ганак, паціснуў рукі камісару і старшыні рэўкома. Пра нешта пагаварылі. Наперад выйшаў камісар. Зняў шапку, пакручастымі пасмамі рассыпаліся каштанавыя валасы.

Гаварыў ён горача і складна. Не ўсё мы разумелі. А тое, што вайна закончылася, але белыя банды ворагаў савецкай улады яшчэ бадзяюцца па лясах нашай воласці, забіваюць лепшых людзей, рабуюць вёскі, было зразумела і нам.

— Да нас прыбыў атрад па барацьбе з бандытызмам,— гаварыў камісар,— каб ачысціць воласць ад агентаў сусветнага капіталу, каб дапамагчы нам наладзіць спакойнае савецкае жыццё. Прыйшлі нашы абаронцы, і мы павінны іх прыняць, як родных сыноў, прытуліць у сваіх хатах. Можа прыйдзецца трохі пасунуцца, пажыць у цеснаце, але гэтага патрабуюць абставіны. Чырвонаармейцы будуць жыць бліжэй да воласці, каб можна было хутка іх сабраць, калі з'явіцца патрэба. Зразумела, таварышы? Гэта загад валрэўкома і вайсковага камісарыята!

Усе моўчкіківалі галовамі.

— Хай жывуць. Вуглы мо не паадгрызаюць,— голасна сказала наша суседка Аўдоцця, высокая сухая кабета, з двайною верхняю губою. За гэта яе дражнілі трыгубаю. Аўдоцця адна з местачковых жанок курыла, а вялікая чарада яе курэй латашыла суседскія агароды. Жыла яна ў маленькай варывеньцы ўдваіх з рыжанькаю дачушкаю Фроняю. Дробненькі тварык дзяўчынкі, як просам, усыпаны вяснушкамі, на стрыжанай галаве паадтапырваліся вялікія вушы. За гэта празвалі Фроню «зайцам». Яна не крыўдзілася і адгукалася на мянушку.

— Добра запрашаць! У тваю варывеньку і сам ніхто не палезе,— папракнула каваліха з суседняй вуліцы.

— Не бойся, тваіх не перахаплю, а аднаго не горш за цябе прытулю.

Чырвонаармейцы зарагаталі, мужчыны ў натоўпе толькі круцілі галовамі.

На ганак узышоў высокі незнаёмы мужчына. І апрануты неяк не па-нашаму: на макаўцы кранутай сівізною галавы круглая лямцавая шапачка з чорнымі палоскамі крыж-накрыж, злінялая, аж белая гімнасцёрка, за плячыма ў зашмальцаваным брызентавым футарале скрыпка.

І вочы ў яго нейкія выцвілыя, як апалоскі з даёнкі, клінаватая бародка ці то выгарала на сонцы, ці то пабелена пасмамі сівізны. Узышоў на ніжнюю прыступку і падняў руку:

— Таварышы і грамадзяне,— спакойна, нібы гаворачы некаму аднаму, пачаў ён.— У вашых хатах яшчэ не выхаўся смурод ад рознай навалачы, што таптала нашу зямлю. А тут прыйшлі свае, родныя. Можа недзе маці гэтага ці гэтага салдата,— ён тыцнуў сухою рукою ў строй,— мые і латае кашулі вашым сынам.— Яго перабіў камандзір у расшпіленай венгерцы:

— Папаша, салдат цяпер няма. Мы — чырвонаармейцы.

— Прашу прабачэння,— павярнуўся ён да камандзіра.— Праклятая старарэжымная прывычка. Я думаю, і мы прымем чырвонаармейцаў як сыноў. А сынам не шкадуюць нічога. — Ён спрытна зняў з плячэй футарал, дастаў скрыпку, махнуў смычком і зайграў «Інтэрнацыянал». Старшыня валрэўкома, камандзір, а за імі і местачкоўцы пачалі сцягваць шапкі, чырвонаармейцы прыклалі далоні да прапыленых будзёнавак і шапак. Бухнуў барабан, зайгралі трубы.





— Што гэта за Мікалай-цудатворац у скрыпку рэжа? — ціха спытала Аўдоцця ў каваля Івана Парымончыка.

— Хіба не пазнала? Хоць дзе табе пазнаць? Малая была, калі ён з'ехаў. Недзе самасілам на каморніка ці інжынера вывучыўся. На Каўказе служыў, ды так бабылём і астаўся. Хата яго каля Крынічкі з забітымі вокнамі трухлявее. Цяпер сыскаўся... Ходзіць па людзях, байкі расказвае ды на скрыпачцы грае. А вучаны-перавучаны, мабыць, ад тае навукі трохі клёпкі рассохліся.

— Гэта, можа, той Ваўчок, што, кажуць, явіўся?

— Ваўчок, Ваўчок... Слухай от, як іграюць. Гэта лепш за «Отча наш»,— суцішыў дзядзька Іван.

Бухнуў барабан, ляснулі талеркі, і ўсё сціхла. На ганку і ў натоўпе паадзявалі шапкі.

— Во-о-о-льна! — крыкнуў камандзір.— Узводныя, ка мне!

Чырвонаармейцы пабеглі да студні на валасным двары. З доўгага пазелянелага карыта прыгаршчамі чэрпалі ваду, крэкчучы, з твараў змывалі пыл. Станавіліся адзін за адным, з вялікага прыкутага да вочапа вядра налівалі ваду ў кацялкі і біклажкі, прагна пілі, аж перакочваліся няголеныя кадыкі. За разгароджаным валасным дваром разросся вішняк. Чырвонаармейцы сыпанулі туды, паселі ў цяньку пад густым веццем. Каштавалі недаспелыя вішні, пераабуваліся, сушылі рудыя закарэлыя парцянкі. Вінтоўкі паставілі ў козлы. На валасным двары задымiла паходная кухня. Пад вішнямі каптэнармус раздаваў па лусце асцюкаватага глеўкага хлеба і па тарану.

Не змаўкалі смех і гамана. На валасны двор і пад вішні збегліся хлапчукі, мабыць, з усяго мястэчка. Усе мы зводдаль пазіралі на салдат, як на дзіва. Здавалася, у цішыню і будзённасць нашых вуліц прыйшло нейкае святочнае ўзрушэнне: было на што глядзець, было пра што гаварыць.

Лаўрэн падыходзіў то да аднаго, то да другога хлапчука і пытаўся: «Пойдзеш у наша войска?» Хто не ведаў, дапытваўся, «што за войска?» Лаўрэн тлумачыў, што трэба адбіць у таўстамордых буржуянят ксяндзоў дом, прагнаць іх з касцельнага дзядзінца, «а тады пабачыш, што будзе». «А што?» — пыталіся хлопцы. «Уга, табе і не снілася»,— таямніча шаптаў Лаўрэн і загадваў заўтра пасля снедання сабрацца за Лабацэвічышным садам.

— Лаўрэн, Лаўрэн! Бяжы, сынок, сюды! — з валаснога ганка гукала цётка Лукер'я. Лаўрэн сказаў, каб я пагаварыў з астатнімі хлопцамі, а сам пабег да маці.

На двары рассядлалі камандзірскага жарабка, павыпрагалі абозных коней. Яны прагна лавілі губамі рэдзенькую запыленую траўку каля студні і старога свірна.

Ад хаты да хаты хадзілі камісар з маладзенькім узводным і крэйдаю на дзвярах пісалі, колькі ў каго будзе стаяць чырвонаармейцаў. Я пабег следам. На нашых дзвярах стаяла акуратная двойка. Хата была замкнута: маці нанялася некаму палоць проса, а я хаваў ключ пад пляскатым каменем каля парогу. Камісар убачыў мяне і загадаў адамкнуць дзверы, а ўзводны гукнуў: «Князеў, Кудрашоў, давайце сюды!»

З-пад вішняку ішоў цыбаты, загарэлы да чарнаты чырвонаармеец у разбітых чаравіках, за ім другі, шыракаплечы, з белым чубам пад брылькам ссунутай набок шапкі. Яны неслі скаткі, кацялкі і вінтоўкі.

— Сюды, таварышы,— сказаў камісар і пайшоў далей.

— Ну, здароў, гаспадар,— працягнуў мне руку бялявы.

На ім былі добрыя боты, новая, яшчэ не зліняла гімнасцёрка, падпяразаная шырокаю папругаю. Я нясмела падаў чорную пасіверaную далонь.

— Не ўляціць табе, што сам нас пусціў? Дзе ж твае бацькі?

— Мама на полі, а татка недзе ў войску служыць. Заходзьце, не бойцеся,— і расчыніў дзверы з сянец.

Чырвонаармейцы зайшлі ў хату, агледзеліся.

— А мух-мух у вас! — здзівіўся чорны. На стале стаяла пузатая шкляная мухалоўка. У ёй поўна плавала мух.

— Больш не месцяцца,— апраўдаўся я, ухапіў мухалоўку і пабег у двор выліваць.

— Алёшка-а-а-а! Дзе ты прапаў? — гукаў мяне Васіль.

— Чаго табе?

— Хутчэй! Лаўрэн заве!

Калі клікаў Лаўрэн, трэба было кідаць усё і адразу ж бегчы. Я наліў у мухалоўку свежай сыроваткі, паставіў на стол і паляцеў на валасны двор. Лаўрэн сядзеў на сівым кані з каротка падстрыжанаю грываю. На коней падсаджвалі адзін аднаго хлопцы з нашай вуліцы. Мяне падхапіў за нагу невялічкі чырвонаармеец з чорнымі вузенькімі вочкамі і ўскінуў на потную конскую спіну, сам ускочыў на камандзірскага жарабка, і мы паехалі на выган. Я першы раз сядзеў на кані. З усяе сілы трымаўся за павады і прыціскаў пяты да цвёрдых рэбраў. Каб трошкі былі даўжэйшыя ногі, падкурчыў бы пад чэрава і трымаўся, а так усю дарогу баяўся зваліцца.

У самым мелкім месцы пераехалі рэчку, спуталі коней і пусцілі пасвіцца. Сонца хілілася на вечар. Ад коней і ад нас кладзіся доўгія цені. Хрумстала трава, тупалі спутаныя капыты, на выгане бялелі чароды гусей і калывалася высокая постаць дзядзькі Яўхіма. Чырвонаармеец астаўся з конькмі, а мы, падкасаўшы штонікі, перабрылі рэчку, трохі папырскаліся, падурэлі і ўзышлі на вал. На касцельным двары было пуста і ціха.

— Хадзем паглядзім, што ў іх там,— выскачыў наперад Іванцыган.

— А што, калі яны прытаіліся, наляцяць знячэўку і наставяць гузакоў? Голымі рукамі ад такое плоймы не адаб'ешся. Прэнта ж у мяне няма,— запярэчыў Лаўрэн.— Можа яны нас ужо ўбачылі і цікуюць,— закончыў ён шэптам.

Нас ахапіла трывога. Здавалася, з-за кожнага куста за намі нехта сочыць. І мы пахаваліся за тоўстыя вербы, пераміргваліся і перашэптваліся. Але нічога не бачылі.

Ветрык гайдаў пасмы аеру і чырвоныя кутасы конскага шчаўя, крумкалі жабы, на высознай таполі сухім клёкатам сварыліся на непаслухмяных падлеткаў буслы. Толькі мы сабраліся вылазіць са сваіх схованак, як за кустамі бэзу нехта засвістаў. Я на карачках ірвануўся на вал.

— Наза-ад! — асадзіў Лаўрэн.— Ва-я-я-ка! Рак свіснуў, а ён спужаўся. А як каменем мазгаўню расквасяць, да мамкі жаліцца пабяжыш? Калі такі «смелы», дык да іх пераходзь.— Ён заклаў пальцы ў рот і так свіснуў, што з вярбы на ўсе бакі сыпанулі спужаныя вераб'і і на хвіліну ў сажалцы замоўклі жабы.

Я зашыўся ў трухлявае дупло, баючыся павярушыцца і што-небудзь сказаць. Было сорамна і крыўдна за свой страх, зайздросна, што Лаўрэн нічога не баіцца і ўсе слухаюцца яго, як сапраўднага камандзіра.

— Ну, гадзяняты, мы вам заўтра пагуляем! — сказаў ён і цыркнуў

праз зубы.— Накажы ўсім хлопцам, няхай робяць стрэльбы, шаблі, назапашваюць каменне.

На ганку забегалі Гогавы салдаты, перагукваліся і перасвістваліся ў садзе, а блізка падыходзіць баяліся, бо нікога не бачылі і не ведалі, колькі нас тут. Сонца яшчэ пабліскавала на касцельных крыжах і званіцах, а ўнізе ляжаў густы цень. Пад самымі ружовымі аблокамі кругамі плавалі ледзь прыкметныя два буслы. Ад сажалак пацягнула вільгаццю і дзікім кропам. Усе хлопцы павылазілі, а мне Лаўрэн загадаў сядзець у дупле.

— Будзеш разведчыкам. Пакуль не разыдуцца, не азывайся. Паглядзі, дзе яны хаваюць свае стрэльбы і кулямёты і кудою разыходзяцца.

Я толькі ківаў галавою, як кожны пакрыўджаны і пакараны. Хацелася хутчэй бегчы дадому. Сустрэць з поля маму. Яна заўсёды прыносіла такі смачны «зайчыкаў акрайчык», давала кубак сырадою, мыла цёплаю вадою мае пасіверaныя ногі і нанач мазала іх смятанаю. А цяпер у нас былі Князеў і Кудрашоў. Хацелася паслухаць, што будуць расказваць, дазнацца, адкуль яны, дзе былі, што чулі. Салдаты ходзяць і ездзяць па свеце, усё бачаць і ведаюць, а я далей лесу, за які хаваецца сонца, і зарэчнага выгану нідзе не быў. Нават не верылася, што недзе ёсць мястэчкі, большыя за нашае, а што там за гарады нейкія ёсць, і уявіць ніяк не мог.

Але ж трэба сядзець у гэтым трухлявым дупле, раз у разведку пастаўлены. А хлопцы ўзбеглі на вал, свішчуць, дражняцца, прыдумляюць мянушкі Гогавым «тоўстамордым парсюкам». Свішчучы і крычучы, яны бягуць і знікаюць за схілам, каб тыя бачылі, што ўсе пайшлі.

У дупле сядзець страшна: здаецца, старая вярба ледзь ліпіць на тонкай трухлявай абалоні. Падзьме вецер, вярба зваліцца і зашчэміць у гэтай пастцы. Але я ўжо адчуваю абавязак, ненавіджу ўкормленых чысценькіх «нэпманчыкаў». От жа слова выдумалі! Яно мне чамусьці нагадвае гузік ці гаплік — кругленькі і тоўсценькі. Хочацца пабіць іх фанерныя кулямёты, разагнаць усю хэўру, самім заняць абгарэлы дом. А што калі знойдзем ход пад рэчку і дабярэмся да тых жалезных куфраў? От дзіва будзе! Пра нас загаворыць усё мястэчка, а калі ў воласць прынясем мех золата, можа ўсіх і ў горад павязуць.

Зарыпела вярба, я выскачыў з дупла, прытаіўся збоку і цікаваў за ўсім, што рабілася на кляштары. Гога пастроіў сваё войска і павёў за касцёл. Неўзабаве яны выскачылі без вінтовак, шабель і кулямётаў і ўрассыпную беглі праз вал. Усе ці не ўсе, я палічыць не паспеў. Можа хто астаўся пільнаваць. Пайсці паглядзець, дзе яны ўсё пахавалі, боязна: зловяць аднаго — змесяць на порхаўку. А мама яшчэ падбавіць, каб не валачыўся да цямна.

Азіраючыся, бягу дадому. На валасным двары дыміць кухня, ланцужком падыходзяць чырвонаармейцы, кухар налівае ў кацялкі пшонны крупнік, а ў накрыўкі — чорны цыкорый. Тут жа шныраюць Лаўрэнавы браты, а ён ужо прыстроіўся да таго конюха з вузенькімі вочкамі і разам сёрбаюць з пагнутага мядзянага кацялка. Я стаў воддаль. Лаўрэн кіўнуў пальцам, каб падышоў.

— Не бойся, расказвай, тут усе свае,— матнуў ён галавою на суседа па кацялку.

— Яны пахавалі вінтоўкі і кулямёты недзе за касцёлам, а самі пабеглі за Вярыгаў сад.

— Недзе-недзе,— перадражніў Лаўрэн.—Чаму ж не паглядзеў, дзе?

— Якія вінтоўкі і кулямёты? — устрывожыўся конюх.— Хто пахаваў?



— Буржуйчыкі, ці як іх там... «кнэпманчыкі»,— аблізваючы лыжку, адказаў Лаўрэн і зноў зачарпнуў крупніку.

— А дзе яны ўзялі вінтоўкі? — не сунімаўся чырвонаармеец.

— Нарабілі.

— Самі?

— Самі.

— З чаго? — лыпаў маленькімі вочкамі ездавы.

— З дошак, з фанеры, з бляхі,— спакойна адказваў Лаўрэн.— Яны такія, як мы. У войска гуляюць, толькі ў белых, пагоны начапілі. А мы іх усё роўна паб'ём.

Чырвонаармеец, пагойдваючыся, весела зарагатаў:

— Я думаў і праўда буржуі ўзброіліся... Канечне, трэба пабіць.

Лаўрэн падаў мне сваю лыжку:

— Няхай за мяне пасярбае.

— А вы разам — лыжку ты, лыжку ён.

Саромеючыся, я прысеў на кукішкі да кацялка. Вельмі ж смачна пахнуў салдацкі крупнік, і мы адною лыжкаю дасярбалі яго да дна.

Маці сустрэла громам і бліскавіцамі:

— Дзе гэта ты, шыбельнік, лятаеш, га-а? — і перацягнула ад плячэй да пят тоўстымі паўрозамі фартуха. Я прыціснуўся да вушака і закрыў твар рукамі.— Палянь, што ад град асталося — кубло на кублє. Трасца табе, а не агуркі будуць,— і зноў замахнулася фартухом. Я не апраўдваўся, ведаў, што вінаваты. Толькі сказаў:

— Мы коней з Лаўрэнам на выган вадзілі...

— Лукер'іны цыганы цябе звядуць са свету. Дзе гэта вы тых коней набралі? — пацішэла маці.

— Вунь чые коні,— шморгаючы носам, не столькі ад болю, колькі ад крыўды, я кіўнуў на чарнявага салдата, што каля акна шомпалам чысціў вінтоўку.

— Не шуміце, хадзяйка,— азваўся ён.— Хлопец у вас што нада.

— Бацькавай папругі на гэтага хлопца няма, от шкура і гарыць, а ногі зямлі не чуюць. Наказвала ж: «Сядзі, Алёшка, дома!» Дык ён табе ўседзіць! Маці — за парог, а яго ўжо чэрці на форму ўхапілі,— гарцае да цямна,— пацішэла маці. Смыкнула за рукаў:

— Садзіся есці! Збегаўся — толькі нос тырчыць.

— Не хочу,— пакрыўджана агрызнуўся я.

За фортакаю рыкнула карова. Кінуўся хутчэй упускаць у двор, каб уцячы ад сваркі.

— Кінь ёй, сынок, зелля з лясёнкі,— услед крыкнула маці.

Я стараўся загладзіць віну: у куточак паклаў дзяцельнік і доўгую пакручастую бярозку, адганяў мух і чухаў за вухам Лысуху, пакуль маці даіла. Звінелі аб сухое дно даёнкі цурочкі цёплага сырадою, а калі шайкаю паднялася пена, глуха забарабанілі пругкія струмені. Маці дробненька перахрысціла карову, даёнку накрыла фартухом, каб ніхто не ўракнуў, і пайшла ў хату. Я марудзіў, не хацелася лезці на вочы, пакуль ачахне матчына злосць.

У двор увайшоў прыгожы, з пшанічным чубам, Кудрашоў.

— Упраўляешся, мужык? — весела загаварыў ён.

— Я не мужык.

— А хто ж ты?

— Алёшка.

— Алёшка, Алёшка, дзе твая ложка?

— Дома,— не зразумеў я прымаўкі вясёлага пастаяльца.

— Тады хадзем,— і ён паказаў на свой кацялок.

Ускочыў на вышкі, пад страхою знайшоў доўгую сухую дошчачку

ад нейкае старое скрынкі і прынёс у хату. На стале стаяла міса кіслага малака, чыгунок цёплай бульбы і кацялок салдацкага крупніку.

— Апаласні свае граблі і садзіся вячэраць.

Я паставіў дошчачку каля дзвярэй, выскачыў у двор, набіраў у рот ваду і пырскаў на пасіверанныя, чорныя, як галавешкі, рукі. Апошні чырвоны прамень сонца прабіваўся праз дрогкае лісце таполі, звінелі і таўкліся камары. «На пагоду!» — падумаў я.

Вячэралі дружна і весела. Чарнявы Князеў толькі ўсміхаўся, а гаваркі Кудрашоў пад'юджваў мяне, называў то «хадзяінам», то «мужычком», расказваў, што ў іхным атрадзе быў такі, як я, хлапчук за разведчыка, а калі паранілі камандзіра, астаўся пры ім у лазарэце. Як ні ўгаворвалі, нікога не слухаў. Дактары не пускалі ў палату, дык ён прымосціцца на ганку, кулачок — пад шчаку і спіць. Паспагадалі — пусцілі. Дык ён ні днём ні ноччу не адыходзіў ад свайго камандзіра.

— А дзе ён цяпер? — спытаў я.

— Каб жа хто ведаў... Хлопец быў усім хлопцам хлопец,— аж уздыхнуў Кудрашоў.— Любілі мы яго, як сына. А Князеў, няхай сам скажа, аж заплакаў, калі той не вярнуўся.

Князеў пачырванеў, ніжэй нагнуўся над міскаю і заморгаў вачыма. Як я зайздросціў таму хлопчыку, што яго ўсе любілі і шкадавалі, што ён разам з атрадам ездзіў па франтах і хадзіў у разведку...

— Сярбай, сярбай, ды спаць пара,— мабыць, зразумела мае думкі маці.

— Мамачка, я толькі схаджу на дрывотню, выстругаю сабе вінтоўку і лягу,— папрасіўся я.

— Якую табе яшчэ вінтоўку? Марш за печ!

— Я хуценька! — дасярбаў з міскі малако і выскачыў з-за стала.

— Давай. Каб хутчэй было, я табе памагу,— усміхнуўся Кудрашоў.— Разрашыце, хадзяйка, няхай прывыкае. Вырасце, добрым салдатам будзе.

— Калі ўжо гэтая калатэча кончыцца? — уздыхнула маці.— Бабы адны за столькі гадоў уварваліся. Думалі, ужо адваяваліся, дык на табе, чорт аднекуль бандытаў нагнаў.

— Хутка даб'ём гідру капітала, і па дамах,— суцешыў Кудрашоў.

Я ўзяў дошчачку, і мы разам выйшлі на дрывотню. Кудрашоў алоўкам адчыркнуў на дошчачцы абрысы вінтоўкі з штыхом.

— Пілкі не знойдзецца ў цябе?

Пад дахам сенцаў я адшукаў заплеценую павуціннем іржавую бацькаву нажоўку і падаў Кудрашову. Ён пакруціў галавою.

— Струмант! Нічога, брат, не скажаш. Відаць, за царом Гарохам куплялі.

— Таткі з самае вайны няма, а мне мама не давала. Усё «малы, малы, парэжашся!». А яна добра рэзала.

Кудрашоў спрытна абпілаваў дошчачку па рысцы, дастаў з кішэні складанчык і ўзяўся абстругваць вінтоўку.

— А з кім ваяваць будзеш?

— З белымі!

— Адкуль яны тут узяліся?

— Уга, у вале іх поўна.

І я расказаў пра нашу бойку каля ксяндзовага дома, пра Гогу і яго войска, які ў нас смелы Лаўрэн, што хочам паразганяць буржуйчыкаў. Кудрашоў стругаў і ўважліва слухаў. Я азірнуўся, каб ніхто больш не пачуў, і ціхенька пачаў расказваць пра патаемны ход з-пад касцёла, пра куфры золата, пра галасы і грукат пад зямлёю.

— Сам выдумваў ці хто наплёў? — запытаў Кудрашоў.



— Што вы! Дзядзька Яўхім чуў, як грукаюць і скавычуць.

— Брэша твой дзядзька Яўхім. Кулі залівае...

— Не, праўда. І другія чулі... Толькі вы нікому-нікому, што я казаў. А то дазнаецца Лаўрэн, кухталёў надае.

— Чэснае слова, нікому,— прыкінуўся сур'ёзным Кудрашоў.

— Пабажыцеся лепш!

— Богу не веру, і няма яго. Выдумка ўсё.

— А грыміць хто і маланкаю лупіць?

— Гэ-э, браце, цёмны ты чалавек. Электрыка грыміць. Бачыў, як баран з бараном у рожкі счэпяцца — аж іскры ляцяць. Так і хмары, наскочыць адна на адну, грыміць і бліскае.

— А хіба і хмары з рагамі?

Я не ведаў, як запярэчыць. Можа і праўду кажа. А бог у царкве такі грозны. З якога боку ні зайдзі — усё глядзіць на цябе.

— Пашукай, Алёшка, бляшку і пару цвічкоў, дужку прыб'ем — і будзе табе трохлінейка першы сорт.

Я знайшоў за хлявом кансервавую бляшанку, з фанернае скрынкі навыцягваў цвічкоў і прынёс Кудрашову. Авечымі нажніцамі ён выразаў бляшаную палоску і прыбіў да магазіннай каробкі. Вінтоўка была, як сапраўдная,— з штыхом і мушкаю. Я не ўмеў дзякаваць, як трэба. Кручу сваю зброю ў руках і толькі ўсміхаўся.

На дварэ змяркалася. Там-сям у хатах запальвалі лямпы. Маці выйшла на ганак.

— Кладзіся ты спаць, ваяка, а то заўтра не дабудзішся. А мне рана ў поле ісці. Свірэпкі ў просе аж жоўта, усе рукі ў стрэмках.

— Зараз, мамачка! — не мог я налюбавацца сваёю стрэльбаю.

— Хадзем,— сказаў Кудрашоў.

Чырвонаармейцам маці паслала на падлозе, каб не было горача. Да сенніка прымасціла палавічкі, нейкія старыя каптаны і куфайкі заслала кужэльнаю прасціною. Князеў збіраўся класціся. Мне так захацелася легчы побач, пакачацца на шырокай пасцелі разам з чырвонаармейцамі.

— Можна, я з вамі лягу? — папрасіўся я.

— Канечна, з намі. Раз у чырвонаармейцы падаўся — і спаць будзем разам,— адказаў Кудрашоў.

Пахла моцным салдацкім духам — махоркаю, парцянкамі і потам. Мяне паклалі ўсярэдзіну, каб не скаціўся. Я яшчэ доўга думаў, як заўтра будзем біць Гогава войска. Князеў ужо хроп з бульканнем і свістам.

— Канчай трубіць, павярніся набок,— катурхнуў яго Кудрашоў і накрыўся з галавою.

Чутно было, як на кухні ўпраўляецца маці.

## 3

У канцы нашых гародаў за шчыльным плотам цягнуўся доўгі густы сад. У ім стаяла белая альтанка з блішчастым шкляным шарам на даху. Дарожкі пасыпаны жоўтым пясочкам, каля альтанкі на высокіх сцяблінах — белыя, як зорачкі, кветкі. Раніцаю ад іх цягнула моцным салодкім пахам. Яблыкі і грушы раслі вялікія, налітыя, жоўтыя з чырвонымі бакамі. І назвы ў іх былі вельмі ж смачныя — дзюшэс, паненкі, мядоўкі, былі нават райскія яблыкі. Дзе было зраўняцца нашым жытнікам і цітаўкам з панскімі гатункамі яблык і кветак. Сад пачынаўся адразу за доўгім ашаляваным некалі пафарбаванымі дошкамі домам. Зашклёны каляровымі шыбкамі ганачак выхо-

дзіў на вуліцу. Фарба асыпалася, дом асеў. У двары стаяў доўгі з тоўстага бруса свіран, з прыбудоўкамі і павецямі. Двор заўсёды падмецены, хоць бокам каціся.

Брамка ніколі не адчынялася і зарасла крапівою і палыном. Фортка — заўсёды на завале. У доме жыла сагнутая, кашчавая, з белымі, як дзьмухавец, валасамі пані Лабацэвічыха. Казалі, некалі яе гаспадар быў вельмі багаты каморнік, сын вывучыўся за доктара і толькі часам наязджаў дадому. Трымалі яны кухарку і пакаёўку. Сапраўды жылі панамі. Муж даўно памёр, сын уцёк з польскім войскам, а ў пані гадаваўся кухарчын хлопчык Захарка.

— Дзікая ды ганарлівая, а душа, відаць, добрая,— казалі людзі пра Лабацэвічыху.— Маці з'ехала, а яна чужое дзіця выгадавала.

— І ён дзікаваты і недапечаны,— гаварылі пра Захарку.— Людзей баіцца, як і яго пані.

З чаго яны жылі, ніхто не ведаў. Апрача гарода і саду, нічога ж не было. Сама пані нікуды не хадзіла. Ранічкаю, як толькі падояць кароў, Захарка ўвагнуўшыся бег з белым эмаляваным гладышыкам па малако да суседкі, часам, старонячыся людзей, хадзіў у краму купляць селядцы, алей, халву і ружовыя цукеркі «падушачкі». Ён быў худы і доўгі, як тычка. На босых сухіх нагах грукалі сандалі з асінавымі падэшвамі. Абдрыпаныя шырокія штаны ў вялікую клетку, відаць, перашытыя з панінай спадніцы, целяпаліся на ім, як на пудзіле, белая палатняная кашуля падпяразана кручаным пояскам з кутасікамі, стары капялюш спаўзаў на вочы.

Ён рэдка выходзіў з двара, ні з кім не гуляў, стараніўся равеснікаў. Спытаеш, куды бяжыць, ён толькі буркне нешта, увагне галаву і подбежкам — наўцёкі. І ў школу не хадзіў Захарка. Усё лета мяце двор, пасыпае ў садзе дарожкі, беліць яблыні, цягае ў палівáчцы ваду, нібы прыпнуты конь. Падыдзеш да шчыліны ў плоце, пазавеш — падыдзе, азіраючыся.

— Захарка, дай яблыка.

— Няма ў мяне.

— Вунь іх колькі асыпалася.

— Не мае, не можна.

— Ну дай, Захарачка,— ён зіркне ў бакі, прыслухаецца, як злодзей, падбяжыць да яблыні, барсане нагою паданку, прыкоціць да плоту. Сам у рукі не возьме, каб грэху не было, што чужое даў.

— Даставай і бяжы.

— Захарка, прыходзь на выган змея пускаць.

— Часу няма,— маркотна адказваў.

Усе кпілі з яго, дражнілі недапечаным. Бывае, ідзе Захарка, а за ім уляжа меншы за яго падшыванец і крыкне: «Лаві яго!» Сам стаіць, тупае на месцы, рагоча, а бедны Захарка, не азіраючыся, ляціць да самай брамы. Агледзіцца, а таго і след прастыў.

Дом і двор Лабацэвічыхі здаваўся не меншаю загадкаю, чым патаемныя касцельныя склепы. Хто заходзіў да яе, далей сенцаў і кухні ніколі не быў. Гаварыла пані два словы па-нашаму, слова па-польску, а як гаварыў Захарка, мала хто чуў.

Не баяўся Захарка толькі мяне: ніколі я з яго не кпіў і не дражніўся. Мабыць, ведаў, што спагадаю яму, таму аднаго разу шапнуў у шчыліну, каб я лез у сад, і адхінуў дошку, ледзь-ледзь прыткнутую цвіком.

— Пабажыся, што нікому не скажаш, а то пані затаўчэ. Я часам праз гэтую дзірку ўцякаю на рэчку.

— А дзе ты купаешся?



— Я не ўмею купацца.

— Што ж ты робіш на рэчцы?

— Свішчу ці каменьчыкі з берага кідаю. А купацца не ўмею. Пані ў садзе свістаць не дае, каб чарцей неназзываў. Дык я на рэчцы свішчу, каб патапіліся.

Хаваючыся за парэчкавыя кусты, мы пракраліся ў канец саду. Тут быў маленечкі паплавец, зарослы дзяцельнікам і аерам, каля самага плоту — студня без зрубу, палівать грады і кветкі. Мы паселі на траве, памаўчалі.

— Захарка, чаму ты з намі не гуляеш?

— Пані не пускае,— маркотна пачыркаў асінаваю падэшваю па траве і прызнаўся,— кажа, усе вы зладзюгі і разбойнікі. А ты ж не разбойнік, Алёшка, га?

Я засмяяўся.

— Ведаеш, якія ў нас хлопцы! — хваліўся я.— Лаўрэн нырцом два разы раку пераплывае. Боўтне на тым беразе нагою — і назад. Няма і няма. Ён нагамі па дне папіхаецца і пясок у руцэ паказвае. А я-а-ама там! Можа б касцёл схаваўся.

Захарка слухае. Маленькія светлыя вочкі блішчаць, твар бледны, усыпаны дробнымі вяснушкамі, на адтапыраныя вушы з-пад капелюша звісаюць шэрыя валасы.

— Навучыш купацца, яблыкаў дам. Толькі на мелкім, каб не ўтапіцца.

— А пані пусціць?

— Яна цяпер больш ляжыць, кехкае ды стогне. Засне, я і збегаю.

— Увосень у школу прыходзь, Захарка.

— Не-е, я нічога не ўмею. Трэба было раней. І дома няма каму ўпраўляцца. Не пусціць пані.

Я шкадаваў Захарку. Зусім ён не быў недапечаны — хлопец, як хлопец. І яму хацелася з усімі бегаць па выгане, пускаць змея, а навучыцца плаваць, відаць, снілася яму днём і ноччу. «Чаму ён так баіцца пані Лабацэвічыхі?» — думаў я. Кінуў бы і жыў, як усе. Але дзе ён дзенецца? У яго ж больш нікога няма. От і жыве, як мыш пад венікам.

Той раз мы рассталіся з Захаркам сябрамі, але я нікому не прызнаўся, што шкадую яго, што быў у садзе. Засмяялі б: «З Захаркам гуляе, значыць, два боты — пара».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прачнуўся я, побач ужо не было ні Кудрашова, ні Князева. Мама зноў збіралася на поле: клала ў торбачку пляшку з малаком, пучок цыбулі, акрайчык хлеба, скрылёк сушанага сыру.

— Ты ж глядзі, сыночак, далёка не адлучайся і хату добра замыкай. А то заскочыць каторы — без апошніх лахманоў астанемся. А салдатам я паказала, дзе ключ хаваем. Прыбяры пасцель і снедай, пакуль не астыла. Глядзі ж, каб куры не грэбліся. А златошаць, барані божа, агуркі — шкуру спушчу,— стукнула кулаком аб далонь, узяла торбачку і — за дзверы.

Снедаць не было калі. Пахапаў на хаду, прывязаў да вінтовачкі почапку ад старога фартуха, узлез на плот, пакрычаў: «А кы-ш! А кы-ш!» Каб чулі і баяліся суседскія куры. Замкнуў хату, ключ — пад камень і хутчэй за брамку.

Падаткнуўшы спадніцу, цётка Лукер'я шаравала валасны ганак.

— Вашы хлопцы дома? — гукнуў я здалёк.

— Уседзяць яны табе. Даўно скруціліся некуды. Убачыш Лаўрэна, скажы, хай не бавіцца, а то...

Я не даслухаў і паімчаўся ў канец вуліцы. На выгане за Лабацэвічышыным садам таўклося можа з пятнаццаць, а то і болей хлопцаў з суседніх вуліц. Хто бараўся, хто ляжаў на траве і пазіраў, як плывуць воблакі, хто спрабаваў хадзіць на руках. Хто не паспеў зрабіць вінтоўку, прынёс добрую палку. У наша войска прыйшоў з другога канца мястэчка Юркевічаў Андрэй. У яго быў з тоўстай арэшыны лук, сцягнуты добра навошчанаю дратваю, і доўгія стрэлы. Наканечнікі ён зрабіў з выплаўленых куль. Стрэлы ляцелі са свістам далёка-далёка.

Над выганам, распластаўшы крылы, кружыў вялікі каршун.

— Палянь, палянь,— задзіраў галаву Андрэй.— Гусянят пасвіць.— Ён доўга цэліўся ў прыгожага драпежніка, з усяе сілы адцягваў дратву, дрыжала пруткая страла, зрывалася і знікала ў блакіце неба. Усе, прыкрываючы далонямі вочы, сачылі, дзе яна ўпадзе. Разганяючы гусіныя чароды, беглі па выгане шукаць стралу.

Я хацеў падысці непрыкметна, але хіба схаваешся ад Лаўрэна?

— Ну, выспаўся? Намурзаўся, як пацук? — злосна бліснуў на мяне вузкімі вачыма Лаўрэн. Я вінавата апусціў галаву і адышоўся да плота.

— Па-к-кажы, пакажы,— працягнуў ён руку да маёй вінтоўкі. Я хацеў схаваць за спіну, але Лаўрэн спрытна высмыкнуў з рук.— Хто гэта табе такую адмачыў?

— Сам,— пакрыўджана буркнуў я.

— Хто хлусіць, той ісці ў пекла мусіць,— бабскім праклёнам адказаў Лаўрэн.

Мы тады яшчэ баяліся пекла і чорта, верылі, што бог з вышыні бачыць кожны наш крок і нідзе ад яго не схаваешся. А забыўшыся, свавolілі, хлусілі і лаяліся. Ведалі, што можна адмаліць грахі і «грашыць» зноў. Лаўрэн пакруціў маю вінтоўку, правёў рукою, ці гладкая, і кінуў мне. Я не ўправіўся яе злавіць.

— Няма чаго кідаць, не твая ж!

Лаўрэн адышоўся, дастаў з кішэні бляшаны свісток, зацвырчэў і скамандаваў:

— Станавіся!

Хлопцы строіліся адзін каля аднаго. Лаўрэн, як сапраўдны камандзір, ставіў большых пaперадзе, меншых у канец.

— Па парадку нумароў расчытайсь!

— Першы, другі, трэці...— і так да семнаццатага.

Па выгане павольна ішоў з аброццю на плячы наш кватарант Кудрашоў. Убачыў басаногае войска, падышоў. Узяў пад казырок і зусім сур'ёзна прывітаўся:

— Здарова, байцы рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі!

— Здаровы! Добры дзень! Здрастуйце,— адказала наша рознагалосіца.

— Таварыш камандзір,— звярнуўся ён да Лаўрэна.— Хіба так павінны адказваць байцы? Як трэба?

Мы маўчалі.

— Трэба дружна адказаць: «Здароўя жалаем, таварыш камандзір!» А то цягнуць, як жабракі на цвінтары.— Ён кінуў аброць, прыклаў руку да казырка і прывітаўся яшчэ раз.

— От цяпер малайцы! — пахваліў Кудрашоў.— Што, буржуйчыкаў разганяць сабраліся?

— Калі ж бо яны занялі ўвесь вал і ксяндзоў дом, а нас не пускаюць,— жаліўся Лаўрэн.



— А што далажыла разведка?

— Разведкі ў нас няма.

— Без разведкі ніколі не суньця на праціўніка. Перш-наперш даведайся, якія ў яго сілы, дзе размясціліся, якая ахова. А тады прымай рашэнне, як акружыць і разграміць. Без разведкі, брат, нельга... Каго пашлеш?

— Нашых яны і блізка не падпусцяць, ды яшчэ кіямі і каменнямі збузуюць,— чухаў патыліцу Лаўрэн.

— Пашлі, каго не ведаюць.

— Кожнага, хоць аблупі, пазнаюць... Яны, ірады, не глядзяць ні вока, ні бока — лупцуюць.

— Лаўрэн, ёсць каго паслаць,— ціха сказаў я.

— Ну, каго?

Я кінуў на Лабацэвічышын сад. Хлопцы зарагаталі. Праз плот прагна на нас глядзеў Захарка. Ён абапёрся падбародкам на вострыя калені, дзіравы капялюш споўз на патыліцу. Захарка моргаў вачыма, нібы запарушыў іх. Побач стаяла поўная палівачка.

Захоплены нашай гульнёю, Захарка, відаць, забыў пра непалітыя грады. Я падбег і паківаў пальцам. Азірнуўшыся, Захарка падышоў да плоту.

— Слухай, схадзі ў вал, паглядзі, што там робіцца. Ці багата хлопцаў і дзе яны. І хутчэй — назад. Я цябе каля дзіркі пачакаю.

— А біцца не будуць?

— За што цябе біць? Ты ж з намі не гуляеш. Ідзі, бытта плюснік рваць, а сам прыглядайся.

— Толькі гляну, дзе пані, і збегаю.

Захарка ўхапіў палівачку, заспяшаўся к дому. Праз некалькі хвілін, згінаючыся, ён уздзіраўся па крутым схіле валу, пастаяў наверсе і знік на тым баку.

— Ну і разведчыка знайшоў! Ха-ха-ха! — зарагатаў Андрэй.— Бацяна паслаў. Ха-ха-ха!

— Трэба было самому ісці, калі ты такі разумны,— пакрыўдзіўся я.

— Раз-гаворчыкі! — прыцыкнуў Кудрашоў.— Па-а-строіцца!

Усе пасталі ў шарэнгу і прыціхлі.

— На пля-а-чо! — скамандаваў Кудрашоў. Штурхаючыся, хто раней, хто пазней, мы паўскідалі свае драўляныя вінтоўкі.— Адставіць! Так толькі бабы качэргамі размахваюць.

Ён узяў маю вінтовачку, што сам учора выстругаў, і пачаў паказваць, як трэба браць на плячо. Строіў нас у дзве і ў тры шарэнгі. Лаўрэн стаяў збоку і пахмура пазіраў на нас.

— Вучыся, камандзір, і вучы сваё войска.

Усміхнуўся, ссунуў на патыліцу зліналую шапку з плямамі поту і пылу. На лоб споўз кучаравы, як касмык даспелага аўса, чуб.

— А можа і не варта біцца з тымі хлопцамі,— загаварыў ён зноў.— Дагаварыцеся і гуляйце разам.

— З імі дагаворышся! — азваўся Лаўрэн.— Біць іх трэба. У іх двары вялікія, няхай там сабе і гуляюць, а мы ў ксяндзовай хаце будзем.

Я пазіраў на вал, але Захаркі ўсё не было. Кудрашоў заўважыў мой неспакой:

— Можа ў палон захапілі вашага «разведчыка»?

— Пашлі дурнога, а за ім другога,— зарагатаў Андрэй.— Бяжы,— кінуў ён на мяне,— выручай свайго Сухарку.— Новую мянушку ўсе падхапілі дружным рогатам. Усміхнуўся і я: Захарка сапраўды быў

падобны на высушаную скарынку, і патыхала ад яго даўняю цвіллю.
— А чаму вы з імі ваюеце? — зноў запытаў Кудрашоў.
— Яны ж буржуйскія!
— Пагоны начапілі!
— Усё занялі і нікога больш не пускаюць! — даводзілі мы свае крыўды.
— Буржуяў трэба біць. Каб не іхнія банды, і мы даўно па дамах раз'ехаліся б.
— Гляньце, гляньце, бяжыць! — крыкнуў Васіль.— І плюснік валачэ.
Захарка з вялікім пукам аеру ішоў не да нас, а ў сваю фортку.
— Куды яго гоніць нячыстая! — узлаваўся Лаўрэн.
— Маладзец. Гэта сапраўдны разведчык,— пахваліў Кудрашоў.— А чаму маладзец?
Ніхто не ведаў, за што ён хваліць Захарку.
— Думаць трэба. Ён думае, а вы не. Калі б ён адразу прыйшоў сюды, праціўнік падгледзеў бы і ведаў, чаго ён прыходзіў. Такога ў разведку другі раз не пашлеш.
— Ну, Аляксей, бяжы, распытвай. Толькі каб і цябе не прыкмецілі. Не-е, вінтоўку пакінь. На сувязь з разведчыкам ходзяць без зброі.
Я рвануўся бегчы, але Кудрашоў спыніў:
— Ідзі паціху, нібы нешта шукаеш. І гавары, каб ніхто не чуў і не бачыў. Цяпер ідзі.
Знарок накульгваючы, я павольна ішоў каля Захаркавага плоту, згінаўся, паднімаў каменьчык ці шкельца і ішоў далей. Спыніўся каля адарванай дошкі, азірнуўся і шмыгнуў у сад.
Захарка пасыпаў аерам ганак. Паківаў, каб я схаваўся за альтанку. Узяў палівачку і павольна падышоў да мяне. У гэтай наіўнай канспірацыі столькі было трывогі, усхваляванасці і таямнічасці.
— Ну, што? — прашаптаў я.
— Поўна іх там. У плебані і ў садзе бегаюць. Аптэкараў Лёлік сядзіць на вярбе і на мяне крычаў: «Стой, куды ідзеш?» і каменем папусціў, але не ўцэліў. А з акна тырчыць напраўдзешны кулямёт. Я чуць не ўмлеў.
— Табе здалося, Захарка, што напраўдзешны.
— Не, не здалося. Тарахціць ён.
— А на каторай вярбе Лёлік сядзіць?
— Што каля самага валу.
— Адзін?
— Адзін.
Увагнуўшыся, я шмыгануў назад і пабег расказваць Лаўрэну.
— Цябе толькі па смерць пасылаць,— прабурчаў ён.— Што там твой Сухарка бачыў?
Я, спяшаючыся, усё пераказаў.
— Перш-наперш, трэба непрыкметна зняць з вярбы вартавога,— вучыў Кудрашоў.— А потым неспадзеўкі з крыкамі «ўра» наскочыць з усіх бакоў, акружыць дом і гнаць, пакуль не разбягуцца. Хто са мною пойдзе па коней? Трэба чатыры чалавекі.
— Я! Я! Я! — закрычалі і выскачылі да Кудрашова ўсе. Ён адабраў большых, і яны пабеглі следам.
Цяпер камандаваў Лаўрэн. Мы з Андрэем павінны былі зняць вартавога.
Усе рассыпаліся па вале, успаўзлі наверх і прыціхлі.
Старая дуплаватая вярба самаю тоўстаю галінаю нахілілася на вал.





На ёй можна было сядзець, дакранаючыся нагамі да зямлі. Густое веццe звісала на наш бок. Мы падпаўзлі і схаваліся. Да гэтага з Андрэем мы ніколі не сябравалі, нават пабіліся аднойчы — надаваў ён мне грымакоў, юшку з носа пусціў, а цяпер, нібыта звязаныя адным повадам, мы прытаіліся пад трапяткім веццем і цікавалі аптэкаравага Лёліка. Ён сядзеў трохі вышэй, спіною да нас і стругаў з кары лодачку.

Андрэй тузануў мяне, і мы, хапаючыся за веццe, ў адно імгненне апынуліся каля вартавога. Ён спалохана азірнуўся. Лодачка, скачучы па суках, пляцела і боўтнулася ў закінутую сажалку.

— Пікні толькі — паляціш следам,— ціха і грозна сказаў Андрэй. Лёлік збялеў і пачаў хаваць у кішэню прывязаны да папружкі складанчык. Андрэй тузануў за матузок, і ножык бліснуў у яго руках.

— Ад-да-ай! — заенчыў Лёлік.

Андрэй хапіў яго за каўнер:

— Цыц!

Мне здалося, што Лёлік зараз боўтне ў сажалку. Але Андрэй трымаў моцна.

— Злазь і не гаўкай.

Лёлік паслухаўся і злез з вярбы.

— Здымай папружку!

— Не, не дам! — Лёлік ухапіўся абедзвюма рукамі за блішчастую спражку. Андрэй шматануў яго на зямлю, спрытна адшпіліў папружку і падаў мне.

— Звязвай яго.

Я няўмела скручваў тонкія дрыготкія Лёлікавы рукі.

— Пільнуй, каб не ўцёк! — загадаў Андрэй, а сам згінаючыся пабег да Лаўрэна.

— Аддай ножык! — заенчыў Лёлік. Андрэй пагразіў кулаком і знік за схілам валу.

— Алёшка-а-а, ну пусці. Я ж табе нічога не зрабіў,— енчыў мой палонны.— Я табе гумавую трубку на рагатку дам.

— Не трэба мне твае клісцірныя трубкі, цыц, рыцыннік!

Мы сядзелі побач. Я трымаў за кончык папружкі і глядзеў на касцельны дзядзінец. Там хлопцы гулялі ў «пікара» і ў даганялкі.

Раптам пачуўся пранізлівы свіст, крыкі і тупат: наступалі нашы. Ляцелі каменні, палкі, грудкі зямлі. Гога на ганку адбіваўся бліскучаю бляшанаю шабляю. Лаўрэн ніяк не мог падступіцца да яго. Падбег Андрэй з камякамі зямлі ў руках. Шпурнуў адзін, але Гога прысеў, тады ён з левай рукі ўляпіў яму проста ў лоб, відаць, запарушыў вочы, і той аж закруціўся на месцы. Лаўрэн вырваў з рук шаблю і так штурхануў Гогу, што той паляцеў з ганка потарч.

— Бачыш, як лупяць тваіх «буржуйчыкаў»? — штурхануў я Лёліка пад бок.

А па дарозе верхам на конях скакалі ў вал Васіль, Іван і два браты Сакалоўскія. Воддаль спыніўся Кудрашоў і аж заходзіўся ад смеху.

Убачыўшы коннікаў, Гогава войска рассыпалася куды каторы. А хлопцы ляцелі следам. Я баяўся, каб часам не патапталі іх коньмі.

— Развяжы рукі,— енчыў Лёлік.— Ну, хопіць ужо. Пайду дадому і больш з імі не гуляцьму.

Я не ведаў, адпускаць яго ці чакаць, пакуль прыйдзе Андрэй. Відаць было, што ўсе нашы хлопцы пабеглі ў дом, а коннікі паехалі ўслед за Кудрашовым. Мне вельмі хацелася быць разам з усімі, паглядзець, што там у ксяндзовым доме. Можа ўжо хлопцы шукаюць патаемны ход, а я так нічога і не ўбачу? Адпусціць Лёліка — Андрэй зноў надае кухталёў, а праседзіш з ім да паўдня — не будзе праходу ад яго кпінаў і крыўдных мянушак. Што ж рабіць?



— Ну, пусці, Алёшка, будзь чалавекам,— енчыў Лёлік.

— Хадзем туды,— паказаў я на дом.

— Не пайду. Там вашы будуць біцца.

Колькі я ні ўгаворваў, Лёлік не скрануўся з месца.

— Сядзі сабе звязаны, а я пайду.

Я споўз на другі бок вала, прытаіўся: што ён будзе рабіць. Бачу, пакруціўся, пакруціўся, устаў, пасмыкаў рукамі і такі развязаўся.

— Лаві яго! — крыкнуў я ўслед. Ён скаціўся з валу, адбегся на выган, азірнуўся, памахаў кулаком і закрычаў:

— Алёша, Алёша, дзіравая калоша! — выставіў дулю з накрыўкаю і пабег.

Дом быў пусты і гулкі. У самым вялікім пакоі стаяў абгарэлы стол, засланы дзіраваю фіранкаю, доўгая лаўка на складзеных замест ножак цаглінах. Да сцяны прыстаўлена шуфляда з тоўстымі кніжкамі ў паабдзіраных скураных вокладках, на акне стаяў фанерны кулямёт. У шчыліну на ствале закладаліся каменьчыкі, адцягваўся на тоўстай жоўтай гуме таўкачык, біў па каменьчыку, і ён са свістам вылятаў з рулькі.

Нашы хлопцы шнырылі па ўсіх кутках, знаходзілі пагнутыя бляшанкі, бліскучыя гузікі, размаляваныя паперкі ад цукерак.

— Бач ты іх, колькі цукерак зжэрлі,— не то абураўся, не то зайздросціў Іван. Ён яшчэ больш учарнеў, а светлыя плямы лішаёў папаўзлі на шыю. Андрэй прыладзіўся да кулямёта і пастрэльваў дробнымі каменьчыкамі.

— Ну і далі мы ім! Я як урэзаў гэтаму млынароваму бугаю, дык ён на карачках папоўз,— хваліўся ён.

— А я рудому як засвячу...

— А я...

— А я...— адзін перад адным выхваляліся хлопцы.

Лаўрэн драў старыя ксяндзовы кніжкі і выкідаў за акно.

— Дай майму бацьку на цыгаркі, а то шпалеры аддзірае і курыць,— папрасіў Андрэй. Пагартаў.— Не па-нашаму пісана,— і заткнуў за зрэбны паясок штонікаў.

Мне карцела хутчэй спусціцца ў склеп, пашукаць ход, што вёў у таемнае сутарэнне. Я сказаў Лаўрэну. Ён толькі цыкнуў на мяне, каб маўчаў.

— Цяпер трэба вартаваць, каб яны зноў сюды не ўбіліся,— загадаў Лаўрэн. Ён выдраў з кніжкі чыстую з аднаго боку старонку і падаў мне.— Ты граматнейшы, пішы, каму вартаваць сёння, каму заўтра.

— А чым пісаць?

— Зараз знойдзем.— Андрэй Лёлікавым ножыкам адкалупнуў ад абгарэлай сцяны вугалёк, завастрыў, як аловак, і падаў мне.

— Пішы: «Дзяжурныя па штабу»,— дыктаваў Лаўрэн. Я схіліўся над хісткім столікам і пачаў старанна выводзіць літары. Лаўрэн называў імёны і мястэчковыя мянушкі, якія ў кожнай сям'і пераходзілі з роду ў род. Прозвішчы многіх добра знаёмых людзей ніхто не ведаў. Спытаюць бывае: «Дзе жыве Грыша Пастушонак?» Толькі паціснуць плячыма — «Які гэта Пастушонак?!» Варта дадаць «Кажушка» — адразу: «А-а, так бы і сказаў. Вунь каля студні, хата з крывымі варотамі».

Па мянушках звалі і нас. Я запісваў Аркадзю і Толю Багамазаў, Мішу і Сашу Сакуноў, Пятра Турка, Колю Сюську. Былі і непрыстой-

ныя мянушкі, але прывыкалі і да іх. У кожнай з іх была свая гісторыя, свая радаслоўная, ужо не вядомая нашчадкам.

У мястэчку кожны год збіраліся вялікія кірмашы на сёмуху і на Кузьму-Дзям'яна. На іх з'язджалася процьма народу: з-пад Чарнігава прывозілі ружовыя пернікі і доўгія мятныя цукеркі з кутасамі, прыязджалі ганчары з-пад Слуцка, невядома адкуль — прайдзісветы з марскімі свінкамі і папугаямі, што выцягвалі «шчасце». На кірмашы сыходзіліся сотні старцоў, сляпых і бязногіх, сівабародых лірнікаў з маленькімі мурзатымі павадырамі, убогія варажбіткі і знахаркі. У іх быў свой жаргон, добра засвоены местачкоўцамі. І мы валодалі ім з маленства. Мы не гаварылі «есці хлеб», а «троіць сумара», не «красці сала», а «клісаць крэсла».

Цяпер уся наша стратэгія перакладалася на старэцкую мову, і мы наіўна думалі, што нас ніхто не разумее.

— Лаўрэн! Лаўрэн! Дзе ты? — пачуўся здалёк прарэзлівы крык.

— Ну чаго? — высунуўся з акна Лаўрэн.

— Каб ты глухі чагокаў, мой сынок. Глотку парвала, крычучы. Бяжы хутчэй пакеты разносіць. Ты ў мяне сягоння нажарэ-э-шся, каб цябе трасца насіла! Марш, разбойнік! — кляла цётка Лукер'я без вялікай злосці, а так, дзеля парадку.

— Іду-у-у!

Лаўрэн загадаў пакінуць вартавых, выскачыў у акно і пабег садам, зарослым забуялаю лебядою і конскім шчаўем.

Увечары маці радавалася і бедавала. Радавалася, што заўтра салдаткам будуць наразаць шнуркі сенажаці на Бярозавым балоце.

— Але як яе скасіць і ўпарадкаваць тую злыбеду сена? — бедавала яна.— Гэты «памочнік»,— кіўнула на мяне,— грады не ўпільнуе, а з некім жа трэба копы пазносіць і стажок скідаць,— разважала маці ўголас.

Князеў моўчкі шараваў шомпалам вінтоўку: мачаў анучку ў бляшаную маслёнку і ляскаў наканечнікам па рулі. На паперыне ляжаў разабраны затвор. Я не зводзіў вачэй з галоўкі і спрунжынак.

— Ну паспрабуй сабраць. Толькі не пагубляй нічога,— кіўнуў мне Князеў. Ад радасці ў мяне аж задрыжалі рукі.

— Так, так, малайчына. Н-е, браце, баёк трэба сюды. Цяпер закручвай.— Хоць і не вельмі ў мяне выходзіла, але Князеў падахвочваў, памагаў і падхвальваў.

Маці завязала чыстую паркалёвую хустачку з чорнымі крапінкамі і пачала некуды збірацца.

— Схаджу да дзядзькі Сцяпана. Можа паслухае хоць дзень пакошваць.

— Пачакайце, хадзяйка. Прыйдзе камісар... Ну, таварыш Кудрашоў, можа мяне пусціць пакасіць вам. Даўно рукі свярбяць без касільна. У нас лугі заліўныя. Трава ў пояс — літоўку не пацягнуць. Эх, і любіў жа я касавіцу! Заўсёды, як на свята ішоў. Не бядуйце, скосім вашу дзялянку,— ён прыплюшчыў адно вока, а другім углядаўся ў рулю вінтоўкі. Заклаў затвор, шчоўкнуў, пачаў збіраць праціркі і маслёнкі. Памаўчаўшы, загаварыў зноў:

— У нас косяць разам бабы і мужыкі. Маладайкі пад'юджваюць ззаду: «Налягай, налягай! Пяты паабразаю». Ну, і пластаешся да сёмага поту. Увечары з аднаго катла ўся талака кулеш цягае. Начуем пад копамі ці ў будане са свежага сена. Зоры падміргваюць, за ракою драч крычыць. Любата. Так што скосім вашу дзялянку. Не бядуйце.

— А як не пусціць Кудрашоў? Я і не ведала, што ён за старшага.

— Камі-с-сар. Пасля камандзіра першы начальнік. Мы з ім ужо



каторы год па свеце бадзяемся: то наступаем, то адступаем, даганяем і ўцякаем. З аднаго кацялка цэлую Волгу высербалі. Паветы нашы па суседству. От і зрасліся, як дваяняты. А раз'едземся, цяжка будзе адвыкаць. Хлопец ён гарачы, але душэўны. Уважыць, хадзяюшка, уважыць.

Маці сасмыкнула хусцінку, прычасала не вельмі густыя валасы і заткнула зломак грабеньчыка ў куксачку на патыліцы.

— Літоўка хоць у вас ёсць? — запытаў Князеў. Маці лыпала вачыма і маўчала.

— Ну, чым у вас косяць? — зразумеў матчына замяшанне Князеў.

— Чым жа яшчэ? Касою.

— Ха-ха-ха,— дробненька засмяяўся ён,— каса ў вас вунь дзе, пад грабянцом.

— Яно праўда. І тая каса — каса, і гэтая — каса. Ёсць, ёсць нейкая ламачына ў падстрэшшы. Мабыць, касільна рассохлася і кляпалі невядома калі.

— Нясіце яе сюды.

Маці подбежкам кінулася з хаты і хутка ўнесла бацькаву касу, укрытую лускою ржы. На дужцы целяпалася мянташка ў засохлай гліне.

— Стру-у-у-мант! Нічога не скажаш,— пакруціў Князеў у руках касу.

— Дзіва што! Каторы год у людскіх руках не была,— апраўдвалася маці.

— Алёшка, шукай бабку і малаток. Кляпаць пойдзем.

У сенцах з палічкі я зняў скрыначку з бацькавым начыннем. У ёй ляжалі пагнутыя цвікі, абцугі, скрутачкі дроту, жоўты складны аршын. Малаток і бабку знайшоў падыспадам і прынёс Князеву. Дзяржанне рассохлася, і малаток ледзьве ліпеў на ім. Князеў збіў касу з касільна, у малаток загнаў клін, і мы з ім пайшлі на дрывотню. У суседніх дварах ужо ляпалі малаткі і дзынкалі косы. Было радасна, што і наш двор не глухі. Князеў спрытна кляпаў з адцяжкаю, пляваў на даўнія лапатухі і выпростваў іх.

Ад звону не чутно было, як рыпнула фортка і ўвайшоў Кудрашоў. Фуражку ён ссунуў на патыліцу, чуб рассыпаўся па лбе.

— Што, таварыш баец, перакоўваеш мячы на арала?

— Пара, таварыш камісар,— усміхнуўся Князеў,— бачыш, косы і плугі заржавелі, зямля заялавела.

— Давай, давай! Можа ў заработкі наняўся?

— Слухай, Вася, хадзяйцы заўтра трэба пакасіць. Збілася з ног кабета. Адпусці на дзень, а? Ды і самому, прызнацца, ахота. Пачуў звон літоўкі, сэрца і занyла. Нашымі лугамі пацягнула. Кнігаўку пачуў і песні ўспомніў,— павольна загаварыў Князеў.

— А перш за ўсё, мабыць, сваю маладайку? — высkaліўся Кудрашоў, а Князеў сарамяжа апусціў галаву.

— Дык як? Я паабяцаў гаспадыні, калі адпусціш...

— Паабяцаў, а цяпер пытаешся,— нязлосна папракнуў Кудрашоў.

— Трэба памагчы. Можа і нашым хто паможа.

— Давай. Нас якраз з камандзірам Мазалеўскі і Зубарэвіч прасілі памагчы салдаткам адкасіцца. А ты, як той прарок, наперад бачыш.

Князеў задаволена ўсміхнуўся:

— Сваім жа памагаем.

І ён лёгенька зацюкаў малаточкам па тонкаму джалу. Пашорхаў мянташкаю, выстругаў новы клінок, перавязаў ручку, асадзіў касу,

патрос яе ў руках і павесіў пад стрэху. А маці аскрэбла ад солі пажоўклы скрыль сала, прыхаваны на сенакосную пару, складала ў торбу хлеб і лыжкі, рукавок круп, да бляску шаравала мядзяны кацялок.

Кудрашоў павячэраў і некуды сышоў, а мы, як толькі сцямнела, пакладіся спаць, каб не праспаць світанне.

На золку маці ледзь чутна тапталася каля печы: складала ў торбу вараныя яечкі, сухі сырок, доўгае цыб'е цыбулі з белымі галоўкамі. На снеданне паспела зварыць крутую зацірку. Князеву падсмажыла яешню, а мне і сабе паставіла па кубку малака. Адзін есці Князеў адмовіўся: пароўну пакроіў яешню і паклаў мне і маме.

— Для касца найлепшая мянташка — скварка,— апраўдвалася мама і спрабавала перакінуць назад на патэльню свой кавалак.

У сенцах стаялі старыя бацькавы маршчакі, густа змазаныя дзёгцем. Князеў абуў іх і аж заскакаў — так лёгка было пасля цяжкіх салдацкіх чаравікаў.

Устаў і Кудрашоў. Зірнуў заспанымі вачыма на таварыша і зарагатаў:

— Ну і франт! Глядзі ж не лянуйся, каб Чырвонай Арміі сорамна не было.

— Не баісь, таварыш камісар. За нас дваіх адкашуся.

— Давай, давай, а стагаваць і я памагу,— паабяцаў Кудрашоў і зірнуў на мяне.— А ён вам навошта?

— Няхай прывучаецца, а то збегаўся з Лукер'інымі звадыяшамі. Можа вады прынясе, ды і ведаць сваю палоску будзе. Падсохне сена, паразбіваць сходзіць.

Раніца іскрылася росамі і курылася лёгкім туманком, свістала і шчабятала на ўсе птушыныя галасы. На касцельнай таполі стракатаў сухою дзюбаю бусел. На сонцы пабліскваді косы, целяпаліся на плячах у касцоў торбачкі з палуднем, многія ішлі сем'ямі, у каго былі коні, ехалі на вазах. Удовы і салдаткі вялі на свае шнуркі чырвонаармейцаў: камандзір уважыў валасному начальству — адпусціў пакасіць адзінокім жанчынам.

Бярозавае балота было ў канцы мястэчка. Куп'істае, з хвашчом і ціпцам, званцом і чарнагаловам, яно цягнулася да зараслага густым лазняком і алешнікам рачнога берага. Па ўсім балоце чарнелі тычкі з пазавязваным, як конскія хвасты, веццем. Ад краю на тычках віселі біркі з нумаркамі. Тут жа чакалі касцоў старшыня валрэўкома Іван Мазалеўскі і пісар, малады сарамяжны хлопец у сіняй сатынетавай касаваротцы з белымі гузікамі і ў картовым галіфэ з рудымі палатнянымі леямі. Ён трымаў рабенькую папку, за вухам тырчаў аловак. Даўно няголены Мазалеўскі ў вялікай шапцы трос скрутачкі паперы.

— Ну, дзе тут маё шчасце? — заглядалі мужчыны ў старшынёву шапку.

— Як збяруцца ўсе, выцягнеш. Пацярпі.

— Трэба было наразаць упоперак, а не ўдоўж. Гэтак некаму адно куп'е дастанецца,— раіў заўсёды мурзаты каваль.

— Затое з журавінамі ўсю зіму будзеш,— пацяшаўся Грыша Сюська.

— От некаму пашанцуе, дзялянка, хоць бокам каціся,— гаманілі жанкі і мужчыны, разглядаючы біркі на тычках.

— Ужо ўсе, мабыць. Трасі сваё шчасце, старшыня,— не цярпелася Грышу.— Па расе сама пакасіць.

— Падыходзьце! — скамандаваў Мазалеўскі. Усе цесным кругам абступілі яго.

— Хоць верхам не садзіцеся, бабы! Расступіцеся трохі,— разводзіў



рукамі натоўп старшыня. Кожны хацеў хутчэй выцягнуць свой нумарок. А мама тапталася ззаду і ніяк не магла дацягнуцца да шапкі. Князеў з чырвонаармейцамі стаялі ўбаку, курылі і гаманілі пра салдацкія клопаты.

Кожны з нумарком падыходзіў да пісара запісацца і хутчэй бег шукаць сваю дзялянку. Нарэшце дапяла да шапкі і маці. Выцягнула яна шнурок не вельмі з ядкою травою: паміж мятліцаю пабліскваліа асака, ад краю сівеў ціпчык. Але нікуды не дзенешся — такое ўжо шчасце. Сама выцягнула.

Я падхапіў торбачку і збанок з квасам, маці з цэтлікам у руцэ ад тычкі да тычкі пайшла абтоптваць мяжу. Князеў павесіў цераз плячо папругу, расплікнуў каўнер зліняалай гімнасцёркі, з касою ў руцэ ішоў услед за намі.

Касцы разыходзіліся па ўсім балоце, мянташылі косы, перакліка-ліся з суседзямі.

— О-о, у цябе ж ніштаваты надзел.

— Дзе там ніштаваты? Казе на паўзімы не навыбіваеш.

Адзін зайздросціў, другі прыбядняўся. І так па ўсім балоце. Мужчыны пад'юджвалі салдатак, што папрыводзілі сабе добрых касцоў.

Ад ракі трава была гусцейшая і большая. Адтуль і пачыналі. Пад кустамі на беразе складалі торбы, у цянёк хавалі збанкі з вадою і квасам. Круты рачны схіл зарос лазою і алешнікам, пракідаліся кусты парэчак з нізачкамі чырванабокіх ягад. Пад берагам і навіслымі кустамі булькатала і віравала цёмная вада, перакочвалася цераз счарнелы выварат старога дуба. На тым, пясчаным беразе рака пабліскваліа дробнаю сонечнаю лускою, а вышэй, на ўзгорку, павольна гайдаліся і шумелі рэдкія пакручастыя сосны.

Князеў зняў гімнасцёрку і шапку. Хутка і ўвесь луг забялеў кашулямі і хусцінкамі, зазвінелі пад мянташкамі косы, заўжыкалі па траве. Князеў гнаў шырокі пракос, пакідаючы за сабою на вільготнай пакошы глыбокі след. Па цёмных абветраных шчоках сплывалі цурочкі поту.

Склаўшы рукі, маці глядзела, як кладзецца пракос за пракосам, як перакочваюцца лапаткі на шырокай спіне касца. Пастаяла, уздыхнула:

— Ну, я пайду, а ты, сынок, пабудзь. Можа па ваду збегаеш. Яно і весялей удвух. Толькі ж глядзі каля рэчкі не лазь. А то шуснеш, чаго добрага. А тут унь якія віры. Вы ўжо глядзіце, каб гэты распуснік слухаўся вас. Калі што, папругі не шкадуйце,— прасіла яна Князева.

Салдат хітра падміргнуў і знарок пагразіўся пальцам. Маці яшчэ пастаяла, склаўшы рукі, паглядзела з-пад стрэшкі зліняалай хусцінкі, як спрытна махае касец, і пайшла мяжою, ад тычкі да тычкі.

Я зводдаль тупаў следам за Князевым. Сонца сляпіла вочы, па ілбе сцякалі цурочкі поту, пахла свежаю травою і лугавымі кветкамі, дзынкалі чмялі і авадні, трапяталі шклянымі крыльцамі стракозы. Луг стракацеў кашулямі і каляровымі хусткамі.

Маршчакі касца ўміналі зрэзанае цыб'е травы, і сляды заплывалі ржаваю вадою з тлустымі бліскінкамі, збоку слаўся роўны і росны пракос, звешвалі галоўкі падрэзаныя мятлюкі, слёзкі і лугавы хвошч.

Князеў высмыкнуў з-пад рэменя мянташку і зашоргаў па касе, закасанаю рукою выцер з ілба пот.

— Можа хочаш паспрабаваць? Толькі дужка высока,— ён перавязаў яе ніжэй.— Ну, бярыся, а я пакуру.

Каса ў маіх руках заскакала з пяткі на насок, уторкнулася ў купіну. Я сіліўся яе выцягнуць.

— Чакай, чакай, браце, не тузай. Так палатно парвеш. Кулаком па касільну лёгенька пастукай, яна і вылезе. Старайся націскаць на пятку, каб яна не тыцкалася ў купіны, як сляпая. Так, так. Трошкі шырэй займай. Як зачапіў, так і гані да канца... Малайчына. Бачыш, выходзіць.

Калі пахваляць, адкуль той спрыт і ахвота бяруцца? З кожным замахам касы выходзіць спраўней і спраўней, ужо куп'е не ўтыркаецца ў вострую дзюбку, пракос кладзецца раўней і раўней, каса болей не выскаквае з травы. Пот залівае вочы, кропля казыча кончык носа, далоні гараць ад вадзяністых ружовых пухіроў. Адзін лопнуў і пячэ агнём. А Князеў ідзе следам, смокча махорачную цыгарку, падхвальвае і прыахвочвае белазубаю ўсмешкаю.

Здаецца, ужо і здаволіўся: смыляць далоні, гараць пасціраныя пухіры, а кідаць няёмка. Памахаў яшчэ і змікіціў:

— Памянташыць бы. Нешта рэжа не вельмі.

— Давай, давай, памянташым. Што, укасіўся?

Ён шаргануў мянташкаю, падклаў пад дужку свежай травы, перавязаў вышэй, і каса засвістала, кладучы шырокі роўны пракос. А мой паклычаны радок вытыркнуўся на сярэдзіну. Я разглядаў пабялелыя і парасціраныя мазалі. Яны смылелі, нібы крапіўныя апёкі, сачыліся і балелі, калі выпроствай далонь і сціскаў кулак. Чаму ж не баляць мазалі ў сталых касцоў? Я спытаў пра гэта ў Князева. Ён паказаў мне шырокую загарэлую далонь з тоўстымі цёмнымі вузламі, што аж блішчалі ад гладкага касільна.

— Праўду кажуць: гультай — за работу, мазалі — за рукі. А хто з дня ў дзень не разгінае рук, у таго не мазалі, а набоі, цвёрдыя, як конскія капыты.

Калі добра прысмаліла сонца, бязлітасна загулі авадні, да крыві працінаючы потныя плечы, мы схаваліся ў халадок пад шырокім лазовым кустом палуднаваць. Я прынёс кацялок рачное вады. Князеў апаласнуў рукі і твар, плескануў на змакрэлыя грудзі і аж заахкаў. А я папялёскаўся на рэчцы і падстаўляў мокры твар лугавому ветрыку.

Мы мачалі сіняватае цыбульнае пер'е ў шэрую мокрую соль, адкусвалі крутыя яйкі, грызлі жоўты сыр і запівалі з аднае пляшкі пеработаным малаком з драбочкамі масла. Смачней за гэты полудзень нічога не было.

Пад кустамі і на ўзбярэжжы рэчкі палуднавалі, гаманілі і смяяліся. Князеў заклаў за галаву рукі і, расцягнуўшыся ў халадку, пазіраў у яснае высокае неба, на лёгкія белыя воблачкі з зіхатлівымі закрайкамі. Яны павольна плылі то чарадой крылатых лебедзяў, то разбягаліся гаямі вакол блакітнай азярынкі, то выцягваліся імклівым рысаком з залацістаю грываю. Можна гадзінамі глядзець на воблакі і прыдумляць дзівосную казку.

— У нас і неба не такое,— загаварыў Князеў.

— А якое?

— Высокае, спякотнае, заўсёды зацягнутае лёгкаю смугою. А лугі якія! Ледзьве галава відна з травы, зямля, што масла, хоць на лусту маж,— памаўчаў, уздыхнуў.— А цяпер голад на нашым Паволжжы. Спаліла ўсё, зямля парэпалася, людзі з голаду мруць. І мама даўно нічога не піша. Ці жывая?

Мяне агарнуў такі жаль, што даўкі камяк заказытаў у горле.

— Вы ёй сухароў, сыроў сушаных, кавалак сала пашліце па пошце.

— Добрая ў цябе душа, Алёшка. Толькі дзе ўзяць тых сыроў і сала?



— Дастанем. Вы толькі скрынку зрабіце.

— Даста-а-а-анем! — Князеў пагразіўся пальцам.— Бач ты, які даставала. Можа пад чужыя падстрэшшы палезеш? Глядзі, хлопец,— ён падняўся і паглядзеў на мяне.

— Што вы, што вы! Барані божа, чужое браць,— замаргаў я ад крыўды.— Па хатах збярэм. Кожны што-кольвечы дасць. Збіраюць жа ў воласці на Паволжжа. А чаму мы не можам?

— Ах, няма чаго гаварыць. Лепш збегай вады прынясі. Ды глядзі не шусні ў вір.

Князеў выцягнуў з-пад пракоса касу, падбіў клінок, пашоргаў мянташкаю. Зноў увесь луг зазвінеў косамі і галасамі, бялелі прапацелыя салдацкія кашулі, стракатыя хусткі жанок. Пакошу мераў адзінокі бусел. Сонца звярнула з паўдня, падаўжэлі цені, неба заткала лёгкая смуга, а на захадзе выпаўзла з-за лесу попельна-шэрая хмара. Сціх і слабы ветрык. Не варушыўся ніводзін лісток, ніводная травінка. Наплывалі пасмы парнага паветра.

З-пад ног па крутым беразе асыпаўся пясок і каламуціў ваду. Трымаючыся за ракітавы куст, я чакаў, калі сплыве пыл. Каля ног віравала і закручвалася цёмная вада, перакочвалася цераз выварат чорнага, як вугаль, дуба і дыхала свежасцю і прахалодай. На тым, пакатым, беразе збіліся ў купку авечкі, павольна тэпалі да вады гаманлівыя гусі.

Каламуць сплыла, а я ўсё глядзеў на верхавіны зарэчных хвояў, на ўзгоркі і пералескі, на запалавелую хмару, што гусцела і расла на паўнеба.

— Алёшк-а-а-а! — пачуў устрывожаны голас Князева.

— Тут я! — хуценька зачэрпнуў у кацялок вады і палез па сыпучым пяску.

— Ну і напалохаў ты мяне, брат. Дзе ты прапаў? Думаў, можа сом пад выварат зацягнуў.

— Не-е-е, самоў тут няма. Чакаў, пакуль каламуць сплыве,— апраўдваўся я.

— Стаў кацялок і чашы да дажджу дадому. Бо зараз урэжа.

— Дык хадзем разам.

— У дождж сама што пакасіць. Ліні,— ён падставіў прыгаршчы пад струмень вады, змыў з твару пот, выцерся рукавом і замахаў весялей і спарней. Завіхаліся на ўсім лузе. А хмара ўжо засланіла сонца. Усё сцішылася і знямела, нізка лёталі і прарэзліва кігікалі кнігаўкі, стракозы паскладалі празрыстыя крыльцы на лістках лазовага куста, павіслі на макаўках прырэчнага чароту.

Дадому ісці не хацелася. З трывожнаю радасцю я чакаў навальніцы і звонкага летняга ліўня і марудзіў: складваў у торбачку, накрываў травою і веццем пацяробкі нашага полудня, згарнуў і схаваў пад куст злінялую гімнасцёрку і шапку Князева.

Хмару рассекла блакітная бліскавіца, задрыжала, як сухая падпаленая галінка, і згасла. Зусім блізка застагнаў, пакаціўся і трэснуў, нібы разарваў пругкае палатно, гром. Заімглілася далячынь, вецер пагнаў сухую траву і лісце, зашамцеў званец, загойдаліся галоўкі лугавых кветак. На твар пырснула кропля. Непадалёк загуло, зашумела, загойдалася вецце хмызнякоў і надрэчных алешын, шэраю паласою накочваўся лівень, буйнымі гарошынамі падскоквалі кроплі, заплюскаталі па рацэ, зашлёпалі па лісці, хвастанулі пругкімі струменямі па твары, па спіне, пабеглі па лузе далей і далей. Мокрая адзежа абляпіла і астудзіла гарачае цела. Я зашыўся пад куст, а Князеў з вясёлаю злосцю махаў і махаў касою. Кашуля прыліпла да плячэй, чорныя вала-

сы пасмамі навіслі на вочы, ён з галавы страсаў струмені вады і касіў, касіў.

Дождж хвастаў з вясёлым звонам, скакаў па пакошы, прыпляскаў свежыя пракосы, бліскала маланка, і касыя ніткі дажджу зіхацелі зеленаватым срэбрам, я згінаўся да зямлі і сціскаў плечы ад кожнага ўдару грому. Князеў уваткнуў касу, вясёлы і мокры прыбег пад куст, з барады па грудзях сцякалі струменьчыкі вады, а ён рагатаў, як дзіця.

Луг апусцеў: касцы зашываліся пад лазовыя кусты, але і там не было ратунку. А дождж шумеў і хвастаў, маланка бліскала недзе далёка наперадзе, глушэй вуркатаў і скочваўся за небасхіл гром. Князеў пасадзіў мяне паміж ног і стараўся прыкрыць сабою. Ад яго шырокіх грудзей рабілася цёпла змакрэлай спіне, кашуля пахла едкім потам і гаркаватым махорачным духам.

Дождж выпростваўся, павальнеў і драбнеў, пасвятлеў луг і стаў такі зялёны, што аж аскома, як ад кіслага яблыка, заныла ў роце.

Шлоп-шлоп, кап-кап... І ўсё сціхла. Толькі дрыжалі лісты, і ў іх жалабках перакочваліся каралі жывога срэбра. Выбліснула сонца ў прамыінах воблакаў, а цёмная хмара спаўзла на ўсход і яшчэ засланяла паўнеба. Луг закурыўся параю, захлюпала пад нагамі вада. З-пад кустоў вылазілі касцы.

— Ну, чашы, браце, дадому. Прабяжыся добра, каб не прастыў. Бяры торбу і марш,— загадаў Князеў.

Я бег, перасокваючы цераз пракосы, хлюпаючы па лужах і распырскваючы праменні вады.

Каля веснічак мяне чакала маці. І пазней яна заўсёды выглядала мяне, стаўшы на ніжнюю жэрдку, каб далей і лепей было відно. У гэтай паставе, з далонню, прыстаўленаю да вачэй, яна мне ўспамінаецца і цяпер.

— А дзе ж наш касец, сыночак? — здалёк з трывогай у голасе запытала яна.

— Косіць... Пасля дажду трава мякчэйшая.

— Я ўжо тут звялася саўсім, пакуль ліло ды грымела, вярзлося ліха вед што... Хадзем барзджэй, сыночак, скідаць гэтыя транты. Ты ж як той хлюшч,— і пацягнула мяне ў хату. Цела праціналі дрыжыкі, мулялі набрынялыя рубцы, халодны каўнер казытаў шыю.

Як добра пасля дажджу адзець усё сухое, прайсціся басанож па цёплай падлозе, прытуліцца да толькі што прапаленай грубкі, пасярбаць гарачых бульбяных клёцак з малаком. У той дзень я адчуў сябе патрэбным у хаце работнікам і ўсё расказваў, як касіў, як бегаў па ваду, і хваліўся мазалямі. Мама дастала з лампадкі кнот і накапала на далоні густога жоўтага тлушчу.

— Памаж, дзіцятка, каб не так шчымелі і не лопаліся.

У маміным голасе чулася спагада, і пазірала яна добра і ласкава.

Перад захадам сонца заліло ўсё густою чырванню. На лістах і на травах зіхацелі і перакочваліся дажджынкі, з неба сплывалі пашматаныя сіняватыя хмаркі. Было ціха і ўрачыста ў выпаласканым, пасвяжэлым наваколлі. Разоры, сцежкі і травяністыя нізіны заліла дажджавая вада, па пясчаных каляінах вывіваліся каламутныя ручаінкі, пахла агурэчнікам і кропам.

На змярканні вярталіся касцы. Падцягнуты, лёгкі і пасвятлелы Князеў задаволена ўсміхаўся.

— Дабіў, хадзяюшка, твой шнурок. На беразе хоць і невялічкая, але ядкая трава — ціпчык, дзяцельнік, муражок. І душу адвёў: занудзіліся рукі па сапраўднай рабоце,— ён падміргнуў мне,— добры касец з хлопца будзе. Яму б толькі маленькую літовачку, дык і ён на той год настрамачак навыбівае.

Маці не ведала, як і дзякаваць кватаранту: бегала з кладоўкі да прыпечка, ставіла трыножку, я з печы наскідаў сухіх трэсак, засквірчэла патэльня з лупатымі вочкамі яешні. І я, як толькі мог, дагаджаў Князеву: паліваў на рукі і на шыю сцюдзёную ваду, а ён, скінуўшы мокрыя кашулі, пялёскаўся і ахкаў ад задавальнення.

Змяніцца ў яго не было ў што. Мама дастала з куфра бацькавы «падвянечныя» штаны і пакамечаную белую кашулю без гузікаў на манжэтах.

«У «вольнай» адзежы Князева было і не пазнаць, і сам ён радаваўся, падыходзіў да люстэрка, пакручваўся перад ім і весела ўсміхаўся. Калі вячэралі, прыйшоў заўсёды гаманкі Кудрашоў і, хітра нахмурыўшыся, скамандаваў:

— Таварыш Князеў, па трывозе да камандзіра!

Князеў ускочыў з-за стала, прытрымліваючы адною рукою слабкія штаны, другою спрабаваў сцягнуць расхлістаную кашулю. Кудрашоў звонка зарагатаў.

— Адстаўіць! Шамай, шамай, Гаўруша. Пажартаваў. А каб папраўдзе трывога? Такім франтам і паскакаў бы на бандытаў?

Кудрашоў паздымаў свае рамяні, расплікнуў каўнер гімнасцёркі і сеў да стала. Маці падала і яму лыжку.

— Дзякую. Не зарабіў. Давай, круці, Гаўрыла. А я сыты аж дасюль. У гасцях быў,— мабыць, схлусіў Кудрашоў.— Ну як, здаволілася твая мужыцкая душачка?

— О, каб яшчэ паараць, ды не такога падзолу, а нашага чарназёму паварочаць.— Падскрабаючы патэльню, Князеў спытаў: — Ну, што там новага?

— Ат, прыемнага няма, а пра кепскае сам дазнаешся, як скамандуюць: «Сядлай!» Бандыты выграбаюць кублы і засекі то пад Гарадком, то ў Зелянковічах. От і цікуй за імі. Але нідзе не дзенуцца, пераловім гадаў.

Змеркла. З лістоў дзічкі пад акном скочваліся і глуха стукалі аб зямлю дажджынкі, шалясцеў квасольнік на высокіх тычках. Кудрашоў выпіў кубак сырадою і некуды пайшоў. Князеў перавярнуў над прыпечкам разапнутае на вілах і качарзе мокрае абмундзіраванне і лёг. Выправіла і мяне маці спаць, а сама яшчэ тапталася ў кухні.

## 4

На базарнай плошчы чырвонаармейцы ставілі высокі памост. Шоргалі пілы, грукалі малаткі, прыганяліся свежыя цалёўкі, прывезеныя з цыркулярკі Стральцэвіча.

Адны казалі, што ў нядзелю тут будуць судзіць спайманых каля Казловіч бандытаў, другія — што лупцавацьмуць іх ракітавымі дубцамі перад усім народам.

Цяслярыў на плошчы і наш Князеў. Я дапытваўся, што гэта будзе.

— Не ведаю,— адказаў ён.— Загадаў камандзір, робім, скажа — раскідаем. Наша дзела цялячае.

Жанкі збіралі смольныя трэскі на падпалку, пад памостам хаваліся і дурэлі малыя, па вузенькай драбінцы ўзлазілі наверх і крычалі абы-што на ўсю плошчу.

Мы таўкліся ў вале і ў пустым доме, заглядалі праз вузенькія акенцы ў цемру касцельных сутарэнняў, гукалі і слухалі ўласнае далё-

кае рэха. Па крутых прыступках уздзіраліся на званіцу. У скразных праймах стагнаў вецер, варушыў тоўстыя канаты званоў, заседжаных галубамі, залепленых прыкарэлым пер'ем. Зверху людзі і хаты здаваліся маленькімі-маленькімі, яблыні ў садзе — дробнымі кусцікамі, а рэчка за валам пабліскала і круцілася, як вузкая ручаінка. Гусі на выгане бялелі маленькімі камячкамі. Па полі беглі хвалі запалавелага жыта, а наўкол сінелі лясы і лясы. Яны знікалі ў смузе далягляду, і здавалася, ім няма канца-краю. Не верылася, што недзе за імі ёсць яшчэ мястэчкі і гарады, ходзяць нейкія цягнікі, якіх з нас ніхто ніколі не бачыў.

Зірнеш са званіцы, і сэрца заходзіцца ад страху, а нейкая сіла цягне і пад'юджвае раскінуць рукі і паляцець услед за буслянятамі ,што з раніцы кружаць над старою тапаляй.

Мяне зачароўвалі палі і лясное бязмежжа сваёй таямнічасцю і прыгажосцю. Я садзіўся на гарачы ад сонца памост і мог бясконца слухаць, як гудуць ад ветру вялізныя, шурпатыя ўсярэдзіне званы, глядзець на ружовыя воблакі і бяскрайнія далячыні. Таму заўсёды прасіўся ў Лаўрэна на званіцу сачыць, каб не пракраліся і не напалі Гогавы «буржуйчыкі». Потым забываўся пра свой абавязак, выцягваў з кішэні аскабалачкі шкельцаў ад касцельных вокан і падстаўляў да вока то адзін, то другі. Наваколле залівалася злавеснай чырванню: здавалася, палаюць лясы і хаты, крывавая рака плешчацца ў чырвоных берагах, белыя воблачкі гусцеюць, налівающца кармазынам, а неба гарачае, як напаленая ў горне бляха. Падстаўляў сіняе шкельца — і наступала ноч. Нязыркае сонца здавалася поўняю, унізе сінія стрэхі і дрэвы, лёталі сінія буслы, усё патанала ў дзівосным месячным святле.

Мяняліся шкельцы — мянялася наваколле не толькі па колеры. Мяняўся настрой, абрысы, нават смак паветра. Ад зеляніны на губах смылела і зводзіла сківіцы аскома, ад жаўцізны рабілася яшчэ спякотней, нівы здаваліся даспелымі, а дахі — залатымі.

Калі нікога не было побач, я прыдумляў песні. Так, абы-што, і спяваў на знаёмыя матывы, аж рэха гуло ў вялікім звоне, а з тоўстых бэлек пырхалі і разляталіся галубы.

Час ад часу ўзіраўся за схілы валу, ці не паўзуць нашы праціўнікі. Не, не відно. Яны, мабыць, збіраліся недзе ў другім канцы мястэчка.

Хацелася злезці, пабегаць разам з хлопцамі па цвёрдай зямлі. На званіцы ўсё было хісткае і нетрывалае. Загледзішся на воблакі — і, здаецца, сам плывеш следам за імі. Але паспрабуй злезці па сваёй волі, дык Лаўрэн і па карку можа натаўчы. А змена ўсё не ідзе — загуляліся хлопцы. Латошаць зялепухі ў садзе, гарцаюць у пустым доме, бегаюць па касцельным дзядзінцы, а можа знайшлі патаемны ход?

Ужо і наспяваўся і наглядзеўся праз каляровыя шкельцы, і напрыдумляў ліха ведае чаго. Кім толькі ні пабыў у сваіх летуценнях! Вярзлося нават, што скокнуў за парэнчы званіцы, раскінуў рукі, падхапіў мяне пругкі вецер пад пашкі і панёс, і панёс над валам, над рэчкаю, над сінімі хвойнікамі, аж заходзіўся дух ад імклівага лёту. А калі пралятаў над мястэчкам, збегліся на плошчу людзі, пазадзіралі галовы, крычалі: «Гэта ж Ганнін Алёшка», махалі рукамі і беглі следам. Нават расчуліўся і пазайздросціў мне крывабокі каваль Сцяпан Лясун. Яго я баяўся больш за ўсіх. Праўда, сам вінаваты: летась у яго садзе на самым версе старой ігрушыны віселі жоўтыя «фунтоўкі», як паліваныя гладышы. Аблізваліся на іх усе хлопцы з нашай вуліцы. А як узбярэшся на тую ігрушу? Бачым, каля хаты стаіць драбіна. Давай, думаем, перацягнем яе да грушы, здымем «фунтоўкі» і паставім назад.



Толькі кранулі, а яна як загрукоча па сцяне — скок, скок з бервяна на бервяно. Ніяк не ўтрымаць — сунецца і сунецца. А тут якраз акно — дзын! І пасыпаліся шыба за шыбаю.

Хлопцы сыпанулі хто куды, а я, як той дурань, усё яшчэ пнуўся ўтрымаць драбіну. Тут і наляцеў на мяне каваль. Думаў, ужо канцы! А ён ухапіў за вуха і перанёс праз вуліцу да нашай хаты. Я вішчаў, як парсюк у плоце, а каля самага дому загаласіў яшчэ горш. Але не памагло: можа тыдзень не сходзілі рубцы ад паўрозаў матчынага фартуха.

Таму так хацелася здзівіць і расчуліць злоснага Сцяпана, каб ён шкадаваў і пакутаваў за тое, што цягнуў мяне за вуха праз усю вуліцу.

Загледзеўся на дол, і нейкая неадольная сіла пацягнула ўніз, аж кругам пайшла галава, аж зайшлося ад страху сэрца. Адсунуўся ад парэнчаў на гарачыя дошкі, глядзеў не на зямлю, а на лёгкія ружовыя воблачкі, на бяздонны блакіт, на маладых буслянят у высокім небе.

Хацелася есці, сушыла смага. Успомніў, што трэба збегаць дадому і паганяць з град курэй. Але ніхто мяне не змяняў і не клікаў. Мабыць, забыліся. А пакінуць пост не адважваўся. Хоць і сядзець на званіцы не было ніякай патрэбы: «буржуяняты» болей не лезлі да нас. Можа спалохаліся, што камандаваў намі сапраўдны вайсковец, а можа яшчэ не ачухаліся ад апошняй бойкі.

Пераканаў сябе, што сядзець на званіцы няма чаго, і паціху злез на першыя прыступкі крутой, як штопар, лесвіцы. Спаўзаў вобмацкам: усходцы былі высокія — ледзьве даставала нага да наступнай. На сярэдзіне некалькі прыступак зусім не было. Апаноўваў страх, каб не сарвацца і не загрукацець у чорную прорву. Пасярэдзіне званіцы бліснула маленькае акенца. Адразу стала весялей, хоць бачыў, куды ступаць. На стаптаных званарамі прыступках закасцянеў галубіны памёт, валяліся аскабалкі разбітых шыбак, патыхала тхлінаю адсырэлай цэглы і вапны. А калі выйшаў з вузкіх дзвярэй, асляпіла сонца. Прыкрыў павекі, і паплылі ружовыя і зялёныя кругі, замігалі зоркі. Засланяючыся ад сонца, агледзеўся. На дзядзінцы нікога не было. Апусцеў і ксяндзоўскі дом. Куды ж дзеліся хлопцы? Пабегаў, пагукаў — нікога.

Выйшаў з валу на базарную плошчу і ўбачыў усіх нашых там. Разявіўшы раты, яны некуды ўглядаліся, паказвалі пальцамі, нечага чакалі.

— Куды вы паўцякалі? — спытаў у Андрэя.

— Тут такое дзіва! Каб хто сказаў, не паверыў бы.

— Якое?

— На двух колах чалавек ездзіць... і не падае. Круціць нагамі і едзе. Хацелі нагнаць — дзе там!

— А хто такі?

— Нейкі наежджы, Хадароўскі, кажуць. Гладкі і белы. Аднекуль прыбіўся. У Мар'ясі зняў паўхаты пад чайную. Бублікі і гарэлку будзе прадаваць.

Я быў рады, што Андрэй так лагодна гаворыць са мною. А можа прыдумляе несусвеціцу. Схлусіць ён здатны.

— Едзе, едзе! — закрычаў нехта з хлапчукоў. Я выцягнуўся на дыбачках і ўбачыў дзіва: трымаючыся за блішчастыя рожкі, круцячы нагамі колца, па вуліцы імчаўся незнаёмы чалавек у сіняй матроскай кашулі, прыгожы і шыракатвары, з каштанавым чубам над белым высокім ілбом, пад ім мільгалі і пабліскавалі два вузенькія колы. Як ён трымаецца, чаму не падае, ніхто з нас не мог зразумець.

Да нас падышоў у лямцавай шапачцы, са скрыпкаю за плячыма,

незразумелы нам, дзівакаваты Ваўчок, усміхнуўся, паглядзеў зліня-лымі вачыма:

— Цемната. Няўжо ніколі не бачылі веласіпеда?

— Чаму ж ён не падае, гэты лісапед? — запытаў Андрэй.

— Ад хуткасці руху. Вазьмі кола з возу, моцна штурхані — пакоціцца, а спыніцца — упадзе. Так і веласіпед.

— А хто гэта такі? — пацікавіўся я.

— Кажуць, нейкі чырвонаармейскі камандзір. Рука ў яго перабітая. От і прыехаў сюды. Чайную яму дазволілі адкрыць. Камерцыяй будзе займацца.

Стары паківаў галавою.

— Эх, цемната, цемната! Веласіпеда не бачылі,— павярнуўся і пайшоў, лёгка ступаючы зграбнымі скуранымі маршчакамі. Разыходзіліся і мы.

Увечары толькі і гаворкі было пра «лісапед» і пра шыракаплечага прыгожага Хадароўскага, што адкрыў чайную ў Мар'ясіным доме.

Разам з ім прыехала тоненькая чарнявая жонка. Самае дзіўнае, што яны занялі вялікі пакой у доме пані Лабацэвічыхі. Як яна толькі пусціла? — не маглі ўцяміць местачкоўцы. Ды каго? Былога чырвонага камандзіра? Нявенчанага недавярка?

Адны тлумачылі, што з нечага ж трэба карміцца і гадаваць «байстручка» Захарку, іншыя казалі, што за яе золата можна паўмястэчка купіць. Галоўнае — было пра што гаварыць. Бо ў нашым невялікім мястэчку кожны ведаў адзін аднаго з маленства, ведаў, якой у каго масці карова, колькі дае малака, хто пашыў новую сукенку ці боцікі на гузіках, па паху з коміна ведалі, хто пячэ хлеб, у каго смажыцца яешня ці прэе прасяная каша.

А тут заявіўся новы чалавек на «лісапеце», гаворыць неяк не панашаму. Яшчэ казалі, што ў яго на перабітай руцэ два залатыя бранзалеты на спружынках, каб варочалася ў локці.

Заходзілі местачкоўцы ў чайную да Хадароўскага так, без дай прычыны, проста паглядзець, а часам купіць абаранак ці хрусткі ружовы пернік.

У пакойчыку з няроўнаю падлогаю стаяла некалькі столікаў, накрытых цыратамі, на стойцы кіпеў вялікі самавар, стаялі сподачкі з накроеным селядцом, кавалачкамі вяндліны і сушанага сыру, у шафцы — пляшкі з гарэлкаю і вішнёваю наліўкаю.

У базарныя дні ў чайной было не прабіцца. Дзядзькі раскладалі свае торбы, бралі па шкаліку, кабеты сёрбалі са сподачкаў у прыкуску гарачы чай, са смакам грызлі пернікі і абаранкі. У завозныя дні Хадароўскі завіхаўся разам з жонкаю — наліваў чаркі, кроіў хлеб і каўбасу, а ў будзённыя — ездзіў па сёлах, купляў муку, яйкі, вяндліну і здзіўляў вясковых хлапчукоў сваім двухкалёсным «лісапедам».

Вечарамі змрочны, прыцішаны Лабацэвічышын дом позна свяціўся расчыненымі ў сад вокнамі тае палавіны, што здымаў Хадароўскі.

У нядзелю памост на базарнай плошчы запнулі з усіх бакоў стракатымі посцілкамі і пасточванымі прасцірадламі. Зранку з усіх дарог на гнядых, буланых, сівых у яблыкі стаенніках на базар з'язджалася засцянковая шляхта. Рыпелі колы, панура тупалі загнаныя ў рабоце даўгахвостыя і даўгагрывыя мужыцкія конікі ў вераўчаных аброцях. На вазах вішчалі парасяты, рохкалі ўвязаныя пастронкамі падсвінкі, выцягвалі доўгія шыі, гергеталі гусакі. На рынак везлі жыта і мёд, сушаныя сыры і яйкі, скруткі зрэб'я і трубкі беленага кужалю.

Вазы ставілі радамі, выпрагалі коней, падвязвалі высока паднятыя аглоблі. На іх вешалі скруткі лыка, ракітавы кош, кавалак палатна,



стракаты андарак, пашыты на продаж, лубяную каробку, тоўстыя кавалкі пажоўклага сала — уся рэклама на аглоблях.

Местачковыя шаўцы чаплялі на руку звязаныя боты, зграбныя жаночыя чаравічкі з доўгімі халяўкамі на гузіках, кавалі насілі вялікія замкі для свірнаў, жалезныя путы, нажы, секачы і вострa назубленыя сярпы. Краўцы трэслі бравэркамі, камізэлькамі і картовымі штанамі. Уздоўж крам на зямлі стаялі паліваныя гаршкі, гаршчэчкі, гладышкі, глякі, «спарышы» з глінянаю ручкаю, каб насіць на поле ці на касавіцу абед. Дзядзькі пугаўём ляпалі па румяных баках гладышак, прыслухоўваліся да звону, жанкі далікатна стукалі костачкамі пальцаў, прыкладалі вуха да гаршчэчкаў і глячкоў.

Уся плошча гула, гаманіла, верашчала, рохкала, звінела паліванымі гаршкамі. Мужчыны чыркалі пасінелымі ад гарту косамі, прыслухоўваючыся да «голасу».

Каля самага рынку за ясеневымі і ліпавымі прысадамі стаяла стромкая драўляная царква. Уздоўж цвінтару да самага ганка сядзелі на зямлі сівабародыя лірнікі, убогія гарбатыя бабулькі, сляпцы і бязногія калекі з мікалаеўскае вайны. Блямкалі званы, у паўзмроку адчыненых царкоўных дзвярэй мільгацелі свечкі, з кліраса даносіліся суладныя галасы пеўчых. На званіцы маўклівага касцёла толькі махалі крыламі і клекаталі буслы.

Мы шнырылі паміж вазоў, каля крам, забягалі на цвінтар, праціскаліся бліжэй да памосту. Было чутно, як тупаюць за посцілкамі, нешта прыбіваюць, гамоняць, унізе паблісквалоць трубы аркестра, што прыйшоў разам з чырвонаармейскім атрадам. Усе пазіраюць у той бок і чакаюць, што будзе.

А рынак гудзе, гамоніць, тупае, сустракаюцца сваты і кумы з далёкіх вёсак, маці і дачушкі, што пайшлі замуж у чужыя засценкі і сёлы, распытваюць і расказваюць навіны. Таргуюцца, адзін аднаму збіваюць цану, трымаючыся за крысо, б'юць па руках, калі старгаваліся. Хто купляе — ганіць тавар, хто прадае, аж захлынаецца, хвалячы яго. Слухаеш і дзівішся: навошта ж такое ламачча купляць і такое дабро прадаваць.

Мы ўсе сланяемся паміж вазоў. Няма толькі Лаўрэна — ён на памосце, за посцілкамі, нешта некаму памагае.

— Навошта гэты будан паставілі? — паказваючы пугаўём на памост, дапытваецца дзядзька.— Можа які крам прадавацьмуць?

— Фокуснікі нейкія прыехалі,— адказваюць яму.—Можа борацца будуць ці на руках хадзіць.

Андрэй, Васіль, Іван і я праціскаемся бліжэй, каб лепей бачыць нешта невядомае і цікавае. З-за посцілкі высунуўся Лаўрэн і паківаў нам. Як мы тады зайздросцілі яму! Як кожнаму хацелася паглядзець, што там робіцца.

Грымнуў аркестр і заглушыў рыначны гул. Побач з трубачамі стаяў са сваёю скрыпачкаю, усё ў той жа лямцавай шапцы Васіль Ваўчок. Але за гулам труб, вухканнем барабана не было чутно яго пілікання. Закалыхаліся, затузаліся і пачалі рассоўвацца посцілкі. Галовы паварочваліся ў той бок, патроху аціхала гамонка. Станавіліся на дыбачкі, выцягвалі шыі, некаторыя ўзлазілі на вазы, каб лепш бачыць.

— Гэй, руды, чаго вытыркнуўся, як свечка!

— Прысядзь, бо за табою сонца не відно!

— Хіба ж ты шкляны, што на ўвесь базар разапнуўся! — абураліся задняя.

На краёчак памосту выйшаў прыгожы і статны Кудрашоў. Пад-

няў руку, аркестр змоўк, толькі яшчэ разы два піскнула скрыпачка, патроху заціхаў рынак.

— Та-ва-ры-шы! — крыкнуў ён на ўсю плошчу.— Нас прыслала сюды Савецкая ўласць, каб знішчыць рэшткі белых бандаў. Яны яшчэ бадзяюцца па лясах, хутарах і сёлах, забіваюць сумленных людзей, паляць наша дабро, выразаюць цэлыя сем'і актывістаў. Нехта іх корміць, хавае і дае прытулак. Камандаванне папярэджвае ўсіх пасобнікаў бандытаў, што іх чакае самая суровая кара. Хто сам складзе зброю і пакаецца, даруем, а не — раней ці пазней знішчым. Зразумела?

Натоўп маўчаў.

— Зразумела, пытаюся?

З першых вазоў бабскім галаском азваўся дзядок з рэдзенькаю казлінаю барадкаю:

— Нам то зразумела. Але ета самае ты б, галубок, ляпей тым гіцлям ды галаварэзам сказаў. А мы што?.. Самі калоцімся, каб сушыцца на азярод не павесілі.

Пярэднія засмяяліся.

— А што? Праўду кажа.

— Дзе ты іх схопіш?

— Як заскочаць — малі бога, каб душу не распялі,— загаманілі ў натоўпе.

Кудрашоў падняў руку. Гаваруны сціхлі.

— А цяпер, таварышы, наш чырвонаармейскі тэатр пакажа пастаноўку «Братняя кроў». Толькі каб было ціха, бо нічога не пачуеце.— Ён падышоў да посцілкі і смыкнуў яе на сярэдзіну, другую адцягваў Лаўрэн.

— Бач ты іх! Не толькі бандзюкоў таўкуць, а і ціятры паказваюць,— здзівіўся дзядок з бабскім голасам.

Грымнулі мядзяныя трубы, бязгучна на скрыпачцы рэзаў Ваўчок. З непрывычкі пудкія коні натапырвалі вушы, спрабавалі сарвацца з прывязі, асядалі на заднія ногі, білі капытамі зямлю.

З прарэхі паміж посцілкамі паказалася Лаўрэнава галава, ён падміргнуў нам, высалапіў язык і схаваўся зноў. Калі адкрылася заслона, на памосце за сталом сядзеў невялічкі вусаты царскі афіцэр з бліскучымі пагонамі. Ён нешта крыкнуў, і два салдаты ўпіхнулі босага, у расхрыстанай кашулі хлопца з крывёю і сінякамі на твары. Афіцэр хадзіў па памосце, нешта крычаў на хлопца, потым убегла жанчына, упала перад імі на калені і залемантавала.

Ад базарнай гаманы цяжка было пачуць, што казалі на памосце. За посцілкамі пачалі страляць. Бабы войкалі і хаваліся пад вазы.

— Не бойцеся, дурніцы,— супакойвалі іх мужчыны,— гэта ж прастаўленне.

З-пад возу крычала кабета:

— Хавайся, стары дурань, чаго добрага, яшчэ заб'юць.

А на памосце нешта крычалі, бегалі, стралялі. Цяжка было разабраць, што там робіцца, але ўсе глядзелі, суцішалі адзін аднаго, узлазілі на вазы. Іх спорвалі, каму яны заміналі. Калі ссоўваліся посцілкі, зноў іграў аркестр. А мяне дзівіла, адкуль у маладых чырвонаармейцаў узяліся вусы, чым і як размаляваны твары, што і не пазнаць. Хацелася, каб хутчэй прыйшоў Лаўрэн і расказаў, як гэта ўсё робіцца.

— Дзе яны ўзялі дзеўку, што так горка галосіць? — дапытвалася шыракатварая маладзіца.

— Можа спадніцу напялі на салдата, ён і верашчыць бабскім голасам.

— А косы адкуль?



— Косы, косы! З конскага хваста,— тлумачыў зарослы рудою шчэццю мужчына.

Я прыслухоўваўся да кожнага слова і думаў, як мы самі будзем паказваць «ціятры» ў ксяндзовым доме.

Непадалёк стаяў Гога са сваімі хлопцамі і часам злосна зіркаў на нас.

Так мы ўпершыню ўбачылі тэатр. І не толькі мы — усе, хто быў на плошчы, дзівіліся таму, што паказвалі чырвонаармейцы. Калі ўсё скончылася, доўга яшчэ людзі не разыходзіліся. Некаторыя крычалі: «Пакажыце яшчэ!» Нехта запляскаў у далоні. Рассунулася заслона. Артысты, ужо без вусоў і пагонаў, кланяліся гаманліваму натоўпу. Наперад выйшаў ваенны камісар Павел Зубарэвіч, падняў руку, каб сціхлі, і зычна загаварыў на ўсю плошчу. Ён дзякаваў чырвонаармейцам, што прыйшлі абараняць нашу воласць і што прынеслі культуру ў наша палескае мястэчка.

З гэтага дня мы ўсе захапіліся тэатрам. Лаўрэн прынёс вусы з чорнай авечай воўны, густа намазаныя засохлым гуміарабікам, выразаныя з кардону і размаляваныя крыжы і медалі, хваліўся, што бачыў, як артысты размалёўваюць твары.

— Чым размалёўваюць? — дапытваўся я.

— Фарба такая тлустая ёсць, грым завецца. Чорнаю бровы наводзяць, чырвонаю — шчокі, а белаю нос мажуць. Размалююцца, што адзін аднаго не пазнаюць,— расказваў Лаўрэн і аж захліпаўся ад радасці, што сам бачыў, як усё робіцца, і задаваўся, што ўсё ведае.

З базару мы пабеглі ў ксяндзоў дом, каб памеркаваць, як лепей зрабіць сцэну, куды прыбіць дрот для заслоны.

— А дзе посцілак возьмем? — запытаў Андрэй.

— Кожны з дому прынясе, а пасля назад забярэ.Назбіраем парцяной фарбы, намяшаем з лоем, гуміарабіку вусы клеіць я ў воласці папрашу, воўны і кудзелі дастанем,— разважыў Лаўрэн.

— Што ж мы «прастаўляць» будзем? — пацікавіўся я.

— Яны з сшытка падказваюць, што каму гаварыць, калі страляць, а калі плакаць. А не знойдзем, самі прыдумаем,— спакойна гаварыў Лаўрэн, нібыта ўсё ведаў у тэатральнай справе і толькі гэтым і займаўся.

Каля касцельнай сажалкі хадзіла прыпнутая на доўгую вяроўку адзіная ў мястэчку каза. Яе трымала старэнькая векавуха панна Ядвіська, нейкая далёкая родзічка Лабацэвічыхі. Яны ніколі не хадзілі адна да аднае, пасварыўшыся яшчэ ззамаладу.

Раптам Андрэй як закрычыць:

— Хлопцы, барада!

— Дзе тая барада? — спакойна запытаў Васіль.

— У казы.

— Ну і што? — здзівіўся Лаўрэн.

— Дзе ж ты такую яшчэ знойдзеш? Давай ножык. Патрымайце, а я абстрыгу,— і Андрэй пабег да казы. Мы сталі ў нерашучасці. Ён хацеў ухапіць за рогі, каза адскочыла ўбок, замэкала, натапырылася і не падпускала да сябе. Андрэй працягнуў руку і пачаў паціху падкрадацца.

— Ну, патрымайце! — крыкнуў нам.

— От на цябе і начэпім казліную бараду,— засмяяўся Лаўрэн.

Толькі Андрэй памкнуўся ўхапіць за рогі, каза так матнулася, што з зямлі выскачыў калок і яна, як апантаная, кінулася бегчы, грузаючы ў парэпаным іле. Андрэй улёг за ёю следам, але ўскочыў у твань і ледзьве выцерабіўся з густога жужалю. Сінія картовыя штаны вышэй

кален былі ў рудой твані, ён яе аскрабаў аеравым вехцем, потым скінуў, пачаў запалосквацъ брудныя калошы і ўсё бурчаў на нас:

— Гультаі. Каб патрымалі, абстрыг бы яе, гадаўку.

А каза ўзбегла на вал, задрала галаву і дрыготка замэкала, нібы смеючыся з няўдалага цырульніка.

— Палянь, палянь, Лаўрэн,— азірнуўшыся, сказаў Іван.

Мы павярнуліся. З валу збягаў Гога. На ім была белая касаваротка з расшпіленым каўняром, новыя штаны і жоўтыя скураныя сандалі з узорамі на насках. Ён ішоў да нас — чым бліжэй, тым павальней. Некалькі разоў азіраўся: значыць, за валам прытаіліся яго хлопцы. Спыніўся за некалькі крокаў:

— Хадзі сюды, Лаўрэн.

— Калі табе трэба, сам хадзі.

Стаяць адзін насупраць аднаго, маўчаць.

— Ну, чаго табе? — пытаецца Лаўрэн.

— Чаго нам сварыцца і біцца, га? — крыва ўсміхаецца Гога. Яго ружовы твар і рукі густа ўсыпаны вяснушкамі.— Давайце мірыцца. Мы тут хочам ставіць спектаклі, а вы прыходзьце глядзець. У вайну болей не гуляем. Давай, га?

— От табе шпіктаклі! — Лаўрэн скруціў з аднае рукі дзве дулі і сунуў Гогу пад нос.— Мы і самі ў ціятры гуляцьмем не горай за вас і лупіць вас будзем,— злосна цвыркнуў праз зубы Лаўрэн.— Апсік адсюль, недарэзак.

Гога пагардліва засмяяўся:

— У «ціятры»!... Гаварыць па-людску навучыся, а тады гуляй.

Андрэй думаў, што будзе бойка, перакінуў цераз плячо мокрыя штаны і падбег да нас, трымаючы ў руцэ калок, на які была навязана Ядвісьчына каза. Убачыўшы напалову голага Андрэя, на вале галасна зарагатала Гогава ахова.

— Не чапай! — суняў бясштаннага ваяку Лаўрэн.— Бач ты яго, мірыцца прыйшоў!

— Праўда, хлопцы,— лагодна загаварыў Гога,— давайце, дзень — мы, дзень — вы. Разам сцэну зробім, дастанем грым. З намі Ліля і Маля гуляюць, будзе каму жанчын іграць...

— Не! — адрэзаў Лаўрэн.— Каціся, каб твайго смуроду тут не было.

Гога махнуў рукою, павярнуўся і павольна пайшоў. Адыходзячы, ён прыспешваў крок і нарэшце пабег, баючыся, каб наўздагон не папусцілі каменнем. А мы смяяліся, гледзячы яму ўслед. Так і не дагаварыліся з «буржуянятамі».

Ксяндзоўскі дом быў пусты і гулкі. Патрэсканае вуголле на абгарэлых сценах нагадвала чорныя шчарбатыя зубы, паміж маснічын прабілася цыбатая бледная траўка. Мы абышлі ўсе пакоі. Пры колішняй кухні была зашалявана кладоўка. Вырашылі паадрываць ад яе дошкі і зрабіць памост для сцэны.

— Давай злазім у склеп,— шапнуў я Лаўрэну,— можа ход знойдзем.

— У склеп можна,— буркнуў ён.— А пад касцёл — трэба пазвязваць доўгія вяроўкі, з ліхтаром лезці.

У сенцах знайшлі лаз пад дом. Доўга тузалі ржавы прабой, пакуль нарэшце не паднялі вечка. Склеп зеўраў чарнатою, дыхаў тхлінаю і вільгаццю. Ружаватая цвіль распаўзлася па драбінах і па дошках века.

— Ну лезь, калі так карціць,— падштурхнуў мяне Лаўрэн.— Золата награбеш.



Мне не хацелася лезці ў гэтую чорную прорву скляпення. Я адскочыў назад і стаў у нерашучасці.

— Лезь, лезь! — настойваў Лаўрэн.

— Лезьма разам, Васіль, га?.. Адзін будзе свяціць, а другі няхай шукае. Адсюль жа павінен быць ход пад вал, да тых куфраў, дзе грукаюць і плачуць.

— Ну, знойдзеш ход, а цябе, як таго цюцьку, хоп — на ланцуг. Гаўкай ці вый — ніхто не пачуе,— нібыта жартам сказаў Васіль і адышоўся ад склепа.

Мы пазіралі ў чарнату даўгаватага лаза.

— Ну, давай,— прыкрыкнуў на мяне Лаўрэн. Я патупаў і спыніўся каля самай дзіркі.

— Смаркачы! — цыркнуў ён праз рэдкія зубы і па заплеснелых прыступках знік у склепе. Там раптам пасвятлела. Лаўрэн адаткнуў душнікі, праз іх уварвалася зеленаватае ад пранізанай сонцам травы святло. Я нагнуўся і ў паўзмроку разгледзеў кучу нейкай старызны, пазеленелы зламаны падсвечнік, бязногае крэсла і гліняныя чарапкі.

— Чаго вытыркнуўся? Вазьмі ў Васіля запалкі і лезь сюды.

Я паслухаўся і скочыў у склеп. Маснічыны і бэлькі, густа затканыя павуціннем, месцамі пабілі лішаіны мокрай плесні. Пахла вільготнаю тхлінай, адсырэлай зямлёй і жоўтаю перасохлаю парахнёю. Я схапіў пазелянелы, у барадаўках даўнейшага воску падсвечнік і ўзрадаваўся.

— Для ціятраў спатрэбіцца,— падаў я яго Васілю.

Потым, крэкчучы і сапучы, падцягнуў да драбін цяжкае крэсла з бардоваю аксамітнаю спінкаю і з павытырканымі спружынамі на сядзенні. Таксама будзе не лішняе. Лаўрэн палачкаю корпаўся ў зямлі, стукаў па каменнях падмурку. Пэўна, шукаў ход пад касцёл. Ён разгарнуў сапрэлае рыззё і пацягнуў за ражок старую цырату.

— Чаго стаіш? Памажы,— кіўнуў мне. Я ўхапіўся за ражок, але цырата не паддавалася. Мы напіналіся з усяе сілы, але дарэмна. Адцягнулі рыззё, я чыркнуў запалку. Пад старызнаю была свежа копаная зямля. Мы ўзяліся разграбаць яе рукамі. Гукнулі Васілю, і ён укінуў доўгую дошчачку. Мы ёю, як рыдлёўкаю, узяліся разграбаць зямлю. Цырата ледзьве падалася. У ёй было нешта цяжкое і доўгае. Дошчачка ўпіналася і стукала па нейкім жалеззі. Лаўрэн укленчыў і асцярожна разгроб пясок.

— Тут, браце, не падсвечнікі,— сказаў ён, абмацваючы скрутак. Мы паднялі яго, разгарнулі цырату. У радне выразна былі відаць абрысы ложы і ствалоў, вытыркаўся круглячок затвора. Мы разгарнулі анучы, пад імі была тоўстая папера, густа нашмараваная лоем. Разгарнулі і ўбачылі два новенькія карабіны і цэлую кучу абоймаў з патронамі. Ствалы адлівалі сіняватым бляскам, ложы былі цёмна-вішнёвага колеру, патроны аж пазліпаліся ад тлушчу.

— Ну, чаго вы там сціхлі? Можа ўжо золата дзеліце? — звісла Васілёва галава. Лаўрэн хуценька накінуў на карабіны анучу.

— Не сунь носа ў чужое проса,— агрызнуўся на брата.— Ідзі лепш зірні, ці не падглядаюць гэтыя смятаннікі.

Васілёва галава знікла. Лаўрэн сунуў у кішэні некалькі абоймаў патронаў. Астатняе загарнулі, як і было, прысыпалі пяском і закідалі зверху прэлым рыззём.

— Відаць, схавалі пасля пажару,— прашаптаў Лаўрэн.— Нехта, мабыць, прыйдзе па карабіны. От каб падцікаваць, га?

Мы яшчэ трохі папоўзалі, пастукалі ў падмурак, падлубаліся ў пяску, але больш нічога не знайшлі. Каб не так растапырваліся кішэні,

Лаўрэн даў мне схаваць некалькі абоймаў, і мы вылезлі з сутарэння. Штаны і кашулі былі ў пяску і ў павуцінні.

Хацелася есці. Смактала пад лыжачкаю і перасохла ў роце. Я падняў некалькі чарвівых, прыпечаных на сонцы паданак, абцёр аб штаны, адкусіў. Аскома звяла сківіцы і язык, аж заплюшчыліся вочы, і я шпурнуў яблыкі ў забуялую лебяду.

З валу было відно, як на дальняй дарозе ў хмары пылу рыссю імчаліся коннікі. Некуды спяшаўся ўвесь атрад. Пад капытамі прагрукатаў доўгі мост, і чырвонаармейцы зніклі за пясчаным узгоркам.

У мястэчку толькі і гаварылі пра налёт банды Падаляка на Казловічы. Казалі, што бандыты прыскочылі на світанні, уламаліся ў хату старшыні сельсавета, на яго вачах зарэзалі трое дзяцей. Як толькі маглі, здзекаваліся з жонкі, а потым і яе разам з гаспадаром павесілі на бэльцы сярод хаты. Выразалі яшчэ тры сям'і, выграблі ўсё да шэлега, склалі на вазы і зніклі ў лесе. Усе бандыты былі ў масках, толькі сам Падаляк нікога не баяўся, хадзіў, не хаваючыся, камандаваў і страшыў, каб ніхто не памагаў Саветам.

У яго бандзе былі шляхцюкі з недалёкіх засценкаў. Таму і хаваліся, каб ніхто не пазнаў. Але хіба схаваешся, калі ў суседніх сёлах ведалі кожнага засцянкоўца змалку. Морду схавае, па адтапыраных вушах, па крывых нагах ці прыкметнай бравэрцы пазнаюць. Але маўчаць: баяцца, каб не парашылі, як старшынёву сям'ю, і селішча дымам не пусцілі.

Банда Падаляка з'яўлялася там, дзе яе не чакалі. Наляціць, выража дзве-тры сям'і актывістаў, падмяце ўсё чыста, нагоніць страху на ўсё наваколле і знікне ў лесе. А лясам тым — ні канца, ні краю. Сярод дрыгвы на невялікіх выспах — хутары і засценкі дзічэюць спрадвеку. Рассыплюцца бандзюкі куды каторы: малоцяць сабе, скародзяць, носяць каровам паранку, перавязваюць хамуты. Здаецца, людзі, як людзі, а прыглядзішся — зеўраюць халодным бляскам ваўчыных вачэй, як тыя пераверці.

Сам Падаляк, казалі, на пярынах спіць у лясных сховах то ў адным, то ў другім месцы. І ніяк яго не дастанеш. Удзень і ўночы верныя прыхваснi сочаць за кожнай дарогай: як толькі што якое прыкмецяць, даюць знаць — атамана і след прастыў. Сёння ён у адным лесе, назаўтра, як той воўк, вёрст за трыццаць ужо нарабіў бяды.

Так і трымаў усіх у страху. Казалі — зірне на катарага, а ў таго нос даўгаваты. Ухопіць таўшчэннымі пальцамі, як абцугамі, крутане, што аж іскры з вачэй, кроў па барадзе цурком свішча. А сам рагоча: «З такім, кажа, носам цябе ў раі чакаюць. Богу спатрэбіўся» і кліча свайго ката Фільку. А той ведае, што трэба, і нясе захліснутую пятлёю намыленую вераўчыну. І гэтак лісліва кажа: «Выбірай, браце, сам: ці мы табе зорачкі на спінцы ды на грудках ножычкам начыркаем, язычок падкароцім, каб анёлаў за Саветы не агіціраваў, ці сам ускінеш гэты пяньковы каўнерык і... праменька к богу ў рай сваім ходам».

Калоціцца чалавек, але спадзяецца: пажартуюць і пусцяць. Рагочуць бандзюгі, Падаляк за бакі хапаецца, выскаляе доўгія зубы. І ахвяра па-дурному пачынае ўсміхацца. А Філька яго штыком пад зад — да перакладзіны на варотах гоніць: «Пасмяяліся і хопіць. Зачакаліся цябе на небе» і чапляе пятлю на вароты. Яна вужакаю гойдаецца над галавою. Няшчасны падае на калені, лементуе: «Браточкі, за што? Не сіраціце дзетак!», хапае зямлю, ловіць боты бандытаў. «Памажыце чалавеку»,— загадвае атаман. І двое дужых дзецюкоў паднімаюць знясіленае цела да пятлі і лагодна кажуць: «Ну, сам, сам адзявай каўне-





рык. А не — зорачкі пісаць пачнем». Той хапаецца за вяроўку, каб адштурхнуць, а каты спрытна ўсоўваюць галаву ў пятлю, тузаюць за ногі і адскакваюць убок. Падаляк цмокае і нібыта бядуе: «От дурань дык дурань: служыць Саветам абрыдла — сам пятлю на шыю ўскінуў».

Калі ён быў «добры», загадваў ахвяры збегаць да студні і прынесці вады, а сам ззаду страляў з нагана, як па зайцу. І таксама «абураўся»: «Бачылі такога дзівака. Хацеў папалохаць, а ён сам на кулю наскочыў».

Можа праўду казалі, а можа трохі і брахалі пра Падалякаву банду, але баяліся яе скрозь і заўсёды. Жанкі ў ягады хадзілі толькі па хмызняках каля самага мястэчка, з сяла ў сяло ездзілі толькі ўдзень, упаўнаважаныя заўсёды ў дарогу бралі карабін або наган і ніколі не ездзілі па адным.

Калі ў мястэчку стаў атрад, бандыты трохі прыціхлі. Некаторыя суцяшалі сябе, што банда спалохалася, разбрылася, а Падаляк падаўся за мяжу. Тыдні два маўчалі, і вось на табе — азваліся.

— Цяпер нідзе не дзенуцца — усіх пераловяць,— гаварыў Лаўрэн.— І Падаляка прывалакуць.

— Хоць бы паглядзець, што за ён. Мабыць, страшы-ыдла, страшыдла! — казаў Васіль.

— Думаеш, з рагамі? Каб убачыў на рынку ці ў краме, і не падумаў бы, што атаман,— разважліва запярэчыў Лаўрэн.

На валасным двары ляжалі кучкі збузаванай коньмі травы, тамсям парассыпаны авёс, валяліся сухія галовы і рудая луска ад тараноў. Відаць, салдаты і паабедаць як мае быць не паспелі. Пад павеццю дымілася паходная кухня. Лаўрэн падняў вечка. На дне загусцелі недаедкі панцаковага крупніку.

— Нясі кацялок і лыжку,— загадаў Лаўрэн брату.

Пакуль мы тупалі каля кухні, Іван прыбег з памятым закураным кацялком і драўляным апалонікам. Лаўрэн стараўся аскрабаць дно і бакі, скідаў гушчу і прыгаркі ў кацялок.

Мы паселі на дышаль ад кухні, па чарзе чэрпалі і са смакам даядалі рэшткі салдацкага варыва.

— Алё-ёш-ка-а! — пачулася з нашага двара.

Я пазнаў матчын голас, абцёр рукавом губы і палез праз дзірку ў наш гарод. Мама ўжо не сварылася, а неяк безнадзейна дакарала, што чорт мяне носіць па чужых дварах, што Дуніны куры зноў златашылі грады, абзывала валацугам і пустадомкам. Я маўчаў, вінавата шморгаў носам, чыркаў босаю нагою па пяску і не ведаў, як апраўдацца.

Увесь вечар мама была сцішана-трывожная. Прыслухоўвалася, часам паглядала ў акно на пустую зацьмелую вуліцу.

— Каб чаго добрага, барані божа, не пабілі нашых пастаяльцаў,— уздыхала яна.

— У іх жа стрэльбы, гранаты і коні добрыя,— суцяшаў я.

— А тыя галаварэзы хіба каламі адбіваюцца? — уздыхала маці.— І чаго толькі трэба? Жылі б сабе па-людску. Дык не, усё нечага мала, усё не хапае. Бога выракліся, не баяцца ні страшнага суду, ні пекла. От і таўкуцца. Брат брата гатовы зарэзаць.

Маці пазашчапляла вокны, качалкаю заваліла дзверы і лягла. Яна доўга варочалася, уздыхала і вохкала. Шашаль недзе тачыў бервяно, за печчу свірышчэў цвыркун. Было вусцішна і трывожна. Думалася, што недзе ў Казловіцкіх лясах нашы б'юцца з бандытамі, успаміналася прадстаўленне на людным базары і карабіны пад ксяндзовым домам, кіслыя завялыя падалкі, убачанае праз каляровыя шкельцы наваколле: то чырвонае, то зялёнае. Потым усё змяшалася, закруцілася і разам са мною паплыло ў цёмную прорву.

Далёка за поўнач у глыбокі сон уварваўся трывожны звон: «Блямблям-бом. Бом-бом-бом!» Здалося, ідзе ў царкве набажэнства, палаюць тоўстыя свечкі, паблісківаюць рызы на папах і на абразах.

Але звон будзіў, нарастаў, мацнеў, гуў, некуды падганяў, аж затрымцела незакітаваная шыбіна. Затупалі босыя ногі па хаце.

Я расплюшчыў вочы і падняў галаву. Каля залітага трапяткім чырвоным бляскам акна ў доўгай кашулі стаяла мама.

— Не бойся, сыночак. Гарыць нешта далёка. Дасць бог, да нас не дойдзе.

Яна калацілася, як ад сцюжы, хрысцілася і хрысціла мяне. Таропка пачала апранацца.

— Выскачу гляну, а ты накрывайся з галавою і спі.

— Мама, і я пагляджу.

— Спі, спі! Куды табе, на ноч гледзячы?

І выбегла за дзверы.

Хату заліло хісткае барвовае зарыва. Печ і столь зрабіліся чырвоныя, ад бэлек падалі чорныя цені. На вуліцы ўжо тупалі і гаманілі, беглі з крыкам: «Па-жа-ар! Па-жа-а-ар!», бразгалі вёдры. Прагрукаталі капыты, за акном прамчаўся чырвоны коннік на чырвоным кані. Неба здавалася раз'ятраным скляпеннем вялізнай печы. У хмарах барвовага дыму кружыліся, узляталі да самых зорак і гаслі іскры.

— Дзе гарыць?

— Хто гарыць?

— Кажуць, Браўсы́ заняліся.

— Ну, там выкацiць. Хаты збітыя, як авечкі ў катусе,— гаманілі суседзі. Беглі мужчыны і кабеты, хто з вядром, хто з бусаком, хто з сякераю.

У такім мястэчку, як наша, людзі ведаюць адзін аднаго змалку, ведаюць, хто як жыве, у каго радасць, а ў каго гора. І самі ідуць, калі трэба памагчы, калі трэба выручыць з бяды, а то і проста паспачуваць. На пажар збягаецца ледзь не ўсё мястэчка: калі ўжо нельга патушыць, бароняць суседзяў, ратуюць скарб, стараюцца вынесці ўсё да апошняга зэдліка, залiваюць сцены, каб хоць падваліны ацалелі.

І мяне праціналі дрыжыкі, ніяк не мог уцэліць у калашыну зрэбных штонікаў. Усё ж сяк-так апрануўся і выбег у двор. Было відно, нібы гарачым надвячоркам, калі сонца заходзіць за лес і залівае чырванню зіхоткія шыбы, вяршаліны дрэў, страхі і слупы. І твары людзей здаюцца барвовымі.

Усё яшчэ беглі туды, дзе гуло зыркае полымя, адкуль даляталі прыглушаныя крыкі і гамана, дзе рыпелі жураўлі студняў, дзе бушаваў і разгараўся пажар.

Я ўзлез на плот: выразней былі відны языкі агню, клубы цёмнага дыму, прашытага імклівымі іскрамі, даляталі асобныя словы і крыкі.

— А гэты губашлёп Алёшка, мабыць, усё яшчэ спіць,— пачуў я з валаснога двара Лаўрэнаў голас. Адразу скокнуў у мяккі, перагрэблены курамі пыл і быў ужо каля Лукер'іных хлопцаў.

Мы беглі па пясчаных вуліцах. Усё ярчэй асвятляліся дамы, дрэвы і нашы твары. Было нейкае ўрачыста-трывожнае адчуванне незвычайнасці і вялікай бяды для тых, хто так нечакана і адразу застаўся без селішча, хто бачыць, як дагарае яго скарб, што спрадвеку нажываўся крывавым потам бацькоў і яго ўласным мазалём.

— Чаго загарэлася? — пыталіся местачкоўцы.

— Мабыць, нехта падпаліў.

— Хто ж бы гэта мог? І за што?

— З Юстынавага гумна занялося. Ведама, усё, як порах. Яно і шуганула.

Калі мы прыбеглі, палалі хаты трох братоў. Здавалася, бярвенні прасвечваюцца навылёт. Платы павалены, у разорах хлюпае вада, паабгарэла вецце, паскручвалася лісце на яблынях. Тушыць ужо не было чаго. Людзі ратавалі суседнія хаты: лілі на сцены ваду. Яна адразу з шыпеннем высыхала і знікала пакручастымі змейкамі пары. На дахах мужчыны мачалі мётлы ў вёдры з вадою і збівалі раі іскраў. У клубах дыму лcraталі цэлыя галавешкі. Людзі іх называлі вогненнымі галубамі. Казалі, што яны залятаюць далёка ад пажару, садзяцца на стрэхі і ўжо няма ад іх ніякага ратунку.

На гародзе стаялі драўляныя ложкі, куфэркі, валяліся рэшаты і начоўкі, перавернутыя зэдлікі і сталы. Пад яблыняю цьмяна паблісквалі абразы. На адным я ўбачыў Хрыста з паднятаю для бласлаўлення рукою. Няўжо ён бласлаўляе гэтае вогненнае пекла, гэтае няшчасце, гэтае вялікае злачынства? А каб не вынеслі? Пагарэлі б усе святыя? І не было б ніякага цуда. Падумаў так, і апанаваў страх, што саграшыў перад богам.

Прыпёршыся да абгарэлага шула, стаяў увесь у сажы, распатланы, у расхлістанай кашулі Юстын. Па зрэзаным доўгімі маршчынамі твары цяклі слёзы. Ён нешта мармытаў, як непрытомны. На здратаванай градзе, ніцма лежачы, лементавала жанчына. Заходзіліся плачом дзеці. Атрахім, як апантаны, кідаўся ў полымя сваёй хаты. Яго стрымлівалі за рукі, а ён рваўся і валіўся на калені.

Усё здавалася то мядзяна-чырвоным, то вугальна-чорным і несапраўдным. Дагаралі селішчы трох братоў, сумленных, працавітых і дружных. Датлеюць галавешкі, ачахне прысак, вецер развее попел, і на месцы хат будуць тырчаць толькі закураныя печы.

А дзе ж людзям жыць? Куды дзецям прыхінуць галовы? Мабыць, тое ж самае думалі панурыя местачкоўцы, пазіраючы на людское гора, і патаемна суцяшалі сябе, што няшчасце абмінула іх.

Нікому не давала збыту думка: «Хто падпаліў?», «За што?», «Чаму падпаліў самых сумленных, далікатных і працавітых людзей?»

Перабіралі ў памяці кожнага, хто калі лішку выпіў, хто з кім пасварыўся, хто каму грэзіўся. Ніхто не прыпамінаў, каб у Браўсоў былі ворагі. Але ж і само не загарэлася. Першым занялося гумно ад саду, нават пляшку ад газы знайшлі непадалёк, а ў плоце на адным цвіку целяпаўся кол. Каб адразу — і сляды б знайшліся, але набеглі людзі, ператалачылі, перамясілі ўсё чыста, усю націну ў грады ўпляскалі.

— Дзе ты цяпер знойдзеш таго падпальшчыка?

— Можа хіба адкуль наваloкся? Нашы местачковыя на такі грэх не адважацца.

— А што ты думаеш! Мо і праўда з тае Падаляковай шайкі каторы заскочыў.

— Пачакай, пачакай! — ляпнуў сябе па лбе невялічкі рухавы шавец Грыша Сюська.— Заходзіў да мяне мёдухаўскі шляхцюк. Чобаты аж па самыя «годзе» заказваў. Казаў — на дзікоў па балоце хадзіць. І газу ў аплеценай бутлі насіў. Глядзі, ці не ён смаляну́ў.

Колькі ні гаварылі, колькі ні гадалі, ніхто ні да чога пэўнага не мог дадумацца. Людзі стаялі воддаль пад прысадамі з паскручваным ад гарачыні лісцем, на зваленых платах і пазіралі, як датляваюць тры селішчы. Сцішыліся і няшчасныя браты, змоўклі знясіленыя ад гора і галашэння кабеты.



На месцы дамоў і свірнаў датлявалі галавешкі і груды вугалля, пасярод вогнішча аж свіціўся малінавым бляскам плуг.

Нехта мяне тузануў за каўнер:

— Марш дадому, неслух. Каму казала «не хадзі»? Не-е-е, палямцеў! — і, відаць, шкадуючы, маці торкнула кухталя ў спіну, ухапіла за рукаў і пацягнула дадому.

Здалося, мы ідзём нейкімі незнаёмымі, залітымі хісткаю чырванню вуліцамі. Ад прысадаў і дамоў пацягнуліся доўгія цені. Зарыва навылёт прасвечвала вокны, і яны здаваліся жывымі і відушчымі. З гэтай ночы мястэчка жыло ў трывозе і страху: кожную ноч блямкалі званы на пажар. Полымя шугала то ў адным канцы, то ў другім. Загараліся хлеўчукі, свірны, ёўні і поўныя толькі што звезенага збожжа гумны. Дым патыхаў перасмажаным хлебам, як напаленыя драціны, над полымем раілася салома.

З вечара да раніцы па ўсіх вуліцах грымела трашчоткамі і калатушкамі варта. Спынялі кожнага сустрэчнага, цікавалі з-за платоў і прыгуменняў — нідзе нікога не было, і раптам у самым нечаканым месцы ўспыхваў пажар, успыхваў адразу, зырка і горача.

Усе разумелі, што нехта падпальвае. Не таму, каб адплаціць за вялікую крыўду. Падпальвае, каб толькі падпаліць, каб трымаць у страху ўсё мястэчка. Ніхто не ведаў, ці дастоіць да раніцы яго хата. Можа апоўначы ледзьве паспее выскачыць з полымя. У кожнай хаце нанач звязвалі ў вялікія клункі адзежу, трубкі палатна, падушкі і коўдры, а людзі кладіся нераспранутыя на голыя сеннікі. Мястэчка гарэла кожную ноч. Варта грукала ўсцяж вуліц, па чарзе не спалі пяць ці шэсць міліцыянераў, што былі ў мястэчку. Калі нам прыпадала чарга, вартаваць разам з большымі хлопцамі хадзіў і я.

Было трывожна і таямніча. Мы хадзілі па трох, па чатырох. Большыя курылі з рукавоў самасад, у чужых садах латашылі дулі, падглядалі праз шчыліны ў аканіцах у чужыя хаты. Бывала, што ўпоцемках варта цікавала за вартаю, падкрадаліся вось-вось злавіць «падпальшчыка», аж і ў яго была калатушка ці пажарны кій з чырвоным кутасікам. Пачалі нават думаць: можа падпальшчык вартуе-вартуе разам з усімі, адскочыў на якую хвіліну, сунуў запалку пад саламяную страху — і зашугала. Адбегся на другую вуліцу, пакуль добра ўгарыцца, і першы лементуе: «Па-жа-а-ар!», ляціць у царкоўную старожку будзіць глухога Цімоха. Пакуль той збярэцца, дашкрэбае на званіцу, раскалыша звон, пакуль збягуцца людзі, пажар угарыцца і ўжо шугае пад самае неба.

Была ў нас пажарная дружына. Камандаваў ёю стары, падобны на Саваофа, фельчар Нохім. Ён звычайна хадзіў у доўгім сурдуце і ў круглым чорным капелюшы. Усяго два капелюшы было на ўсё мястэчка — адзін у папа, другі — у Нохіма. А на пажарніцкія парады ён выходзіў у блішчастай касцы, у ботах, у мундзіры з зіхоткімі гузікамі, з кіркаю пры боку. Белую бараду раздзімаў вецер, золатам паблісквалі акуляры. Услед за Нохімам крываროты шкляр Мейська насіў сцяг дружыны. На ім было вышыта жоўтымі ніткамі: «Сьмерць крассному петуху». Я доўга не разумеў пажарніцкага дэвізу — думаў, сапраўды пажарныя напярэдадні кожнага шабасу рэжуць кашэрных пеўнікаў для набожных местачкоўцаў. Але навошта пра гэта пісаць на сцягу?

Услед за барадатым Нохімам маршыравалі стальмахі, краўцы, кавалі, мяснікі ў брызентавых куртках, з кіркамі, з бусакамі і лесвіцамі на плячах, а за імі барабанілі запрэжаныя балагольскімі коньмі дзве помпы і чатыры рассохлыя бочкі.

На пажар дружыннікі прыскаквалі апошнімі, з крыкам, з вэрхалам, з мацюкамі. Як сонца, блішчала Нохімава каска, а ён камандаваў:

— Шолам, не трымайся за кішку, як за клісцірную трубку, хапай за наканечнік і дуй, пакуль не зальеш.

Мужчыны пампавалі па чарзе. Але то ў бочках не хапала вады, то рукаў забіваўся жабурыннем і глеем, і помпа пачынала храпсці і захлынацца, як запалены конь.

Пажар разгараўся, а добраахвотныя пажарнікі крычалі, мітусіліся і лаяліся ўсё галасней.

Чаго толькі ні гаварылі ў адчаі, на каго ні грашылі, а падпальшчыка так і не маглі знайсці.

## 5

Раніцою Захарка ў вялікім белым збане нёс з ракі ваду. Спрадвеку местачкоўцы грэлі чай толькі з рачное вады. Як бы далёка ад ракі ні жылі, у мяцеліцу ці ў асеннюю слату, па ваду на чай хадзілі толькі на рэчку. Гнутка гойдалася на плячах каромысла, а каб не расплёсквалася вада, у вёдры клалі тонкія дошчачкі, а летам сцяблінкі аеру.

Захарка ж наношваў вады збанком. Бегаў туды-сюды разоў па пяць запар. Толькі абдрыпаныя штонікі матляліся на тонкіх, як у бацяна, нагах.

На выгане пахла дымам ад начнога пажару, а з ракі цягнула туманком і роснаю вільгаццю. Я бег з невялічкаю лясёнкаю па аер на подсціл і на сцежачцы нос у нос стыкнуўся з Захаркам. Ад мяне ён адскокваў убок, як ад іншых хлопцаў. Мы спыніліся. Ні з таго ні з сяго я спытаў:

— Вартуеш, Захарка?

— Вартаваў, а цяпер не. Фацэрант не пускае. Кажа, «сам буду». А я люблю ноччу пахадзіць па вуліцы. Дык не, гоніць спаць. А сам сядзе ў альтанцы і курыць-курыць. Пасвішча, пасвішча і зноў курыць. Што з такое варты? Надоечы чуў, як нехта прыходзіў да яго ў альтанку. І жонка яго часта начамі плача. Толькі ціха-ціха ўсхліпвае. А я ўсё чую з-за сцяны. Пані не спіць: стогне ды кашляе да раніцы. То вады ёй падай, то мікстуры накапай у лыжачку. Дык і я не сплю. Які там сон, калі кожную ноч гарыць, варта грукае да раніцы. А змеркне — дрыжыш, каб цябе не падпалілі. Хадароўскі кажа: «Не бойся. Нас не падпаляць». А сам толькі свішча, няйначай, чарцей збірае. Можа і праўда яны ноччу па садзе шастаюць і шэпчуцца, шэпчуцца ўсё. Часам валасы варушацца ад страху,— Захарка азірнуўся і зашаптаў, горача і таропка: — Ты толькі нікому-ні-к-ко-му, Алёшка! Добра? Не скажаш? — і ён трывожна азіраецца.

— Што ты, Захарка. Каму мне гаварыць? — супакойваю я. А самому карціць хутчэй пачуць яшчэ нешта цікавае і таемнае. Сядзіба пані Лабацэвічыхі і так была загадкавым і недасяжным куткам. А тут яшчэ кватарант начамі з нячысцікамі шэпчацца.

— Пабажыся, што нікому,— гаворыць Захарка.

— Ей-жа-ж богу,— б'ю сябе ў грудзі.

Захарка яшчэ трохі павагаўся. Відаць, таямнічая навіна аж распірала яго і боязна было адкрыць яе.

— А ён зусім не бязрукі,— зашаптаў Захарка.— Заснуў надоечы ў альтанцы, а вялікая зялёная муха пакруцілася і па-па-ўзла па ілбе. Аж бачу: тою самаю рукою з бранзалетам — плясь — пачухаў лоб і зноў заснуў. А так ніколі ёю не паварушыць. Ты ж глядзі, Алёшка, ні-і-і-кому-нікому. А то бяда будзе. І так ён на мяне д'яблам глядзіць і цыкае ўсё. Яго родная жонка баіцца. А яна добрая-добрая. То цукерку, то пернік падкіне, каб ён толькі не бачыў, то проста паспагадае. І мне яе вельмі шкода. Ну, пабягу, каб не сварыліся... Глядзі ж, нік-к-ому!

Захарка перахапіў у другую руку збанок і, хістаючыся, як хлудзіна, хуценька пабег па роснай сцежцы. Яго худыя ўчэпістыя ступакі, падобныя на птушыныя лапы, запаміналіся выразней, як твар і голас. У Захаркавай кашчавай постаці было нешта птушынае, цярплівае, лагоднае і пудкае. Лапаткі пад кашуляю вытыркаліся, нібыта маленькія крылцы ў подлетка.

Слова я, канешне, не стрымаў. Прыемна ведаць нейкую тайну, але хаваць яе ой як цяжка. Яна расце, распірае з сярэдзіны, не дае спакою, муляе і трывожыць, круціцца на языку, пакуль не раскажаш па сакрэту.

І я расказаў Лаўрэну. Ён слухаў моўчкі, толькі цыркаў слінаю праз зубы.

— Калі яшчэ хоць каму пікнеш, утаплю, як сляпога шчанюка. Чуеш?!

Я лыпаў вачыма: за што ён гневаецца і грозіцца? Думаў, узрадуецца, што расказаў, падзякуе, а ён кулаком перад носам круціць. Лаўрэн хадзіў па абгарэлых маснічынах ксяндзовай стадолы і нешта бурчаў. Нас ужо не хвалявалі бойкі з «буржуянятамі», і да «ціятраў» мы пачалі астываць. Не гульня, а сапраўдныя бойкі з бандытамі трывожылі і хвалявалі нас.

А пажары! Мы бачылі. як корпаліся на папялішчах зарослыя мурзатыя пагарэльцы, як галасілі жанкі, прыпадаючы да закуранага каменя, што яшчэ ўчора ляжаў каля парогу. На месцы хаты толькі курыліся галавешкі ды зеўрала пустымі чалешнікамі счарнелая печ з чыгунком на прыпечку.

На пагарэлішчах мы кіёчкамі разграбалі пульхны прысак, знаходзілі засмаленыя чарапкі, скручаныя цвікі і дрот, пасінелыя ад полымя бляшанкі. Яшчэ дыміліся і тлелі штандары і падваліны, усё прапахла дымам і адсырэлымі галавешкамі.

Начныя пажары трывожылі ўсіх. Было не да гульняў. Начамі цягаліся за вартай, слухалі непрыстойныя жарцікі, нават спрабавалі курыць. Днём трэба было пільнаваць хату і грады, а Лаўрэну яшчэ — бегаць з пакетамі то ў міліцыю, то на пошту, то ў народны суд.

Толькі на пяты дзень атрад вярнуўся з Казловіч. Паперадзе ехаў запылены, змардаваны камандзір. Чырвоныя галіфэ зрабіліся рудымі, скуранка — у белых пісягах, бізун вісеў на перавязанай бруднай насоўкаю левай руцэ. Пасярэдзіне вуліцы вялі чалавек шэсць злоўленых бандытаў. З усіх бакоў іх акружалі коннікі з выцягнутымі з ножнаў шаблямі. За конскімі капытамі відны былі толькі боты, скураныя маршчакі, а нехта з бандытаў барабаніў па дарозе басанож. Мабыць, уцякаючы, сасмыкнуў чобаты, але нідзе не дзеўся — так і гналі разутага. Ззаду ехала некалькі фурманак з параненымі. На вазах ляжалі і сядзелі паперавязваныя змарнелыя чырвонаармейцы. Следам маркотна тупалі прывязаныя да драбінак асядланыя коні.

Местачкоўцы выбеглі сустракаць сваіх пастаяльцаў і абаронцаў. Кожны шукаў свайго і радаваўся, калі той сядзеў на кані.

Стоячы каля кузні на плоцэ, я ўзіраўся ў счарнелыя, змізарнелыя абліччы, шукаў пшанічны чуб Кудрашова і ціхага Князева. Нарэшце пазнаў: замест аўсянага чуба з-пад шапкі вытыркаўся краёчак бінта,

а левая рука, закручаная, як лялька, вісела на бруднай абмотцы, завязанай на шыі. Вочы ўваліліся, пабялелі, сціснутыя губы, шчокі здаваліся шэрымі. Заўсёды вясёлы, заліхвацкі Кудрашоў час ад часу крывіўся, відаць, ад болю. Я саскочыў з плоту, падбег да яго і, задраўшы галаву, пайшоў побач.

Кудрашоў падміргнуў неяк вінавата. Пааблузваныя, запыленыя боты вытыркаліся са стрэмя, на халяве запякліся кроплі крыві. Мне зрабілася страшна і вельмі шкода заўсёды вясёлага Кудрашова. Можа таму, што нечакана патухла яго весялосць, і ўсміхаўся ён неяк цераз сілу. Ад распараных коней патыхала едкім потам, пылам і падапрэлаю скураю сёдлаў. Амаль з кожным атраднікам побач ішоў то такі хлапчук, як я, то маладая дзяўчына, то спрацаваная і не вельмі спрытная ў хадзе гаспадыня. Я зіркаў вачыма па ўсім страі, але Князева не знаходзіў. Рабілася трывожна, сэрца пачынала тахкаць часцей і часцей, перасыхалі вусны.

— А дзе ж Князеў? — не стрымаўся я.

Кудрашоў апусціў галаву, паглядзеў на мяне доўгім поглядам, кіўнуў назад:

— Там ён...— памаўчаў і ціха дадаў: — Ты толькі не вельмі. Няма, брат, нашага Князева,— рэзка плюнуў камяком перагарэлай сліны.— Эх, гады!

Мне заняло духі. Пачаў адставаць, спыніўся, пакуль не пад'ехаў абоз. За возам тупаў перапалы з пукатымі рэбрамі конь Князева. На возе ляжалі двое, накрытыя шынялём і прывялым аерам. Я адразу пазнаў руку з сінімі літарамі каля вялікага пальца. Пад словам «Надя» — маленькі чырвоны туз, наўскасяк праткнуты сіняю лучынкаю. Далонь здавалася адлітая з рудога воску. Зрабілася страшна, што гэта Князеў і не Князеў. Смерць адлучыла таго добрага, сарамяжага і чулага хлопца, ад нерухомага і чужога, што ляжаў, прыцярушаны аерам. Я ўпершыню бачыў нежывога блізкага чалавека, у вушах гучаў яго мяккі глухаваты голас: «Прывыкай, Алёшка, да салдацкае кашы. Ну, дзе твая вялікая лыжка?» А як мы касілі, як добра і спакойна было з ім у тую навальніцу. У нас пад лаваю стаяў яго маленькі куфэрачак, прапахлы махоркаю і таранамі. Усё прамільгнула ў галаве, і я захлынуўся слязьмі. Можа ад майго плачу конь матнуў галавою, натапырыў вушы і захроп.

Здагадаўшыся, што на апошнім возе забітыя чырвонаармейцы, сустрэчныя мужчыны скідалі шапкі, кабеты хрысціліся, ражочкамі хусцінак выціралі слёзы і ішлі за абозам. Да натоўпу прыставалі людзі, што павыходзілі з хат або некуды ішлі вуліцаю.

За мастком падковы зацокалі па бруку. Атрад ехаў па Кавалёўшчыне. У кузнях сціхалі лязгат і грукат малатоў. Замурзаныя кавалі ў скураных фартухах выходзілі з дзвярэй.

— Таварыш начальнік, аддайце нам гэтых выжлятнікаў. Мы іх навучым слабоду любіць! — крыкнуў высокі вусаты каваль з закасанымі рукавамі.

— Праўда, чаго з імі валэндацца? Так — за так! Чым яны, тым і па іх,— падтрымаў яго невялічкі, сухенькі і гаваркі Грыша Вярыга.

— Спако-о-йна, таварышы! Суд з імі разбярэцца,— адказаў камандзір і прышпорыў каня.

— Суд народны. А мы хто? Хіба не народ? — не суніамаўся вусаты.

Убачыўшы, што за апошнім возам ідуць заплаканыя кабеты, кавалі паздымалі шапкі і змоўклі. Атрад завярнуў на валасны двор. Фурманкі з параненымі і забітымі адправілі ў бальніцу. Папераздзе іх ехаў Кудрашоў.



Я не ведаў, ці бегчы за возам, на якім павезлі нашага Князева, ці аставацца тут і паглядзець, што ж зробяць з бандытамі. Мяне гукнуў Лаўрэн.

Бандытаў пасадзілі каля студні на доўгае перавернутае карыта. У кожнага рукі звязаныя за спіною. Мардатыя мужчыны распарыліся ў суконных фрэнчах сваёй работы, у пукатых, паабвісаных галіфэ. Ільсніліся спацелыя, падобныя на яблыкі-цыганкі, шчокі, страхам і злосцю паблісквалі нядобрыя вочы.

Чырвонаармеец зачарпнуў кацялок вады з пазелянелага вядра, паднёс першаму, з белым і рыхлым, як свежы тварог, абліччам. Ён прысмактаўся да кацялка, прагна піў з булькannем і прыцмокваннем. Буйныя кроплі каціліся па барадзе і падалі, як з конскай храпы, пад рудою шчэццю перакочваўся вялікі тугі кадык.

— Гарачай смалы гаду печанаму далі б. А то, як таму пану, падносяць,— лаялася цётка Лукер'я. Яна стаяла каля студні ў падаткнутай спадніцы, з закасанымі рукавамі і з агідаю глядзела на «бадзюкоў», бразгала вядром, гатовая кожнага агрэць па распаранай мордзе.

— Яшчэ ім падлогу мыць! Каб вас памылі, у ямку кладучы, ды пад плотам закапалі,— не сціхала Лукер'я.

Пры валасці яшчэ з мікалаеўскіх часоў была каталажка — вузенькі цёмны закутак з закратаваным акенцам на адно бервяно. У ім часта начаваў бяздомны жабрак Мікіта: як дома, развешваў свае лапці, караўкі і торбы, часам спяваў Лазара пад уласны акампанемент: падкладзе бяспалую далоньку пад паху, падымае і прыцiскае руку і выцінае не вельмі прыемныя гукі, спявае і сам сабе падыгрывае.

Ён хадзіў з фэста на фэст, з кірмаша на кірмаш па ўсіх цвінтарах і капліцах. Нічога не выпрошваў, аднолькава дзякаваў тым, хто нешта даваў і хто кпіў з яго. Звычайна казаў: «Мне, як птушцы нябеснай, трэба толькі адно каліва, а там дасць бог дзень, дасць і полудзень».

За ім бегалі хлапчукі і пад'юджвалі:

— Мікіта, пайграй, дам каравай!

Мікіта крывіўся, як ад болю, хрысціўся куртатаю куксаю, тыцкаў адзіным пляскатым пальцам у неба і нешта мармытаў. Ён ішоў, як сляпы, здавалася, нічога не чуў і не бачыў. Адны лічылі яго ледзь не святым, другія — хітруном, трэція — не тым, кім ён прыкідваецца. Нават думалі, ці не ён той няўлоўны падпальшчык, што ў страху трымае ўсё мястэчка. На каго тады толькі ні думалі, на каго ні грашылі!

Бывала, Мікіта сыходзіў на ўсю зіму, а то і на ўсё лета. Ужо забудуцца пра яго, а ён з'яўляўся нечакана, як і знікаў. Перапалы, зарослы, твар каляны і шурпаты, як апалены гаршчок. Ішоў у валасць. Калі пуставала кутузка, займаў яе, а то прымошчваўся пад лаўкаю ці пад сталом у вялікай пустой зборні. Так звалі стадолу, у якую некалі збіралі на сходы, заганялі навабранцаў, у зборні чакалі сваіх папераў хадайнікі з вёсак. Мыць для бандытаў кутузку цётка Лукер'я адбілася наадрэз. Толькі памахала венікам, узняла воблака пылу і прачыкільгала на ганак:

— Заганяйце быдла,— нібы скамандавала чырвонаармейцам.

І тут невядома адкуль узяўся Мікіта. На нагах рассмыканыя, счарнелыя ад твані і дарожнага пылу лапці, белыя зрэбнікі целяпаюцца, як на калку, расхлістаная на завэнджаных валасатых грудзях латаная-пералатаная кашуля. Галава без шапкі. У чорных раскудлачаных валасах заблыталася саломінка і паблісквае, як завушніца. На плячы амаль пустая торба.

Ён спыніўся ў дзвярах. Насупіўся, нібыта ўбачыў непарадак. Перавярнуў на плоце свае транты. Па-кацінаму ціха падышоў да пастаў-

леных у два рады бандытаў. Яны глядзелі ў зямлю, на запыленыя наскі, на счарнелыя трэскі каля студні. Паперадзе стаяў з выцягнутым наганам узводны, па баках — зморанымя зарослыя чырвонаармейцы. Мікіта ўзняў у неба пакалечаныя рукі. Шырокія рукавы спаўзлі ніжэй локцяў, галаву закінуў угору, нібы нешта там бачыў, і закрычаў глухім, заўсёды прастуджаным голасам:

— Госпадзі, пакарай нечасцівых! Разразі перуном акаянных. Дзе ты там, змей падкалодны? — Мікіта кінуўся да шляхцюка цыганскай пароды і тыцнуў пад нос скалечанаю куксаю. Чырвонаармеец адцягнуў яго назад, а Мікіта ўсё не суніма́ўся:

— Пазнаў, пазнаў гада! Хіба ж не ты дзетак ножыкам шаткаваў? Я ж усё з канапель бачыў. І бацьку твайго век праклінаю! У вашай жа малатарні мае пальчыкі асталіся,— і ён зноў падняў сваю куксу.— А на мяне начапілі торбы і па свеце пусцілі. Згінь, вырадак! Пусціце, салдацікі, я яго сам парашу.— Мікіта зноў кінуўся да бандыта ў абвіслых галіфэ, але чырвонаармеец засланіў яго вінтоўкаю.

У двор сышліся людзі паглядзець на бандытаў. Круціліся спераду Гога з Лёлікам і пазіралі на нас, мабыць, баяліся, каб не натаўклі па карку. Лаўрэн падышоў да іх:

— Што, шкода? Паплакаць па сваіх прыбеглі? Псік адсюль, каб і смуроду вашага не было!

— Што ты, Лаўрэн? — ціха і лагодна загаварыў Гога.— Мы ж цябе не чапаем. Усе ідуць, і мы зайшлі паглядзець на гэтых... разбойнікаў.

— Аднаго вы кодла з імі. Паплакаць прыбег? Марш адсюль,— Лаўрэн плюнуў на далонь і сціснуў кулак. Увагнуўшыся і азіраючыся, Гога выйшаў з двара, туляючыся за яго, падыбаў і Лёлік. У натоўпе паціху гадалі, што будзе бандытам.

— Пастраляць гадаў, каб і праўнукі баяліся.

— Шкуру жыўцом паздзіраць мала,— па-свойму судзілі мужчыны.

— Далібог, вунь той мёдухаўскі шэршань, што да мяне з газаю заходзіў,— усхапіўся Грыша Сюська.— Можа ён і паліў.

— Ідзі скажы начальніку. Яны ўсё выпытаюць,— падтыкаў наперад Грышу замурзаны каваль.

— А што, і скажу, і не пабаюся. Паглядзім, калі болей не загарыцца, значыць ён. Тады і скажу,— упінаўся Грыша.

Бандытаў павялі ў воласць. Натоўп пачаў разыходзіцца. Следам за канвойнымі пабег Лаўрэн. Двор апусцеў. Каля студні закруціўся віхор, падхапіў салому, паперкі і дробныя трэскі, стаўбункам пабег да варот, змятаючы і круцячы пыл, вылецеў на вуліцу, завіўся над дарогаю, асеў і рассыпаўся нечакана, як і ўзнік.

Дадому ісці не хацелася. Усё трымцела ў сярэдзіне ад напружання і хвалявання. Такое я перажыў упершыню: першы раз бачыў забітага блізкага чалавека, ласкавага, добрага, ціхага. У нашай хаце ён быў, як родны,— памагаў маме секчы зелле, насіў ваду, вечарамі садзіўся разам з ёю абіраць бульбу і ўсё расказваў, расказваў пра гарадок Сургут і ціхую рэчку з дзіўнаю назваю Сок. І пра Волгу расказваў, пра белыя параходы і стромкія мелавыя горы. Мне ўсё гэта здавалася недзе за светам, далёка-далёка. І тады толькі зразумеў, што зямля вялікая і скрозь жывуць людзі, выглядаюць інакш і гавораць не па-нашаму. А раней думаў, што ўсё канчаецца за небасхілам. Колькі разоў збіраўся дайсці да яго, паглядзець, як бабы кужаль прадуць ды на неба прасніцы кладуць. Так казала маці і многія нашы жанкі. І верыў. Верыў кожнаму слову.



Аж выходзіць, што недзе ёсць Сургут. Там чакае з войска нашага Князева яго старэнькая маці і не дачакаецца ніколі.

Слёзы засцілалі вочы, казыталі ў носе, нешта сціснула горла. Праз дзірку ў плоце перелез у наш гарод, хацеў цішком выплакацца пад яблыняй. На градзе купалася ў пяску рабая курыца, а пад сланечнікам стаяў з сінімі зіхатлівымі пер'ямі на хвасце і звернутым набок грабянцом руды певень.

Я заплакаў ад жалю і злосці, схапіў грудку зямлі, папусціў у певўня. Яна рассыпалася, толькі зашамацеў пясок па прывялым гарбузніку.

Мама ўжо ўсё ведала. Яна перабірала ў скрыні кавалкі кужэльнага палатна і ражком хусткі выцірала вочы, а слёзы плылі і плылі па апаленым сонцам і ветрам твары.

Я стаў у парозе. Яна не лаяла і не папракала мяне, толькі заплакала ўголас:

— Можа дзе гэтак і татку нашага парашылі ірады. Другі месяц — ні слыху, ні духу.

Я прытуліўся да яе і суцяшаў, як умеў.

Увечары мама кроіла і шыла кужэльную насыпку, набіла яе свежым сенам, тым, што нядаўна накасіў Князеў, зубочкамі выразала паркалёвую аблямоўку на труну. Слязінкі расплываліся па паркалі цьмянымі кружочкамі.

## 6

Гарачы жнівень засцілаў спякотнаю смугою далячынь, шамацеў прыпечаным лісцем садоў, запыленымі лапухамі і збялелым палыном. На яблынях ружавелі крутабокія цітаўкі і шлапакі, глуха падалі ў пажоўклую траву залацістыя грушы-«паненкі» і круглыя салодкія сапяжанкі, пазгіналіся галовы сланечнікаў.

Мястэчка насцярожана прыціхла ў жалобе і ў чаканні незвычайнага пахавання. Толькі і гаварылі пра забітых чырвонаармейцаў: каторы адкуль, у каго была жонка, а ў каго нявеста.

— Скажы ты мне, Ганна, няўжо і праўда без бацюшкі будуць хаваць гэтых бедных салдацікаў? — пыталася ў маці наша суседка Дуня.— Без малітвы ды боскай пячаці святая зямелька не прыме, а ўсявышні грахоў не адпусціць.

— Яны грахі адпакутавалі на гэтым свеце, смерцю сваёй адкупіліся. А зямля аднолькава прымае праведніка і грэшніка. Тут усе роўныя,— казала маці і, уздыхнуўшы, ківала галавою.— Без бацюшкі яно непрывычна, але, кажуць, па новых законах няможна з папом. Я і свечкі і венчыкі насіла — не ўзялі. З музыкаю будуць хаваць.

Пасярод плошчы па баках шырокае ямы падсыхаў і асыпаўся жаўтапесак, ляжалі каменьчыкі і грудкі гліны. Каля магілы салдаты ўкапалі чатыры акантаваныя слупы, свежымі дошкамі наслалі памост і зверху папрыбівалі парэнчы. На іх іскрыліся дробныя слязінкі смалы, пахла сырою сасною і вільгаццю свежай зямлі.

Местачкоўцы падыходзілі да ямы, пыталіся адзін у аднаго, як гэта будзе, моўчкі стаялі і разыходзіліся. Лаўрэн адганяў малых, каб не асыпалі зямлю, мяне ён пасадзіў на ніжнюю прыступку трыбуны, каб не пускаў бегаць па памосце.

Тут з раніцы таўкліся ўсе нашы хлопцы, чакаючы нечага незвычайнага. Сыскаўся і Андрэй. Ён было адбіўся ад нашай кампаніі. Казаў, бралі аж у Загалле сена рабіць. І праўда — твар яго выпетраў на сонцы, з шыі паўзлі белымі плямамі лішаі.

— Дзіва што папаўзуць! — апраўдваўся ён.— Там такая твань, балота наўкол, адны жабы квокчуць, а дзе жабы, там і лішай. Вот бабка Паблііянка пашэпча, вугольчыкамі пакрасае — і ўсё пройдзе.

Андрэй успомніў бабку Паблііянку, і я падумаў: як жа без яе абыдуцца сённяшнія хаўтуры? Бо ніхто ніколі не мог без яе абысціся: раджалася дзіця — у поўнач ці на світанні — беглі па бабку Паблііянку. Варта толькі стукнуць у шыбіну, як праз хвіліну яна выскоквала адзетая-абутая. Не пытаючы, што трэба, яна па чалавеку ведала — радзіны, вяселле ці хаўтуры ў яго. Прыходзіла і ўжо з парога станавілася «камандзірам», якога слухаліся ўсе. Яна давала першага лескача, каб толькі што народжаны быў жвавы і галасісты. І камандавала ў доме, пакуль не адгуляюць хрэсьбіны: выпраўляла кума з кумою, варыла квашаніну, пякла хрусты, закрашвала наліўкаю гарэлку — усё ведала, усё ўмела. Яна распараджалася на заручынах і на вяселлі, загадвала, як качаць каравай, дзе каго пасадзіць за сталом, калі што трэба сказаць.

Да паміраючага яна прыходзіла раней за папа, загадвала паставіць у печ вады, качала свечкі, шэптам распараджалася ўсімі. Яна закрывала вочы нябожчыку, абмывала, адзявала, а як выправіць з хаты ў вечную дарогу, пачынала гатаваць усё на памінкі — перш за ўсё варыла грыбны квас з буракамі, ставіла сыту з мёдам і патапцамі. І камандавала на памінках, аж пакуль не паразносяць назад суседзям пазычаную пасуду і эздлікі.

Умела бабка Паблііянка шаптаць ад уроку, ад пераляку, ад вывіху, вогніку, залатухі і лішаёў. Наўрад ці было што, чаго б яна не ўмела і не ведала. За што бралася — выходзіла ў яе ўсё спрытна і спраўна. Без яе ніхто не нарадзіўся ў мястэчку, ніхто не ажаніўся, без яе не выправілі ніводнага нябожчыка на клады.

«Няўжо ж нашага Князева пахаваюць без бабкі Паблііянкі? — думалася мне.— Адзяваць забітага і прыбіраць труну хадзіла маці, але хіба яна ўмее так, як бабка Паблііянка?».

Мае злінялыя, пабялелыя на рубцах штонікі прыліпалі да смаловых усходцаў, і я час ад часу варушыўся, каб не прысохнуць зусім. На плошчу прыходзілі і ўжо не разыходзіліся людзі — воддаль стаялі купкамі, гаманілі, паглядалі на дарогу, ці не нясуць.

Калі сонца звярнула з абеду, на плошчу пачалі бегчы кабеты, мужчыны і дзеці, пасунуліся наперад тыя, што стаялі тут ужо даўно.

— Нясуць! Нясуць! — чуліся галасы.

Каб лепш бачыць, я ўзлез на трыбуну. Хоць і махаў мне і грaзіўся кулаком Лаўрэн, я не злез: лічыў сябе амаль сваяком Князева, таму што ён стаяў у нас на кватэры, а з-пад ложка вытыркаўся яго зялёны сундучок, прапахлы махоркаю і цвілымі сухарамі.

Местачкоўцы збягаліся з усіх вуліц і запрудзілі плошчу. Чуваць было, як непадалёк заходзяцца трубы і вухкае вялізны барабан.

Перш з'явіліся пажарнікі ў бліншчастых касках і пачалі расчышчаць дарогу да магілы і трыбуны, а людзі ўсё націскалі і націскалі, заднія станавіліся на дыбачкі, падскоквалі, апіраючыся на плечы пярэдніх, абмахваліся шапкамі і хусткамі ад поту і надакучлівых мух.

У людскі калідор уваходзіла жалобная працэсія. Папераддзе ішоў невысокі камандзір, за ім барабаншчык і некалькі салдатаў з трубамі, побач з імі цаляў у нагу дзівакаваты Ваўчок. Ён вадзіў смычком па скрыпачцы, але яе не было чутно. Высока над галовамі і трубамі побач плылі дзве чырвоныя труны. Ніхто зроду не бачыў чырвонай труны. Спрадвеку абівалі толькі чорным, а тут — чырвоная. Ветрык варушыў белыя зубчыкі аблямоўкі і валасы нябожчыкаў. Следам вялі



двух асядланых коней. Яны трывожна стрыглі вушамі і дробна перабіралі капытамі. Далей — калыхаліся штыхі, а за імі ішлі і ішлі мужчыны, кабеты і дзеці. Здавалася, усе кінулі работу, усё мястэчка рушыла на плошчу. Я злез з прыступак і стаў каля трыбуны разам з нашымі хлопцамі.

Труны паставілі на грудочкі свежай зямлі. Князеў ляжаў, як жывы, толькі пабялелі шчокі і запякліся пацямнелыя вусны. Здавалася, вось-вось усміхнецца, падмігне і нешта скажа. У другой труне ляжаў бялявы, з вяснушкаватым тварам малады хлопец. Цяпер усе ведалі, што яго прозвішча Смірноў. Дзяўчаты і жанкі клалі букецікі рамонкаў, палявых васількоў, чырвоных і жоўтых вяргіняў у абедзве труны, ціха плакалі пажылыя жанчыны, нехта не вельмі гучна прычытваў: «А дзетачкі мае, а гарэтнічкі няшчасныя! Недзе мамкі чакаюць не дачакаюцца, а вас у сырую зямельку кладуць... далёка ад дому».

На трыбуну ўзышлі камісар Зубарэвіч, камандзір атрада, старшыня валрэўкома, Кудрашоў і высокі, з шэрымі вачыма і арліным носам хлапец у чорнай вышыванай кашулі, падпяразанай вузенькай папружкай.

— А гэты хто? — ціха спытаў у Лаўрэна.

— От, ёлапень, не ведае. Гэта ж Амелька Чабан — камсамольскі камісар,— прасіпеў у адказ і таўхануў пад бок, каб маўчаў.

Да парэнчаў падышоў Павел Зубарэвіч, абвёў поглядам усю плошчу. Людзі стаялі на рыначных сталах, на бочках з-пад селядцоў, хлапчукі паўзлазілі на ясені і клёны. Усе замоўклі.

— Таварышы! — пракацілася над плошчай.— Трэці год мінае, як мы прагналі акупантаў, але вайна не кончылася. Паны і капіталісты не змаглі задушыць рэспубліку Саветаў. Яны пасылаюць банды, наймаюць багатую шляхту забіваць лепшых савецкіх людзей, паліць наша дабро. Чырвоная Армія прыслала свой атрад абараняць нас ад белых бандытаў. Вы ведаеце, што было ў Казловічах. Чырвонаармейцы разбілі контррэвалюцыйную шайку, але атаману ўдалося ўцячы. У схватцы з бандытамі загінулі два адважныя чырвонаармейцы таварыш Князеў Гаўрыла Спірыдонавіч і таварыш Смірноў Васіль Капітонавіч. Мы сёння развітваемся з героямі. А гэтае месца заўсёды будзе свяшчэнным для кожнага з нас. Вечная памяць воінам-героям!

Аркестр заіграў «Вы жертвою пали в борьбе роковой». Ваўчок заспяваў і замахаў смычком, да яго далучыліся тыя, што стаялі на трыбуне, неўзабаве спявала ўся плошча. Спявалі, хто як умеў. Падцягвалі і мы, хоць і не ведалі слоў.

Каля магілы ў чорнай спадніцы і шыліноваай хустцы, склаўшы на грудзях рукі, стаяла мама. Яна не плакала больш, толькі ад слёз, выплаканых за гэтыя дні, прыпухлі і пачырванелі павекі. Яна яшчэ да снедання пайшла прыбіраць нябожчыкаў, і я яе ўбачыў толькі тут. Стаяла яна ў закамянелай роспачы, здавалася, нічога не бачыць і не чуе. Спагадлівая да ўсіх, яна асабліва балюча перажывала смерць Князева, добрага, ціхмянага і спагадлівага чалавека.

Пасля Зубарэвіча гаварыў камандзір атрада. Яго зычны голас каціўся над плошчаю і аддаваўся рэхам, нібы нехта паўтараў канец кожнага слова. Я чуў кожнае слова, але не звязваў іх разам, не думаў пра іх сэнс — у галаве круцілася нешта сваё, цьмяна ўспаміналася бацька, выразна паўтараліся матчыны словы: «Можа дзе гэтак і татку нашага парашылі, ірады», і зноў слёзы пачыналі казытаць у горле, але стрымліваўся, бо ніхто з нашых хлопцаў не плакаў. Усе мы стаялі каля самай трыбуны, басаногія, абдрыпаныя, але ўрачыста прыцішаныя і задуменныя. Я бачыў, як вільготна бліншчалі Лаўрэнавы чорныя вочы,

як няўрымслівы звадыяш Андрэй апусціў галаву і закусіў губу. Здалёк стаяў Захарка. Па баках шэрай стрыжанай галавы тырчалі вялікія вушы, а па шчоках плылі слёзы.

Трымаючы на перавязі закручаную бінтамі руку, да парэнчаў ступіў Кудрашоў. Ён пачаў вельмі ціха. Натоўп стаіў дыханне, павыцягвалі шыі, некаторыя папрыкладалі да вушэй далоні. Але голас яго мацнеў, нарастаў, кожнае слова гучала так выразна, што, здавалася, да яго можна дакрануцца. Такога прамоўцу мястэчка чула ўпершыню. Ён гаварыў, як разам з Князевым ваяваў з пілсудчыкамі, які той быў смелы, добры і верны таварыш. «Мы з ім спалі пад адным шынялём, елі з аднаго кацялка, ён не раз засланяў сяброў у бядзе. Гаўруша загінуў, перавязваючы мне параненую руку. Вы нават не ўяўляеце, якое добрае сэрца прабіла бандыцкая куля і не адпраўленае пісьмо яго старэнькай маці».

Кудрашоў беражліва разгарнуў заліты запечанаю крывёю лісток.

— Ён пісаў: «Мілая мама, хутка абаронім гэтых добрых і шчырых людзей ад бандытаў, і я вярнуся к табе, каб ніколі ўжо не разлучацца. Перасыплем нашу хату, прарэжам вялікія вокны, каб нам добра і светла жылося.

Да хуткай сустрэчы, дарагая мамачка. Твой сын Гаўруша».

Нехта заплакаў уголас. Я кусаў губы, каб стрымаць слёзы, а яны самі цяклі па шчоках, салёнымі струменьчыкамі апякалі губы.

— Але бальшавікі не плачуць,— ужо на поўны голас гаварыў Кудрашоў.— Няхай плачуць нашы ворагі. Мы ім не дадзім спакою, пакуль не знішчым апошняга лясного воўка. Яны не толькі ў лесе. Яны ёсць і тут. Хто, як не яны, пачалі паліць наша дабро? Можа той вылюдак стаіць недзе сярод вас і дрыжыць ад страху, бо дні яго да суровай кары ўжо злічаны.

Людзі пачалі трывожна азірацца, шукаючы таго, што ў бядзе і страху трымае мястэчка.

— Сёння мы хаваем двух нашых баявых таварышаў, а на іх месца стануць сотні адважных савецкіх людзей абараняць заваёвы пралетарскай рэвалюцыі.

У памяць аб загінуўшых над іх магілаю разам з валкомам камсамола заклікаем усю нашу рэвалюцыйную моладзь запісвацца ў шэрагі КІМа, а з дзяцей да 15 гадоў арганізуем камуністычны атрад піянераў-спартакаўцаў. Хто хоча, пасля пахавання няхай застануцца тут. Бывайце, дарагія таварышы Князеў і Смірноў. Вас ніколі не забудуць баявыя сябры і ўсе людзі, за шчасце якіх вы загінулі.

Аркестр зайграў жалобны марш. Побач з ім іграў на сваёй тоненькай скрыпачцы сівы, з распатланымі валасамі Ваўчок.

Каля магілы аднекуль узялася бабка Паблііянка. Яна ашчадна выбірала з кожнай труны кветкі і аддавала патрымаць дзяўчатам, што стаялі побач. Нешта тлумачыла камандзіру, а той толькі ківаў галавою. Потым узяла рыдлёўку і, як звычайна робіць поп, «апячатала» магілу — дзеўбанула з чатырох бакоў крыжыкі, перахрысціла нябожчыкаў, адышлася і стала з такім выглядам, нібыта зрабіла ўсё, што належыць.

Калі забілі вечкі, чырвонаармейцы прыставілі да плячэй вінтоўкі, падняліі ўгору рулі.

— Будуць страляць,— нехта сказаў побач. Я адразу ўціснуў у плечы галаву, жанкі далонямі пазатулялі вушы. Грымнуў залп, назад падаліся людзі, уздрыгнулі і паднялі галовы коні нябожчыкаў, а ў гэты час на царкоўнай званіцы ўдарылі званы. Іх заглушыў другі і трэці залп. Расплываўся ў спякотным небе сіні дымок, блішчалі і





захлыналіся жалобаю трубы аркестра, глуха падалі ў магілу камякі зямлі, а над мястэчкам плыў пахавальны звон.

— Спыніце яго! — крыкнуў камандзір. Амелька Чабан ускочыў на трыбуну і замахаў у бок царквы шапкаю. Званы загаласілі яшчэ гучней.

— Дзе ты бачыў! Глухі Цімох налягае на ўсе застаўкі,— гаманілі мужчыны.

— Сам надумаўся ці можа поп загадаў?

— Каб не загадаў, наўрад ці сам адважыўся б.

Потым глухі званар апраўдваўся:

— Вельмі ж хацелася паглядзець савецкія хаўтуры. Дай, думаю, ускочу на званіцу. Адтуль усё як на спадачку відаць. Глядзеў, глядзеў. Шкода стала маладзенькіх, а як пачалі апускаць, па звычцы тузануў за вяроўкі. Хацеў перастаць, ды спужаўся, каб часам не падумалі — на пажар. Ат, думаю, хай сабе, можа і не пашкодзіць. Так і адзваніў па ўбіенных.— Безбароды, як у жанчыны, твар Цімоха і тонкія губы хітра расплываліся вінаватай усмешкай, шчылінкі вочак рабіліся маленькія-маленькія.

Калі пачалі разыходзіцца людзі, Лаўрэн пытаўся ў кожнага з нас:

— Ну, будзеш пісацца ў гэтыя... як іх там?

— А што там рабіць?

— Чуў жа! Атрад будзе. Можа і наганы дадуць.

Вельмі хацелася быць з усімі, і баяўся, каб не сварылася маці.

На шырокі жоўты грудок паклалі кветкі. Музыканты павытрасалі трубы і разышліся. Каля магілы асталіся Кудрашоў з Чабаном, некалькі жанчын і дзяўчат. Ваўчок схаваў скрыпачку ў брызентавы футарал, пачапіў яго за плечы, пастаяў моўчкі, гледзячы ўдалеч выцвілымі вачыма з маленькімі цёмнымі зрэнкамі. Ён быў падобны на Мікалая-цудатворца з царкоўнай іконы, толькі нейкі ўскудлачаны і змардаваны.

— Жыццё і смерць — вялікая таямніца,— пачаў ён, ні да кога не звяртаючыся.— З'яўляецца чалавек на свет, радуюцца бацькі і думаюць пра яго шчасце, хочуць бачыць сваё чада прыгожым і знатным. А ён пакутуе, гаруе ўсё жыццё і, нічога добрага не зрабіўшы, памірае ў муках. Тады людзі плачуць, бядуюць, нібыта шкадуюць, што ён мала яшчэ напакутваўся.

— Гэта вы пра каго? — спытаў Кудрашоў.

— Так, думаю пра бяссэнсіцу жыцця.

— Няўжо і мы жывем і паміраем без сэнсу? Няўжо яны жылі і загінулі, нібыта лопнуў мыльны пухір? — абурыўся Кудрашоў.

— Я гэтага не казаў. Яны мучанікі за народ, за вышэйшую справядлівасць. Вечная памяць кожнаму, хто памірае за другіх,— спакойна разважаў, гледзячы ўдалеч, гэты адзінокі стары, якога ўсе лічылі адукаваным дзіваком. Ён часта гаварыў так, што не кожны і зразумее.

Непадалёк на блішчастым веласіпедзе праехаў Хадароўскі, ваўкавата зірнуў на свежы пагорак і звярнуў у Лабацэвічышыну вулачку.

— Што гэта за тып? — спытаў Кудрашоў у Чабана.

— Бязрукі інвалід, чайную тут трымае. Наежджы нейкі. Нібыта матросам быў, ці што.

Кудрашоў толькі пакруціў галавою і звярнуўся да нас:

— Ну, хлопцы, усе хочаце быць спартакаўцамі?

— Хацець хочуць, але не ведаюць, што гэта такое і што рабіць трэба,— за ўсіх адказаў Лаўрэн.

— Яны былі бальшавікі,— Кудрашоў кіўнуў на магілу,— наш камандзір і я бальшавікі, а таварыш Чабан — камсамолец, маладзейшы бальшавік. А вы яшчэ не дараслі ні да тых, ні да другіх. Вы ж за савецкую ўладу, за справядлівасць, за рэвалюцыю? Праўда? Значыць, самыя меншыя бальшавікі. Толькі не арганізаваныя. Бегаеце, латошыце чужыя сады, б'ецеся, як маладзенькія пеўнікі, і самі не ведаеце, за што. Піянеры — гэта самыя малодшыя бальшавікі. Атрады ўжо ёсць ва ўсіх гарадах. Будзе атрад і ў вас. Свой клуб зробім, песні спяваць будзем, пастаноўкі розныя рабіць, у лес хадзіць.

— А наганы выдадуць? — вытыркнуўся Андрэй.

— Нашто табе той наган?

— У лесе ж бандыты.

— Не бойся. Яшчэ раз выедзем і ўсіх пераловім.

— Дык што гэта за атрад без нагана?

— Спар-та-каўскі,— умяшаўся Амелька Чабан,— атрад сумленных, добрых савецкіх дзяцей.

— А хто будзе камандзірам? — запытаўся я.

— Пакуль не загоіцца рука, і я буду прыходзіць. А там пабачым.

— Пішыце нас,— падышоў Лаўрэн з братамі.

Кудрашоў леваю рукою выцягнуў з кішэні на грудзях паперку, падаў Амельку:

— Пішы.

Той пачаў запісваць. Мы падыходзілі адзін за адным, называлі прозвішчы і імёны.

Воддаль стаяў Захарка. Я кіўнуў, каб ішоў сюды. Ён пакруціў галавою. Відаць, яму хацелася быць разам з намі і баяўся ўгнявіць сваю пані. Я падышоў і падштурхнуў за худыя кашчавыя плечы, але ён упінаўся.

— Не бойся, пішыся. Кудрашоў цябе ў крыўду не дасць.

— Мне няможна.

Ён нацягнуў дзіравы капялюш, павярнуўся і так урэзаў дадому, што аж пыл закурэў.

Каля трыбуны запісвалася невялічкая кругленькая і кірпатая дзяўчынка ў вышыванай на рукавах кофтачцы і ў спаднічцы ў сінюю клетку. Я яе бачыў упершыню. І гаварыла яна неяк не па-нашаму.

— Пазарынь Вольга Янаўна,— праспявала яна.

— Адкуль такая ўзялася? — прашаптаў я на вуха Лаўрэну.

— Латышка. Сястру яе прыслалі ў кансамоле рабіць. Пасяліліся ў Кветнярышыным доме.

— Што ж за атрад з дзеўкамі будзе? — абурыўся Андрэй.

Кудрашоў загадаў усім пастроіцца па росту ў адзін рад. Мы, як авечкі, штурхаліся і лезлі наперад. Ён ставіў кожнага на сваё месца, а паперадзе меншую — Олю.

Ваўчок ласкава глядзеў на нас і расчулена ўсміхаўся. Каля Амелькі стаялі дарослыя хлопцы і дзяўчаты. На бялявых валасах Андрэевай сястры вецер пагойдваў ражок чырвонай хусцінкі. Яна нешта шаптала свайму «камісару». Кудрашоў стаў перад намі і ціха загаварыў:

— Вы, дзеці беднаты, павінны расці смелымі абаронцамі Саветаў, справы камуністаў і таварыша Леніна. У піянераў ёсць свае законы і абавязкі — быць вернымі свайму народу, памагаць пакрыўджаным і слабейшым. Ёсць і свая клятва: калі бальшавік ці камсамолец скажа: «Піянер, да барацьбы за справу працоўных будзь гатоў!», вы паднімаеце правую руку да галавы,— ён паварушыў забінтаванай рукой, зморшчыўся і леваю паказаў, як трэба аддаваць салют,— і адказваеце: «Заўжды гатоў!». Сустракаючы адзін аднаго, таксама паднімаеце

руку. Піянеры на шыі носяць чырвоны гальштук — часцінку нашага сцяга.

Андрэева сястра Груня зняла хустачку і завязала яе Олі на шыю.

— Піянеры, да барацьбы за справу працоўных будзьце гатовы! — зычна сказаў Кудрашоў. Мы пападымалі рукі — хто вышэй, хто ніжэй — і рознагалосіцай адказалі: «Заўжды гатоў!»

Ваўчок хуценька выняў скрыпачку, кінуў на зямлю лямцавую шапачку і заіграў «Інтэрнацыянал». Камсамольцы паздымалі шапкі і моўчкі пасталі ў рад.

З плошчы мы пайшлі строем па адзінай у мястэчку брукаванай вуліцы. Паперадзе ішлі Кудрашоў, Амелька Чабан і Груня, за імі — Оля ў чырвонай хусцінцы на шыі. Збоку тупаў Ваўчок. Па цёплым камені шлёпалі нашы парэпаныя ступакі. Я збіў вялікі палец, разы два падскочыў на адной назе і пайшоў далей. З двароў і вокан пазіралі на нас. Воддаль, назіркам ішлі Гога, Лёлік і яшчэ некалькі чысцэнькіх «буржуянятак».

А нам здавалася, што ўсе толькі і глядзяць на нас, пра нас толькі і гавораць. Ішлі, не чуючы зямлі пад сабою.

(Заканчэнне ў наступным нумары).





*алесь разанаў*





ПАЭЗІЯ

## Назаўжды

*Паэма*

Не называю імёнаў...
Імёны
ўвабрала бяздонне вады,
схаваў туман папялёны,
пясок атуліў —
назаўжды...

Суцішне размах... Парадзее
туман...
Адплывае... Няма...
Ды крэпасць — імя і падзея —
ёсць крэпасць.
Падзея...
Імя...

І літар засмяглых не сцерці,
І помніць імёны ліццё...
Не зніклі, ступілі ў бяссмерце —
у вечную плынь і жыццё.

Нашчадкам і слава, і стома,
і справа —
мы веку раўня...
Да бою, што нам невядомы,
далучаны векам штодня.

У камень, які не астудзяць...
У крэпасць...

---

Скарочаны варыянт.



А. КРОЛЬ. Беларускі пейзаж.



В. СУМАРАЎ. Вясёлая зіма ў Лошыцы.

Ні снег, ні ільды...
Каменне, імёны і людзі...
Імёны і час...
Назаўжды...

I

Мы прыходзім пасля, каб маўчаць,
у сляпыя глядзець камяніцы —
зруйнаванае ўшанаваць,
спапялёнаму пакланіцца.

Мы прыходзім...
Прыходзім пасля...
Узнавіць, зразумець, здагадацца...
А дзядоўнік лісты паслаў,
дзьмухаўцы разбрыліся па пляцы.

У трызненні, у забыцці,
ў безназоўнасці пазажыццёвай
уздымаюцца ціха байцы
і не ўстануць з уцехі лісцёвай.

Тут бязлюддзе...
Навекі вякоў...
Цішыні зацяжной шматструнне
калыхнецца жалобай вянкоў
і буяннем упартай руні.

Праступае маўчаннем слоў,
тым, што ў далечы занялося,
падабенства нашых шляхоў,
захаваная еднасць лёсаў.

Адзавецца ў кароткі міг
запаветнае, залатое...
Мы б жывых не пазналі іх,
пазнаём іх цяпер затое.

Хай не мае аблічча абсяг,
безаблічны дзірван аздобны —
на мяне, на цябе, як працяг,
на ўсіх нас яны вельмі падобны.

Расплываецца, мільгаціць
калатня, бегатня, выкрутасы...
Але мужнасць супрацьстаіць
разбуральнай бегласці часу.

II

Крыніца зямнога сэнсу —
мёртвай... Жывой вады...
І пошук пакутны сэрцу,
і быццам бы назаўжды.

Сонцы мінаюць — думаць!..
Мінаюць месяцы — думаць!..
Мінаюць гады — думаць,
шукаць чалавечы сэнс.

У тогу, хламіду, кіцель,
на камень, шэзлонг, услон —
захутайся,
сядзь, мысліцель!..
...Ведае сэнсы ён.

У роздуме, у сумненні,
у спасціжэнні з'яў,
быццам само каменне,
ён нерухомы стаў.

Выпрабуе кірункі,
ацэніць магчымы засеў...
А рукі —
каменныя рукі,
І позірк яго анямеў.

Як ён, ахаплю асновы
існага,
усяго.
Складу чалавечыя словы:
наш сэнс — у шуканні яго.

Сто сэнсаў налічыць развага
станоўчых і анты — да іх...
Ды сэнсу суцэльнага прага,
адзінага —
поўніць уздых.

Дзейнічаю... І — рупны
час набыцця і страт.
Што роздуму недаступна,
дзеянню акурат.

Грозныя зрухі ў свеце...
У бітве —
нямашака слоў —
куляю мне засвеціць
сэнс, што мяне знайшоў.



III

Хай ясылымі будуць дні
і дзейснымі летуценні...
Мы ляжам, камяні,
мы прарасцём, насенне.

Не трэба, не шукай,
забудзь мяне, Радзіма...
Я ад цябе, як гай,
як жаль, неаддзялімы.

Пачатае ў сяўбе,
навек яно,
дарэшты...
І я жыву ў табе,
як ува мне жывеш ты.

*

Дзьмуць сустрэчныя ветры,
аркестрык звініць і б'е...

За тысячу кіламетраў,
крэпасць, я ля цябе.

І я абяцаю адвагу,
і я абяцаю бой...
Прымаю сягоння прысягу,
сцверджаную табой.

Бяру пад сваю ахову
час, змешчаны у адно...
Прымаю сягоння ў словах,
што сэрцам прыняў даўно.

Ты — бой.
Цябе час не закрэсліць,
не зменшыць,
не зробіць былой...
Жыву я...
Са мною крэпасць,
крэпасць зямлі маёй.

*

Адказваю, не пытаю —
будзь пільнаю, маладосць! —
што клопат ні загадае,
заўсёды гатовае: «ёсць».
Божа, я не ўсясільны,
але адолеўшы млосць,
каменем надмагільным
легчы —
таксама «ёсць».
Не папытаю, навошта...
Хай словы не зберагуць —
Радзіма, любоў, ну што ж ты,
загадвай,
не марудзь!

За хмары і яснае неба,
за ўцеху, ўраджай і не... —
усё, што табе патрэбна,
напэўна, патрэбна і мне.

Адданцы твае не трапляюць
у моцы вярнуцца, ў хвальбе...
Па іх цябе уяўляюць,
іх пазнаюць па табе.

*

Трудным шляхам і крокам трудным
(бачу прывід, бачу пустэль...)
пераходжу край неабудны...
падыходжу,
маўчу:
цытадэль...

Пад нагамі залее прысак,
шорхнуць ніцыя быльнягі.
Небыцця, камяніцаў абрысы...
Непрытомныя берагі.

Дзе падзелася хваля жывая,
дзе падзеўся бурлівы Буг?
Дзе падзеліся?!
Спачывае
Наваколле...
Замкнёны круг.

Мяне думка ў дарозе займала,
і было ў ёй столькі надзей,
што на плошчы Цырыманіялаў
стрэну кветкі і гоман людзей...



Але знойдзенае прызванне —
гэты рух —
прыспяшае прыход.
І няма ўзнагароды ў пазнанні
ад палёгкі...
Наадварот...

Плынь вады абмінае востраў,
ветру плынь абмінае груд...
Казематы... Былі фарпосты.
Зараз помнікі...
Мёртвы кут...



Абмінае лозы і вербы
зялянец і птушыны грай.
А на сценах торныя шчэрбы,
бы прыступкі у небакрай.

Абмінаюць гады і ўсходы
кут няўтульнасці,
кут вайны...
Толькі ўецца сутонне ля зводаў...
Здагадаюся: гэта — яны.

*

Вышэйшых няма для нас высяў,
раднейшай няма зямлі,
чым тая, дзе мы не здаліся,
што маглі, аддалі.

На безвыходным паверсе
ўтаймуецца шал штурмавы...
І гіну я —
з кожнай смерцю...
З кожным жыццём жывы.

IV

Яны ідуць далёка і прама,
а руіны вусцішнасць агортвае.
Незвычайная панарама —
крэпасць мёртвая.

Ды пачаўся —
І дыхаў Брэст
дыхам спаленым марафонца —
Брэсцкай крэпасці новы змест,
дальні рэй яе абаронцаў.

*

А век зялянее пахілы
і новы —
далёка зіма...
Без нас, як зярнят хларафілу,
пустэльняю б стала зямля.

Схаваемся...
Ў нетрах глыбінных
заблудзіцца позірк прамы.
Зялёныя нашы кабіны,
даверху зялёныя мы.

Нас вышыня не прыкмеціць,
не выявіць гул і выццё.
Мы скрозь разышліся па свеце
мімікрыяю пад жыццё.

*

Пазачассе тут...
Хто распаліць
захаваны агонь вясны?..
Гэты кут...
Па-за часам памяць.
Мёртвы кут...
Па-за часам сны.

З пазачасся і шэпт, і трывога,
не прамоўленыя нікім:
— Не кранай, сачы, анічога
не забудзься, тут смерць ва ўсім.

Ды забудуся...
Вее бэзам...
Навальніцай...
Жыццё пяе...
Не забудзься!..
Кавалак жалеза
упіваецца ў пальцы мае.

Ў зоне смерці жыцця не помняць...
Па прыступках трудных, крутых
я іду...
І руіны, як споведзь
неприсутных прысутных іх.

V

Ні са жнівенем, ні з сяўбой
не загляне сюды час рупны...
Мы прад імі стаім і сабой,
перад колішнім і наступным.

Застаюцца з табой камяні
і што выказаць немагчыма...
Ты адкрый яе, дасягні —
застаецца з табой Айчына.

Непрыкметна і летуценна,
як даўно прадчуваны адказ,
адбываюцца нейкія змены,
перайначвае нешта нас.

І хто быў тут — былі не сведкамі,
і цяпер тут не сведкі мы...
Запяклася ты, крэпасць, меткаю,
быццам воспіна супраць чумы.

Засцярожана і зірката —
невідушчасць уся і слых —
зеўрыць цемра тваіх казематаў,
веюць пошапы сховаў тваіх.



Заставайся, крэпасць.
Пара
адыходзіць.
Дарога кліча.
Буду доўга цябе паўтараць,
узнаўляць тваё буду аблічча —
чалавечнае, не бастыльнае...

За сабою на ўвесь рубеж
адчуваю, як ты няўхільна
сваю пільную варту нясеш.

І тваёю мужнасцю сталы —
быць інакшым няма падстаў —
не ўпаду я, бо ты ўстаяла,
устаяла, каб я ўстаяў.

VI

Сутнасць, не абалонка
(свет мой — маё адкрыццё!..)
россып тваіх рамонкаў...
Снілася мне жыццё.

Лета вышынны плёскат
ціхую радасць ліе.
Белая бель — пялёсткі, —
кружыць надзеі мае.



Па роднасным
па прытулку
шчымлівае пачуццё
высвятліць ціхую вулку...
Снілася мне жыццё.

Адна-адзіная спроба,
іншай не дадзена мне,
мне тое жыццё да спадобы,
паталае ў даўніне.

У сховах свядомасці недзе
часу і з'яў наплыў...
Снілася, што угледзеў,
снілася, што любіў.

Снілася мне Айчына,
лета яе, зіма...
Хістаецца прад вачыма
жыццё, што было... няма...

VII

**Я знаходжу твае штрыхі**
**ў плынным часе,**
**знаходзіць буду...**
**Ты ўбіраеш з усюль шляхі**
**І па іх разыходзішся ўсюды.**

**Разыходзіцца так рака,**
**прылучае і час, і далі...**
**Не патрапіш таго кутка,**
**у якім бы цябе не зналі.**

**Разыходзіцца заклік так,**
**разыходзіцца так трывога...**
**Я гляджу, прыкмячаю твой знак —**
**не мінае ён анікога.**

**Ты бароніш мяне сабой,**
**моцай каменю і бетону...**
**Хай мяне не зачэпіць бой —**
**замыкае мяне абарона.**

*У гэтым годзе і ў гэтым месяцы яму было б шэсцьдзесят. Увесь яго творчы шлях прайшоў на маіх вачах. І ён не малы, гэты шлях, не кароткі. Пэўная проба пяра адбылася яшчэ ў даваенныя часы. Тады Антон Алешка, вясковы настаўнік, пісаў пра тагачасную вёску, пра сваіх землякоў.*

*Не было б вайны, быў бы трывалы мір на свеце, і, напэўна б, наша літаратура мела яшчэ аднаго песняра беларускай калгаснай вёскі. Але спачатку — пагроза вайны, а потым і сама вайна прымусілі Антона Алешку, як і многіх іншых пачынаючых літаратараў, змяніць свой звычны род заняткаў, сваю прафесію: ён стаў ваенным урачом. Змена прафесіі абумовіла і кола літаратурных інтарэсаў: Антон Антонавіч стаў пісаць на ваенныя тэмы.*

*Як пісьменнік-рэаліст, схільны пісаць найбольш пра тое, што сам бачыў, адчуў, перажыў, Алешка стварыў некалькі кніг пра вайсковых лётчыкаў, таму што ўсю вайну служыў у лётных часцях, добра ведаў многіх нашых лётчыкаў, сябраваў з імі, дзяліў усе нягоды суровай вайны.*

*Лётныя трасы звялі Антона Антонавіча з мужнымі пілотамі французскага палка «Нармандыя-Нёман». Выключныя баявыя якасці французскіх лётчыкаў-антыфашыстаў увесь час захаплялі яго. Назіральнасць пісьменніка адбірала, а памяць захоўвала лепшыя, найбольш характэрныя асаблівасці гэтых людзей, і пасля вайны Антон Антонавіч прысвячае адзін са сваіх чарговых раманаў вялікай баявой дружбе французскіх лётчыкаў з нашымі, савецкімі паветранымі волатамі.*

*Вайсковыя дарогі, лёс людзей вайны сталі галоўнай тэмай творчасці Антона Алешкі ў пасляваенныя гады. На гэтым літаратурным полі ён меў добры ўраджай. Аднак у пэўныя часы пісьменнік усё ж вяртаўся да прыемнай і захапляючай тэмы свае маладосці, да вясковай тэмы. На гэта натхнялі яго незабыўныя ўражанні вясковага побыту, успаміны пра найбольш характэрныя з'явы і падзеі ў калгасным будаўніцтве, пра жыццё і працу сваіх землякоў. Так была напісана аповесць «Васілі», з урыўкамі з якой і знаёміць сваіх чытачоў часопіс «Маладосць».*

*Аляксей КУЛАКОЎСКІ.*







**антон алешка**

# ВАСІЛЬ СЛАВІНСКІ

## РАЗДЗЕЛЫ З АПОВЕСЦІ

Мал. В. Шрамякова

**1**

За груды Перадзела паволі ссоўвалася хмара. Яе цёмна-сінія грудзі крэслілі агністыя маланкі. Раскацісты гром беспярапынку рассыпаўся ўдалечыні.

З-пад крыжа спалавелай хмары, што вісела яшчэ над сялом, выглянула сонца, асвятліла мокрыя стрэхі хат, прысады, агароды. У праменнях блішчаў дробны, але яшчэ спорны дождж.

Па вуліцы слізкай сцяжынкай ішоў шафёр Васіль Славінскі. Настаўляяў каўнер скуранай жаўтлявай курткі і адварочваўся ад дажджу.

Каля Таклюсінага двара пачуў галасы хлапчукоў.

— Мора, хлопцы!

— А глыбіня!

Васіль адклаў каўнер курткі, азірнуўся. Хлапчукі, падкасаўшы да калень штаны, мералі шырокую лужыну.

— Вунь дуга!

Малыя здзіўлена пазіралі на яркую зелень аселіцы, на якой пасвіўся статак, а поруч у самы бераг ракі ўпіраўся канец яркай, нібы фарбамі намаляванай вясёлкі. Яна пералівалася, як жывая, увачавідкі рабілася ярчэйшай.

— Ваду набірае з рэчкі!

— Яшчэ будзе дождж. От палазім па вадзе,— радаваўся малы, які паспеў вымачыцца да паясніцы.

— Дзядзько Васіль, пракаці на машыне! — крыкнуў самы большы, і тады малыя ўбачылі Васіля.

— Каторы самы храбры? — халодным позіркам бліснуў Васіль на хлапчукоў.

— Я! — падняў руку самы большы.
— Праплывеш да таго плота, то падвязу,— паабяцаў Васіль, але тут жа махнуў рукой і, горбячыся ў куртцы, якая паблісквала на сонцы, пайшоў далей.
«Хваліся, браце. Цябе самога так падвязуць, што не рад будзеш»,— разважаў Васіль, пазіраючы на яркую вясёлку, што дугой перакінулася цераз той канец сяла на далёкія сенажаці.
Паветра востра пахла дажджом і веснавым сонцам.
Апаласканае навальніцай сяло радавалася, а Васіль трывожыўся. Унурыў галаву, не глядзеў на двары, на вокны хат, як бывала. Адчуваў, што з-за фіранак за ім цікуюць людзі.
— Малады чалавек! — нечакана пачуў Васіль голас старшыні калгаса Пятровіча.— На адну хвілінку.
Васіль не збіраўся з ім сустракацца. Ніколі не спадзяваўся, што ў такі час ён будзе дома. Гэтае месца абышоў бы агародамі, аселіцай абабег бы і не трапіўся на вочы.
У хлопца між лапатак прабег халадок. Ён запаволіў размашысты крок і павярнуў на голас.
Пятровіч стаяў на ганку за тонкай сеткай дажджу. Быў ён апрануты па-святочнаму, узбуджаны і вельмі злосны. Такім яго Васіль ніколі не бачыў.
— Калі вярнуўся?
— Толькі што даставіўся на базу.
— Добра, што па дарозе не згубіўся.
Васіль прыкусіў язык, не адказаў на з'едлівую заўвагу старшыні, насцярожыўся.
Дождж амаль сціх. Яны ўдвух моўчкі пастаялі некаторы час. Пятровіч — на сухім ганку свайго дома, а Васіль на мокрай вуліцы, але абодва асветлены яркім сонцам. Іх раздзяляла зблытаная сетка дажджавой вады, што лілася са страхі ганка.
— Што думаеш рабіць?
— Знойдзецца работа шаферў. І тое, што старшыня загадае...
— Загадае...— злосна працягнуў Пятровіч.— Я загадваў табе рабіць толькі добрае. А ты?
Прыгожы твар Васіля крануў цень непрыемнасці.
— Бывае, Васіль Якаўлевіч.
— Бывае...
Пятровіч яшчэ раз глянуў на ладную постаць шафёра і рэзка сказаў:
— Не той дарогай ты пайшоў. Увесь час будзеш блытацца.
— Чаму ж?
— Успомніш маё слова. Папярэджваў цябе, прасіў, а ты? Не можаш ладзіць з аўтамабілем.
Васіль узняў галаву, вялікімі чорнымі вачыма глянуў на Пятровіча.
— І за гэта дзякуй.
Хутка сунуў рукі ў бакавыя кішэні курткі, павёў позіркам уздоўж вуліцы. Здавалася, павернецца і пойдзе, упарты, фанабэрысты.
— Па камсамольскай лініі атрымаў спагнанне?
— Вымову закацілі.
— Мала...
— Вам, Васіль Якаўлевіч, не ўнаровіш. Бывала, Васіль Славінскі па двое сутак не выпускаў баранак з рук, днём і ноччу ездзіў, а вам усё было мала. Нарэшце гэты выпадак... Што ж? Далі вымову, атрымаў адміністрацыйнае спагнанне — на два тыдні пасадзілі ў турму, за паўмесяца зарплаты не дадуць. А вам усё мала. Вы сталі, як той Аціла...



— Пра паходы Аціла я табе як-небудзь раскажу. Гэта сівая старажытнасць. Давай лепш думаць пра нашы дні.
Васіль Якаўлевіч Пятровіч узяў Славінскага Васіля за жывое. Шафёр наравіста паправіў гальштук, нібы ён цісну шыю, узняў вочы на старшыню.
— А я хіба не думаў? Ды не толькі думаў — рабіў,— кіўнуў на стос бярвенняў, што віднеўся каля праўлення.— Хто цэлую зіму вазіў? Хто тры вагоны ўгнаенняў разгрузіў? Не пад адхон, а ў падпавець калгаса «Маяк».
— Ты. Ты адзін,— безуважна пацвердзіў Пятровіч.— Астатнія калгаснікі сядзелі склаўшы рукі.
— Не вельмі разагналіся.
Васіль надзьмуўся. На яго чорных бровах іскрыліся дробненькія расінкі дажджу. Пухлыя вусны сцяліся.
— Асноўную работу зрабіў, то цяпер не магу ладзіць з аўтамабілем. Няхай будзе так.
Васіль азірнуўся наўкола.
— Прачніся! Што ты кажаш? Асноўную работу зрабіў? Асноўная работа наперадзе. Скора пачнецца сяўба.
Пятровічу здалося, што Васіль яго не слухаў. Быццам бы сам з сабою разважаў уголас.
— Я кепскі? Што ж... Знайдзіце сабе лепшага. А я як-небудзь...
— Не як-небудзь, а будзеш рабіць, як нам трэба. Ідзі да Чыжа. Словам, да свайго цёзкі... скажы, што я паслаў. Дасць табе трактар і, калі дазволіць пагода,— заўтра ў поле. Пытанні ёсць?
Бровы ў Васіля падскочылі, і ён увесь неяк сціснуўся.
Кінуўшы халодны позірк на Пятровіча, які пачаў сыходзіць з ганка, нічога не сказаў, пацягнуўся рукой да патыліцы, потым пстрыкнуў пальцамі ў паветры, выпрастаў плечы, узняў галаву і цвёрда пайшоў па вуліцы.

## 2

І чым далей адыходзіў Васіль ад Пятровіча, тым больш яго падмывала злосць. Хацелася нават вярнуцца да старшыні і пагаварыць з ім на «басах».
«Скажу, што не буду болей рабіць у калгасе. Няхай не разлічвае на мяне. Не дазволю папіхаць сабою! Не пасадзіць мяне на машыну...— перадражніў старшыню.— А на трактар я сам не пайду. Ясна?»
Злосна паглядзеў сабе пад ногі і нават завярнуўся ісці назад.
Аднак дзе цяпер Пятровіч? У праўленні? Не. Не любіць сядзець у канцылярыі. Скарэй за ўсё падаўся ў якую-небудзь брыгаду.
Васіль уздыхнуў і павярнуў у двор да сябрука Кастына.
Загрукаўшы чаравікамі на ганку, узяўся за клямку дзвярэй.
— Алё, я тут! — гукнуў Кастын з падпавеці.
Сярод двара яны павіталіся.
— Я цябе ўчора чакаў.
— Ранавата...
Кастын з незатоенай цікавасцю разглядаў дружбака. Не было ўжо ў Васіля ранейшай зухаватасці. Хоць быў ён вясёлы, але нейкі стрыманы.
— Сядзем.
Кастын першы сеў на тоўстую бярозавую калоду пад плотам.

— Свет, браце, не без добрых людзей. Знаёмы дзяжурны выпусціў раніцай. Каб не ён, то толькі заўтра прыйшоў бы...
— Як там?
— Турма ёсць турма. Няхай яе... Гэта не матчына хата,— Васіль шмараваў абцасам чаравіка па мокрай зямлі.— Сядзіш дома і думаеш, што ўсюды ціха і добра. А як трапіш туды... чаго ні ўбачыш, чаго ні пачуеш. Здарава, брат, караюць за п'янства, хуліганства. Словам, выкарчоўваюць гэту дрэнь. Добра, што я на тым вяселлі не вельмі...
— Ага, не вельмі!
— Што?
— Каб я не наскочыў, то наламаў бы ты дроў...
Васіль паглядзеў на чорныя ад металу рукі Кастына.
— Нешта не памятаю.
— П'яны быў.
— Шкада машыны.
— Нічога з ёю не зрабілася. ДТ выцягнуў.
Твар у Васіля перасмыкнуўся.
— А ты што робіш?
— Схаваўся ў падпавецць падстрыгаць восці. Ноччу сходзім на рыбалку.
— Глядзі, каб за восці не схадзіў туды, дзе я быў.
— Дык мы асцярожна.
Хлопцы пасядзелі, памаўчалі.
— На тваёй машыне ездзіць Пятрэнкаў Іван. Учора забіраў лемяхі трэцяй брыгады, то хваліўся, што ўвесь час на ёй будзе рабіць. А ты як?
— Я як-небудзь.
— У горадзе напытаў месца?
— Не шукаў.
— А ўсё-такі, што думаеш рабіць? — дапытваўся Кастын.
— Магу ўзяць трактар. У жніво перасяду на камбайн.
— І то праўда!
— Магу ў горад пайсці.
Хлопцы пазіралі на вуліцу, прыслухоўваліся да галасоў жанчын, якія сабраліся каля калодзежа.
— Ты нешта пасеяў ужо? — зірнуў Васіль за плот агарода.
— Нічога я не рабіў.
— А вунь?
— Гэта маці ўкінула два кошыкі ранняй бульбы. Астатні агарод не чапаў. Цяпер у нас пачынаецца такое... Уся ўвага жывёлагадоўлі.
— І добра.
Па твару сябра Васіль убачыў, што той яшчэ нешта мае сказаць.
— А тут якія навіны?
— Зоню сустракаў?
— Калі тое было? Іду вось толькі...
— Як цябе пасадзілі, то, здаецца, на другі дзень прыехаў да нас аграном. Інспектарам лічыцца. З брыгадзірамі распрацоўвае планы, вышуквае, знаеш, рэзервы. Ну, а вечарам у клуб заходзіць. Зоня з ім на танцах кружылася. Значыцца, маеш напарніка.
У грудзях Васіля непрыемна заныла.
— Хлопец ён відны. Зоня, брат, не горшая. Аграном знае многа танцаў, модных, не нашых. У суботу добрага паўвечара ён танцаваў з Зоняй, а мы сядзелі і рагаталі.
Васіль угінаў галаву.
— А чаго, кажаш, рагаталі на танцах?



— Уяві сабе пару: хлопец і дзяўчына. Стаяць на месцы і пакручваюць клубамі, вось-вось пераломяцца ў паясніцы. Мы глядзелі і аж заходзіліся...
Васіль глянуў у твар Кастына.
— Дзякуй, што сказаў.
— Няма за што. Толькі...
— Будзь спок...— Васіль прыклаў два пальцы да вуснаў. Устаў з калоды, падаў Кастыну руку.
— Бывай, дружа...
Выйшаў на абсохлую вуліцу, падаўся ў той канец сяла. Занадта быў заняты навіной, якую пачуў ад Кастына. Тое, што Пятровіч сказаў пра трактар, сплыло кудысьці на дзесяты план. Што яму трактар або аўтамабіль? Вось аснова яго жыцця! За кратамі штоноч ён сніў яе. Зранку сёння птушкай паляцеў бы сюды. Аж яна знайшла сабе другога. Аграном! Не наша братва, шафярня!
Васіль скрыгануў зубамі. Адчуваючы непрыемны жар у грудзях, прыспешыў крок.
Але вось праява. Чым бліжэй быў медыцынскі пункт, тым больш Васіль спакайнеў. І думкі нават паплылі ў другі бок.
«А калі на ўсё гэта паставіць крыж? Павярнуцца назад, і няхай яна танцуе з аграномам»,— мільганула думка, ад якое ён прыцішыў крок. Азірнуўся наўкола, затрымаў позірк на зялёных аканіцах Паўлюковай хаты. Апынуўся на шырокім ганку медпункта, без ахвоты ўвайшоў у калідор. У нос даў рэзкі пах лекаў. Зрабілася млосна і дух заняло. Ён шкрабянуў рукою па дзвярах прыёмнага пакою. Яны скрыпнулі і паслухмяна адчыніліся.
— Гэта я...
З-за стала ўсхапілася Зоня, зашамацела белым накрухмаленым халатам.
— Добры дзень! — сказала Зоня і падышла да яго.
Васіль не адказаў. Ён адразу заўважыў, што яна яго не чакала.

## 3

Маня, бразнуўшы дзвярыма, шпаркім крокам увайшла ў хату. Скінула паліто, павесіла яго на крук.
— Дзе хаця бавілася?
— Кантрольную работу пісала.
— То снедай адна. Мы ўжо адкаціліся ад стала. Бацька пайшоў у Перадзел глядзець зямлю. Не ўседзіць дома,— сказала Арына дачцы, седзячы за швейнай машынай.
Маня памылася. З махрастым ручніком цераз плячо падышла да люстэрка, выцерлася, расчасала струкаватыя валасы. Далонямі пагладзіла ярка-ружовыя шчокі, выскубнула валасок з левага брыва.
Схіліўшыся над сталом, ела яечню, запівала параным малаком, праглядала газету.
— Мама, да нас у госці прыедзе Фідэль Кастра.
Машына перастала чахкаць.
— Каторы з барадой? Можа ў наш калгас?
— У Савецкі Саюз,— не адрываючыся ад газеты, адказала Маня.— І да нас няхай прыязджае. Ёсць што паказаць.
— Дачушка, да нас не даедзе. Перахопяць другія.
Маці пазірала на жаўтаватыя масніцы падлогі, дзе пярэсты коцік дурэў з клубком нітак, задумалася.

І яна калісьці марыла, што дачка будзе вучыцца ў сталіцы, у Маскве. Тады Маня намагалася паступіць у машынабудаўнічы інстытут, але на першым жа экзамене зрэзалася і, схуднелая, учарнелая, вярнулася ў бацькаву хату.

Не скардзілася, не плакала, разважліва сказала:

— Буду рабіць у калгасе.

— Не адрывайся, дачка, ад зямлі,— падтрымаў яе бацька.

У той жа дзень Маня трапіла на вочы Пятровічу. Ніколі не хвалілася, пра што яны гаварылі, але назаўтра пайшла на ферму працаваць даяркай. Робіць ужо тры гады. Некалькі разоў ездзіла ў Мінск на нарады. Надоечы паказвалі па тэлевізару як ударніцу камуністычнай працы. Яна цяпер старшая даярка, завочна вучыцца ў інстытуце.

Маня паснедала, прыбрала са стала.

З шафы на плечыках выняла плацці, выбрала шарсцяное бурачковага колеру, пераадзелася, пакруцілася на адной назе перад люстэркам, а калі ўзялася фарбаваць губы, Арына кашлянула.

— У кашары збіраешся?

— У праўленне іду.

Арына не любіла, калі дачка фарбавалася.

«Нашто шмаруешся? У цябе свайго цвету хопіць на траіх»,— злавалася Арына.

Сапраўды Маня была, як кажуць, кроў з малаком. Шырокая ў крыжы, вузкая ў плячах, тонкая ў таліі, стройная, высокая. Бесклапотна пакручвалася перад люстэркам.

— На бюро іду, мама.

Апранула зялёнае паліто, у тон яму — капялюшык званочкам і падалася з хаты. Арына шустра падхапілася з-за машыны, трымаючы два пальцы на ніжняй губе, стаілася за фіранкай. Сачыла за дачкой, якая стукнула брамкай і пайшла па вуліцы.

«Яно лепш, што асталася дома. І з'есць, і выспіцца, а калі пагуляе, то на вачах у сваіх людзей. Працаваць жа ўсюды трэба»,— уздыхнула Арына.

Маня пайшла і пайшла па вуліцы, абыходзіла лужу паўз самы плот Славінскіх, узялася рукою за вароты. У брамцы нечакана тварам у твар сутыкнулася з Васілём.

— Прывітанне, суседка!

Васіль паціснуў Маніну руку, зазірнуў у сінія вочы. Яна ўмомант запунсавела, пачала вырываць руку.

— Перад дваром лужа, а гаспадар не дбае.

— Манька! Манюня! Дзеля цябе ўсё зраблю, што скажаш.

— Выдумляй болей.

Васіль выпусціў руку, але Маня не ўцякала ад яго, як другія, дзікія. Стаяла бокам, нібы нешта ёй трэба было ўбачыць на агародах. Чула на сабе гарачы Васілёў позірк. Ён узіраўся на яе каштанавыя кудзеркі, знарок выпушчаныя на лоб з-пад капялюшыка, на бровы, на прыгожы носік.

Пафарбаваныя пухлыя губы ледзь прыкметна дрыжалі.

Васіль ціха ўздыхнуў. Таксама стаў бокам і глянуў на агароды.

— Куды ідзеш?

— А ты спрос?

— Нашто так, суседка? Я ж да цябе з усёй душой.

Маня павяла краем вока па яго берэце, па крутых плячах.

— Прышлю сватоў, то паверыш.

— Можа і прышлеш, ды не ў наш двор,— кіўнула Маня ў той канец сяла, дзе быў медпункт.

— Сюды, суседка,— і паказаў на яе хату.

Яна апусціла вочы.

Васіля нібы токам страсянула.

«Такая красуня жыве пад бокам. А я не прыкмячаў»,—усміхаючыся, падумаў Васіль.

Так ён і бавіўся некаторы час у дзіўным роздуме. Маня таксама задумалася, нічога не казала, але ім абаім было добра. Яна нават забылася, што спяшалася. Васіль усміхнуўся, ціха папытаў:

— Як твае бычкі-цяляткі?

— А як твае машыны?

— Кінуў машыну. На трактар перасяду.

Маня вельмі здзівілася. Такі ліхач-шафёр і кінуў машыну.

— Але, папавазіў жанок у горад.

— Бывала, і дзяўчат.

— А мяне ні разу.

— Ты ж на ферме ўсё сядзіш.

Нейкімі другімі, больш светлымі вачамі глянула Маня на Васіля.

— А я падумала адно, чаго такі радасны Чыж. Спаткала раніцай, дык у яго рот да вушэй,— сам сабе смяецца і мяне не бачыць. Аж вунь што!

— Хай не вельмі радуецца. Гэта яшчэ сініца ў небе.

— Добрая сініца! — сказала сур'ёзна.— Аставайся рабіць механізатарам? Га? Калі я праваліліся на ўступных экзаменах і прыехала дамоў, то мне бацька параіў трымацца зямелькі. Паслухалася і не каюся.

— Касачоў Ахрэм дрэнна не параіць,— задумліва працягнуў Васіль.

— І ты падумай,— яна махнула рукой Васілю.— Спяшаюся на бюро.

— Гут бай!

Васіль застаўся адзін. Доўга пазіраў услед Мані. Прыгадаў бюро, на якім разбіралася яго справа. Успомніў, што тады адна яна настойвала не караць камсамольца, які адзін раз спатыкнуўся, лічыла, што можна абмежавацца адным разборам справы. Гэта ж таксама спагнанне. На яе накінуліся разумнікі, уносілі прапанову аб выключэнні.

Васіль прыплюшчыў вока, глянуў на чысты блакіт неба.

«За зямельку, кажаш, трымацца?».

Тулячыся ў весніцах плячамі да слупка, бачыў перад сабою глыбокую сіняву Маніных вачэй.

— Задумаўся, хлопча? — абудзіў яго Сімановіч.— Даўно пара, чалавеча.

— Ну.

— Маці дома?

— Да цёткі пайшла.

— Няхай вечарам прыйдзе ў праўленне. Раскажа агароднікам, як мы калісьці рабілі грады за цагельняй.

— Перадам загад.

— Не загад, а просьбу,— папраўіў Сімановіч, агледзеў двор Васіля.— У гараж сабраўся?

— Скажу, як сакратару, што кіну ўсё і пайду ў горад. Я вам не маленькі хлопчык. Папіхаць будуць розныя... Я...— Васіль задыхаўся, увесь пачырванеў.

Сімановіч паволі ўзлёг локцямі на плот, ссунуў на патыліцу клятчатую кепку. Нават не глянуў на Васіля.



— Часам, не ведаеш, што сказаў бы твой бацька, калі б пачуў такое? — задумліва, нібы ў самога сябе, папытаўся Сімановіч.

Васіль нервова рваў-папраўляў каўнер кашулі, зацята маўчаў.

— Хочаш сваю зямлю кінуць? — Сімановіч павярнуўся да хлопца.— Мы ж яе багата палілі кроўю.

Адчуваючы, што ў грудзях усё заледзянела ад слоў Сімановіча, Васіль парывіста страсянуў галавой.

— За доўгім рублём пабяжыш?

— Я...

— Што ты? Прашкапіўся, хлопча, то не ўцякай у горад, а ў сваім сяле дакажы, што ты не якая-небудзь пстрычка, а чалавек партызанскага роду, ясна?

Васіль угнуў галаву, упарта маўчаў.

— Ідзі на заняткі механізатараў. Каленчыц будзе паказваць новую бульбасаджалку. І табе спатрэбіцца.

У Васіля адно бровы ўздрыгвалі. Сімановіч, выходзячы з брамкі, дадаў:

— І я пайду.

Васіль не бачыў ні сонца, ні чыстага неба. Ён прыкіпеў да плота ў цяжкім утрапенні. Раптам страшэнная ўсхваляванасць вырвала з памяці даўні эпізод, як кінакадр.

Стаяў гарачы дзень. Разам з бацькам у іх двор наехала поўна партызанаў. Пасаскоквалі з коней.

— Пархвен, гэта твой сын? — барадаты асілак узяў Васіля пад пахі і пасадзіў на высознага гнядога каня. Ён адразу ўляпіўся за кусцістую грыву, голымі пяткамі стаў прышпорваць.

— Адразу відаць, што чалавек партызанскага роду! — прабасіў барадач пад дружны смех партызанаў.

Зараз Васіля нібы хто падштурхнуў. Ён хутка азірнуўся наўкруга.

«Кім я цяпер стаў? Не-е»,— Васіль выпрастаўся і, глянуўшы на агароды, падаўся на вуліцу. Пайшоў не ў паўднёвы канец сяла, як надоечы хацеў зрабіць, а павярнуў на сцежку, што вяла на «чортаў мосцік», адтуль у гараж.

## 4

Славінская Аксеня парадкавала на кухні бялізну. Удыхала пах ветру з ручнікоў, настольнікаў і кашуль. Дзе залатала дзірку, дзе ўшыла гузік. Потым узялася за прас. Зрэдку кідала позіркі за акно. Там віднеліся платы, агароды, лабок хаты Касачовага Ахрэма і вуліца да самых таполяў. Каля Таклюсінага двара сабраўся гурток мужчын.

«Апошнія дні гуляюць,— разважала Аксеня.— Пачнецца пасяўная, то не вельмі пастаіш».

Шурпатай далонню сунула ўслед за прасам, грэла руку, а думкі пра сына не адступаліся. Такое зрабіў, што кабеце няёмка выйсці на вуліцу, паслухаць у гурце другіх, самой сказаць.

«Што ты, жанчына, можаш параіць другому, калі твой сын сядзеў у турме?» — вярэдзіла непрыемнасць Аксеню. Ёй здавалася, што ў апошні час людзі глядзяць на яе зусім не так, як бывала. У позірках вяскоўцаў лавіла здзіўленне, дакор і цікаўнасць. Гэта больш за ўсё крыўдзіла яе.

Паставіла прас пад прыпечак, злажыла адпрасаваную бялізну на табурэце. Сабралася ісці ў сені і за акном убачыла суседскую дачку

Маню. Аксені здалося, што дзяўчына, мінаючы двор, запаволіла крок, з цікавасцю паглядзела на хату.

«І яна, мусіць, так глядзіць, як другія? — з крыўдай падумала Аксеня.— А харошая дзеўка!»

Без патрэбы падышла да прыпечка, заглянула ў чыстую палавіну на Васіля. Ён згорбіўся за сталом над кнігай. Мыляў губамі, не бачыў Мані, не чуў матчыных крокаў.

— Цётка Агапа прасіла, каб заехаў калі. Хоча перавезці клець у сяло,— сказала сыну.

— Позна, мама.

— Чаму?

— Трэба было цётцы Агапе думаць пра гэта, калі ўсю зіму ездзіў паўз яе. Мог адным рэйсам забраць яе клець.

— Падсохне дарога, то перавязеш.

— Позна, кажу. Не раблю больш на машыне.

Аксеня рукой ухапілася за вушак дзвярэй.

— А дзе ж ты што робіш?

— На трактар перасеў.

Краем вока Васіль убачыў, што на ілбе ў маці разгладзіліся маршчыны, павесялеў позірк задуменных вачэй. Лёгка з'ехала з вушака рука, жменькай падабрала губы.

— Кавалак хлеба і на трактары зараблю.

— Дзіва што!

Маці не магла ўтаіць радасці ад таго, што пачула. Была ўпэўнена, што непрыемнасці апошніх часоў, якія зваліліся на сына і на яе галаву, залежалі ад таго, што ён працаваў шафёрам. Бог ведае куды ездзіў, з кім і калі. Не было яму ні дня, ні ночы. Харчаваўся дзе прыйдзецца, больш за ўсё ў сталоўках, чайных, буфетах. А дзе буфет, там піва, віно...

Аксеня затое радавалася, што, дзякуй богу, зноў вернецца час, калі Васіль адробіць на полі сваё, ды дамоў. Ні табе сталовак, ні буфетаў, ні кампаніі.

— Кецькава Марфа надоечы хвалілася на сяле, што яе меншы зарабіў летась тону збожжа.

— Механізатары цяпер...— Васіль не адрываўся ад кніжкі,— асноўная сіла калгаса.

— А Маня Касачова? Ездзіла, пялася, хацела дзе ўбіцца на вучобу. Высахла, як таран, і вярнулася да бацькі. Усе ўкрадкам смяяліся, што вельмі высока брала, а нізка села — пайшла на ферму. А гэта глянь, якая зрабілася. Нікуды не ад'язджаючы вучыцца, працуе. Яе запрашаюць у раён, у сталіцу. Па тэлевізару паказваюць.

Васіль пачуў гаворку пра Маню, узняў бровы, радасна ўсміхнуўся.

— Ішла паўз наш двор, дык зямлі не чула пад нагамі,— сказала маці і адчыніла шафу.

Яна не хваліла, што сын ходзіць у медпункт, знаецца з Зоняй Понтус. Не імпанавала ёй Зоня ні сваім гарадскім паходжаннем, ні вопраткай. Ніяк яна не магла сабе ўявіць медыцынскую сястру сваёй нявесткай. Душа ляжала бліжэй да Мані. Дзяўчына з свайго сяла, ветлівая, вырасла па суседству.

Аксеня ўзяла некалькі кашуль, зачыніла шафу.

— Нечыяй матцы будзе добрая нявестка,— падумала ўголас, парадкуючы на стале кашулі.

— Можа якраз маёй? — мнагазначна папытаўся Васіль.

«Каб сын узяўся за розум, як бы я рада была»,— падумала яна і з бялізнай выйшла ў сені. Адчыніла куфар. З прыскрынка звешваўся пук сухога плюшніку і чабор. Густы пах траў чамусьці напомніў шчаслівыя гады маладосці.

«Хай бы Пархвен паглядзеў на сына,— Аксеня ўладкоўвала бялізну ў куфры і быццам раілася з мужам.— Можа, Васіля трэба жаніць?»

Толькі зачыніла куфар, выпрасталася і пачула крокі на ганку. У сонечным прамавугольніку сенечных дзвярэй паказаўся чалавек у капелюшы. Аксеня ўзіралася ў яго чорны сілуэт, не пазнала.

— Добры дзень! Васіль Пархвенавіч дома?

— Дома. Сядзіць чытае.

Аксеня зачыніла сенцы, заспяшалася ў хату. Чужы чалавек павітаўся з Васілём.

— Калі не вы да мяне, то я да вас прыйшоў. Так сказаць, не Магамет, а гара да Магамета.

— Сядайце, таварыш Каленчыц,— Васіль падсунуў яму крэсла.— Збіраўся сёння да вас. Нават крышку падчытаў.

— Што чыталі?

— Эксплуатацыю ДТ.

— Хвалю.

Каленчыц сёння быў зморany, але гаваркі, як і ў першую сустрэчу на «чортавым мосціку». Яго чуб пабліскваў антрацытам, а твар адліваў бронзаю. Ён разгарнуў даведнік у шэрых вокладках, выняў з кішэні запісную кніжку.

— На якіх трактарах працавалі?

— ДТ-54, на першых серыях «Беларусь».

— А я захапіў ХТЗ, У-2. Мы тады збіралі, што асталося ад вайны. Вайсковыя часці перадавалі калгасам свае трактары, а пасля і прамысловасць дала нам прадукцыю. Сядайце бліжэй. Пагаворым аб нормах выпрацоўкі.— Каленчыц пільна зірнуў на Васіля.— І цяпер будзеце працаваць на ДТ-54?

— Пачну на ДТ. Пасля можна перасесці на «Беларусь». Усё будзе залежаць ад глебы...

Каленчыц ківаў галавой, прачытаў сярэднія нормы выпрацоўкі па ворыву. Сачыў за Васілём. Улавіў здзіўленне на твары субяседніка.

— Нешта многа,— раздумліва сказаў Васіль.

Каленчыц убачыў, што хлопец падахвоціўся, зацікавіўся і добра разбіраецца ў аб'ёме работ, якія заключаўся ў прыкладных лічбах даведніка. Відаць, быў калісьці нядрэнны трактарыст.

— А ведаеце, якія рубяжы намеціў Чыж Васіль? Дзесяць га!

Каленчыц заўважыў, што Васіль не здзівіўся. Гэтая акалічнасць вельмі зацікавіла інспектара.

— Камсамольцы не могуць раўняцца на сярэднія лічбы. Вы гэта самі адчуваеце. Камсамол заўсёды ішоў у авангардзе.

— Разумею.

— Вам спачатку цяжка будзе. Даўно працавалі на трактары. Пасля пойдзе, як па маслу.

— Вы пра Чыжа сказалі...

— Ён узяў не малыя абавязацельствы.

— Чыж больш зробіць.

— Адкуль вы ведаеце?

— Ён жа мяне вучыў, выпраўляў у першую баразну. Гэта патрыярх усіх нашых трактарыстаў,— з гордасцю сказаў Васіль.

— О! Вам якраз раўняцца на перадавікоў,— працягваў Каленчыц, аглядаючы Васіля.— Мы павінны даць краіне багацце прадуктаў. Быў я ў «Перамозе». Там узялі прыкладна такія нормы.

— У іх зямля лягчэйшая,— адказаў Васіль.

Аксеня ціха сядзела за сталом на кухні. Дзіву давалася, што гарадскі чалавек, а так добра ведаў сельскія работы, разбіраўся ў трактарах, машынах. Радавалася, што Каленчыц гаварыў з сынам, як з роўным. Праўда, Васіль упінаўся, казаў, што нормы вялікія, але пасля доказаў Каленчыца ўсё-такі пагадзіўся. Аксеня не баялася, што сын астанецца ззаду. З ім такога яшчэ не бывала.

«Каб ты, чалавек, камандаваў Васілём, то ён нікуды б не збочыў»,— яе думкі паплылі ў такім напрамку. Задумалася, згубіла нітку гутаркі сына з Каленчыцам.

Схамянулася, калі яны ўжо гаварылі аб іншым.

— Хто гэта?

— Бацька. А гэтага вы ведаеце...

Аксеня здагадалася, што яны разглядаюць фотакарткі на сцяне.

— Няўжо Чыж?

— Ён з маім бацькам на прадвесні сорак чацвёртага года падлезлі і ўзарвалі мост на шашы каля Мазран. Немцы як пачулі выбух, то і далі па ўзлеску з усіх мінамётаў. Бацька ўпаў. Чыж падхапіў яго на плечы і нёс чатыры кіламетры. Вылечылі яго ў партызанскай зоне, і ўсё было добра. На кастрычніцкія святы ў пяцідзесятым годзе на вуліцы ўхапіўся за сэрца і ўпаў. Выявілася, што пад сэрцам былі асколкі ад міны.

— А чый гэта хлопчык?

— Угадайце.

Ціха стала ў той палавіне хаты.

— Наш сакратар.

— Сімановіч?

— Хлапчуком пайшоў у партызанскі атрад. Разведчыкам быў. У Зарэччы аднойчы злавілі яго немцы і расстралялі ноччу ў глінішчах. Раніцай пайшлі людзі і не знайшлі яго. Аказваецца, ён з прабітым плячом выпаўз з ямішча і ў поўнач дабраўся да Замошша, а адтуль у партызанскую зону. Адчайны чалавек!

Каленчыц яшчэ трохі пагаварыў і развітаўся з Васілём. Маці падаў руку.

— Бывайце здаровы!

Аксеня доўга стаяла каля акна.

— Хто ён такі?

— Разумны чалавек, мама.

— Трымайся, чалавеча, такіх людзей,— сказала яна і пайшла ў сенцы.

Васіль астаўся адзін. На ўсю хату радасна засвістаў. Лёгка патупаў каля стала, разгарнуў кніжку і, падпёршы твар рукою, узяўся чытаць далей. Чыталася вельмі добра. Аднак калі прыгадаў словы Каленчыца, спыніўся.

«Сапраўды, столькі гадоў не сядзеў на трактары. Як я буду працаваць?» — папытаўся ён і ўспомніў Пятровіча. Не абураўся, як пазаўчора, а падахвоціўся і прагледзеў кніжку да палавіны.

Адвёў позірк на белы льняны настольнік, прыжмурыўся. Усплыў вобраз Зоні. Хлопец нават узлаваўся, што здарылася так, а калі на змену Зоні паявілася сінявокая суседка Маня, то Васіль стаіўся вельмі здзіўлены, адчуваючы, як лёгка зрабілася ў грудзях.

На сцяне трэснуў рэпрадуктар. Сімановіч аб'явіў, што ў клубе будзе дэманстравацца кінафільм «Тры мушкецёры».

Васіль радасна ўсміхнуўся і хутка ўстаў з-за стала.



## 5

Вярнуўшыся з поля, Васіль павячэраў на скорую руку і на хвіліну спыніўся каля люстэрка, паправіў на галаве берэт.

— Спяшаюся,— з парога сказаў маці і шырокім крокам ступіў з ганка.

Мінаючы вароты Касачовага Ахрэма, загледзеўся на вокны з цюлевымі фіранкамі, запаволіў крок. Апамятаўся, калі мінуў гародчык, усміхнуўся.

— Траха на плот не ўзбіўся,— глянуў уздоўж вуліцы.

Узбегшы на ганак праўлення, спаткаў Кастына.

— Здароў, брацэ,— пацiснуў руку дружбака.— Даўно бачыліся. Дзе быў?

— На бюро. Я ж на лятучцы раблю...

— Знаю.

— На Нандатках Хоўба сеялку растрос. Недзе зачапіў за камень. Дак хацеў зважыць на мяне. І Адынец быў за яго.

— Ну.

— Сам паламаў, няхай сам і адказвае,— Кастын азірнуўся.— Летась таксама нагаворваў, што дрэнна адрамантавалі машыны. От чалавек!

— Кіпець, а не чалавек.

— З Каленчыцам мы яму паказалі, як трэба рабіць на сеялцы. Бюро даўно засядае. Ідзі.

— Пра мяне не ўспаміналі?

— Пры мне не. Пасля я забягаў да бухгалтара.

— Бывай!

Васіль адчыніў дзверы бакавога пакоя.

— Заходзь, таварыш Славінскі,— сказаў Адынец, сакратар камсамольскай арганізацыі.

Сядаючы на вольнае крэсла, Васіль адсопся, прыслухаўся. Зразумеў, што разбіралі план работы на наступны месяц.

«Звычайна план зацвярджаюць у пачатку, а гэта ўсё перамяшалі. Мусіць спяшаліся Кастына разбіраць»,— павёў вачамі ад акна, дзе сядзелі члены бюро, спаткаўся з кароткім, з-пад ілба, позіркам Мані, якая выглядала з-за Каленчыца. Адразу пацяплела ў грудзях. Хлопец не вытрымаў, адвёў вочы. Пасля адсунуў сваё крэсла бліжэй да сцяны. Разглядаў свае рукі, паклаўшы іх на калені. Пачуў, што на твары, як сок, выступіў пот. Пацерся хустачкай, краем вока зірнуў на Маню. Яна задумліва глядзела ў акно.

Косыя праменні заходзячага сонца ўпалі на кучаравыя Маніны валасы, асвятлілі асмужаны твар. Васіль не мог наглядзецца на яе. Даўно сустракаўся з ёю днём, а ўсё больш пасля вячэры, калі на вуліцы плаваў змрок.

Сёння яна была задумлівая. Зграбнай рукой паволі папраўляла прычоску, яшчэ больш павярнулася да акна і цяпер была добра відна. Квяцістае плацце аблягала плечы, рэзка адцяняла смуглую шыю. Доўгія вейі трымцелі ў праменнях сонца, а з твару не знікала задумлівасць.

На пабудову стадыёна Адынец адводзіў у плане два месяцы. Каленчыц запярэчыў яму.

— Што карысці з стадыёна, калі вы яго пабудуеце ўвосень? Улетку патрэбен стадыён.

— А што карысці з тэрміну, які паставім у плане і не выканаем?— адказаў Адынец.

Каленчыц не супакоіўся.

## 6

Васіль добра ўгрэўся за рулём. Не спыняючыся, скінуў куртку і павесіў яе ў кутку кабіны. Астаўшыся ў адной кашулі, вольна паварушыў плячамі. Асунуўшы абедзве бакавыя шыбы, пачуў роўныя подыхі пахучага ветру ў твар. Ён весела пазіраў перад сабою на шэры палетак пад іскрыстым сонцам, на пакручастую павуціну дарогі, што бегла на грудок. А з-за яго на асмужаным краі неба віднеліся, як далёкія белыя горы, зацвіўшыя сады ўсяго сяла. Лявей, удалечыні, за калгасным садам, працавалі трактары другой і трэцяй брыгады. Відно было, што яны вельмі завіхаліся. Пазіраючы туды, Васіль таксама не драмаў.

Калі завярнуўся ад дарогі, то сонца ўжо не драбілася ветравым шклом на мноства іскраў, а асталося дзесьці ззаду. З грудка перад Васілём адкрыўся шырокі краявід.

На разложыстым поплаве суседняга калгаса пасвіўся стракаты статак кароў. За ім на палетку саджалі бульбу. Далей хвалявалася зялёна-сіняе жыта, якое даставала да самага канца вёскі. Там, на грудку каля прысадаў, махаў крыламі вятрак. Правей яго на гарызонце дрыжала і цякло, як празрыстая вада, мроіва. Яно размывала і праглынала чорныя кропкі, што хутка пераносіліся то ўправа, то ўлева. Там шаша — бясконцы рух машын.

Угледзеўшыся туды, Васіль пачуў, як у сэрца нечакана таркануў тупы боль. Хлопцу ўспомнілася, як ён па той магістралі ганяў і да Сіняўкі, і за Слуцк, часта даставаў да Мінска.

Паправіўшыся на сядзенні, Васіль мацней сціснуў руль, страсянуў галавой. Халадок прайшоў, стаў вяртацца ранейшы настрой. Быў ён, праўда, цяпер не такі гуллівы і бесклапотны, на яго лёг цень разважлівасці.

Рокат матора мерна слаўся над палеткамі, супакойваў хлопца.

У кабіне зноў заіскрылася сонца, і ён, жмурачыся, усміхнуўся.

«Тут лён узышоў, а за грудамі зелянее ячмень, які я пасеяў,— прыемна думалася хлопцу.— А на машыне толькі прамчаўся б па дарозе, не пакінуў ніякага следу».

Ён кідаў кароткія позіркі на свае рукі і далей уперад у напрамку руху, азіраўся назад на шэра-буры дыван палетку, які аддаляўся ад яго.

А думкі плылі і плылі...

Калі апынуўся ў самым канцы палетка, непрыкметна для самога сябе заспяваў.

Двойчы прайшоў сюд-туд упоперак, закругляючы работу, і выключыў матор. Высунуўся з кабіны і, лёгка ўздыхнуўшы ад таго, што вельмі добра ішла работа, хацеў прыкмеціць, дзе асталася тычка, якую ён паставіў раніцай у пачатку змены. Вока не знайшло яе. Тычку праглынула далечыня.

Васіль скочыў на ворыва і, ступаючы па мяккай зямлі, дайшоў да паплаўчука з кустамі ядлоўцу. Шмаргануў чаравікамі па высокаму мятляку і спыніўся. Уперадзе кучкамі ўзнялася дзікая канюшына з малінавымі кутасікамі шышак. Віднеўся лапушысты сунічнік. Ландышы выкінулі ўверх белыя пацеркі кветак.

За гоні ад яго шумелі бліскуча-зялёным лісцём стройныя белыя бярозы. Лявей цямнеў арэшнік, а вышэй чырванелі сцвалы хвойніку.

Радасна ўзіраючыся, Васіль прайшоў па моры кветак і, выбраўшы лапіну густога дзяцельніку, лёг на спіну, заклаў за галаву рукі і, адчуваючы пякучую слодыч утомы ва ўсім целе, узіраўся ў высокі блакіт.

Ад захаду да самага цэнтру купала неба працягнулася бялюткае, як пяро лебедзя, воблака. Такога ён ніколі не бачыў. Некаторы час пільна сачыў за ім, хацеў зразумець, куды яно рухалася, а потым і рукі раскінуў, адчуваючы імі цёплыя лісточкі, з-пад якіх ішоў прыемны халадок травы. Нават усміхнуўся ад таго, як было яму добра, успомніў ноч, кладку.

«Хацеў уцякаць, не ведаў, дзе ўсміхнецца шчасце»,— падумаў Васіль і сцішыўся.

У вышыні плыў вецер, пругкі, цёплы. А ў зацішку, доле, хлопцу было чуваць, як на кветках дзяцельніку гулі пчолы, у арэхавым кусціку абзывалася кволая пеначка. З вяршалін бяроз даносіўся пошчак дзятлаў.

«Пасадзім бульбу — і канец пасяўной. Пасля возьмемся за дагляд пасеваў. Хутка сенакос явіцца, а там жыта паспее. Тады перасяду на камбайн. Эх!» — да хрусту ў суставах пацягнуўся ён, лежачы на мяккай зялёнай траве.

Адна за адну чапляліся думкі, прыемна хвалявалі.

Дзесьці дзынкнуў званок. Праўда ці толькі здалося? Васіль паляжаў моўчкі, прыслухаўся. Роўна шугаў вецер, шапацела лісцё арэшніку і бяроз, шчабяталі птушкі.

Хмельная парнасць зямлі кружыла галаву.

«Калі яшчэ так трохі паляжаць нерахума, то чорт ведае, што здасца»,— усміхнуўся ён і цяпер выразна пачуў крокі па траве ўзлеску.

Хутка падняў галаву. Старанна працёр вочы і ўсхапіўся на ногі. Сцягнуў з галавы берэт, трасянуў чупрынай і, развёўшы рукі, замёр у здзіўленні.

Па краі поплава, ведучы ў руках веласіпед, да яго ішла Маня. Штосьці завязанае ў белае прытрымлівала на рулі, ступала па траве, высока паднімаючы зграбныя загарэлыя ногі ў белых туфлях.

— Механізатар адпачывае! — гукнула яна, падышоўшы бліжэй.

Не паспела апамятацца, як Васіль ужо быў каля яе. Абдаў пахамі едкай саляркі. Абняў, ускудлычыў валасы, кінуў іх ёй на твар.

Маня адной рукой уперлася яму ў грудзі, перасцерагла.

— Абед разальеш!

Васіль паслухмяна адхінуўся.

— Што?

— Не штокай. Абед! — адкінула з твару валасы, паволі зняла з руля вузельчык з настольніка, паставіла на траву.

— Сілкуйся,— сама адвяла веласіпед і пярэднім колам уехала ў куст. Далонямі зверху ўніз абгладзіла зялёнае плацце і, убачыўшы здзіўленне Васіля, гарэзна засмяялася.

— Ага! Дзіўна? Нябось, сэрца ў пяткі заскочыла?

Васілю сапраўды ўсё гэта да таго было дзіўным, што ён не мог зрушыць з месца.

— Ідзі сюды. Не падумай чаго такога. А то зафанабэрышся зусім. Маці несла гэты вузельчык, а я дагнала каля моста. «Куды, пытаюся, цётка?» — «Абед нясу Васілю».— «Давайце, кажу, цётка, сюды. Еду якраз у кашары і завязу харч вашаму сыночку».

Маня села на траву.

— Так і сказала?

— Думаеш, не? Развязвай і еш.

Васіль упаў на калені побач з Маняй, развязаў настольнік. Канцы



яго разаслаў на траве. З гаршка-злівачка зняў талерку грэцкіх бліноў.

Аглядаючы такі імправізаваны стол, здзівіўся.

— А чаркі няма!

— Я табе дам чарку! — пагразіла Маня пальцам.

— Сухі закон. Маўчу. Падсоўвайся бліжэй,— сказаў ён.— Вось табе лыжка.

— Я дома паабедала.

— Нічога не ведаю. Бяры,— і падаў пульхны блінец.

Маня не хацела есці, але, каб не пакрыўдзіць Васіля, падсунулася, зачэрпала пахучай верашчакі, якая яшчэ не паспела астыць.

Васіль у трубачку скруціў блінец і сунуў у гаршчок.

— Гэтым інструментам не адстану ад цябе,— смеючыся, сказаў ён, але ўбачыўшы, што Маня палажыла лыжку, перастаў жаваць.— Не смачна?

— Чаму ж? Добра!

— Ты не будзеш есці — і я не буду.

Маня, дурэючы, паняла далонню яму па шыі, падсунулася зусім блізка. Пад паўдзённым сонцам, на ветры, так вось яны, седзячы на зялёнай мураве, абедалі, гаварылі, радасна ўсміхаліся. Яна сачыла, як Васіль з апетытам вымазваў блінам гаршчок, а потым узяўся за сыр з малаком. Не ўтрымалася, гарэзна бліснула сінімі вачамі.

— Абед халасцяка! — звонка засмяялася яна.

А Васіль, закінуўшы назад галаву, дапіваў бутэльку малака, потым падкінуў уверх пустую і, як жанглёр, злавіў на ляту, закаркаваў. Згарнуў посуд у настольнік, завязаў вузлом.

— Дзякуй, суседка! — сказаў ён.

— Эх, няма фотаапарата! Ты сёння такі прыгожы! — Маня дастала яго шавялюру смуглай рукой, церабіла пальцамі. Ад яе густа пахла палявымі кветкамі.

— Каб ты ведаў, што я табе скажу? — яна прыняла руку з яго галавы.— Паслязаўтра еду на экзаменацыйную сесію.

— Прывет! — Васіль у момант спахмурнеў, пацёр лоб.— Выклік прыслалі?

— Сёння атрымала.

— Надоўга... едзеш?

— Як усе гады — на месяц. Калі здам усё, то перайду на чацвёрты курс.

— Каб ты ды не здала,— сказаў ён задумліва, пазіраў то на поле, то на поплаў, нібы чаго шукаў.

Вострае вока Мані прыкмеціла, як ён адразу занудзіўся, і яна каялася, што паведаміла яму пра сесію. Няхай бы ўсё было па-ранейшаму. Сказала б перад саменькім ад'ездам і не бачыла б суму ў дарагіх чорных вачах. Сэрца яе сціснулася жалем.

— І ты не лайдач, а рыхтуйся. У наступным годзе паступіш і будзеш вучыцца,— сказала Маня, пазіраючы на бліскуча-зялёныя вяршаліны бялюткіх бяроз, якія плаўна хіліліся на ветры.

Васіль узняў галаву. Правёў рукою па непаслухмянаму чубу і, выняўшы з кішэні берэт, надзеў яго. У чорных вачах бліснулі ўпартыя агеньчыкі.

— Ты ж не Янчукоў Пеця.

— Канечне! Пеця дзесяць класаў скончыў, а я толькі сем.

— Пеця адно адзінаццатага калідора не прайшоў. А што ведае? — працягвала яна.— За год падрыхтуешся. Дапаможам табе.

— Хто гэта дапаможа?

— А хоць бы і я.

— Ого-го! Трэба я табе!

Васіль разгаварыўся, прыкметна павесялеў. Маня ўстала, пакруцілася на адной назе, улавіла на сабе позірк Васіля.

Яны паволі ішлі па шаўкавістай траве між пахучых ядлоўцавых кустоў. Васіль злавіў яе руку, прыцягнуў да сябе. Абняў гарачыя плечы.

— Людзі ўбачаць!

— Якія людзі? — пацалаваўшы, сказаў Васіль.— Тут толькі лес ды поле. А іх няма чаго саромецца. Няхай глядзяць...

Не памятаючы сябе, Васіль схапіў яе на рукі і стаў гушкаць, як малую. Ён нічога навокал не бачыў. Радаваўся, слухаючы роўны шум у вушах.



ПРОЗА



*аляксандр капусцін*

# БОМБА

## АПАВЯДАННЕ

Мал. К. Ціхановіча

Ліпеньская раніца таго дня была светлай і ціхай. Сонца залівала сваімі лагоднымі праменнямі нашу Старую Рудню, вялікую вёску з дагледжанымі акуратнымі хатамі, поле і лес, якія раскінуліся за ёю шырокімі абшарамі. І зусім не верылася, што дзесьці грымяць страшэнныя выбухі, што каторы тыдзень ужо лютуе вайна. Не хацелася верыць, але куды дзенешся: раптам над наваколлем павіс густы, нудны гул. Ён як зваліўся цяжарам, ціснуў, душыў усё жывое. Самалёт вырваўся з-за лесу. Над вёскай, павярнуўшыся да зямлі бокам, на якім былі намаляваны чорныя крыжы, ён даў круг, узяў кірунак на чыгунку — па ёй у бок Жлобіна ішоў цягнік.

Я стаяў на сваім двары і бачыў, як з самалёта пасыпаліся бомбы. Можа ніколі ў жыцці не даводзілася мне адчуць такога жаху, як тады: мне падалося, што бомбы ляцяць якраз на нашу хату, што гэта сыплецца мая смерць. Не памятаючы сябе, я кінуўся за плот, стаў шыцца ў лоўж з калючага галля сухой грушы, якую мы з сястрой спілавалі надоечы, шыўся, быццам мог там уратавацца. Не чуў, як падрапаў рукі, твар, шыю.

— Вылазь ужо са свайго бамбасховішча. Адбой.— Гэта сказаў мой дружбак Сяргей Аскерка.

Нашы агароды былі побач. Ён таксама, мусіць, недзе тут хаваўся і ўбачыў мяне.

У наваколлі зноў стала ціха.

— Вытрыся, акрываўіўся ўвесь аб гэтыя калючкі. Ці можа асколкі патрапілі? — Ён сумна, ніякавата ўсміхнуўся, губы яго ледзь-ледзь дрыжалі.



Бомбы не пацэлілі ў цягнік, разарваліся на пшанічным полі, што раскінулася паабапал чыгункі. Калі мы з Сяргеем прыбеглі туды, асколкі былі яшчэ гарачыя.

— Глядзі, адна не ўзарвалася.— Сяргеевы цёмныя вочы пабольшалі, ён паказаў пальцам: — Вунь чарнее, бачыш?

З зямлі над склычанай палеглай пшаніцай тырчэла крылле стабілізатара. Мы асцярожна падышлі да бомбы — якая ж яна? Стаялі, пазіралі. Я і сам не ведаю, адкуль у мяне з'явілася думка: от каб ведаць, як разабраць. Захацелася як-небудзь выцягнуць бомбу. Але перажыты страх яшчэ жыў у душы, ён быў мацнейшы за цікаўнасць: дакраніся, дык рване — касцей не збяруць...

Поле агарнула ранішнім цяплом, у небе зазвінеў жаўрук. Сяргей, бы нешта ўспомніўшы, задраў у неба галаву, доўга ўглядаўся на жаўрука.

— Мо яна незараджаная?

— Выдумай... Што яна табе — стрэльба дзядзькі Сідара, з якою ён калгасны сад вартаваў?

— Ды ты паслухай... Нямецкія рабочыя, што з антыфашыстаў, замест толу ў бомбы сыплюць пілавінне. Зразумеў? І яшчэ запіскі розныя туды кладуць. Паранены адзін гаварыў. Хочаш — пайшлі ў шпіталь, ён раскажа.

Палявы шпіталь размяшчаўся ў палатках у калгасным садзе. Мы часта насілі параненым малако, смятану, яйкі, мёд — што ў каго было. У той дзень пайшлі туды адразу з поля. Немалады даўгалыгі баец з перабітым перадплеччам сустрэў Сяргея як добрага знаёмага. Падаў левую здаровую руку, адразу загаварыў:

— Што, напалохаў вас той шэршань? І адкуль ён, нячыстая сіла, узяўся? — На твары яго, хмурным і шчаціністым, рэзка вылучаўся глыбокі свежы шрам. Нам карцела хутчэй пачаць пра сваё, ды ён, як на здзек, не змаўкаў:

— На фронце так нярэдка бывае: здаецца, пацішэла, а ён во ўжо, над галавой. Асабліва «рама» даецца ў знакі. Тая як не па вяршалінах дрэў сунецца. От мы яе і падстрэлілі нядаўна. З процітанкавага ружжа.

Баец палез у кішэню сіняй мультанавай курткі за папяросай. Сяргей, скарыстаўшы гэта, спытаўся таропка:

— Праўда ж, антыфашысты нямецкія ў бомбы пілавінне сыплюць? Ён вось, Алесь, не верыць.

Памарудзіўшы, баец паклаў за вуха папяросу, памацаў закарэлы бінт.

— Кажуць — бывае. Хлусіць не буду, сам не бачыў, а хлопцы казалі.— Раптам ён устрывожана спытаўся: — А вам навошта ведаць?

Мы змоўклі: баец паглядзеў на нас неяк нядобра.

Вярталіся назад задуменныя, прыціхлыя. Калі сталі развітвацца, Сяргей нечакана затрымаў мяне:

— От бы дастаць тую запіску ды прачытаць, га? Што там у ёй?..

Я аж дзіву даўся: як ён зразумеў мае думкі?

— А як бомбу разабраць?

— Як, як...— Ён сярдзіта махнуў рукою.

Праз два дні падвечар я пайшоў да Сяргея. Дзіўна, але мы ўжо ў сваіх думках быццам згаварыліся. Толькі доўга не маглі даўмецца, як тую бомбу з зямлі выцягнуць. Нарэшце вырашылі. Сяргей недзе адшукаў моцную пяньковую вяроўку, на якой, мусіць, яго старэйшая сястра падвешвала да бэлькі калыску, я ўзяў рыдлёўку. Да чыгункі, каб не ўбачылі нас старэйшыя, падаліся агародамі.

Як выйшлі ў поле, Сяргей спыніўся.
— Страшна? Калі так — бяжы назад, пакуль не позна.
— А што ты адзін зробіш? — засердаваў я.— Герой знайшоўся...
Бомбу адкопвалі з аднаго боку. Край ямы зрабілі пакаты. Сяргей прывязаў да стабілізатара вяроўку, адапхнуў мяне ўбок плячом, а сам стаў наперадзе. Вяроўка стромка нацягнулася — сэрца маё задрыжала, затахкала ў грудзях. Слых напружыўся так, што ў вушах ажно тонка-тонка зазвінела. Бомба зварухнулася, мякка лягла бокам на край ямы. Потым зашаргацела па зямлі — падалася ўгору, вылезла ўся.

Непадалёк ад таго месца на лагчыне была пракапана канава, каб туды сцякала вада і не вымакалі пасевы. Бомбу мы пацягнулі да яе. Мяне трывожыла назойлівае адчуванне, што вяроўка вось-вось вылузнецца з маіх рук. І я трымаў яе з усіх жыл, чуў, як горача было ў далонях.

Зацягнуўшы бомбу ў канаву, колькі часу сядзелі знямоглыя, адпачывалі. Канаву заглушыў палын, і бомба ледзь віднелася ў ім — чарнела сваімі гладкімі металічнымі бакамі.

— Каб што — ужо гыркнула б,— сказаў, цяжка сапучы, Сяргей.— Праўда ж?
Ён устаў.
— Хутка сцямнее, пайшлі.
Мы нетаропкай хадою пасунуліся дахаты.
У тую ноч я доўга не спаў. Праз акно пазіраў на зіхатлівы маладзічок, што стаяў у небе, на міглівыя зоркі, слухаў, як недзе на другой вуліцы сонна і нязлосна брахаў сабака. Думаў пра бомбу, пра запіску ў ёй.
Назаўтра маці разбудзіла мяне раней, чым заўсёды.
— Уставай, Алеська, зіма находзіць, а сена карове — ані жмені. Бачыш — пагода. Я пайду лён браць, а ты можа што ў карчах навыбіваеш касою.
Я хуценька надзеў штаны, узяў вядро і пайшоў на двор мыцца.
— Позна спіш,— пачулася з вуліцы.
За кустом бэзу я ўбачыў Сяргея. Падышоў, парукаліся. Ён абапёрся на плот агародчыка, паклаў падбародак на кулакі. Рукавы былі ў яго закасаны вышэй локцяў. Збоку пад папругай сядзелі вялікія абцугі.
— Куды ты з абцугамі?
Над вуліцай насіліся ластаўкі, рыхтаваліся да адлёту ў вырай. Ён сачыў за імі сумнымі вачыма, думаў нешта сваё. Правёў пальцам па чорным пушку над пухлай губой, сказаў не так мне, як сабе:
— У армію б дабравольцам пайшоў, каб узялі. Года якога не хапае... А што там той год?
Потым крануў галінку бэзу, пагладзіў далонню яго густое лісце.
— Дык куды ты, скажы, сабраўся?
— А запіска — забыўся?
З-за вільчыка хаты паказалася сонца. Сяргей зажмурыўся, зноў задумаўся, нібы слухаў нейкія свае неспакойныя пачуцці.
— Давай надвячоркам — тады разам пойдзем,— сказаў я.
— А што табе там рабіць? Адзін упраўлюся.
Ён не зірнуў на мяне, павярнуўся і пайшоў. Мне хацелася сказаць яму наўздагон што-небудзь цёплае, таварыскае, але слоў не знаходзілася. У душы маёй як што надарвалася: пакутлівы, балюча нахлынуў прыкры неспакой, нахлынуў і не аціхаў.





Я заскочыў у хату, загарнуў у газету хлеб і сала, засунуў у кішэню скрутак.
— Чаго ты захадзіўся так, сядзь паснедай,— гукнула ад печы маці.— Во бульбу зараз адцаджу.
— Сама ж казала: раса спадзе — касіць цяжка.
У сенцах я зняў з крука касу, пашыбаваў з двара. За агародам азірнуўся, ці не выйшла маці, ці не глядзіць. Збочыў з пакапычанай коньмі палявой дарогі, абышоў птушнік, што чырванеў бляшаным дахам ля лажка, і звярнуў за прысады.

Яшчэ здаля я ўбачыў: Сяргей сядзеў на бомбе і нешта адкручваў абцугамі. Заўважыўшы мяне, ён крыкнуў:

— Чаго цябе сюды прыпёрла? Не падыходзь блізка.

Пацягнуў далонню па лбе, зноў улёг у работу. Відаць было, як ён з усяе моцы сціскаў абцугамі. Яны скрыгацелі па метале. Скрыгат гэты трывожна аддаваўся ў маіх вушах.

Не памятаю, колькі часу гэта цягнулася. Мне падалося, доўга-доўга, цэлую вечнасць. Раптам Сяргей адарваўся ад свайго занятку, узняў галаву і ўсміхнуўся.

— Ну падыходзь, цяпер можна.

Ён устаў, аднёс убок узрывальнік і зноў сеў на бомбу. На твары і на шыі ў яго блішчаў пот, на пальцы чырванела кроў.

— Зараз прачытаем, што яны там пішуць.— Сяргей усунуў у адтуліну, з якой вывінціў узрывальнік, драціну і стаў там калупацца.

З бомбы пасыпаліся камякі жоўтага, як мыла, толу. Ён узяў адзін, расцёр у пальцах, панюхаў і доўга разглядваў.

— Не тырса... Глянь сам...— Сказаў такім голасам, быццам усё цяпер у жыцці страціла для яго цікавасць і вастрыню. І мяне гэта чамусьці ўразіла больш, чым тое, што бомба не ўзарвалася.

На полі азвалася перапёлка. Азвалася і заціхла. Я чакаў, што птушка вось-вось зноў падасць голас, а яна маўчала. Доўжыліся мінуты. Сяргей нібы не адчуваў вакол нічога, быў як у забыцці. Сядзеў, пазіраў удалячынь. Відаць, затаіў у сабе боль, прыслухоўваўся думкамі да таго, што раптоўна скіпелася ў сэрцы і ляжала там каменем. Мне таксама не хацелася гаварыць.

Сонца вісела над нашымі галовамі. Дзень ужо добра выспеў. Сяргей выцер з твару пот, ссунуў бровы і быццам пастарэў. Пачухаў галаву, зноў узяў камяк толу, раскрышыў у пальцах. Устаў.

— А што, каб рванула?

І раптам размахнуўся, сыпануў тол па канаве. Я пазіраў на яго і не мог зразумець, чаго больш было ў маёй душы: радасці, што смерць мінула яго, ці болю ад таго, што не спраўдзілася такая жаданая надзея.





***мікола кутас***



# паэзія



■

Не трэба слоў.
                    І на двары
Не напалохай далеч крыкам,
Хай ноч нясе свае дары
У каўшы Мядзведзіцы Вялікай.
Падыме ветразь цішыня,
І ты адчуеш кожным нервам,
Што ёсць адзінства ночы й дня,
Які пражыў,
                    якому верыў.

■

Як далеч,
            неабдымная зара.
Яна такою можа быць аднойчы.
Ёй не адбіцца ў возеры зараз,
Ёй нават мора
                    нагадае ночвы.
Плыла зары мелодыя,
                              плыла,
Урачыста неба нараджала ранак.
Зару
      мы падзялілі
                        папалам,
Яе ў вачах шукайце ў закаханых.

## Фарбы

1

Хмелем жыцця прапах,
Не расчасаць яго косы —
Ліпнуць пальцы ў лістах,—
Май — зялёнавалосы.

2

Маладзіка падкова
Чапляецца за правады,
Праз ноч расцвілі сады, —
Май —
          белагаловы.



*міхаіл прышвін*

ДА 100-ГОДДЗЯ
З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

# З ДЗЁННІКАЎ

Мал. А. Бараноўскага

## Фацэлія

Даўным-даўно гэта было, але быллём яшчэ не зарасло, і я не дам зарасці, пакуль сам буду жыў. За тым далёкім «чэхаўскім» часам, мы, два аграномы, людзі між сабою амаль не знаёмыя, ехалі фурманкаю ў стары Валакаламскі павет па справе травасеяння. Па дарозе напаткалі цэлы палетак медунковай травы фацэліі, што закрасавала ўжо сінюткімі кветкамі. У сонечны дзень сярод нашай пяшчотнай падмаскоўнай прыроды гэтае яснае поле кветак здалося праявай дзіва. Сінія пташкі, нібы з далёкага краю ляцелі ў вырай, селі тут нанач і пакінулі пасля сябе гэтае сіняе поле. Колькі ж там, думалася мне, у гэтай медунковай сіняй траве цяпер гудзе казюрак. Але нічога не было чуваць праз ляскат калёс па сухой дарозе. Зачараваны гэтай сілай зямлі, я забыўся аб справе травасеяння і, каб толькі паслухаць гуд жыцця ў кветках, папрасіў сябра спыніць каня.

Колькі часу мы стаялі, колькі я быў з тымі сінімі пташкамі, не ведаю. Палятаўшы душою разам з пчоламі, я сказаў аграному, каб ён паганяў каня, і цяпер толькі змеціў, што гэты тоўсты чалавек з круглым абветраным вясковым тварам цікаваў за мною і з дзівам разглядаў мяне.

— Чаго мы спыніліся? — спытаўся ён.

— Ды вось,— сказаў я,— пчол мне захацелася паслухаць.

Аграном пачаў паганяць каня. Цяпер я гэтак сама прыгледзеўся да яго збоку і штосьці заўважыў. Яшчэ раз глянуў на яго, яшчэ — і зразумеў, што гэты да крайнасці практычны чалавек таксама пра нешта задумаўся, зразумеўшы цераз пасрэдніцтва, мусі быць, мяне раскошную моц кветак гэтай фацэліі.

Яго маўчанне мне рабілася ніякаватым. Я спытаў у яго пра нешта нязначнае, каб толькі не маўчаць, але ён на запытанне маё не звярнуў ніякай увагі. Відаць было, што мае нейкія не надта сур'ёзныя адносіны да прыроды, мабыць, проста нават маладосць мая, амаль юнацтва, прыгадалі яму яго ўласныя гады, калі амаль кожны бывае паэтам.

Каб канчаткова вярнуць гэтага тоўстага, як налітага чырванню, з





шырокім каркам чалавека да сапраўднага жыцця, я паставіў яму па тым часе вельмі сур'ёзнае практычнае пытанне:

— Па-мойму,— сказаў я,— без падтрымкі кааперацыі наша прапаганда травасеяння — пустая гутарка.

— А ці была ў вас,— спытаў ён,— калі-небудзь свая Фацэлія?

— Як? — здзівіўся я.

— Ну але,— паўтарыў ён,— ці была яна?

Я зразумеў і адказаў, як належыць мужчыну, што, вядома, была, што як жа інакш...

— І прыходзіла? — дапытваўся ён.

— Ага, прыходзіла...

— І куды ж дзелася?

Мне стала балюча. Я нічога не сказаў, толькі злёгку рукі развёў: няма яе, знікла. Потым, падумаўшы, сказаў пра фацэлію:

— Нібы начавалі сінія пташкі і пакінулі сваё сіняе пер'е.

Ён памаўчаў, глыбока ўзіраючыся на мяне.

— Ну, значыцца, больш яна ўжо не прыйдзе.

І акінуўшы вачамі палетак фацэліі, сказаў:

— Ад сіняе пташкі гэта ляжыць толькі сіняе пер'ейка.

Мне здалося, што ён сіліўся, сіліўся і, нарэшце, зваліў над маёю магілай пліту; я яшчэ чакаў да гэтай пары, а тут як бы назаўсёды скончылася, і яна ніколі не прыйдзе.

Сам жа ён раптам заплакаў. Тады для мяне яго шырокі карак, яго шальмаватыя залітыя тлушчам вочкі, яго мясістае падбароддзе згінулі, і зрабілася шкода чалавека, усяго чалавека ў яго ўспышках жыццёвай моцы. Я хацеў сказаць яму нешта зычлівае, узяў лейцы ў свае рукі, пад'ехаў да вады; намачыў хустачку, асвяжыў яго. Неўзабаве ён ачуўся, выцер вочы, узяў лейцы зноў у свае рукі, і мы паехалі зноў.

Праз некаторы час я рашыўся зноў выказаць, як мне здавалася тады, даволі такі самастойную думку пра травасеянне, што без падтрымкі кааперацыі мы ніколі не пераканаем сялян увесці ў севазварот канюшыну.

— А ночкі ці былі? — спытаў ён, не звяртаючы ніякай увагі на мае дзелавыя словы.

— Канечне, былі,— адказаў я, як сапраўдны мужчына.

Ён зноў задумаўся і — такі нелітасцівы! — зноў спытаўся:

— Што ж, адна толькі ночка была?

Мне абрыдла, я крышку засердаваў, але стрываўся, і на пытанне, адна ці дзве, адказаў словамі Пушкіна:

«Вся жизнь — одна ли, две ли ночи».

## Як пачынаўся «Жэнь-шэнь»

Я аблазіў усю тайгу на мацерыку па Амурскай бухце, быў на выспах і ўсюды бачыў плямістых аленяў, і потым скрозь мне бачыліся іхнія прыгожыя вочы.

Нарэшце я трапіў ва Уладзівасток і тут аднойчы каля трамвайнага прыпынку ўбачыў на сонцы маладзіцу — адзетую ў матэрыю, што пералівалася з зялёнага ў сіняе. Зззянне матэрыі прывабіла мяне, і мне зажадалася зірнуць ёй у твар.

Але я толькі паспеў прыкмеціць, што вочы ў яе былі, як у аленя,— яна павярнулася, скокнула на прыступак, і вагон пакаціўся. Я кінуўся вагон даганяць, але людзі мне перашкодзілі.

У мяне асталіся ад жанчыны толькі вочы, а астатняе ў «Жэнь-шэні» ўсё дапоўніла ўяўленне. (1951).

●

Пісьменнік павінен валодаць пачуццём часу. Калі ён пазбаўляецца гэтага пачуцця — ён пазбаўляецца ўсяго, як прадраны аэрастат. Гэтае пачуццё часу складае яго талент. Як гэта ні дзіўна, а часта бывае, што людзі, вельмі блізкія да жыцця, бываюць несучасныя, а пісьменнік, які стаіць збоку, бліжэй, чым яны, да сучаснасці. (1940).

●

Папраўдзе сказаць «я» можна толькі на роднай мове. (1938).

●

Маё пачуццё радзімы ідзе ад слова, якое я ўзяў у спадчыну праз мацеру маю ад рускага народа,— гэта спадчына і ёсць мая радзіма. Але ў любові сваёй да рускага слова я прыклаў шмат свае асабістае працы, і як я мала не зрабіў бы, але ў меру свайго таленту і руплівасці яно ўяўляе нешта адметнае ад усяго ўзятага мною ў спадчыну: там у пачуцці радзімы я разам з усімі адзінае цэлае і адзіны дух, тут на бацькаўшчыне ўяўляю сабою, як і кожны, хто шчыра папрацаваў дзеля карысці свае радзімы, асобу адзіную, непаўторную і незаменную.

Пачуццё радзімы невыказнае, незвычайнае, мы звязваем яго з пачуццём мацярынства, радзіма — гэта маці мая, збор спраў маіх (твораў) ёсць мой пашпарт у бацькаўшчыну. (1943).

●

Радзіма. Што скажа аб ёй дзіця яе, што адкрые — не адкрые чужы, праходжы чалавек. І тое, што ўбачыць чужы, не ведае народжаны на ёй. (1915).

●

Калі ў прыроду ідзеш, не чакай, каб там знайсці што-небудзь сабе гатовае. Ты знойдзеш сябе там ці толькі тое, чым цябе прырода надзяліла, ці тое, што ты, у муках трудзячыся ў жыцці, сам дзеля сябе збярог. (1937).

●

Прачытаўшы добрую кніжку, я думаю: вось я яе за дзень прачытаў, а гэта ж каб напісаць яе, ён аддаў усё жыццё.

Паслухаўшы вясною першы зялёны шум бярозы, я кажу: каб так прашумець, яна ж паўвека расла. (1925).

Пераклаў **Вячаслаў АДАМЧЫК.**

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



● Валянцін ЖДАНОВІЧ ● Іван ПАТАПАЎ ● Міхаіл НАРДШТЭЙН ● Уладзімір ЛЕВІН ● Вячаслаў РАДОМСКІ

● Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ ● Мікола ГІЛЬ ● Серафім АНДРАЮК ● Юрка ГОЛУБ ● Марк ІОФЕ

● Макс ШАВЕЛЬ ● Мікалай ГРУШЭЎСКІ ● Аркадзь ПАДЛІПСКІ ● Уладзімір ФІЛІПОВІЧ ● Марат ЯГОРАЎ



Камсамолец Эдуард Палятаеў, выпускнік БПІ, працуе машыністам блока на Лукомльскай ДРЭС.

# ФЛАГМАН



Электрамантажнікі — народ адважны.

Гмах Лукомльскай дзяржаўнай раённай электрастанцыі здаля падобны на магутны параход, прышвартаваны да берага. З-за высачэзных паласатых труб, з-за ажурных мачтаў і шматпавярховых карпусоў нават пад шэрым снежаньскім небам ярка зелянее абсяг Лукомля. Белыя грабеньчыкі хваляў накатваюцца на бераг, белыя дымы шыбуюць у хмары, белыя чайкі самотна крычаць на ўзбярэжжы.

Калі ж ходзіш па шматлікіх мастках і лесвічках галоўнага корпуса і неспрактыкаваным вокам стараешся спасцігнуць сэнс бясконцых спляценняў трубаправодаў, а пад нагамі дрыжыць, вібрыруе бетон і сталь, — ад уражання, што знаходзішся на палубе акеанскага лайнера, ужо немагчыма пазбавіцца.

А тут кран падчапіў белы брызент велічынёй з футбольнае поле, падчапіў адзін яго рог і перанёс-перакінуў праз часовы заднік, зроблены са шкловаты. Тугі, вільготны скразняк, што ўрываецца ў праём недабudаванага крыла галоўнага корпуса, напяў брызент, і ён, як ветразь, стрэліў-ляснуў крыллем над прасторай турбіннага цэха, а потым шчыльна прытуліўся да рудога задніка, каб засланіць машыны ад ветру.

Часовы заднік паступова рухаецца ўздоўж галоўнага корпуса, рухаецца з усходу на захад, і разам з ім уздымаецца ўверх графік магутнасці Лукомльскай ДРЭС. Напярэдадні новага 1973 года флагман беларускай энергетыкі — з уводам у дзеянне пятага энергаблока — дасягнуў магутнасці 1,5 мільёна кілават. Гэтым самым быў перасечаны экватар планавага задання для першай чаргі станцыі, бо ў праекце ёй вызначана 8 энергаблокаў па 300 тысяч кілават кожны...





**ФОТАРЭПАРТАЖ ВАЛЯНЦІНА ЖДАНОВІЧА**

А ўсяго дзевяць гадоў назад тут, на беразе Лукомля, была пустка. У лютаўскую сцюжу 1964 года цішыню возера парушыла ляскатанне бульдозерных гусеніц. Першыя камсамольцы, што па закліку партыі ступілі на заснежаны бераг, прабівалі дарогі. А хутка пайшлі па тых дарогах тралеры з бетонам і металам, а потым — цягнікі з абсталяваннем для першага блока. На ўсходнім беразе дом за домам рос горад Новалукомль. І праз пяць няпоўных гадоў усесаюзная камсамольская ўдарная будоўля адзначала сваё першае свята: Лукомльская ДРЭС дала ток.

Цяпер у Новалукомлі жыве 12 тысяч чалавек. Гэта, бадай, самы малады горад у Беларусі: сярэдні ўзрост яго жыхароў — 23 гады. Асноўная частка насельніцтва — энергетыкі і будаўнікі. І, вядома ж, іх дзеці. Маладым людзям падабаецца і новабудоўля, і новы горад, і зялёныя хвалі Лукомля, і таму пасяляюцца тут надоўга, грунтоўна, пускаючы трывалыя карэнні.

Вабяць таксама і перспектывы. 2,4 мільёна кілават — гэта толькі першая праектная чарга ДРЭС. На далейшае мяркуецца павялічыць магутнасць станцыі да 4—5 мільёнаў кілават за кошт пуску новых блокаў па 800 тысяч кілават кожны. У гэтым ёсць неабходнасць: энергія патрэбна суседнім магутным прадпрыемствам Міншчыны і Віцебшчыны.

За ўсе дзевяць гадоў існавання будоўлі на Лукомлі ні разу не здарылася, каб будаўнікі і мантажнікі не выканалі плана. Наадварот, асноўныя аб'екты пускалі, як правіла, з апярэджваннем графіка. І калі вечарам на комінах і мачтах ДРЭС запальваюцца гірлянды чырвоных агнёў, здаецца, што гэта зззяе святочная ілюмінацыя ў гонар стваральнікаў Лукомльскага флагмана.



Камсамолка Тацяна Вільчык — ветэран Новалукомля. Цяпер яна — машыніст сілкавальных установак.



Перазменка.

Поўным ходам ідзе мантаж шостага энергаблока.





Кавалер ордэна Леніна Іван Данілавіч Маслюк на сваім вяку пабудаваў нямала электрастанцый. Цяпер ён брыгадзір мантажнікаў на Лукомлі.

Не адрываючыся ад вытворчых спраў, машыніст-абходчык турбін групкамсорг Уладзімір Назаненка і сакратар камітэта камсамола ДРЭС Мікалай Калянковіч вырашаюць справы грамадскія.





Малады камуніст Валеры Лаўроў і камсамолец Васіль Васільеў абслугоўваюць інфармацыйна-вылічальную машыну, якая кантралюе работу энергаблокаў.



Валеры Чыбісаў нядаўна змяніў прафесію марака на сухапутную: стаў машыністам-абходчыкам катлоў на Лукомльскай ДРЭС. Яму і яго сынам Андрэю і Сяргею падабаецца малады горад беларускіх энергетыкаў.

Лукомльская ДРЭС сілкуецца пакуль што наваполацкім мазутам. Але ў хуткім часе тут пачнецца будаўніцтва нафтаперапрацоўчага завода.



Лукомльская дзяржаўная раённая электрастанцыя імя 50-годдзя Саюза ССР.



● Іван ПАТАПАЎ

# ВЯСКОВЫЯ НАВЕЛЫ

**Жыццёвыя дарогі... Ніколі не бываюць яны прамымі, праведзенымі як пад лінейку, ніколі не бываюць простымі. І кожны чалавек, бадай, сустракае на іх людзей — самых розных, самых цікавых, самых непадобных, якія надоўга, калі не назаўсёды, застаюцца ў душы. І ўзнікае патрэба расказаць пра іх іншым...**

**Іван Патапаў — журналіст, у нядаўнім карэспандэнт «Магілёўскай праўды», а зараз супрацоўнік адной з сахалінскіх раённых газет. Абедзве яго навелы — нявыдуманыя гісторыі. Натуральна, што па зразумелых прычынах аўтару давялося толькі замяніць у іх прозвішчы герояў і месца дзеяння.**

## СПАКАЙНЯКА

Цыганкоў дагнаў мяне на лясной затравелай дарозе, якою я, мімаходзь выглядаючы спелыя арэхі, няспешна тэпаў да асфальтоўкі. Ён пасігналіў, затым адчыніў дзверцы легкавушкі, кіўнуў галавой, адначасна вітаючыся і запрашаючы ў машыну, і паехаў далей — усё моўчкі.

Я Пятра Захаравіча Цыганкова ведаў добра, ён хоць і не маўчун, аднак зубы дарма не праветрывае. (Калісьці, яшчэ пры першым знаёмстве, яго непаспешлівасць мяне і дзівіла і злавала: спытаеш што — адкажа хвілін праз пяць-дзесяць).

І цяпер, толькі кіламетры праз два, калі ўз'ехалі на аўтамагістраль, Цыганкоў падаў голас:

— У Магілёў?

— Ага.

Ехаў Пятро Захаравіч Цыганкоў «пры поўным парадзе»: не на абшарпаным зялёным «козліку», а на светлай — толькі для выезду «ў людзі» — чысценькай, без адзінай драпінкі, «Волзе», сам за рулём, прыкасцюмлены, да пінжака прышпілены стужкі баявых і працоўных ордэнаў, прывінчаны дэпутацкі сцяжок. Усё гэта сведчыла, што вядомы старшыня вядомага ў раёне калгаса намерыўся пабываць па нейкай важнай справе ў высокага абласнога начальства.

Пры ўсім сваім урачыста-святочным выглядзе Цыганкоў быў заклапочаны, нейкі горны. Ён крыху горбіўся за рулём, на правую скроню навісаў, закрываючы вока, прыцярушаны сівізной цемнаваты чуб — і здавалася, што старшыня, хоць і глядзіць на дарогу, дрэнна бачыць яе, нібы дрэмле. Аднак ён бясконца курыў цыгарэту і раз-пораз шумна выпускаў дым...

Нарэшце ён запхнуў акурак у попельніцу, адрывіста кінуў:

— Новіка забіраюць. Галоўным заатэхнікам упраўлення.

— Што ж, можна радавацца! Збавіцеся, нарэшце, ад гэтага... спакайнякі...

Цыганкоў скасавурыўся, нязлосна бліснуў з-пад чуба вострым вокам:

— Кха, запомніў! Спа-кай-ня-ка!... Цяпер прызнаю: Новік — чалавек. Пакуль я гэта разглядзеў... колькі мы нерваў парвалі адзін аднаму! Эх!..

Цыганкоў уздыхнуў, дастаў цыгарэту і зноў прыціх.



●

Гады тры назад у «Перадавік» з Горак, з сельгасакадэміі, прыехаў дыпламаваны заатэхнік — Новік Віктар Іванавіч. За яго плячыма былі яшчэ два гады работы на ферме ў сваёй вёсцы, служба ў арміі. Той парою Новіку ішоў, мусіць, 27-мы год.

Новы заатэхнік прывёз з сабою жонку-эканаміста і сына-гадунка. Маладых спецыялістаў прызначылі галоўнымі — заатэхнікам і эканамістам, — далі ім аклад па 220 рублёў і адвялі трохпакаёвы фінскі домік з верандай.

Крыху абжыўшыся, Новікі наладзілі наваселле, на якое выпадкам трапіў і я. Застолле сабралася пераважна «цыганкоўскае»: бухгалтар, ветурач, інжынер, аграном — усе маладыя, і ўсе — «галоўныя»... Чалавек разумны, прадбачлівы і рашучы, Цыганкоў смела, а часам і даволі рызыкоўна ставіў на адказныя пасады «зялёных», даваў ім шырокую самастойнасць і ўзамен патрабаваў толькі аднаго — шчырай працы.

За сталом Цыганкоў сядзеў між маладых «галоўных», як нейкі дзядзька Чарнамор, і быў у цэнтры агульнай увагі, з яго не зводзілі вачэй, лавілі кожнае слова — сур'ёзнае ці жартаўлівае. Потым Пятро Захаравіч адбіваў з дзяўчатамі «цыганачку», і нельга было не залюбавацца ім: рослы, крутаплечы, наліты сілаю, ён выглядаў маладзей за свае пяцьдзесят. Помню, мне тады падумалася: «Во такія, як Цыганкоў, і перайначваюць жыццё на свой лад: у яго энергіі, волі і сілы на трох хопіць».

На ганку, куды мы выйшлі астудзіцца, Цыганкоў, думаючы пра нешта сваё, сказаў нібы сам сабе: «А Новік, відаць, малец харошы. Толькі дужа ж ён нейкі... спакайняка. Цямця-лямця! Як жа ён будзе з людзьмі?!» І перасмыкнуў плячыма.

Віктар Новік аказаўся каларытнай асобай. Прысадзісты, таўсматы. У рухах — марудны, на словы — нетаропкі і скупы. На шырокі лоб спадаюць дрымучыя светлыя кучары-стружкі. Пад імі — шэрыя вочы, прыжмураныя, задуменныя. Пра такіх, як Новік, гавораць: спіць на хаду. Словам, цямця-лямця...

Неўзабаве пасля наваселля Цыганкоў сказаў Новіку, што час брацца і за гуж. Якраз трэба было везці на мясакамбінат жывёлу: кароў-пярэдаек і бычкоў. Новік хутка правёў выбракоўку, і старшыня перад дарогай падрабязна і даверліва праінструктаваў новага заатэхніка: каго частаваць, каму «паднесці сувенір»...

Заатэхнік моўчкі выслухаў старшыню, паехаў, жывёлу здаў, вярнуўся.

Цыганкоў толькі адным вокам зазірнуў у прывезеныя Новікам квіткі, і яго твар густа наліўся вішнёвасцю, ля вушэй злосна заходзілі крутыя жаўлакі. Ён кіўнуў на дзверы свайго кабінета — новы заатэхнік паслухмяна пераступіў парог.

Цыганкоў не быў Цыганковым, калі б раскрычаўся, грымнуў кулаком на стале. Не, былы настаўнік Пятро Захаравіч Цыганкоў — чалавек інтэлігентны, дыпламат, псіхолаг. Ён рэдка калі павышае свой мяккі барытон, але і двойчы не гаворыць.

Цыганкоў сеў за свой лакіраваны стол пад фікусам, закурыў, шумна выдыхнуў дым і ціха сказаў: «Так здаць жывёлу, як вы, Віктар Іванавіч, магла б і Ганна Пастухова. У чым прычына?»

Новік паморгаў бялявымі веймкамі, памыляў губамі і, як і Цыганкоў, ціха і выразна сказаў: «Мы, Пятро Захаравіч, жывём не ў Амерыцы. І падманваем не капіталістаў, а саміх сябе. Я так не магу. І не буду. Такі мой прынцып».

Вочы Цыганкова на момант расшырыліся, і ён, нахіліўшы галаву, стаў запальваць патухлую цыгарэту. Калі ўзняў галаву, вочы былі спакойныя, разумныя, цвёрдыя, вострыя. Загаварыў роўна: «Прынцыпы вашы, Віктар Іванавіч, вартыя павагі. Толькі пра падман вы, даруйце за прамату, загнулі: вы не ўчора нарадзіліся, а таму ведаеце, што любую паперку можна аформіць і так, і гэтак — і прытым законна. Паўтараю: закон-на! І з найбольшай для нас, калгаса, выгадай. Дзе ж тут пад-

ман?! А калі вы такі ўжо праўдалюб, то чаму ж вы, Віктар Іванавіч, не заўважылі, як на мясакамбінаце мардуюць нашу жывёлу? Мы тут над кожным грамам калоцімся, кормім-поім, можна сказаць, проста з далоняў, а там, абы за браму, — яна худнее на вачах. Напаіць — і то мала хто калі падумае. І ні ў каго душа не баліць! Чаму ж вы там, калі ў вас ёсць прынцып, нічога не ўбачылі?» Новік адказаў: «Усё я ўбачыў. І ў газету напісаў».

Вочы Цыганкова зноў на імгненне здзіўлена расшырыліся. Ён лёгенька прыпячатаў да стала чорную ад сонца далонь: «Ладна, забудзем пра гэтую паездку. Прысядзьце, Віктар Іванавіч, і я скажу яшчэ два словы. Пра Сакалоўскага вы, канечне, чулі. Дык вось, летась ён загроб сабе ледзь не ўсю мінералку, што была адпушчана на падкормку лугоў для ўсяго раёна. Загроб, а мы, астатнія старшыні, уголас і слова не сказалі. А што зробіш? Куды і каму пажалішся? Сакалоўскі — глыба, калгас яго — велічыня! Сакалоўскі дае столькі мяса і малака, колькі мы ўсе гуртам. Праваліць Сакалоўскі план — лясне раённы, завісне і абласны. І мы ўсе праглынулі языкі: жыццё ёсць жыццё... Афарызм даўні, банальны, але, што ні кажыце, мудры, і вам яго не лішне цвёрда запомніць: вы толькі-толькі пачынаеце працаваць, і ён вам, папомніце маё слова, яшчэ сто разоў спатрэбіцца. Падумайце. Вы мяне зразумелі?»

Новік усё выслухаў, не перабіваючы, нічога не сказаў, павярнуўся (ён так і не сеў) і павольна пайшоў да дзвярэй. Ужо ўзяўся за ручку, як Цыганкоў спытаўся наўздагон: «Віктар Іванавіч! Дроў вам прывезлі?.. А сына прынялі ў яслі... Ну, добра».

Старшыня і заатэхнік разышліся ціха і мірна. Ведаю, пра што яны тады гаварылі, ды не ведаю, што не сказалі адзін аднаму, што пакінулі пры сабе...

Новік запрогся ў працу на ўсю сілу, дняваў і ледзь не начаваў на фермах. Пакрысе там з'явіліся электраабагрэў маладняку, хвойная вітамінная мука, біяпрэпараты, шмат чаго яшчэ — усяго не пералічыць. Скажу яшчэ, што сянаж Новік рызыкнуў упершыню закласці яшчэ ў 67-м годзе. Журналісты не міналі «Перадавік» і раней, а ўжо цяпер, пры новым заатэхніку, проста зачасцілі сюды: было што паглядзець, было пра што напісаць.

Ды і я збіраўся сказаць пахвальнае слова пра заатэхніка. Аднак чым глыбей я цікавіўся Новікам, тым больш меркаванні пра яго разыходзіліся, ушчэнт разбуралі гатовую схему: новы заатэхнік не «лез» у прывычныя рамкі газетнага шаблону. Яго жонка Галя — маленькая, тоненькая, з хлапечай стрыжкай — са слязамі расказвала мне: «Для Віктара, думаеце, ёсць сям'я, дзіця, жонка? Калі ён нас бачыць! Прыйшоў з фермы — на ложак. Паспаў — зноў пайшоў. Прыйшоў — пайшоў, прыйшоў — пайшоў... Я ўжо і гаварыць развучылася, сама ў сябе пытаюся, сама сабе адказваю. Праўда, папрасі, то ён і вады прынясе, і дроў наколе, і з Юркам пагуляе. Не скажы — сам не здагадаецца: яго ж галава там, на фермах. А суседкі мне яшчэ зайздросцяць: «Ах, які ў цябе, Галя, муж! Не п'е, не курыць. Які ён спакойны, паслухмяны!» Слухаю, ды маўчу: не будзеш жа гаварыць, што Віктару каровы свет засланілі. А вы такіх яшчэ ў газетах расхвальваеце: стар-р-анны, пр-р-ацаві-і-ты!.. Хваліце, ды ведайце меру — от што я вам скажу!»

Жывёлаводак — і старых, і маладзейшых — бянтэжыла іншае: Новік заўсёды бываў на фермах у белай кашулі, надзетай пад балонневую куртку, у чорных штанах «са стрэлкамі», усім гаварыў «вы» і ніколі не збіваўся на крык. Яму можна было жаліцца цэлую гадзіну, і ён зацікаўлена слухаў. Усё гэта было нязвычна, дзівіла і радавала адначасова.

Малады гадамі, але ўжо, як ён сам казаў, «добра вучаны жыццём», галоўны бухгалтар, мяркуючы, што знайшоў у маёй асобе поўнага аднадумца, даверлівым і таемна-сцішаным тонам гаварыў мне: «Між намі кажучы, Новік гэты — нейкі незямны чалавек. Усё каб яму па праўдзе было! Вы ж, пры вашай прафесіі, самі ведаеце, як іншы раз у жыцці бывае... А ён упрэцца — раблю справядліва, — і ўсё тут, нічога і нікога прызнаваць не хоча. Вы ж, мусіць, ведаеце, як Новік жывёлу-бракоўку здаваў?.. Во якая цаца... Нічо-га! Між намі кажучы, Захаравіч гэтаму цямцю-лямцю рогі пазбівае!..»

Недзе ў канцы верасня — пачатку кастрычніка, калі сталі падціскаць замаразкі і ў «Перадавіку» спяшаліся хутчэй пераараць бульбянішча, Цыганкоў надвячоркам падагнаў на поле да бурта «тэмпу» два грузавікі. У кузавах былі пустыя папяровыя мяшкі і маток алюмініевага дроту.

Студэнты, якія памагалі калгасу на дакопках, напоўнілі мяшкі бульбай, завязалі дротам і загрузілі на машыны. Цыганкоў сеў за руль «казла», і ўсе тры машыны з поля накіраваліся ў горад — павезлі «тэмп».

Ужо звечарэла, а Цыганкоў усё развозіў бульбу «патрэбным людзям». Мала што ўжо і заставалася, калі Пятро Захаравіч прыехаў да аднаго старшага інжынера. Пазваніў і, толькі што ўвайшоўшы ў калідорчык, толькі што павітаўшыся, з ходу аб'явіў: «Алег Уладзіміравіч, тут я «тэмп» прывёз. Вам колькі мяшэчкаў на зіму трэба?» На яго голас выглянуў з-за спіны гаспадара Віктар Новік... Цыганкоў, выйграючы час, стаў заклапочана падбіраць чуб пад капялюш. Справіўшыся з валасамі, спытаўся без кроплі здзіўлення або разгубленасці: «Сваякі? А, разам вучыліся... Ну, цяпер у нас з запчасткамі будзе поўны ажур!»

Гаспадар пайшоў шукаць ключы ад падвала, а яны ўдвух засталіся ў калідорчыку. «Што ж ты, Віктар, раней не расказаў мне пра такое выгадне для нас знаёмства?» Новік ціха, але з націскам сказаў: «Я лепш раскажу ў іншым месцы...» Цыганкоў, не верачы, шчыра рассмяяўся: «Дадумайся!»

А неўзабаве ў «Перадавіку» сабраўся партсход. Засядалі доўга і бурна. Пятро Захаравіч узнімаў свой барытон ад даверлівага шэпту да камандзірскага раскату — выступаць ён умеў артыстычна, — але ўсё часцей і часцей збіваўся на «яканне»: «Новік зрабіў калгас мільянерам? Ці хто іншы? Я прыйшоў сюды, калі «Перадавік» не меў за што купіць качаргу — сабаку з-пад печы выгнаць. Хіба не так? Хто зрабіў з «Перадавіка» сапраўднага перадавіка? Новік? Я зрабіў, я! Правільна: і людзі рабілі, і партыя — гэта само сабой, можаце не падказваць! Але ж і я, старшыня, нешта значыў і значу! Ягоравіч, ты стары чалавек і стары камуніст, скажы маладым: ці ўзяў я сабе за дваццаць гадоў свайго старшынёўства хоць грам незаконна, хоць каліва? Скажы: узяў? Я нёс і нясу ўсё толькі ў калгас. Канечне, многія з гэтых ношак можна назваць і камбінатарствам, і... не помню, як яшчэ вы там гаварылі. Жыў буду — пагляджу, як вы без мяне будзеце даставаць тыя ж запчасткі. Жыццё ёсць жыццё!..»

Вельмі здзівіла Цыганкова, што на яго «папёрлі» нават вечныя маўчальнікі.

Пасля таго сходу Цыганкоў крыху аціх. Не сказаць, каб яго напалохала тое, што некалькі тон бульбы, падараваных ім у горадзе «патрэбным людзям», былі апрыходаваны, і Пятру Захаравічу давялося заплаціць за іх сваімі грашыма. Нешта ўсё-такі прымусіла Цыганкова ўпершыню паглядзець на сябе вачыма іншых людзей. Можа, тое, што ён заставаўся на партсходзе, па сутнасці, адзін: яго ніхто не падтрымаў. А, можа, не зусім ясная для яго «неразумная сумленнасць» гэтага спакайнякі — заатэхніка Віктара Новіка.

Многія думалі, што пасля ўсяго таго нечуванага і нябачанага ў «Перадавіку» Цыганкоў Новіка сатрэ ў парашок. Аднак адкрытай непрыязні паміж імі не назіралася. Стрыманыя, карэктныя, дзелавыя адносіны. Цыганкоў зноў перайшоў на «вы». Цёплае слова «таварыш» стала паміж імі суха-афіцыйным: «таварыш Цыганкоў», «таварыш Новік» — інакш яны цяпер не звярталіся адзін да аднаго.

Колькі так магло цягнуцца?

Аднойчы бухгалтэрыя падбівала рахункі за год — зводзіла баланс. Быў якраз дзень авансу, і ля касы ў чаканні грошай стаялі вольныя ад работы мужчыны, курылі, ціха гаманілі. Заатэхнік з ін-

жынерам разбіраліся ў нейкім праекце. Быў тут, у бухгалтэрыі, і старшыня — корпаўся ў паперах.

«Галя! — гукнуў у другі канец пакоя галоўны бухгалтар. — У мяне выходзіць паўтараста тысяч даплаты за жывёлу. Крутні на «Феліксе» — як у цябе?»

Галя, Новікава жонка, разгарнула гросбухі, папстрыкала арыфмометрам і сказала: «Усё так. І ў мяне 150».

Выходзіла, што «Перадавік» атрымаў за год паўтараста тысяч рублёў даплаты за вышэйшую ўкормленасць здадзенай жывёлы.

«Маладзец, заўцехнік!» — не стрымаўся нехта з мужчын. Ля дзвярэй засмяяліся.

Пачуў гэта Пятро Захаравіч ці не?.. Безумоўна, пачуў. Затое ля дзвярэй не чулі, як пасля Цыганкоў, мітуслівa згробшы паперы, адным выдыхам папрасіў Новіка: «Віктар Іванавіч, зайдзі». І прапусціў заатэхніка ў свой прасторны кабінет.

Гаварылі яны як ніколі доўга. Пра што — не ведаю і дасюль: нават Новік, які, здаецца, меў прыязнасць да мяне, не захацеў падзяліцца, сказаўшы: «гэта — не для прэсы».

...І вось цяпер, праз тры гады пасля ўсіх тых падзей, Цыганкоў ехаў у Магілёў, «адваёўваць» Віктара Новіка, прасіць, каб яго не забіралі «на павышэнне».

Цыганкову карцела выказацца. Памаўчыць, пакурыць, уздыхне, зноў скажа што-небудзь.

— Не пацягне, думаю, Віктар Іванавіч раён, не здужае. Там жа запушчанасць — страх якая! Там жа пясочкі! Ацэначны бал іхніх зямель — 36... Адкуль быць кармам, калі ўраджай слабацкі?! Так яно ў іх і закручана — не разарваць. А каму воз цягнуць? Новіку. Цягнуць то ён умее, ды аддыхуперадыху не ведае... А так нядоўга і надарвацца!

Ён памаўчаў нейкі час, потым сказаў не то мне, не то сабе:

— Колькі можна! Змітрачкова забралі на павышэнне, Кірэева — на павышэнне, Арахоўскага... Што, толькі ў мяне талковыя спецыялісты?! Зрабілі, дальбог, з «Перадавіка» нейкі рэзерв галоўнага камандавання!

## СЛЯДЫ НА СНЕЗЕ

У тую памятную для мяне зіму непрасветнае неба густа і амаль беспярастанку сыпала і сыпала снег. Ледзь не штодня круціла, віхурыла, снежыла завіруха, і здавалася — не будзе канца-краю гэтай белай каламуці. Як завялася перад Новым годам, так і не сціхала аж да пачатку красавіка.

Але не толькі глыбачэзным снегам, не толькі сляпучымі завеямі помніцца тая зіма...

...Недзе ў самым канцы таго завейнага сакавіка выпала мне ехаць па неадкладным рэдакцыйным заданні ў далёкі куток Магілёўшчыны, у вёску з ласкавай назвай — Вішанька.

Да раённага гарадка дабраўся даволі хутка і лёгка: у цёплым аўтобусе, па расчышчанай асфальтоўцы. Там, у гарадку, за дзвесце з нечым кіламетраў ад Магілёва, у той дзень было ціха і нават паблісквала, па-веснавому прыграваючы, высокае белае сонца. Адно засмучала: углыб раёна, да «маёй» Вішанькі, не прабіваліся нават ходкія «козлікі» — усе дарогі былі замецены снегам.

Што было рабіць? Я наважыўся ісці да вёскі, па вопыту ведаючы, што ў дарозе хоць хто ды падвязе.

І тут я ўбачыў наперадзе чалавечыя сляды-ямкі. Яны пятлялі па снезе, бязладна то набліжаліся да дарогі, то аддаляліся ад яе, і побач з імі быў яшчэ адзін след — рыдлёўкі. Спачатку падумалася, што, мабыць, нейкі чалавек блукаў цёмначы, абапіраючыся на рыдлёўку. Прыгледзеўшыся, я заўважыў, што кожны завеяны па макаўку кусцік, кожны сумёцік свежага снегу былі абтыканы ці праткнуты рыдлёўкай. Дзе-нідзе снег быў не толькі ў парэзах, але і раскіданы. Нехта нешта шукаў...

Дарога зноў перакінулася цераз пагорак, і з яго я ўбачыў справа, вышэй — блізкую вёску, ледзь не па самыя стрэхі засыпаную снегам, злева, у лагчыне — другую вёску, большую. Адтуль па сцяжынцы, наперарэз мне, рухалася чалавечая постаць. Каб падгадаць сустрэцца з чалавекам (час быў спытацца, ці правільна іду) якраз на перасячэнні сцежкі і дарогі, мне давялося трохі запаволіць крок.

Тым часам чалавек падыходзіў бліжэй, і ўжо можна было разглядзець, што гэта — жанчына. Была яна ў светлых валёнках, у зялёным доўгім паліто і шэрай пуховай хустцы, з-пад якой выбіваліся чорныя, перасыпаныя сівізной, валасы. На плячы жанчына несла мокрую бліскучую радлёўку...

Я паздароўкаўся з жанчынай яшчэ здаля.

— Ці дайду я па гэтай дарозе да Вішанькі?

— Дойдзеце, мая дзетухна, дойдзеце. Толькі спярша будзе Лешчыца, тады Залесаўка, а там ужо і Вішанька. Але сёння туды вы, мой ты дзетухна, наўрад ці справіцеся: ад нашай Сямёнаўкі да Вішанькі пятнаццаць вёрст, а снег такей, што спрадвеку не было!

Жанчына зняла з пляча рыдлёўку і, убіўшы яе ў снег, аберуч абаперлася на чаранок.

Ашаломілі мяне яе вочы: цьмяныя, згаслыя. У іх балюча і страшна было глядзець...

Між тым жанчына гаварыла:

— Якей снег, мой ты дзетухна, якей снег! Ці не з-за яго і мой сынок прапаў? Цеперся выйшаў з хаты, а і дасюлецька не вярнуўся. Як пайшоў на каляды ў мястэчка, дык — што пад лёд...

— То вы ўжо... — я, прызнацца, унутрана скалануўся, — ... ужо тры месяцы шукаеце сына?!

Яна пакорліва кіўнула галавою.

— Дык вы б звярнуліся ў міліцыю!

— А няго ж, мой ты дзетухна, звярталася! Тады ж яшчэ, на каляды. І яшчэ. І яшчэ. Кажуць: шукаем, а знойдзем — скажам. Ды ўсё маўчаць і маўчаць, а пра яго ні чуткі ні прачуткі...

Пэўна, радая свежаму чалавеку, жанчына ўсё гаварыла і гаварыла шпарка і самотна:

— ...А ўжо такей быў мой сынок Грыша ладны ды прыгожы, такей добры ды паслухмяны! А каб ён мне калі слова злое сказаў, а каб ён мне калі ў чым не пасобіў — барані божа! Ён і есці наварыць, ён і мост памыець, ён і дроў прынясець — ані ніякай бабскай работы не цураўся. Толькі я і чула: «Матулячка, паляжы! Матулячка, аддыхайся! Матулячка, я зраблю за цябе!» Чыстае золата, а не хлапец быў! І скажыце ж вы, мой ты дзетухна, без бацькі Грыша гадаваўся (мой пасля вайны памёр), а такей малец харошы вырас. І во табе, матка, — такое гора горкае!

Ужо гусцелі прыцемкі, калі я дадыбаў да Лешчыцы. Зайшоў у канцавую хату. Сенцы, а далей — адзін вялікі пакой. З дзесятак мужчын, жанчын і хлопцаў глядзелі па тэлевізары хакей. Сказаўшы, хто я і куды іду, спытаўся, ці далёка да Вішанькі.

— Гэт, да Вішанькі-і-і... — усміхнуўся маладжавы мужчына, пэўна гаспадар хаты, расцягваючы канчаткі слоў. — Яшчэ Залесаўка будзе, а ўжо ноч падступае. Начуйце! У цеснаце — не ў крываце... А заўтра раненька Яўменаў Міша на сваім дзізелі ў Вішаньку паедзецьме — і вас падвязецьме. Так што смела начуйце. Зіна, распрані чалавека ды павячэраць яму дай, а то ліхам нас памінацьме!

Людзі добразычліва засмяяліся. Мяркуючы па вопратцы і руках, многія з іх былі, як і гаспадар, механізатарамі.

Неўзабаве хакей скончыўся, і тут я спытаўся, што за жанчына з рыдлёўкай стрэлася мне ля Сямёнаўкі.

Загаманілі ўсе разам: мужчыны і жанчыны, пажылыя і маладзейшыя:

— Такі ўжо непатрэбнік быў Грышка, такі латруга! Не паверыце: безмаль да трыццаткі дажыў, а каб пальцам аб палец стукнуў! Такі дужэц, а вечна сядзеў на матчыным карку. Каб хоць пасобіў у чым матцы, каб хоць вядро вады прынёс — дзе вы бачылі!

— Хо, чаго захацела ты, Ніна! Яму ж урэм'я ўсё не было: толькі і глядзеў, каб дзе гáры етай насмактацца, чужой каўбасой закусіць ды яшчэ і сцёбнуць што...

— Думаў Грышка ўсю жысць сваю пражыць так во, на чужым гарбу.

Гаварылі яшчэ доўга. Толькі пра Грышку больш хоць бы хто заікнуўся, хоць бы хто ўспомніў.

...Ноччу мне сніўся парэзаны рыдлёўкай снег.

**23 ЛЮТАГА — ДЗЕНЬ САВЕЦКАЙ АРМІІ І ВАЕННА-МАРСКОГА ФЛОТУ**



# РАКЕТЧЫКІ

— Пуск!

Пальцы начальніка разліку на кнопках выноснага пульта. Кароткі, амаль няўлоўны рух. Раскат грому разарваў лясную цішыню. З сопла ракеты вырвалася полымя, і яна спачатку як бы неахвотна, нібы не жадаючы расставацца з зямлёй, пайшла ўгору. Імгненне, яшчэ імгненне, і ўжо бачна толькі ззяючая кропка. Але знікла і яна. Недзе за многія кіламетры зноў палыхне громам і полымем. Ракетны ўдар—грозны, патрапіць па цэлі, дзе б яна ні была...

Пасля кожнага баявога пуску капітан Іван Сабалеўскі шкадуе, што не нарадзіўся мастаком. Каб меў такі талент, абавязкова намаляваў бы карціну—і гэтыя ружовыя ўспышкі, і строгую веліч пускавой устаноўкі, і самае галоўнае—стомленыя, шчаслівыя твары ракетчыкаў. Але зараз яго думкі заняты іншым. Ён глядзіць на карту, звяраючы яе з мясцовасцю. На карце ўсё выглядае неяк маляўніча і ўтульна. Сінія жылкі ручаёў, карычневыя колцы вышыняў, зялёныя астраўкі балот і хмызняку...

А на зямлі—белае і чорнае. Навокал снег, шэраватае неба. І чорная паска лесу на гарызонце. Непрыкметна падпаўзае змрок, і ўсё зліваецца ў цёмнае.

За шклом аўтамабіля мільгаюць чародкі тапаляў з вапнянымі палосамі на ствалах. «Зусім як павязкі ў пасрэднікаў»,—падумаў капітан. Дрэвы, нямыя сведкі цяжкага маршу, ціха пагойдваюцца вяршынямі.

...Батарэя яшчэ рухалася да стартавай пазіцыі, а на камандзірскіх картах ужо было пазначана месца, дзе ракеце належала перахапіць праціўніка. Па тактычнай абстаноўцы цэллю стала скопішча танкаў. У складанай дынаміцы «бою» гэтаму ўдару надавалася вялікае значэнне. Іменна ён павінен быў сарваць контратаку, якую так старанна рыхтаваў «праціўнік».

Дарога цяжкая, капрызлівая. Пераараная коламі, яна ператварылася ў суцэльнае месіва. З абодвух бакоў—высозныя гурбы снегу. Часам здаецца, што машыны плывуць па дне глыбокага тунеля.

...Ад дарогі да паляны, дзе ім належала паставіць пускавую ўстаноўку,—метраў дзвесце. Але паспрабуй дабярыся да «кропкі», калі з дарогі не зрушыць ні ўправа, ні ўлева. Па баках яе—глыбокія канавы. Да таго ж і на дарозе не лепш—машына ўжо «села». Як знарок нехта выкапаў тут яму: прыцярушаная снегам, яна стала лавушкай.

А секунды—да ўсяго раўнадушныя—бягуць і бягуць. Нарматывы не ведаюць «змякчаючых» абставін. Яны ведаюць адно: час і дакладнасць.

Аднак ракетчыкі такія ўжо людзі, што не прызнаюць слова «немагчыма». Пуск, які б ён ні быў, баявы ці вучэбны, павінен адбыцца абавязкова. Пры любым надвор'і, у любы час сутак. Інакш нельга! Вельмі ж многае залежыць у баі ад гэтай магутнай зброі.

Капітан Сабалеўскі выскачыў з машыны. Некалькі кароткіх каманд, і пачалася маўклівая, напружаная работа. Адны падкопваюць снег, другія цягнуць галлё, трэція кладуць яго пад колы... А тапографы сяржант Васіль Фёдараў і радавы Уладзімір Кудра па снезе-цаліку бягуць да паляны. Перш чым пускавая ўстаноўка зойме стартавую пазіцыю, трэба вызначыць каардынаты і напрамкі стральбы. Пакуль тапографы сваёй справы не зробяць, не будзе работы для вылічальнікаў, для камбата, штаба.



На лясной паляне з'явіўся калок-вешка. Ён не згубіцца між шматлікіх навакольных прадметаў. Гэта ўжо і ёсць стартавая пазіцыя.

Дзве сямізначныя лічбы запісваюцца ў блакноце капітана. На стале, за якім працуе камбат,—табліцы, бланкі і іншыя прадметы, што неабходны для матэматычнага разліку. Толькі даклады, што паступаюць сюды з розных пунктаў ракетнага канвееру, і каманды, што ідуць на «перыферыю», даюць адчуць напружаны рытм баявой работы, дзе час адлічваецца секундамі.

— Прыцэл вылічальны... Дырэкцыйны вугал...

Секунды адчайна супрацiўляюцца. Але ракетчыкі «забіваюць» у іх усё новыя аперацыі. І вось яно, доўгачаканае:

— Пуск!

...З вучэнняў вярталіся падвечар. Зноў тая ж дарога, тая ж калона, тыя ж таполі. Усё як бы будзённае, звыклае. Але нешта адбылося. Сабалеўскі шукае адказ: «Што ж іменна?» Вучэнні звычайныя. Такіх на працягу года бывае нямала. Пуск быў вучэбны. Яшчэ адна «пяцёрка»—дык гэта ж выдатная батарэя!

Не, нешта ўсё ж адбылося. Капітан раптам зразумеў: людзі, байцы сталі на прыступку вышэй. У іх характары з'явіліся нейкія каштоўныя крупінкі, з якіх і складаецца вопыт і майстэрства.

Камбату здаецца, што і таполі як бы ўжо нейкія інакшыя: стаяць, нібы ў ганаровай варце. Зразумела: едуць з вучэнняў не проста салдаты, едуць пераможцы.

...Яшчэ ў школе Івана Сабалеўскага вабіла да сябе тэхніка. Ён ахвотна займаўся ў радыёгуртку, захапляўся спортам. Неаднойчы займаў першынство ў веласіпедных гонках, па стральбе з дробнакаліберпай вінтоўкі.

Неяк да хлопцаў-школьнікаў падышоў работнік ваенкамата.

— Як вы, хлопцы, наконт ваеннага вучылішча? Можа жадаеце паступіць?

— Я пайду,—сказаў тады Іван.

Дома сваёй думкай падзяліўся з бацькам. Баляслаў Іосіфавіч ухваліў сынаву ідэю. «Я быў сяржантам, у вайну камандаваў «саракапяткай», а ты будзеш афіцэрам. Добра, сынку!..»

...Прайшоў які год пасля вучылішча, і лейтэнант Іван Сабалеўскі свой разлік вывеў у выдатныя, а яшчэ праз некаторы час атрымаў першы клас па дзвюх спецыяльнасцях.

У выхаваўчай рабоце кіруецца камандзір не знешняй строгасцю, а нечым больш важным, што дае больш эфекту.

Неяк прыбыў у батарэю радавы Мікалай Макееў. Невысокі, шчуплы хлопец. І ў кросах быў самы апошні, і на паласе перашкод не вызначаўся. Нават на гімнастычных снарадах не мог выканаць простае практыкаванне.

— Што ж, таварыш Макееў,—сказаў яму камбат,—рабіць з вас Іллю Мурамца ніхто не збіраецца. Але набыць неабходныя ракетчыку вынослівасць, спрытнасць і фізічную загартоўку дапамажам!..

— Дык я ж не ракетчык,—нясмела запярэчыў Мікалай,—я шафёр...

— Гэта не мае значэння. Калі вы служыце ў ракетнай батарэі—значыць ракетчык. А ракетчыку без фізічнай загартоўкі ніяк нельга. Між іншым, самі пераканаецеся...

Штодзённыя трэніроўкі ў спартыўным гарадку, кросавыя прабежкі, лыжныя спаборніцтвы зрабілі сваё. Праз некаторы час на кантрольнай праверцы па фізічнай падрыхтоўцы Макееў атрымаў выдатную ацэнку, на спаборніцтвах вадзіцеляў заняў першае месца.

У ракетную батарэю прыходзяць не асілкі, а самыя звычайныя хлопцы. Адзін на пачатку палохаецца трохметровага рову на паласе перашкод, дру-



**Камандзір батарэі камуніст Іван Баляслававіч Сабалеўскі.**

гі ніяк не можа адолець «каня», трэці губляецца ў складанай абстаноўцы. І да кожнага патрэбен свой падыход, кожнаму патрэбна дапамога. Задача не простая—дамагчыся, каб у хлопца з'явілася ўпэўненасць, умацавалася сіла волі і вытрымка.

...У кожным падраздзяленні ёсць любімая песня. Між ракетчыкаў асаблівай папулярнасцю карыстаецца марш, што напісаны яшчэ ў канцы дваццатых гадоў. Толькі словы яго некалькі зменены—бліжэй да ракетнай прафесіі.

«Мотор, погромче песню пой,
Ракета, ввысь взлетай скорее.
Не первый раз
В последний бой
Идет родная батарея...»

Капітан Сабалеўскі задаволены. Ракетчыкі добра спяваюць. І крочаць у страі лёгка, прыгожа.

А калі грымне тая навальніца—яе ракетчыкі сустрэнуць як мае быць. З вялікім запасам трываласці.

**Міхаіл НАРДШТЭЙН,**
**маёр.**

Фота **В. Дзюбіна**.



# СУРОВАЯ ВАХТА

Баявая трывога!

Некалькі імгненняў, і закружыліся антэны, нервова затрапяталі доўгія тонкія ствалы зенітных аўтаматаў, павярнуліся, шукаючы цэль, вежы галоўнага калібру.

— Падняць якар!

Мы выходзім у адкрытае мора. У марскім паходзе будзе яшчэ раз праверана баявая вывучка, майстэрства матросаў і афіцэраў эсмінца. Сярод іх нямала і такіх, што прыйшлі на флот па камсамольскіх пуцёўках з Беларусі.

Сёння на баявой вахце—былыя рабочыя з Наваполацка Генадзь Лук'янаў, Аляксадр Жаўранак, Віктар Самуйлаў, Андрэй Кіслоўскі, былы механізатар саўгаса «Сялюты» Віцебскага раёна Павел Іваноў, былы калгаснік калгаса «ІІІ-ці Інтэрнацыянал» Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці Іван Макарэвіч.

Камсамольская марская вахта пачалася больш як 50 гадоў назад, калі ў кастрычніку 1922 года на караблях і ў часцях Чырвонага Балтыйскага флоту быў аб'яўлены загад Рэўваенсавета рэспублікі: «У адпаведнасці з пастановай V Усерасійскага з'езда камсамола лічыць з 16 кастрычніка 1922 года Расійскі Камуністычны Саюз Моладзі шэфам Рабоча-Сялянскага Чырвонага флоту». З таго часу камсамол Беларусі шэфствуе над двойчы Чырванасцяжным Балтыйскім флотам.

Пажоўклыя старонкі «Чырвонай змены»... Вось што пісала Вера Харужая 6 студзеня 1923 года:

«Радасць шумлівая, яркая, бурная напаўняе сабой увесь клуб. Ззяе ўсмешкамі на тварах, б'ецца ў столь і ў сцены клуба песнямі, вясёлым крыкам. Сёння праводзім на флот дзесяць сваіх хлопцаў. Надоўга. Магчыма, ніколі не ўбачым іх болей, але ці ж да твару нам сумаваць, плакаць, уздыхаць? Мы ж камсамольцы. А якія хлопцы едуць! Яны стаяць на сцэне: Пецька Радзін, Рубінскі, Нікanoраў, Паўлавец... Адзін вышэй другога. Здаровыя. Маладыя. І таксама ззяюць, асветленыя яркім святлом люстраў...

Гаворыць камсамолец матрос Кроль. Ён не ўмее прыгожа гаварыць, затое добра навучыўся круціць кола штурвала. Цяпер ён горача вітае сваіх новых сяброў, ваенных маракоў.

А вось і самі будучыя маракі. Ад імя ўсіх—Пецька Радзін. Не можа выліцца словамі, іх не хапае—сумныя словы. Голас рвецца: «Мы альбо адстаім, альбо памром!..»

Вось лозунгі тых дзён: «Палітычна адукаваны марак—чайка сусветнай рэвалюцыі», «Усе да асветы! З якара невуцтва здымацца!»

На прыкладзе экіпажа эсмінца асабліва відавочны тыя змены, якія адбыліся на флоце. Карабель—часцінка нашай Радзімы. На ім служаць прадстаўнікі ўсіх саюзных рэспублік. Пераважная большасць маракоў—людзі з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй.

...Крутая хваля б'е ў сталёвыя барты. Чайкі ляцяць за намі, а потым адстаюць і паварочваюць да берагу. І толькі адна яшчэ доўга вісіць над ютам, быццам не хоча развітвацца.

У адным з баявых пастоў эсмінца захоўваецца пунсовы вымпел імя Героя Савецкага Саюза Яўгена Нікanава. Ім камсамольская арганізацыя ўзнагароджвае лепшае падраздзяленне.

...Гэта было ў першыя дні вайны. Лідэр «Мінск», выконваючы баявы загад, натрапіў на варожыя міны. Грымнулі выбухі. Маракі кінуліся ў ваду і пачалі адпіхваць міны ад борта карабля. Карабель удалося выратаваць, але параненага Яўгена Нікanава фашысты захапілі ў палон. Пачаўся допыт. Яго білі, адлівалі халоднай вадой і зноў білі. Марак маўчаў. Тады азвярэлыя гітлераўцы прывязалі яго да дрэва і запалілі пад ім вялізны касцёр. Загарэлася адзенне, полымя лізала валасы, твар. Але герой не вымавіў ні слова. Так і загінуў на тым страшэнным кастры Яўген.

...А мора ўсё шуміць, спявае сваю адвечную песню. Нясуць службу на баявых пастах радысты і артылерысты, зенітчыкі і гідраакустыкі.

На мачце ўзвіўся чырвоны сцяг. Ужо ў які раз аб'яўлена баявая трывога, і цяпер прыйшла чарга паказаць сваё майстэрства артылерыстам. Паварочваюцца гарматы галоўнага калібру. Залп, другі, трэці... Потым сакратар камсамольскай арганізацыі карабля Віктар Пахомаў падарыў нам асколак таго самага снарада, якім з трэцяга стрэлу была накрыта цэль. Артылерысты карабля атрымалі выдатную ацэнку.

Але, бадай, цяжэй чым каму давялося ў гэтыя дні машыністам-трумным. Яны забяспечвалі бесперабойную работу сэрца карабля—машын. Каб уявіць сабе, што гэта такое, дастаткова аднаго прыкладу. Энергетычная і сілавая ўстаноўка сучаснага эсмінца можа даць цеплыню і энергію гораду сярэдніх памераў. У трумных камандах лепшымі з лепшых лічацца пасланцы Беларускай камсамольскай арганізацыі, якія прыбылі на флот па камсамольскіх пуцёўках. З некаторымі з іх мы пазнаёміліся адразу пасля таго, як прагучэў адбой баявой трывогі.

Генадзь Лук'янаў. Камсамольскую пуцёўку на Балтыку атрымаў на Наваполацкім хімкамбінаце, дзе працаваў апаратчыкам хімічнай вытворчасці. На караблі многаму навучыўся. Служыць кацельным машыністам. У гэтай справе без ведаў нельга. Даводзіцца чытаць спецыяльную літаратуру. Калісьці мора здавалася чымсьці нерэальным. Зараз Генадзь ведае, што яно не толькі сіняе,—яно і жорсткае, яно і спакойнае, яно і ласкавае, і злое. Толькі моцных людзей яно любіць. Пішуць хлопцы з Наваполацка, цікавяцца, як справы, як служба. Вось толькі дзяўчына, што засталася на беразе, скардзіцца—рэдка, маўляў, пішаш. Не разумее, што няма сярод хваль паштовай скрынкі.

Павел Іваноў. Да службы працаваў трактарыстам у саўгасе «Сялюты» на Віцебшчыне. Веданне тэхнікі спатрэбілася і тут. Быў у яго якраз дзень нараджэння, калі адыходзіў ён на флот. Праводзілі ўсёй вёскай, падарунак паднеслі, добрае слова сказалі. Служыць сумленна. Трэба спраўдзіць надзеі землякоў. Інакш нельга.



К бою!



У хвіліну адпачынку.

Аляксей Канаплін. Вучыўся ў Пінску, марыў пра флот даўно. І ў ваенкамаце сказаў: «Хачу на мора». У першыя дні было так цяжка, здалося, што рамантыкі і ў прыродзе не існуе. Але яна ўсё-ткі ёсць. Што асабліва запомнілася? Далёкія паходы, калі многа дзён не бачыш зямлі. Аднойчы ў Паўночным моры сустрэлі міну, якая, відаць, плавала яшчэ з часоў другой сусветнай вайны. Падышлі да яе. Нават убачылі ў яе яшчэ рожкі чырвоныя, праўда, дзе-ні дзе іржой паедзеныя. Як камандзіру разліку аўтаматычнай зенітнай гарматы Аляксею было загадана расстраляць гэтую міну. З другога снарада пайшла яна на дно.

Карабель — як другі дом. Тут Аляксей прайшоў не толькі выдатную баявую школу, але, калі можна так сказаць, і школу чалавеказнаўства. Тут яго прынялі ў партыю. Тут у яго многа сяброў.

Міхаіл Савіч. Нарадзіўся ў сорак чацвёртым, якраз тады, калі Савецкая Армія вызваліла Беларусь ад фашысцкіх захопнікаў. Не ведаў тады яшчэ Міша, што яго бацька, Уладзімір Раманавіч, быў партызанскім кавалём. У вёсцы Стараселле Ляхавіцкага раёна заўсёды дыміла кузня, вясёлы звон стаяў у ёй нават у самыя страшныя дні фашысцкай акупацыі. Вясёлы таму, што вясковы каваль Уладзімір Савіч каваў для партызанаў зброю. А ў сорак чацвёртым ён стаў байцом дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі і, мабыць, дайшоў бы да Берліна, каб не паранілі яго... Вярнуўся дадому салдат Савіч і высока падняў на агрубелых ад ваеннай працы руках сына: «Кім жа ты будзеш, Мішка?»

І зноў зазвінела ў Стараселлі кузня. І каваў калгасны каваль ужо не зброю — плугі каваў.

Хутка падрастаў Міша. Пайшоў у вучылішча механізацыі. Потым яго прызвалі ў армію. Служыў матросам на караблі. Да спадобы прыйшлася хлопцу з вёскі Стараселле марская служба. Цвёрда вырашыў звязаць сваё жыццё з морам і стаў марскім афіцэрам.

...Гэта толькі калі мала ведаеш людзей у вайсковай форме, усе яны здаюцца як бы на адзін твар. Але ж якія яны розныя, маладыя ваенныя маракі!

Мы бачылі на караблі ў каютах кніжныя паліцы: Ленін і Пушкін, падручнікі англійскай і нямецкай мовы. Канспекты. Вучацца ўсе. Карабель — гэта і дом, і школа. Гэта часцінка Радзімы.

Аднойчы ў кают-кампаніі Міша Савіч сказаў:

— Бачыў я ўжо і краіны заморскія, і гарады чужыя. А лепш роднага дома нідзе нічога няма. У морах і акіянах, калі да берагаісці яшчэ месяц, часта мрояцца мне родныя лясы і азёры, сады і хаты, бачыцца мне зрэзаны маршчынамі твар бацькі. І хочацца, каб ніколі болей вясковаму кавалю не давялося каваць мінамёты замест плугоў...

...Мы ідзём да родных берагоў. Ужо ляцяць чайкі, пасланцы зямлі. Яна паказалася ўжо, вузкая паласа на небасхіле, родны бераг, родны прычал! І ўсе, хто свабодны ад вахты, ужо на палубе.

Трывогі сёння не будзе.

**Уладзімір ЛЕВІН.**

Фота **Ф. Бачылы.**

■■■



● **Вячаслаў РАДОМСКІ,**
**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**

# АЛІМПІЯДА І ТРАЯНСКІ ЛУЧНІК

СТАРОНКІ З МЮНХЕНСКАГА ДЗЁННІКА

**Дзень, калі патух алімпійскі агонь у Мюнхене, стаў ужо здабыткам летапісцаў, — з той пары мінула больш чым пяць месяцаў. Але ні час, ні важныя падзеі міжнароднага палітычнага, эканамічнага, культурнага і спартыўнага жыцця не прыглушылі ўвагі сусветнай грамадскасці, журналістаў, спецыялістаў і аматараў спорту да гульняў XX Алімпіяды, да яе асаблівасцяў і вынікаў.**

**І ў гэтым няма нічога дзіўнага. Бадай, ніводная папярэдняя алімпіяда не выклікала такога напалу страсцей на спартыўных пляцоўках і трыбунах, не суправаджалася такім каскадам ашаламляльных рэкордаў. Як ніколі раней пераканаўчы быў у Мюнхене поспех спартсменаў сацыялістычных краін, як ніколі яркая і ўражальная была перамога савецкіх алімпійцаў, што падаравалі залатому юбілею СССР пяцьдзесят залатых алімпійскіх медалёў. Урэшце, гульні Мюнхенскай алімпіяды, як ніякія ранейшыя, былі адзначаны шматлікімі сенсацыямі.**

**У складзе дэлегацыі савецкай моладзі мне давялося быць у Мюнхене ў часе XX Алімпійскіх гульняў. Пра некаторыя свае ўражанні, звязаныя з гэтай паездкай, мне б і хацелася расказаць чытачам «Маладосці».**

У Мюнхене, як і ў сталіцах ранейшых алімпіяд, быў арганізаваны міжнародны маладзёжны Алімпійскі лагер. Арганізацыйны камітэт XX Алімпіяды запрасіў у яго юнакоў і дзяўчат з усіх краін, якія прадстаўлены ў Міжнародным алімпійскім камітэце. Галоўная мэта маладзёжнага лагера, як падкрэслівалі яго арганізатары, — даць моладзі магчымасць пабачыць гульні XX Алімпіяды, пазнаёміцца з Мюнхенам і Кілем, Баварыяй і Шлезвіг-Гальштэйнам. Савецкі алімпійскі камітэт прыняў гэтае запрашэнне і накіраваў у Мюнхен дэлегацыю савецкай моладзі ў складзе ста чалавек.

У часе Алімпіяды нам неаднойчы даводзілася адказваць на пытанні: «Хто ўваходзіць у склад вашай дэлегацыі? Па якіх прынцыпах яна камплектавалася?» Пытанні, на першы погляд, зусім бяскрыўдныя, але вельмі часта за імі хавалася прадузятасць: нібыта Савецкі Саюз прыслаў у Алімпійскі лагер моладзі толькі асабліва падрыхтаваных людзей, выключна штатных работнікаў камсамола... Вымысел, які мяжуе з абсурдам!

Міркуйце самі. Механізатар з Гродзенскай вобласці Вітольд Грыц, работніца завода з Магілёва Ніна Таранкова, мінскі студэнт Яўген Пядзько, маладыя рабочыя з Масквы, Кутаісі, Чалябінска, студэнты з Таліна, Новасібірска, Алма-Аты, навучэнцы прафтэхвучылішча з Ленінграда... Вось хто прадстаўляў савецкую моладзь у Алімпійскім лагеры. Яны заслужылі права на гэтую паездку сваёй ударнай працай і выдатнай вучобай, актыўным удзелам у прапагандзе новага Усесаюзнага фізкультурнага комплексу «Гатовы да працы і абароны» і здачы яго нарматываў. І вось яны, звычайныя савецкія юнакі і дзяўчаты, былі ў цэнтры ўвагі ўсяго маладзёжнага лагера, прадстаўнікоў мясцовай прэсы, радыё, тэлебачання. Тлумачыцца гэта перш за ўсё велізарнай цікавасцю да нашай краіны — радзімы Кастрычніка, радзімы першага касманаўта, хоць, вядома, былі і іншыя прычыны гэтай усеагульнай увагі да нас, пасланцоў Краіны Саветаў: ветласць і гасціннасць нашых хлопцаў і дзяўчат, іх жыццярадаснасць і энергія, здатнасць праспяваць

задушэўную песню і станцаваць агністы танец, гатоўнасць, калі трэба, згуляць са «зборнай камандай» любой, нават славутай футбольнай краіны...

Алімпійскі лагер моладзі, куды мы прыехалі з Масквы 15 жніўня, знаходзіцца на паўночна-заходняй ускраіне Мюнхена, побач з маляўнічым гаем Капуцынерхёльцль. Да асноўных спартыўных збудаванняў алімпіяды адсюль, як кажуць, рукой падаць— 20—25 мінут язды. Акрамя жылых памяшканняў—домікаў, разлічаных на 32 чалавекі,—у лагеры быў вялікі спартыўны комплекс з трыма футбольнымі палямі, валейбольнай і баскетбольнай пляцоўкамі, легкаатлетычнымі сектарамі; летні клуб на тысячу чалавек; сталовая, кафэ, пошта, кіёскі і г. д.

З першага ж дня прыезду мы абсталявалі ў адным з домікаў наш клуб, які неўзабаве атрымаў назву «Кацюша». Афіцыйнае адкрыццё клуба, на якое былі запрошаны кіраўнікі маладзёжных дэлегацый іншых краін, кіраўнікі лагера і прадстаўнікі прэсы, адбылося 17 жніўня іператварылася ў вялікае свята інтэрнацыянальнай дружбы. Песні і танцы народаў усіх кантынентаў да позняй начы не змаўкалі ля домікаў савецкай дэлегацыі. Ад таго часу наша «Кацюша» не пуставала ні хвіліны. Сюды ішлі юнакі і дзяўчаты паслухаць запісы савецкіх песень, паглядзець і ўзяць на памяць кнігі і дыяпазітывы аб савецкім спорце, аб нашай Радзіме, яе дасягненнях у эканоміцы, навуцы і культуры, выпіць шклянку грузінскага чаю і пакаштаваць тульскіх пернікаў, згуляць у шашкі і шахматы... У кнізе водгукаў клуба за тры тыдні кіраўнікі маладзёжных дэлегацый іншых краін, прадстаўнікі маладзёжных арганізацый Мюнхена і Баварыі, рэдакцый газет, радыё і тэлебачання пакінулі больш як 150 удзячных запісаў.

Дні да пачатку гульняў XX Алімпіяды ў нашым лагеры праходзілі ў шматлікіх спартыўных баталіях. Па напале барацьбы гэтыя сяброўскія спаборніцтвы не ўступалі, бадай, асобным алімпійскім паядынкам, але— толькі па напале, не па майстэрстве, вядома. Часцей за ўсё адбываліся футбольныя матчы. Нашы хлопцы ў многіх сустрэчах паказвалі зайздросную волю да перамогі і, што асабліва радавала, немалое майстэрства. Даволі сказаць, што мы выйгралі ў каманд дэлегацый ФРГ і Італіі з лікам 3:2 і 11:0 адпаведна.

У першыя ж дні знаходжання ў лагеры мы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з Мюнхенам. Архітэктура гэтага буйнейшага горада на поўдні Федэратыўнай Рэспублікі Германіі багатая і разнастайная. Рэзідэнцыі герцагаў і каралёў, манастыры, цэрквы і замкі, іншыя шматлікія помнікі дойлідства сведчаць перш за ўсё аб працавітасці, майстэрстве, таленавітасці нямецкага народа, а не толькі (як адзначаюць аўтары шматлікіх даведнікаў) аб мастацкім гусце манархаў Паўднёвай Германіі.

Сённяшні Мюнхен—горад кантрастаў. Побач з готыкай, барока, у стылі якіх выканана большасць старадаўніх будынкаў, узнік гіганцкі горад з бетону. Дамы, што прыцёрліся адзін да аднаго тэрасамі, распадаюцца на асобныя масівы. Знешні выгляд кварталаў ніяк не стасуецца з надпісамі на ўказальніках: «Алімпійская вёска мужчын» і «Алімпійская вёска жанчын». Абедзве вёскі—гэта ультрасучасны горад. Уражвае адсутнасць машын: вуліцы схаваны пад зямлёй.

Новым сімвалам Мюнхена сталі збудаванні на Алімпійскім стадыёне і перш за ўсё гіганцкае павуцінне яго пакрыцця. Тут усё ўнікальнае з інжынернага пункту гледжання: на дванаццаці сталёвых пілонах расцягнута металічная сетка вагой больш чым 300 тон. Зверху яна пакрыта 75 тысячамі квадратных метраў акрылавага шкла. Самы вялікі дах у свеце!

Гледзячы на алімпійскую вёску, на алімпійскі стадыён, міжволі задаеш сабе пытанне: дзеля чаго патрэбны былі і на каго разлічаны шматлікія заявы арганізатараў XX Алімпіяды, накшталт: «...нямецкі алімпійскі камітэт паставіў сабе задачай правесці Алімпійскія гульні 1972 года ў асяроддзі, адпаведным патрабаванням чалавека нашага часу. Так, у архітэктуры пазбягалі ўсялякай прэтэнзіі на звышчалавечыя памеры», альбо: «Мы павінны трымацца ў межах, нічога не перааценьваць і не паддавацца спакусе арганізаваць самыя вялікія і грандыёзныя гульні».

Значыць, былі спакусы правесці самую грандыёзную алімпіяду. Пра гэта гаварыў віцэ-прэзідэнт нацыянальнага алімпійскага камітэта ФРГ Макс Данц яшчэ ў 1966 годзе. І не толькі спакусы, але і канкрэтныя дзеянні, накіраваныя на дасягненне гэтай мэты. У 1967 годзе ў адной з заходнегерманскіх газет паявілася паведамленне, якое пралівала святло на ход перадалімпійскай падрыхтоўкі: «Пасля таго, як Мюнхен дабіўся права на Алімпійскія гульні 1972 года, лозунг «Мы, немцы—першая нацыя ў Еўропе!» павінен ажыццяўляцца з дапамогай не толькі эканомікі, але і палітыкі, і спорту. Кожная перамога, асабліва над спартсменамі з Усходняй Еўропы—важны ўклад у гэтую справу. На гульнях у Мюнхене вырашыцца наш лёс, яны павінны стаць паваротным пунктам у спорце!» Каб ажыццявіць гэты «паварот», стварэецца «фонд дапамогі германскаму спорту», у які ўваходзіць больш як сто прадстаўнікоў буйнейшых манаполій і банкаў. Адразу ж пасля ўтварэння фонд асігнуе на падрыхтоўку да алімпіяды 77 тысяч марак, у 1968 годзе—мільён марак, а ў 1969 годзе—«многія і многія мільёны», як заявіў старшыня фонду, вядомы капіталіст і алімпійскі чэмпіён па конным спорце Йозеф Некерман. Само сабой зразумела, што гэтыя велізарныя сумы пайшлі не на развіццё масавага спорту ў ФРГ. Іх мэта—заваёва прэстыжу, стварэнне палітычнага буму ў Мюнхене, імкненне паўтарыць Алімпійскія гульні 1936 года ў Берліне, паказаць усяму свету сілу і магутнасць Заходняй Германіі. Мюнхенская газета «Зюддойчэ Цайтунг» 24 студзеня 1969 года недвухсэнсоўна заяўляла: «На XX Алімпійскіх гульнях Федэратыўная рэспубліка, якая лічыць сябе адзінай паўнамоцнай спадчынніцай германскага рэйху, пакажа сябе свету цвёрдай дэмакратычнай нацыяй...»

Занадта часта напярэдадні XX Алімпіяды ўспаміналі ў Мюнхене берлінскую алімпіяду 1936 года. На шматлікіх фота ў газетах, у дакументальных кінастужках—Гітлер, Гебельс, Герынг сярод балельшчыкаў на стадыёне. Пасля гэтага не даводзілася здзіўляцца таму, што на стэндах савецкай фотавыстаўкі на плошчы Мюнхенерфрайхайт паяўляюцца варожыя лозунгі, што ў Алімпійскім лагеры моладзі не-не, ды трапляюцца на вочы падкінутыя лістоўкі і брашуркі антысавецкага, рэваншысцкага зместу.

Мюнхен—горад, у якім каля двух гадоў жыў і працаваў Уладзімір Ільіч Ленін. Выпраўляючыся на экскурсію па горадзе, мы папрасілі нашых гідаў паказаць нам ленінскія мясціны. У адказ мы пабачылі няўцямны поціск плячэй—маўляў, мы такіх мясцін не ведаем. З вялікай цяжкасцю, дзякуючы таму, што мы самі ведалі назву адной з вуліц, на якой у свой час жыў Уладзімір Ільіч, мы адшукалі дом № 46 на Кайзерштрасэ. Да 1970 года на гэтым доме была мемарыяльная дошка, якая паведамляла, што тут у 1900—1901 гадах жыў У. І. Ленін. Штогод напярэдадні рэвалюцыйных святаў гэтую дошку замазвалі «хуліганы»—так іх назвала наглядчыца дома. А ў 1970 годзе дошка была ўзарвана... Да гэтага часу яна не адноўлена, і на доме відаць толькі след ад яе. Члены нашай дэлегацыі разам з аргенцінскай моладдзю, якая таксама прымала ўдзел у экскурсіі, паклалі да сцяны дома № 46 на Кайзерштрасэ жывыя кветкі.

Мюнхен, як вядома—сталіца заходнегерманскай зямлі Баварыя. Гэта слова выклікае зусім пэўныя гістарычныя асацыяцыі. 1919 год. Нямецкія рабочыя і рэвалюцыйныя салдаты стварылі гераічную Баварскую Савецкую Рэспубліку... 1923 год. Прыхільнікі Гітлера паспрабавалі наладзіць тут путч, які скончыўся на той час праваламі. Аднак пачатак раслоўнай гітлераўцаў—у «мюнхенскіх піўных». І сёння НДП фон Тадэна сваю найбольшую апору мае ў той жа Баварыі...

Нам, прадстаўнікам савецкай моладзі, было цікава пазнаёміцца з гэтым супярэчлівым краем, з яго гісторыяй, людзьмі. І мы ахвотна ўдзельнічалі ва ўсіх экскурсіях па Баварыі, наведалі некалькі старажытных баварскіх гарадоў. У адным з іх—Штраўбінгу—нас запрасілі прыняць удзел у свяце народнай музыкі і ўраджаю. Гэта было маляўнічае відовішча... Але вяршыняй, кульмінацыяй свята стала выступленне нашых юнакоў і дзяўчат. Ад імя савецкай моладзі жыхароў Штраўбінга і гасцей свята вітала чэмпіёнка XIX Алімпіяды ў Мехіка Зіна Вароніна. А затым... пачалося. Гуллівыя «матрошкі» і маладзецкі танец хлопцаў з паясамі, танец з балалайкамі і рускія народныя песні зачаравалі гледачоў і слухачоў, і яны доўга не адпускалі нашых «артыстаў» з імправізаванай сцэны. Расчулены бургамістр горада даў у гонар нашай дэлегацыі вячэру і прадаставіў у наша распараджэнне шматлікія атракцыёны ў гарадскім парку. А Генадзь Іванчанка, чэмпіён свету па цяжкай атлетыцы, як самы дужы госць Штраўбінга, атрымаў сувенір—трохлітровы кухаль.

Такія імправізаваныя канцэрты нам даводзілася даваць амаль у кожным горадзе, куды мы прыязджалі. У горадзе Ландсхут канцэрт праходзіў на ўнутраным дворыку сярэдневяковага замка. Ландсхут—сталіца Ніжняй Баварыі, горад, які здабыў вядомасць багатым вяселлем, якое наладзіў герцаг Багаты ў 1475 годзе для свайго сына Георга і дачкі польскага караля Ядвігі. І сёння экскурсаводы з захапленнем гавораць аб тым, колькі на вяселлі было гасцей, колькі было з'едзена мяса і выпіта віна. Кожны трэці год жыхары Ландсхута і яго госці адзначаюць гадавіну гэтага вяселля як вялікае свята. Наведалі мы і Рэзенсбург—былую рэзідэнцыю епіскапа Баварыі. У сутарэннях змрочнага замка нас праціналі дрыжыкі толькі ад аднаго погляду на прылады ка-

таванняў, пры дапамозе якіх вярталі на «путь истинный» непажаданых богу і епіскапу ерэтыкоў.

У любым горадзе гіды імкнуліся пераканаць нас, што Баварыя з'яўляецца прадаўжальніцай традыцый старажытнай Грэцыі, яе архітэктуры, мастацтва, спартыўнага руху. У мюнхенскім даведніку гаворыцца, напрыклад: «Мюнхен, баварскія «Афіны-на-Ізары», як яго часам называюць, спрадвеку быў арэнай сустрэч прадстаўнікоў духоўнага жыцця і дзеячаў мастацтва... Наўрад ці ёсць іншы горад, акрамя Мюнхена, дзе гарачае захапленне Грэцыяй знайшло такое разнастайнае адлюстраванне ў мастацтве». У Баварыі сапраўды нямала сведчанняў пераймання Грэцыі. Самым манументальным з іх з'яўляецца «Валгала» — каланада на высокім беразе Дуная паблізу Рэгенсбурга. Створана яна архітэктарам Леа фон Кленцэ ў 1830—1841 гадах па афінскім узоры. «Валгала» называецца сёння помнікам вялікім немцам. Унутры каланады ўстаноўлены бюсты вялікіх людзей, якія гаварылі на нямецкай мове. Сярод іх — бюст рускай імператрыцы Кацярыны II, рускага палкаводца М. Барклая-дэ-Толі, польскага астранома Мікалая Каперніка... Але там няма бюста Уладзіміра Ільіча Леніна, які цудоўна гаварыў па-нямецку. Наглядчыкі музея тлумачылі нам, што ўстанаўліваюцца бюсты людзей, якія заявілі аб сабе да пачатку XX стагоддзя. Але ж у «Валгала» няма і бюстаў Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса, заснавальнікаў ідэалогіі, што валодае сёння розумамі і сэрцамі мільёнаў людзей...

Баварыя. Гаспадыня XX Алімпіяды. Зямля, на геаграфічнай карце якой значацца кружочкі Мюнхена, Нюрнберга і — між імі — Дахау. Кружкі гарадоў, з назвамі якіх у нашай свядомасці звязаны ўзнікненне фашызму ў Германіі, суд над ім, яго страшныя злачынствы супраць чалавецтва. У сакавіку 1933 года на ўскраіне Дахау быў створаны першы канцэнтрацыйны лагер у фашысцкай Германіі. За час яго існавання ў лагеры перабывала больш як 250 тысяч вязняў з 24 краін свету. Тут праводзіліся злачынныя «медыцынскія вопыты» над людзьмі, тут закатавана і забіта больш чым 70 тысяч чалавек, 140 тысяч пераведзены адсюль у іншыя канцлагеры. 30 тысяч дажылі да вызвалення.

Мы пабывалі ў Дахау разам з дэлегацыямі іншых сацыялістычных краін, усклалі вянкі да помніка ахвярам фашызму, агледзелі музей. Зараз Дахау не робіць такога жахлівага ўражання, як, напрыклад, Асвенцім: сляды страшных злачынстваў гітлераўскага фашызму тут старанна схаваны сродкамі сучаснай архітэктуры і аддзелачнымі матэрыяламі.

Сёння Дахау — цэнтр сіянізму ў Заходняй Германіі: толькі на тэрыторыі былога канцлагера месціцца некалькі сінагог. У той дзень, калі мы былі ў Дахау, некалькі тысяч сіяністаў сабраліся там на свой мітынг, прытым сабраліся ў такім месцы, што моладзь, якая выходзіла з музея, міжволі трапляла на гэты мітынг, пад кінакамеры і тэлеаб'ектывы. Даведаўшыся пра гэта, мы спынілі агляд музея і пакінулі Дахау.

Побач з Дахау ёсць мясціна, дзе гітлераўцы расстралялі 6 тысяч ваеннапалонных, пераважна чырвонаармейцаў. Юнакі і дзяўчаты з сацыялістычных краін наладзілі там мітынг, прысвечаны памяці загінуўшых, адзінству і згуртаванасці моладзі ў яе імкненні абараніць мір на планеце. Да помніка, які пастаўлены на месцы трагедыі камуністамі Заходняй Германіі, мы паклалі кветкі. Таварышы з Саюза нямецкай рабочай моладзі расказвалі нам, што толькі ў мінулым годзе закрыта стрэльбішча бундэсвера, якое было зусім побач. На бетоннай стэле помніка мы бачылі сляды куль...

Рассылаючы запрашэнні на ўдзел у маладзёжным Алімпійскім лагеры, яго арганізатары абяцалі гасцям Мюнхена шматлікія сустрэчы моладзі свету з заходнегерманскімі юнакамі і дзяўчатамі. І калі нам прапанавалі наведаць шэраг прамысловых прадпрыемстваў, мы спадзяваліся, што будзем мець магчымасць у часе гэтых наведванняў сустрэцца з маладымі рабочымі ФРГ. На жаль, спадзяванні гэтыя былі марныя. І на піўзаводах, і на маторабудаўнічым заводзе БМВ нам прапанавалі пазнаёміцца з тэхналагічным працэсам, з абсталяваннем і... пакаштаваць піва. Аб сустрэчах ці гутарках з моладдзю не было і гаворкі. Толькі на прадпрыемствах фірмы «Сіменс», якая ўдзельнічала ў абсталяванні разнастайных табло і ўказальнікаў на спартыўных збудаваннях Алімпіяды, члены рабочага савета расказалі нам аб сваёй рабоце па сацыяльным страхаванні і пенсійным забеспячэнні, прафесійнай адукацыі, цікавіліся дзейнасцю прафсаюзных і іншых грамадскіх арганізацый на савецкіх прадпрыемствах. Нам не без гонару паведамілі, што ў пачатку XX стагоддзя ў кіраўніцтве фірмы працаваў Леанід Барысавіч Красін, паплечнік У. І. Леніна, паказалі і невялікі музей гісторыі фірмы, дзе ёсць спецыяльны стэнд пра нашага рэвалюцыянера.

Кіраўніцтва Алімпійскага маладзёжнага лагера не асабліва ахвотна наладжвала сустрэчы моладзі і ў самім лагеры. Такія сустрэчы з юнакамі і дзяўчатамі іншых краін мы часцей арганізоўвалі па ўласнай ініцыятыве. Адзін з дзён знаходжання ў лагеры мы прысвячалі адной з саюзных рэспублік альбо дружбе моладзі СССР з моладдзю той альбо іншай сацыялістычнай краіны. Па прапанове дэлегацый СССР, ГДР і ПНР у лагеры былі праведзены дні, прысвечаныя нацыянальным святам, у тым ліку і дзень Савецкага Саюза. Праўда, для правядзення дня СССР была вызначана не зусім удалая дата — 27 жніўня, другі дзень Алімпійскіх гульняў, і мы непакоіліся, ці зможам правесці сваё свята так, каб яно стала святам усяго Алімпійскага лагера моладзі.

Хваляванні нашы аказаліся дарэмныя — у свяце прыняла ўдзел большасць дэлегацый, якія на той дзень прыбылі ў лагер. Больш чым дваццаць каманд спаборнічалі па трох відах спорту. Шматлюднымі былі пасяджэнні клубаў, дзе адбываўся жывы абмен думкамі па самых разнастайных пытаннях, што хвалююць моладзь планеты. Нямала ўдзельнікаў сабрала і віктарына «Што ты ведаеш пра СССР?», пераможцамі якой сталі нашы сябры з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

А ўвечары быў канцэрт. Прысвяцілі яго мы пяцідзесяцігоддзю ўтварэння СССР і запрасілі ўдзельнічаць у ім Аляксандру Пахмутаву, Эдзіту П'еху, Мусліма Магамаева, ансамбль «Іверыя»... У клубе — ніводнага свабоднага месца, не хапае крэслаў. Ззаду на тэнісныя сталы паселі грывастыя хлопцы (іх было нямала ў многіх дэлегацыях). Пачатак канцэрта. Першыя нумары, першыя выканаўцы. Зала апладзіруе, але на «галёрцы» — падазроны шум. Выступае наш танцавальны ансамбль, салісты, нашы госці... Ужо не чуваць «галёркі», асобных рэплік, што даляталі адтуль. І вось фінал канцэрта. Усе яго ўдзельнікі пачынаюць: «Широка страна моя родная...» А ў зале ў адзіным парыве ўсе ўстаюць і апладысментамі адбіваюць такт песні. Песні пра нашу вялікую сацыялістычную Радзіму.

Вядома, ніхто з нас не сумняваўся ў майстэрстве і высокіх маральна-валявых якасцях нашых спартсменаў, тых, каму Радзіма даверыла абараняць гонар свайго сцяга. Але мы разумелі, што нашым алімпійцам вельмі патрэбны тут, далёка ад Радзімы, моцны поціск рукі, сяброўская ўсмешка, вясёлы жарт, клопат і ўвага блізкага чалавека, аднадумцы, і таму стараліся зрабіць усё магчымае для таго, каб яны не адчувалі сябе адзінока, каб яны ведалі, што савецкая моладзь уважліва сочыць за іх выступленнямі, разам з імі радуецца перамогам, засмучаецца няўдачамі.

У Мюнхен мы прыехалі раней і сустракалі членаў нашай спартыўнай дэлегацыі ўжо на правах старажылаў. Да кожнага прыезду савецкіх спартсменаў мы рыхтавалі спецыяльныя частушкі і жартоўныя куплеты, кветкі і сувеніры. У дні прыезду нашых алімпійцаў ніхто не хацеў заставацца ў лагеры, усе стараліся трапіць на сустрэчу з імі. Першая група савецкіх алімпійцаў прыбыла ў Мюнхен 20 жніўня. Хлебам-соллю, кветкамі, сяброўскімі ўсмешкамі мы сустракалі іх у аэрапорце. Тут жа, ля будынка аэравакзала, узнік імправізаваны канцэрт. Неўзабаве вакол нас сабралася некалькі сот гледачоў, вялізны натоўп, што, відаць, парушыла нармальны рытм работы розных служб аэравакзала. І таму праз дзень, калі ў Мюнхен прыбывала другая частка нашай спартыўнай дэлегацыі, мы, каб не ўступаць у канфлікт з аэрапортам, сустракалі спартсменаў непасрэдна ў Алімпійскай вёсцы. Пакуль мы чакалі прыезду аўтобусаў, да нас падышоў свяшчэннік ва ўсім сваім убранні, пацікавіўся, хто мы і адкуль, расказаў, што выехаў з Расіі ў часе першай імперыялістычнай вайны, паскардзіўся на тое, што рускія, маўляў, занадта часта прыгадваюць вайну і не жывуць па прынцыпе «прайшло — быллём парасло». Дыскусія не паспела разгарэцца, як падышлі аўтобусы. Цёплая сустрэча, прывітальныя частушкі, вясёлыя жарты і шчырыя ўсмешкі. Мы і забыліся пра свайго нечаканага субяседніка. А назаўтра многія мюнхенскія газеты выйшлі з фотаздымкамі, на якіх быў зняты свяшчэннік у гурце савецкай моладзі. Пад фотаздымкамі быў подпіс: «Руская моладзь на чале з айцом Аляксеем сустракае сваіх алімпійцаў...»

Нам, вядома, хацелася ведаць, у якой форме нашы спартсмены, як яны разлічваюць выступіць у Мюнхене, але надакучваць ім з роспытамі не рашаліся: хапала таго, што ім надакучалі журналісты і каментатары. Каб хоць крыху задаволіць нашу цікаўнасць, мы пайшлі паглядзець трэніроўкі нашых гімнастак — яны аднымі з першых выходзілі на старты Мюнхенскай алімпіяды. Шмат гаварылася і пісалася пра савецкіх гімнастак, пра нашу гімнастычную школу. Але тое, што пабачыў я на трэніроўках у «Шпортхале», не магло не ўразіць. Выдатным майстэрствам, працавітасцю і артыстызмам вылучаюцца ўсе нашы дзяўчаты: і ветэраны Люба Бурда і Люда Турышчава, і навабранцы алімпіяды Эльвіра Саадзі, Ніна Дронава, Тоня Кошаль, Тамара Ла-

заковіч, Оля Корбут. Гледзячы, як трэніруюцца нашы гімнасткі, мы думалі: быць «золату» і ў камандным, і ў асабістым заліку.

Многія з нас прыехалі ў алімпійскі парк на трэніроўкі савецкіх спартсменаў, апрануўшы спартыўныя касцюмы. І спачатку не зразумелі, пра каго гэта гавораць наўкол: «Цэ-цэ-цэ-пэ». Толькі потым здагадаліся: гэта ж яны чытаюць па-лацінску літары на нашых спартыўных куртках — СССР. Пасля першых жа перамог савецкіх спартсменаў чуць такога ўжо не даводзілася: усе ўжо ведалі, што «цэ-цэ-цэ-пэ» азначае Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Надоўга запомніцца мне камсамольскі сход савецкай зборнай напярэдадні адкрыцця XX Алімпіяды. Выступалі спартсмены, трэнеры. Без гучных слоў, без пыхлівых фраз гаварылі яны аб гатоўнасці сваёй змагацца за перамогу, абяцалі апраўдаць вялікі давер Радзімы. Былі сардэчныя пажаданні, шчырыя парады... «Выступайце так, каб самай вядомай, самай папулярнай мелодыяй Алімпійскіх гульняў стаў Гімн Савецкага Саюза!», — сказаў Роберт Раждзественскі.

Мюнхен сустрэў нас ліўнем. Памятаю, што, прыехаўшы ў Алімпійскі маладзёжны лагер, мы не маглі знайсці сухога месца — дахі нашых домікаў цяклі. І ўвесь тыдзень напярэдадні адкрыцця алімпіяды надвор'е было кепскім. Трывожыліся арганізатары, хваляваліся ўдзельнікі, непакоіліся госці... Аднак дзень адкрыцця XX летніх Алімпійскіх гульняў выдаўся на дзіва пагодлівым, святочным.

Вясёлае ажыўленне пануе ў абедзвюх алімпійскіх вёсках. Нашы хлопцы і дзяўчаты атрымалі дзесяткі, сотні пісьмаў, тэлеграм з пажаданнямі паспяховых стартаў у Мюнхене. Нямала цёплых слоў прынёс тэлеграф у алімпійскі Мюнхен і з Беларусі. Барыс Іванавіч Коўзан, Герой Савецкага Саюза, адзіны ў свеце лётчык, які здзейсніў чатыры паветраныя тараны, пісаў: «Дарагія нашы алімпійцы! Вядома, Алімпіяда — гэта не бой, але «бітвы» вас чакаюць гарачыя. Памятайце: нават калі ў чалавека, здаецца, вычарпаны ўсе магчымасці, ёсць у яго сілы, каб здзейсніць немагчымае і «ісці на таран». Рыма Сымонаўна Цакунова, Герой Сацыялістычнай Працы, удзельніца трох Спартакіяд народаў СССР, тэлеграфавала: «Душой і сэрцам я заўсёды з вамі, дарагія калегі па спорце. Прыміце мае самыя найлепшыя пажаданні. Хай над воднымі дарожкамі Мюнхена шмат-шмат разоў узвіваецца сцяг нашай Радзімы».

А палове дня трыбуны алімпійскага стадыёна былі перапоўнены. Нібыта мурашы, тысячы людзей абляпілі зялёны пагорак, што ўзвышаецца ў алімпійскім парку непадалёк ад стадыёна. Пагорак гэты — штучнае збудаванне. Пад пластам зямлі схаваны патрушчаная цэгла, каменне руін, якіх нямала было ў Мюнхене пасля вайны. Гэта яшчэ адзін напамін аб тым, што трэба памятаць урокі мінулага.

...Стрэлка электрычнага гадзінніка алімпійскага стадыёна набліжаецца да 15.00 па мясцовым часе. Гучыць сігнал, які абвяшчае пачатак урачыстай цырымоніі адкрыцця XX Алімпійскіх гульняў. І вось на дарожцы стадыёна паяўляюцца ўдзельнікі ўрачыстага парада. Па даўняй традыцыі, першай ідзе каманда спартсменаў Грэцыі — радзімы Алімпіяд. За ёю, згодна з літарамі лацінскага алфавіту, алімпійцы Егіпта, Эфіопіі, Афганістана... Упершыню ўдзельнікі парада ідуць не пад медзь духавых аркестраў. Парад суправаджаюць маршавыя мелодыі, што выконваюцца вядомым заходнегерманскім эстрадным аркестрам пад кіраўніцтвам Курта Эдэльхагена. У музычнай кампазіцыі шырока выкарыстаны народныя песні і папулярныя мелодыі многіх краін.

Трыбуны цёпла вітаюць спартсменаў 122 краін зямнога шара. І шматлікія дэлегацыі Вялікабрытаніі, Польшчы, Венгрыі, і дэлегацыі, дзе за дзяржаўным сцягам ідуць пяць, чатыры, тры, а то і адзін спартсмен. Сімвалічна, што маладыя незалежныя дзяржавы, такія, як Рэспубліка Заір, Лівія, Габон, Малі, Дагамея, прыслалі сваіх спартсменаў на алімпійскія гульні. Гэта сведчанне перамогі ідэй міру і дружбы народаў, ідэй алімпійскага руху, дэвіз якога: «Галоўнае не перамога, галоўнае — удзел».

На чырвона-бурую рэкартанавую дарожку алімпійскага стадыёна выходзяць савецкія спартсмены. Ідзе пакаленне савецкіх алімпійцаў, якім працягваць традыцыі сваіх слаўных папярэднікаў Уладзіміра Куца і Галіны Зыбінай, Юрыя Уласава і Віктара Капітонава, многіх іншых выдатных спартсменаў, што з годнасцю абаранялі гонар нашай Радзімы на ранейшых алімпіядах. Наперадзе з Дзяржаўным сцягам Савецкага Саюза — наш беларускі спартсмен, славуты барэц Аляксандр Мядзведзь — пераможца XVIII і XIX Алімпійскіх гульняў, сяміразовы чэмпіён свету.

Ідуць лепшыя прадстаўнікі сусветнага спорту. Колькі тут сёння чэмпіёнаў і рэкардсменаў свету, кантынентаў і краін, мацнейшых і хутчэйшых, імёны якіх вядомы мільёнам людзей! Але ў гэтыя хвіліны, у часе адкрыцця свята, усе яны аднолькава жывуць надзеяй на спартыўнае шчасце і славу пераможцаў XX Алімпійскіх гульняў.

Парад скончыўся. Апошнімі прайшлі перад трыбунамі спартсмены ФРГ — гаспадары алімпіяды. Поле галоўнага спартыўнага збудавання Мюнхена — нібыта велізарная клумба з красак усяго свету. Прэзідэнт ФРГ Густаў Хейнеман аб'яўляе XX Алімпійскія гульні адкрытымі. Пад гукі алімпійскага гімна ўзвіваецца на флагштоку велізарны сцяг з пяццю пераплеценымі кольцамі. Грыміць артылерыйскі салют, узлятаюць у неба пяць тысяч галубоў... Настаў самы ўрачысты момант — вось-вось павінен прыбыць алімпійскі агонь. Факел быў запалены ля руін алімпійскага храма ў Алімпіі 28 ліпеня. На працягу 29 дзён і 7 гадзін яго перадавалі з рук у рукі 5 976 бегуноў. І вось факел у руках заходнегерманскага спартсмена — студэнта Гюнтэра Цана. Ён бяжыць па стадыёне, падымаецца па прыступках і падносіць факел да чашы. Імгненне — і ўспыхвае полымя. Яно будзе шугаць два тыдні.

Аздобаю свята сталі гімнастычныя танцы-практыкаванні, з якімі выступілі школьнікі Мюнхена. Затым удзельнікам і гасцям алімпіяды быў паказаны баварскі нацыянальны танец з бізунамі. Некалькі дзесяткаў здаравенных хлопцаў у скуранках з велізарнымі бізунамі зухавата выйшлі на дарожку стадыёна. Некалькі рытмічных рухаў. І раптам — тра-та-та-та... Нібыта кулямётная чарга секанула па трыбуне. Так паўтаралася некалькі разоў. «Расстраляўшы» па чарзе ўсе трыбуны, танцоры з ваяўнічым выглядам пакінулі стадыён...

А ўвечары ў «Шпортхале» адбыўся святочны канцэрт, у якім, поруч з прафесіянальнымі і самадзейнымі артыстамі з Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, удзельнічаў ансамбль танца Ленінградскага дома культуры прафтэхадукацыі. У часе канцэрта гледачам былі прадстаўлены выдатныя спартсмены сучаснасці, запрошаныя на XX Алімпійскія гульні ў якасці гасцей. Сустрэты бурнымі апладысментамі чатырнаццацітысячнай аўдыторыі, выехаў у сваёй калясцы Абебе Бікіла. Нельга не схіліцца перад воляй і мужнасцю гэтага чалавека, які выцерпеў столькі душэўных і фізічных пакут. І зусім іншая рэакцыя панавала ў зале, калі публіцы былі прадстаўлены Эміль Затапэк і Вера Часлаўска. Па трыбунах прабег халадок недаверу. Недаверу да людзей, якія здрадзілі сваёй радзіме, свайму народу.

Пачаліся працоўныя будні алімпіяды. Першыя старты, першыя перамогі, першыя расчараванні. Уладальнікам першага залатога медаля Мюнхенскай алімпіяды стаў шведскі спартсмен Рагнар Сканакер. У стральбе з адвольнага пісталета ён перамог з новым алімпійскім рэкордам — 567 ачкоў. Падзеі на спартыўных арэнах разгортваюцца імкліва. Штодня ў барацьбу ўключаюцца прадстаўнікі ўсё новых і новых відаў спорту. Ужо алімпійскі агонь дастаўлены ў Кіль — самы далёкі горад, дзе праводзяцца спаборніцтвы XX гульняў Алімпіяды. Пачалі лік алімпійскіх медаляў і савецкія спартсмены — плыўцы Уладзімір Бурэ, Віктар Мазанаў, Віктар Абаімаў і Ігар Грывеннікаў у эстафеце 4×100 вольным стылем занялі другое месца, устанавіўшы новы рэкорд Еўропы — 3 мін. 29,72 сек.

29 жніўня. Гэтай хвіліны мы чакалі з першых жа стартаў. І вось яна прыйшла. На флагштоку — сцяг нашай Радзімы, гучыць Гімн Савецкага Саюза, гучыць у гонар нашых дзяўчат, якія апярэдзілі ў камандных спаборніцтвах гімнастак з ГДР.

Чорна-чырвона-залатое палотнішча з цыркулем і молатам у вянку каласоў — дзяржаўны сцяг Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі — у Мюнхене быў упершыню пранесены перад трыбунамі Алімпійскага стадыёна. 12 кастрычніка 1968 г. сесія МАК прымае рашэнне аб тым, што з гэтага часу алімпійцы ГДР будуць выступаць на гульнях не толькі самастойнай камандай, але і пад уласным сцягам і са сваім гімнам. Гэтае рашэнне сведчыць аб перамозе розуму і справядлівасці, але не ўсім яно прыйшлося да спадобы...

У канцы 1969 года на мюнхенскім манетным двары было адчаканена 6 мільёнаў памятных алімпійскіх манет вартасцю ў 10 марак кожная. На адным баку манеты адлюстраваны дзяржаўны герб ФРГ, на другім — траянскі воін-лучнік і надпіс па крузе: «Гульні XX Алімпіяды 1972 г. у Германіі». Гэтая заява аб «Алімпіядзе ў Германіі», выпушчаная ў шасці мільёнах экзэмпляраў, выклікала абурэнне ва ўсім свеце. Памятныя манеты яшчэ раз падкрэслілі імкненне некаторых колаў у ФРГ выступаць ад імя «ўсёй Германіі», іх прагу вярнуцца да граніц 1937 года.

Манетны двор атрымаў новы заказ. Быў падрыхтаваны новы эскіз манеты. У ім не было ўжо малюнка воіна, але надпіс — «Гульні XX Алімпіяды 1972 г. у Германіі» — быў захаваны. У адказ на гэта Міжнародны алімпійскі камітэт накіраваў кіраўнікам спорту Заходняй Германіі суровае папярэджанне, у якім адзначалася, што правядзенне гульняў даручаецца не краіне, а гораду, і што надпіс на манетах зроблены з парушэннем алімпійскага

статута. МАК прамаўчаў аб прэтэнзіях асобных колаў ФРГ прадстаўляць абедзве нямецкія дзяржавы. Прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта ФРГ і аргкамітэта XX гульняў Вілі Дауме, апраўдваючы з'яўленне гэтых манет, усю віну пераклаў на... мастакоў, якія нібыта «дапусцілі некаторыя адвольнасці». Сапраўдная ж прычына была недвухсэнсава выкладзена 27 лютага 1970 года газетай «Райнішэр Меркур»: «З дапамогай алімпійскай манеты, якую гнеўна асуджае Усходні Берлін, федэратыўны ўрад пацвярджае свае права, прадвызначанае канстытуцыяй, дзейнічаць ад імя і тых немцаў, якія не могуць свабодна вырашаць свой лёс».

Яшчэ больш красамоўнымі былі дакументы, апублікаваныя ў прагрэсіўным друку ФРГ і ў прэсе ГДР. Дзякуючы ім стала вядома, што яшчэ 12 снежня 1968 года Вілі Дауме сустрэўся на мюнхенскім манетным двары з мастакамі і асабіста зацвердзіў эскізы памятных манет. Больш таго, былі апублікаваны вытрымкі з урадавай пастановы ад 18 красавіка 1969 года, дзе чорным па белым напісана: «Выпускаецца манета вартасцю ў 10 нямецкіх марак (алімпійская манета) з выпадку гульняў XX Алімпіяды 1972 года ў Германіі...» Пад дакументам—подпісы тымчасовых прэзідэнта ФРГ Любке і канцлера Кізінгера...

У міжнародным скандале, што быў выкліканы рэваншысцкім надпісам на алімпійскіх манетах, на другі план адступіў малюнак траянскага лучніка. Між тым з'яўленне антычнага воіна на гэтых манетах таксама не выпадковае. Адначасова ў ФРГ была выпушчана серыя алімпійскіх паштовых марак з партрэтам Карла Дзіма, апалагета нацыяналістычнай ідэалогіі яшчэ ў кайзераўскай Германіі, аднаго са спартыўных фюрараў трэцяга рэйха, былога прэзідэнта заходнегерманскага НАК.

Значыць, воін—замест атлета, профіль Дзіма, які заяўляў, што «вайна—лепшы і старадаўні спорт!»,—замест профіля П'ера Кубертэна, чалавека, які адрадзіў Алімпійскія гульні і які вымавіў славутыя словы: «О, спорт, ты—мір!»...

Такая нумізматыка і філатэлія не была вынікам памылак ці адвольнасцяў мастакоў. У гэтым мы змаглі пераканацца, будучы ў Мюнхене. Нярэдка тут праяўлялася непавага да дзяржаўнага гімна ГДР, напрыклад. Дваццаць залатых медаляў заваявалі спартсмены Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі ў Мюнхене. Практычна на алімпіядзе не было ніводнага дня, каб не гучаў гімн першай на нямецкай зямлі дзяржавы рабочых і сялян. Але былі спробы прыглушыць гэты гімн, не даць яму магчымасці гучаць на поўную сілу... 2 верасня. На канале Обершляйсхайм ідуць фінальныя спаборніцтвы па акадэмічным веславанні. Тройчы—у гонках двоек без рулявога, двоек з рулявым і чацвёрак без рулявога—званне алімпійскіх чэмпіёнаў заваёўвалі спартсмены ГДР. Урачысты цырыманіял узнагароджвання пераможцаў. Блішчаць на сонцы трубы духавога аркестра. Прызёры спаборніцтваў падымаюцца на п'едэстал пашаны, ім уручаюць алімпійскія медалі, на галоўным флагштоку—сцяг ГДР, а гімна —не чуваць. У чым справа? Аказваецца, калі трэба было выконваць дзяржаўны гімн ГДР, «псаваліся» мікрафоны. Нягледзячы на гэта, гледачы вельмі цёпла віталі кожную новую перамогу спартсменаў Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Праўда, падчас можна было пачуць і рэплікі, накшталт той, якую я пачуў у натоўпе. Адна пажылая дама вельмі ўжо горача пераконвала свайго суседа: «Вядома, яны (спартсмены ГДР) не маглі выступіць кепска, таму што ім загадала зрабіць гэта іх партыя. А ў лодкі яны пасадзілі партыйных функцыянераў...»

А вось яшчэ адзін эпізод, сведкамі якога мы былі ў той жа дзень у алімпійскім басейне. На п'едэстале пашаны—Раланд Матэс, плывец з ГДР. Зараз на сярэдняй, самай высокай, мачце падымецца сцяг ГДР, будзе выкананы яе дзяржаўны гімн. Наступае ўрачыстая мінута. І тут на трыбуне якісьці шум. Што такое? Аказваецца, некаму спатрэбілася менавіта зараз, якраз у гэты момант, пакінуць трыбуну. Укормлены чалавек сыходзіць уніз па прыступках, гулка гэкаючы чаравікамі. Ён спецыяльна прыйшоў сюды, наперад смакуючы гэтую хвіліну. Ён ведаў, што пра яго напішуць. Напішуць, што ён не пажадаў слухаць гімн Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Гэтага чалавека завуць Франц-Йозеф Штраус, ён—старшыня ХСС. У яго свой «асаблівы» погляд на рэчы, у тым ліку і на Алімпіяду...

Імкненнем выступаць ад імя абедзвюх нямецкіх дзяржаў вылучаліся ў часе алімпійскіх гульняў і многія газеты Мюнхена і Баварыі. Справаздачы аб спаборніцтвах 2 верасня, калі паспяхова выступілі спартсмены ГДР, былі змешчаны пад буйнымі загалоўкамі: «Дзень перамогі нямецкага спорту». Гаворка ў іх ішла аб тым, што германская нацыя—прадаўжальніца спартыўных традыцый старажытных грэкаў, што ўчарашні дзень блізкі да поспехаў нямецкай каманды на летніх Алімпійскіх гульнях 1936 года ў Берліне. А затым ужо, нібы між іншым, гаварылася пра медалі, заваяваныя спартсменамі ГДР і ФРГ у гэты дзень.



Гаспадарам XX Алімпійскіх гульняў вельмі хацелася пераканаць іх удзельнікаў і гасцей, што спаборніцтвы на зямлі Мюнхена будуць «вясёлымі гульнямі». Дзеля гэтага не шкадавалі напышлівых фраз у рэкламных праспектах, не шкадавалі і грошай—абы толькі прымусіць усіх забыцца на мінулае баварскай сталіцы. А памяць аб гэтым мінулым жыла і выклікала сур'ёзны недавер да горада, які стаў сталіцай XX Алімпіяды большасцю толькі ў адзін голас (31—за Мюнхен, 30—за Манрэаль). Алімпіяда была патрэбна Мюнхену, яна павінна была стаць яго новай візітнай карткай, надаць яму новае аблічча. У сваіх намаганнях адны былі шчырыя, іншыя ж зыходзілі толькі з палітычных меркаванняў. Агульны ажыятаж, выкліканы перадалімпійскай падрыхтоўкай, нібыта згладзіў гэтыя разыходжанні. Але яны яшчэ больш абвастрыліся ў дні трагедыі, што адбылася на стадыёне 5 верасня. Што ж сталася ў гэты дзень у Мюнхене?

Раніцою група невядомых асоб пранікла на тэрыторыю Алімпійскай вёскі (як высветлілася пазней, іх прынялі за падгуляўшых спартсменаў) і ў пяць гадзін у доме № 31 адкрыла агонь па ізраільцянах. Было забіта два члены ізраільскай дэлегацыі на алімпійскіх гульнях, а астатнія захоплены ў якасці заложнікаў. Нападаўшыя тут жа ўльтыматыўна патрабавалі ад урада Ізраіля вызваліць з турмаў 200 палесцінскіх вязняў. Тэрарысты з экстрэмісцкай палесцінскай арганізацыі «Чорны верасень» заявілі, што ў выпадку спробы вызваліць заложнікаў сілай альбо невыканання ўльтыматуму яны ўзарвуць захоплены корпус разам з усімі яго жыхарамі.

Мюнхенская паліцыя ачапіла Алімпійскую вёску і зрабіла захады для выратавання заложнікаў. У 7 гадзін 20 мінут сюды прыбыў міністр унутраных спраў ФРГ Геншэр і міністр унутраных спраў Баварыі Мерк. Ім удалося адцягнуць тэрмін ультыматуму спачатку да дзевяці, пасля да дванаццаці, пятнаццаці, урэшце, да семнаццаці гадзін па мясцовым часе. Пасля працяглых перагавораў паліцэйскія ўлады і тэрарысты дамовіліся аб тым, што нападаючыя разам з заложнікамі будуць адпраўлены на самалёце ў адну з арабскіх краін.

Увечары тэрарысты і дзевяць заложнікаў былі дастаўлены на граніцу Алімпійскай вёскі, а затым на двух верталётах перавезены на аэрадром Фёрстэнфельдбрук пад Мюнхенам. Тут іх чакаў самалёт. Калі верталёты прызямліліся, паліцэйскія снайперы, што сядзелі ў засадзе,адкрылі па тэрарыстах агонь. У перастрэлцы, якая ўсчалася, тэрарысты гранатамі знішчылі заложнікаў, пілота аднаго з верталётаў, а таксама паліцэйскага. Трое паліцэйскіх былі паранены. Выбухам гранаты быў знішчаны верталёт. Пяцёра тэрарыстаў было забіта, трое—арыштавана.

Што ж было прычынай бойні на аэрадроме? Сёння зразумела яшчэ далёка не ўсё. Але відавочна галоўнае. Урад Голды Меір адмовіўся не толькі вызваліць палесцінскіх вязняў, але і весці наогул якія-небудзь перагаворы аб умовах выратавання дзевяці заложнікаў. Будучы ў Мюнхене, мы, па чутках, здагадваліся, што перастрэлка на аэрадроме і ўвесь гэты скандал не выпадковыя. Больш познія падзеі пацвердзілі гэтыя меркаванні.

Балгарская газета «Вечерни новини» апублікавала пісьмо, якое атрымаў чытач Іосіф Стаянаў ад свайго сябра з Ізраіля. Гэтае пісьмо ўражвае доказамі правакацыйнай ролі, якую адыграў урад Ізраіля ў фінале мюнхенскай трагедыі. У ім справядліва адзначаецца, што заходнегерманская паліцыя напачатку зрабіла актыўныя захады для выратавання заложнікаў. Улады ФРГ прапанавалі тэрарыстам замяніць заложнікаў іншымі людзьмі (нават Геншэрам, міністрам унутраных спраў ФРГ) альбо выплаціць любую суму грошай. Яны былі ўпэўнены, што гэтым самым адтэрмінуюць скančэнне ўльтыматуму і дадуць час Голдзе Меір і яе паплечнікам высунуць хоць нейкую аснову для перагавораў, ад зыходу якіх залежылі жыцці дзевяці ізраільскіх спартсменаў. Аднак усе гэтыя намаганні былі марнымі. Пасол Ізраіля ў ФРГ, які прыбыў у Мюнхен, заявіў ад імя Тэль-Авіва, што 200 палонных вызвалены не будуць і што ўрад Ізраіля цалкам спадзяецца на тыя захады, якія зробіць заходнегерманскі бок.

Улады ФРГ вядуць перагаворы з заложнікамі. Тыя згаджаюцца ляцець на Кіпр пры ўмове, калі ўрад згодзіцца абмяняць іх на палонных палесцінцаў у месцы прызямлення самалёта. Ізраільскі пасол быў тут жа ўведзен у курс гэтых перагавораў. Але, як высветлілася, лёс заложнікаў вырашаў не ён, а высокапастаўлены чыноўнік ізраільскай разведкі, які тэрмінова прыляцеў з Тэль-Авіва ў Мюнхен. У апублікаваным пісьме гаворыцца: «Менавіта гэты чыноўнік ізраільскай разведкі заявіў заходнегерманскім уладам: Тэль-Авіў настойвае, каб урад ФРГ не выпускаў палесцінцаў разам з заложнікамі за межы Заходняй Германіі. Ён сказаў, што смерць усіх удзельнікаў інцыдэнту—як заложнікаў, так і тэрарыстаў—больш пажа-

дана, чым іх вываз за межы Заходняй Германіі. Ён намякнуў таксама, што смерць заложнікаў развязала б Ізраілю рукі для правядзення шырокіх акцый помсты супраць арабскіх дзяржаў...» Такім чынам, ізраільскі прадстаўнік, карыстаючыся тым, што гаворка ідзе аб жыцці яго суайчыннікаў, навязаў заходнегерманскай паліцыі план дзеянняў са санайперамі... Як сцвярджае аўтар пісьма, гэты высокапастаўлены разведчык асабіста прымаў удзел у знішчэнні як тэрарыстаў, так і заложнікаў.

У святле гэтага пісьма новыя і даволі злавесныя абрысы набывае і яшчэ адзін факт, пра які нямала гаварылася ў часе інцыдэнту. Аказваецца, яшчэ да пачатку XX Алімпійскіх гульняў ураду Голды Меір паведамілі з ФРГ, што ў Мюнхен прыязджае вялікая колькасць спартсменаў і гасцей з краін, чыя тэрыторыя акупавана Ізраілем. У сувязі з гэтым алімпійская спартыўная дэлегацыя Ізраіля будзе спецыяльна ахоўвацца з дапамогай дадатковых сродкаў. З Тэль-Авіва прыйшоў недвухсэнсавы адказ: ні ў якім выпадку гэтага рабіць не трэба!

Асобныя рэакцыйныя палітыканы пастараліся выкарыстаць трагічныя падзеі для стварэння атмасферы нервознасці і разгубленасці на алімпійскіх гульнях і нават для іх зрыву. Здзіўляе аператыўнасць, з якой былі падрыхтаваны і распаўсюджаны па горадзе лістоўкі з патрабаваннямі тэрарыстаў, арганізаваны радыёперадачы на станцыях метро, трамвайных і аўтобусных прыпынках. Усё гэта прывяло да таго, што 5 верасня Алімпійская вёска знаходзілася нібы ў асадзе—яе шчыльным натоўпам акружалі дзесяткі, а то і сотні тысяч людзей, што чакалі абяцанага выбуху. У гэтым людскім моры хадзілі самыя неверагодныя чуткі...

Знаходзіліся ў Заходняй Германіі людзі, для якіх падзеі, што леглі змрочным ценем на Мюнхенскую алімпіяду, паслужылі сігналам для новых злаславых атак на федэральны ўрад Вілі Бранта. Шпрынгераўскі «Більд» з нумара ў нумар «падкідваў» сваім чытачам адну і тую ж думку: няма парадку на алімпіядзе—значыць, няма яго і ў краіне; урад не можа навесці парадку—дык, значыць, трэба змяніць такі ўрад...

Праціўнікі разрадкі ў свеце і ў Еўропе спрабавалі арганізаваць у дні Алімпійскіх гульняў сваю «палітыкіяду». Аднак гэта ім не ўдалося. Не ўдалося таму, што ідэі міру, узаемаразумення і дружбы паміж народамі карыстаюцца падтрымкай большасці людзей планеты. Вернасць алімпійскім ідэалам згуртавала ў тыя дні ўдзельнікаў гульняў. Спартсмены, журналісты, госці алімпіяды, грамадскія дзеячы многіх краін, у тым ліку і ФРГ, асуджалі спробы атруціць атмасферу гульняў, абураліся зласліўствам «вечна ўчарашніх», з задавальненнем гаварылі аб першых выніках нармалізацыі становішча ў Еўропе, аб паляпшэнні адносін ФРГ з Савецкім Саюзам і іншымі сацыялістычнымі краінамі.

Калі восем самых хуткіх на планеце людзей схіліліся ля стартавых калодак, шматтысячны стадыён затаіў дыханне. Стрэл! Ён нібы сцебануў па бегунах. Лічаныя секунды барацьбы. Лічаныя секунды напружанай маўклівай увагі... І громам апладысментаў «узарваліся» сцены галоўнага алімпійскага стадыёна ў той момант, калі фінішную стужку сарваў савецкі спрынтэр Валеры Барзоў...

Дваццаць секунд бег Барзоў у сваім другім алімпійскім фінале. Толькі дваццаць секунд. Але іх хапіла для вырашэння некалькіх задач. Па-першае, Валеры «зрабіў» залаты «дубль» на абедзвюх спрынтарскіх дыстанцыях; па-другое, устанавіў новы рэкорд Еўропы ў бегу на 200 метраў; урэшце, парушыў манаполію амерыканскіх бегуноў на вышэйшыя ўзнагароды ў спрынце. Валеры Барзоў перамог на двухсотметроўцы з такой перавагай, з такім бляскам, што нават да ўсяго звычныя журналісты падхапіліся са сваіх месцаў і, як хлапчукі, крычалі ад захаплення. Мясцовая прэса аб'явіла нашага цудоўнага атлета не толькі «самым хуткім чалавекам у свеце», але і «сапраўдным суверэнам», які перамагаў лёгка, прыгожа і пераканаўча.

Бадай, ніколі раней на алімпійскіх гульнях не праяўлялася такой цікавасці да спартсменаў з сацыялістычных краін і, у першую чаргу, з Савецкага Саюза, як у Мюнхене. Часам гэта даводзілася адчуваць проста фізічна. На трыбунах стадыёна, на вуліцах горада не толькі да нашых алімпійцаў, але і да членаў маладзёжнай дэлегацыі падыходзілі людзі, пыталіся: «Хто з вас гаворыць па-нямецку?», задавалі пытанні, прасілі аўтографы. Многія спартыўныя аглядальнікі, адзначаючы лідзіруючае становішча савецкай каманды на XX Алімпійскіх гульнях, адразу ж называлі і прычыну гэтага: усебаковае развіццё масавай фізічнай культуры ва ўмовах сацыялізму. Падкрэслівалася і іншая акалічнасць: нашы спартсмены параўнаўча роўна выступалі ў самых разнастайных відах алімпійскай праграмы, праяўлялі высокі маральны дух. Многія з савецкіх спартсменаў сталі героямі алімпіяды і ўлюбёнцамі публікі. На спаборніцтвах па гімнастыцы балельшчыкі так бурна хваляваліся за Олю Корбут, што часопіс «Штэрн» назваў рэакцыю гледачоў «сапраўдным прызнаннем у каханні». Дарэчы, калі няўдача і неаб'ектыўнасць суддзяў перашкодзілі ёй выйграць званне абсалютнай чэмпіёнкі алімпіяды, шматлікія газеты заявілі: «Узровень майстэрства рускай гімнасткі Корбут намнога перавысіў узровень разумення суддзяў...»

Трэба сказаць, што амаль усе газеты, падчас нават правыя, падкрэслівалі велізарны поспех спартсменаў сацыялістычных краін. Мюнхенская «Абэндцайтунг», гаворачы пра савецкую каманду алімпійцаў, адзначала трыумф «магутнай спартыўнай нацыі, якая дасягнула амаль усяго, чаго можна дасягнуць».

У Мюнхене на стадыёнах і ў спартыўных залах мы сустракалі нямала людзей, якія добра размаўлялі па-руску. Гэта людзі розных лёсаў і поглядаў на жыццё. Сярод іх шмат прадстаўнікоў эмігранцкіх і нацыяналістычных арганізацый. Пачуўшы на вуліцы, у магазіне рускую гаворку, яны тут жа падыходзілі да нас, усчыналі гутарку, падахвочваліся быць нашымі гідамі, урэшце, стараліся надзяліць нас «сувенірамі»—сваімі газеткамі і часопісамі, якія заклікаюць да «аднаўлення дэмакратыі ў Савецкай Расіі». Некаторыя, найбольш актыўныя, прыходзілі непасрэдна ў лагер на Капуцынерхёльцль. Асаблівы імпэт праяўлялі ўкраінскія нацыяналісты. Яны, у прыватнасці, наракалі на тое, што, маўляў, такія вялікія народы, як украінскі і беларускі, прадстаўленыя ў ААН, не маюць свайго прадстаўніцтва ў МАК і не ўдзельнічаюць у Алімпійскіх гульнях асобнымі камандамі, што, маўляў, плён іх поспехаў дастаецца «маскалям»...

У цэнтры ўвагі мясцовых журналістаў былі, вядома, падзеі алімпіяды, але яны знаходзілі час і для нашай дэлегацыі. Мюнхенскае тэлебачанне, напрыклад, працавала над спецыяльным фільмам аб Алімпійскім лагеры моладзі, і ў цэнтры гэтага фільма, па задуме аўтараў, павінна была быць савецкая моладзь. Вось адзін эпізод з работы над гэтым фільмам... Рэжысёр Генрых Кальбфус папрасіў групу нашых хлопцаў адказаць на некалькі пытанняў. Пытанні гэтыя тычыліся лагера, нашых уражанняў ад горада, гульняў, паездак і экскурсій, але задаваліся яны так, што вымагалі толькі станоўчага адказу. І вось пытанне: «Гер Грыц, як вам спадабалася ферма і ўвогуле сістэма сельскай гаспадаркі ў ФРГ?» (Вітольд Грыц быў напярэдадні ў гасцях у аднаго з фермераў непадалёк ад Мюнхена). «Гер» Грыц адказаў: «У такіх умовах я працаваць не змог бы. Фермер за дзесяць гадоў ні разу як след не адпачыў. Я ж пабываў у гэтым годзе ў адпачынку, а зараз у складзе дэлегацыі—у Мюнхене. Акрамя гэтага, вельмі нерэнтабельна выкарыстоўваецца тэхніка. Вельмі малая яе загрузка». Больш «геру» Грыцу пытанняў не задавалі.

Скончыліся XX летнія Алімпійскія гульні. Патух алімпійскі агонь. Эстафету Мюнхена прыняў далёкі Манрэаль. Нам давялося быць сведкамі таго, як разварушаны алімпійскім допінгам Мюнхен зноў вяртаўся да свайго звыклага, спакойна-бюргерскага рытму. З глухіх навакольных вёсак вярталіся «антыалімпійцы», якія такім чынам (выездам з горада) выказалі сваю пагарду і пратэст супраць правядзення алімпіяды. Пуста стала на вуліцах горада, у алімпійскім парку...

Наша Радзіма цёпла і сардэчна сустрэла на сваёй зямлі герояў XX Алімпійскіх гульняў. Подзвіг савецкіх алімпійцаў атрымаў усенароднае прызнанне: многія выдатныя спартсмены ўдастоены высокіх урадавых узнагарод.

Для нас алімпійскія гульні надоўга застануцца ў памяці. Прыгажосць фізічнай дасканаласці, велічны парад сілы, спрыту, волі і настойлівасці да перамогі зачаравалі балельшчыкаў, мільёны тэлегледачоў на ўсіх кантынентах. Гульні XX Алімпіяды яшчэ раз пацвердзілі важнае значэнне мірнага спаборніцтва людзей у духу ўзаемаразумення і дружбы паміж народамі.






# 1973

## САКАВІК



В. І. Сцяпанаў.

**1—3**

75 гадоў назад (1898) у Мінску праходзіў І з'езд РСДРП.

**6—8**

55 гадоў назад (1918) праходзіў VII з'езд РКП(б).

**7**

55 гадоў назад (1918) камандаваннем Заходняга фронту створаны Штаб партызанскага фарміравання для кіраўніцтва барацьбой супраць нямецкіх акупантаў.



А. Д. Арсенка.

**8**

**Міжнародны жаночы дзень.**

**13**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) В. І. Сцяпанава, вучонага-філосафа, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**15**

75 гадоў з дня нараджэння (1898) М. А. Чалісава, прафесара Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута.

70 гадоў з дня нараджэння (1903) А. Д. Арсенкі, народнага артыста БССР. Памёр у 1945 г.

**16**

75 гадоў з дня нараджэння (1898) М. Э. Шнейдэрмана, кампазітара і дырыжора, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.



М. Э. Шнейдэрман.



**17**

75 гадоў з дня нараджэння (1898) І. Д. Харыка, яўрэйскага пісьменніка. Памёр у 1937 г.



І. Д. Харык.

**18**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) В. М. Мальковай, народнай артысткі БССР. Памерла ў 1964 г.

**20—26**

50 гадоў назад (1923) праходзіў VII з'езд КП(б)Б (XII канферэнцыя КП(б)Б).

**21—25**

40 гадоў назад (1933) праходзіў першы Усебеларускі з'езд калгаснікаў-ударнікаў.



В. М. Малькова.

**27**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) А. І. Рылько, беларускага пісьменніка. Памёр у 1967 г.

**31**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) А. М. Генералава, народнага артыста БССР.

20 гадоў назад, у сакавіку 1953 года, выйшаў у свет першы нумар часопіса «Маладосць».



А. М. Генералаў.



А. І. Рылько.

# «ЯНЫ ПРЫХОДЗЯЦЬ САМІ...»

## НАТАТКІ АБ СЁННЯШНЯЙ МАЛАДОЙ ПАЭЗІІ

*Их не ждут. Они приходят сами.*
*И рассаживаются без спроса.*
*И ломающимися голосами*
*Задают неловкие вопросы.*

### 1

Гэтыя радкі рускага савецкага паэта Д. Самойлава ўспамінаюцца мне кожны раз, калі я думаю пра маладую паэзію. Праблема паэтычнага маладняка, яго выхавання і творчага росту—вечная праблема літаратуры. Праўда, кожная эпоха ставіць яе па-свойму, у залежнасці ад умоў і патрабаванняў часу. Наш час вымагае ад кожнага пісьменніка шырокага, па-сапраўднаму грамадзянскага погляду на сваю справу, актыўнага ўдзелу ў выкананні задач камуністычнага будаўніцтва, якія намеціў XXIV з'езд партыі. Сёння, як указвалася ў Справаздачным дакладзе ЦК XXIV з'езду КПСС, роля літаратуры ў фарміраванні светапогляду савецкага чалавека, яго маральных перакананняў асабліва ўзрастае. Літаратура заклікана дзейна ўмешвацца ў жыццё, дапамагаць сцвярджэнню новага, прагрэсіўнага, быць чуйнай да чалавека, да яго штодзённых турбот. Сённяшні пісьменнік не толькі літаратар, ён разам з тым актыўны грамадскі дзеяч, грамадзянін у самым высокім сэнсе, слова якога—мастацкае слова—з'яўляецца грамадзянскім учынкам.

Наша жыццё—багатае і разнастайнае, як ніколі. І вельмі складанае. Раскрыць усю складанасць працэсаў, якія ў ім адбываюцца, улавіць галоўныя тэндэнцыі яго развіцця літаратура зможа толькі тады, калі будзе мысліць на сучасным узроўні. Галоўная прыкмета сучаснага мастацкага мыслення—пры ўсёй шырыні індывідуальных стыляў і форм—гэта глыбіня аналізу, імкненне дайсці да самых каранёў з'явы, ускрыць яе найглыбейшыя прычыны. Калі ў мастака развіты слых і чуйнасць на грамадскія праблемы, калі ён здольны іх усведамляць і глыбока асэнсоўваць, калі ў ім жыве чалавек-грамадзянін—значыць, у нашым разуменні, гэта мастак сучасны. Як, скажам, Пімен Панчанка, які яшчэ раз паказаў вышыню сваіх мастацкіх крытэрыяў у двух мінулагодніх падборках вершаў («Маладосць» № 9 і «Полымя» № 10). Засяроджанасць на вострых праблемах дня, шырыня абагульненняў і бязмежная шчырасць—вось што заўсёды кранала нас і кранае ў паэзіі Пімена Панчанкі.

Вечная незадаволенасць—
У сэрцы балючым рэхам.
А можа гэта няздольнасць
Угнацца за ярасным векам?
А можа лепей, чым гнацца
За простай і яснай ісцінай,
Цішком над гатовым згінацца
Ці слацца апалым лісцем?
Толькі не гэта, не гэта.
Не здолею—кропка. Труна.
Іншыя будуць паэты
Сэрцы людскія кранаць...
Я ганаруся партыяй,
Ды мала цяпер прысяг.
Чаго—пытаюся—варты я?
На якой вышыні мой сцяг?

Вершы Панчанкі грунтуюцца і на асабістым вопыце паэта, і на гістарычным вопыце народа, які асэнсоўваецца паэтам вельмі асабіста. Вершы «пра сябе», такія, як скажам, «...І мяне хвароба тузанула» мяжуюць з глыбокім роздумам пра лёс Айчыны, яе культуры, яе прыродных багаццяў («Крышталічны хрыбет», «Наша энцыклапедыя», «Грыфельныя дошкі»). І ўсё гэта прасякнута глыбокім пачуццём чалавечнасці, клопатам аб чалавечым шчасці, маральнай чысціні, сумленнасці. Чытаеш, і аж сэрца шчыміць.



Па вершах П. Панчанкі, як і іншых паэтаў старэйшых пакаленняў—П. Броўкі, М. Танка, А. Куляшова, М. Лужаніна, К. Кірэенкі, А. Пысіна, М. Аўрамчыка—мы можам меркаваць, як расце і духоўна ўзбагачаецца свет сучаснай паэзіі, як адлюстроўваецца ў ім грамадзянская самасвядомасць народа, навізна нашай сацыялістычнай рэчаіснасці. Аднак наша сённяшняя гаворка—не пра паэтаў старэйшага і сярэдняга пакаленняў, а пра тых, хто пакуль што выдаў усяго адну-дзве кнігі, а то і не выдаў ніводнай, абмяжоўваючыся часопіснымі альбо газетнымі публікацыямі.

У 1972 годзе з другой кніжкай выступілі: Уладзімір Скарынкін—«Гукавы бар'ер», Уладзімір Карызна—«Святло ліўня», Віктар Ракаў—«Акно ў зялёны сад», Казімір Камейша—«Мембрана», Леанід Дайнека—«Бераг чакання», Яўген Крупенька—«Нядзеля»; з першай: Уладзімір Фамін—«Падслухаў сэрца», Уладзімір Дзюба—«Вуліцы без назваў», Мікола Мінчанка—«Зялёны звон», Марыя Шаўчонак—«Белая ластаўка». Першую кнігу паэзіі «для дарослых», назваўшы яе вельмі адказна—«Жыццё», даў Міхась Парахневіч, які раней пісаў пераважна вершы для дзяцей і апавяданні. Упершыню заявілі аб сабе ў рэспубліканскім друку В. Мамойка, Л. Аноп, У. Някляеў, В. Мурашкін, Б. Беліжэнка, В. Пілецкая, Л. Русілка, Н. Загорская, І. Лашутка, В. Шыханцоў, У. Кунцэвіч...

Як бачым, прыток свежых сіл у літаратуру не спыняецца. Гэта, вядома, добра, хоць сам па сабе такі шырокі паток вершаў тоіць у сабе і пэўную небяспеку. Не так даўно ў часопісе «Вопросы литературы» быў змешчаны артыкул М. Ісакоўскага пад назвай «Доколе?..»

«Я з усёй сур'ёзнасцю думаю,—пісаў Міхаіл Васільевіч,—што калі ў нас у краіне з такой жа інтэнсіўнасцю і ў такой жа колькасці, як і цяпер, будуць выходзіць зборнікі вершаў, калі ў часопісах, альманахах, газетах, радыё- і тэлеперадачах будзе з'яўляцца такая ж незлічоная колькасць вершаў,... калі падобныя з'явы, паўтараю, будуць працягвацца і нават узрастаць у сваёй колькасці, то ўсё гэта непазбежна ператворыцца ў вельмі вялікае бедства, калі яно ўжо не ператварылася ў яго».

Хоць паважаны паэт выказаў у сваім артыкуле шмат трывожнага і набалелага, аднак поўнасцю пагадзіцца з ім нельга. Пры ўсіх сваіх недахопах паэзія маладых дае нам уяўленне аб сучаснай моладзі, яе сацыяльнай актыўнасці, інтарэсах і мэтах, якога мы не пачэрпнем з іншых крыніц. А ў тым, што вельмі многія пішуць вершы, што многа вершаў друкуецца, ёсць і бясспрэчныя дадатныя бакі. Людзі хочуць жыць прыгожа і думаць прыгожа. А графаманаў заўсёды было шмат. Нам трэба ўзнімаць ідэйна-мастацкія крытэрыі літаратурнай прадукцыі. Менавіта на гэта звяртае ўвагу пісьменніцкай грамадскасці нядаўні партыйны дакумент—пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы», дзе гаворыцца аб стварэнні такой абстаноўкі, якая выключала б праяўленне ў крытыцы кампрамісных адносін да ідэйных і мастацкіх недахопаў, суб'ектывізму, прыяцельскіх і групавых схільнасцяў, прадузятых ацэнак асобных мастакоў і твораў.

### 2

У паэзіі (пры наяўнасці, вядома, таленту) вядучую ролю іграе асоба самога паэта. «Каб стварыць паэму, ты павінен стварыць сябе, удасканальваючы сваю духоўную асобу...»—вучыў братоў-паэтаў Уолт Уітмэн. Кожны паэт паказвае ў творы самога сябе, нават калі ён гэтага не хоча. Асоба паэта—гэта і свой ракурс бачання, і тэмперамент, і глыбіня асэнсавання, і многае іншае. Талент—рэдкасць, нездарма яго завуць «божай іскрай», ён першая, неабходная, але не адзіная ўмова для творчасці: у літаратуры велізарнае значэнне мае грамадзянская асоба пісьменніка. Таму, гаворачы пра асобу пісьменніка, мы будзем мець на ўвазе перш за ўсё яе грамадзянскі змест.

Гётэ ў пралогу да «Фауста» гаварыў пра «імкненне да ісціны» як пра асноўнае ў творчасці паэта. Каб сцвердзіць сваю ісцінную сутнасць, паэт павінен адмовіцца ад дробязяў, пераадолець асабістую абмежаванасць—дзеля адлюстравання ісціны, праўды. Сапраўдная сутнасць паэта не столькі ў тым, чым ён розніцца ад астатніх, колькі ў тым, чым ён родны астатнім. Ён—не проста індывід, ён—магутная, вялікая асоба. Ёсць гэтая асоба—ёсць паэзія, адсутнасць асобы—заўсёды адсутнасць значнага паэтычнага зместу.

Вось перада мною зборнік вершаў У. Карызны «Святло ліўня». У анатацыі да яго сказана: «...прыгажосць роднага краю, шчырасць пачуццяў і чысціня чалавечых адносін—вось галоўнае, што хвалюе маладога паэта». Звернемся да саміх вершаў:

О край працавіты мой,
Край вясельны,
Мне сыграць бы табе
На клавішах зор вясенніх!

Жэст паэта—яўна ненатуральны, вобраз надуманы, выпадковы. Верш расквечаны так званымі паэтызмамі і даволі сцёртымі штампамі: край працавіты, вясельны, зоры вясенція, гаі салаўіныя, хвалі сінія і г. д.

Мне сыграць бы табе
На арфах гаёў салаўіных
Пад апладысменты
Хваль азёрных, успененых, сініх!

Нават каб памагалі
Усе пеўчыя птушкі аднойчы
(чаму толькі аднойчы?—**У. Г.**)
Ручаі і крыніцы
З аркестрам вясновае ночы,—
І тады б я не выказаў
Сотай долі любові сыноўняй,
Ад якой маё сэрца
Свеціцца поўняй!

Паэт хацеў выказаць сваю любоў да радзімы, але збіўся на агульшчыну, на штамп. Чаму так атрымалася? Думаецца, правільна гаварылася, маючы на ўвазе падобныя выпадкі, у дыялогу В. Бечыка і А. Вярцінскага (газета «Літаратура і мастацтва» ад 9 чэрвеня 1972): «Відаць, гэта той выпадак, калі мы маем справу з тымі самымі «птушынымі песнямі», пра якія здзекліва гаварыў В. Бялінскі, сцвярджаючы грамадскае прызначэнне паэта».

На жаль, падобныя ў эстэтычным плане да толькі што прыведзенага і многія іншыя вершы Карызны— «Зялёная мошачка слабай іскрой...», «Паклаўшы руку на сэрца...», «З усіх шляхоў...», «Ліпень гарачынёю ліпне...», «У бары» і г. д. З іх мы даведваемся, што аўтар любіць луг, лес, поле, сваю вёску, але ўсе гэтыя рэалії быцця падаюцца бездаросна да сучаснасці, да светаадчування сучаснага чалавека.

Хай даруе нам Карызна, але ў яго вершах шмат банальнага, неабавязковага і наіўнага. Паэт неяк нават ваяўніча абараняе апісальнасць і дробнатэм'е:

Мы часта вершы пішам
Надта модныя,
Чытаючы іх,
зломіш галаву, (?—**У. Г.**)
Яны ж пра мілыя
І гэтакія родныя
Нябёсы і крыніцы срэбраводныя,
Бацькоўскай сцежкі мяккую жарству.

Усе вершы—пра крыніцы? Што хоча сказаць Карызна—каб сябры-таварышы пісалі прасцей?

І вось з гадамі—
мы ўжо расфасоўшчыкі
Паэзіі (?—**У. Г.**)—
тут дабрата,
тут зло,
З гадамі мы,
глядзіш,—
рэгуліроўшчыкі:
Даём чырвонае,
зялёнае святло.

Нашто гэты перанос з радка ў радок? Какецтва?

А што б сказалі нам,
каб гаварылі,
Героі вершаў—неба, сасннякі?
(Сасняки—героі вершаў? Нешта зусім новае...—**У. Г.**)
А кім бы нас,
урэшце,
палічылі,
Каб пачыталі вершы,
землякі?
Яны ж для нас садоўнікі (?—**У. Г.**)
навечна,
І верыць ім патрэбна, далібог...
Паэзіі патрэбна чалавечнасць,
А чалавеку—
цеплыня дарог.

Садоўнікі, дарогі—прычым тут яны? І наогул—што тут да чаго?.. Краявіды, пейзажы, агульныя развагі—гэтага мала: патрэбны сур'ёзныя грамадзянскія адносіны да рэчаіснасці.

Верым, упэўнены: Карызна здольны на большае. Змог жа ён вельмі цікава расказаць пра звычайнае ў вершы «Зялёнае шкельца». Заслугоўвае ўвагі і яго паэма «Гром над дарогай»...

Патрыятычная тэма, як і тэма кахання, дружбы, прыроды, заўсёды была вельмі прывабнай для маладых паэтаў. І не дзіўна: яны хочуць сарыентавацца перш за ўсё ў гэтых вялікіх чалавечых каштоўнасцях, зразумець іх месца ў сваім жыцці. Але ўспамінаюцца правільныя, на наш погляд, словы аднаго нашага паэта пра радзіму: «Усю яе, ад ніў і да палацаў, апелі мы, ды мала песень тых». Справа не толькі ў тым, каб прызнавацца і клясціся Радзіме ў любві і славіць яе песняй. Поспех спадарожнічаў тым паэтам, хто асэнсоўваў тэму Радзімы як вечную катэгорыю, у цеснай сувязі з задачамі дня. Блок называў пісьменнікаў «самымі дакладнымі і самымі галоўнымі органамі пачуццяў Радзімы». «Мы—не сляпыя яе інстынкты, а яе сардэчны боль, яе думы, яе валявыя імпульсы»,—гаварыў ён.

Лепшы сродак даказаць Радзіме, народу, партыі сваю любоў—па-мастацку паўнакроўна паказаць наш сённяшні дзень ва ўсёй яго разнастайнасці і складанасці, ва ўсім багацці фарбаў і адценняў. Паэзія ж сённяшніх маладых у значнай сваёй частцы дэкларатыўная і абстрактная. Пачуцці слаба асэнсаваны, іх яшчэ трэба, як кажуць, даказаць. Недахопы, характэрныя для вершаў Карызны, тыповыя для многіх.

Надта кволыя пакуль што многія вершы Міколы Мінчанкі, які шмат піша пра Радзіму і каханне (зборнік «Зялёны звон»). Па сваім тону і стылі яны падобны да вершаў Карызны. Тая ж апісальнасць, лёгкадумнасць. У выніку—мастацкая бездапаможнасць: замест яркіх пачуццяў—чуллівасць, млявая задушэўнасць, кволая настраёвасць. А часам—і зусім бяздумнасць, як, скажам, у вершы «Атака»:

Над полем грознае «ура!»—
Ідуць у бой сыны Айчыны.
Ужо атакі не стрымаць:
Мацней металу нашы грудзі...
Не разбярэш: на снезе мак
Ці кроў?
Навошта гэта, людзі?!

У такой сітуацыі, калі ў бой пайшлі сыны Айчыны, апошняе пытанне— увогуле недарэчнае.

Непараўнальна лепш выглядаюць тыя радкі М. Мінчанкі, дзе ён думае пра тое, што «не на трох кітах зямля трымаецца—на далонях мацеры маёй».

Гэта праўда, што паэзію жывіць непасрэдны вопыт, пачуццё, перажыванне. Аднак калі эстэтычнае пазнанне гэтым і абмяжоўваецца, не ідзе далей, ад адчування да абагульнення, тыпізацыі, твор застаецца чымсьці недаспелым, нявынашаным, грамадзянская індывідуальнасць аўтара ў ім не адбіваецца.

Статычнай апісальнасцю грэшаць вершы Э. Зубрыцкага («Маладосць» № 10, 1972). Ёсць у іх любаванне прыродай, восенню, барвяны клён і жураўліны сум, скалелыя аблокі, апошнія гронкі далёкага лета... Уся гэтая «рамансавасць» можа каго-небудзь і расчуліць, але не ўзбагаціць. Далей нейтральных замалёвак аўтар не ідзе. І справа, вядома, не ў тым, што ён піша аб прыродзе. Піша—значыць адчувае яе. Гісторыя паэзіі ведае паэтаў—такіх, як, напрыклад, смалянін Мікалай Рыленкаў,—які ўсю сваю творчасць прысвяціў тэме прыроды. Але ў аснове яго паэтычнай канцэпцыі ляжыць арыгінальная філасофія асобы, вельмі змястоўнай у ідэйным і маральным плане. Пейзажная лірыка Зубрыцкага мае патрэбу ў значнай актывізацыі душэўнага перажывання. Сёння, у век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, тэма прыроды ў паэзіі непазбежна ўзбагачаецца новымі нюансамі і адценнямі.

Нешта падобнае можна параіць і Феліксу Баторыну, маючы на ўвазе яго падборку ў «Маладосці» (№ 8, 1972). Яго вершы таксама пазбаўлены ўнутранага дзеяння, і ім нестае вынашанай думкі пра жыццё.

У Юркі Голуба высока развітая— гэта адразу кідаецца ў вочы—тэхніка верша, якая нечым нагадвае мне Р. Барадуліна. Гнуткасць інтанацый, лёгкасць, натуральнасць размовы— гэта добра, але сэнсавая нагрузка пакуль што слабаватая. Вось яго верш «У глушы» («Полымя» № 3, 1972):

Шчаслівы, як цыган,
Што краў у Зэльве коней.
Ці як заезны комік
(на іх расце цана),
Брыдзеш сабе далёка
Ад тлуму, мітусні.
Захочаш—загалёкай,
Захочаш—дык засні.
І так прыдатна ў ботах,
І не чутно зязюль.
За блізкі свет адсюль
Дарогі,
Дом,
Работа.
Прырода ў жалуды
Заклала час і кроны,
І лесу усё роўна
Адкуль ты,
Чый,
Куды.

От які «раскаваны» малады чалавек—«адкуль ты, чый, куды»? Лепш было б, каб паэт шукаў асабістую раскаванасць і волю ў сваім дачыненні да агульных турбот і клопатаў, да спраў свайго героя.

Карызна, Мінчанка, Зубрыцкі, Баторын, Голуб—людзі рознага творчага «стажу» і вопыту, і недахопы, слабыя месцы ў кожнага свае. Аднак ёсць, безумоўна, у іх недахопах шмат агульнага—яно перш за ўсё ў няспеласці паэтаў як **асоб** у высокім, грамадзянскім разуменні гэтага слова.

Паэзія—бязлітасная: яна ўскрывае, выстаўляе напаказ чалавечае нутро. Ніякая тэхніка, ніякія мастацкія прыёмы тут не дапамогуць. Наадварот, яны толькі падкрэсляць недахопы. Галоўны рахунак, які ў сувязі з гэтым хочацца прад'явіць сённяшняй маладой паэзіі,—гэта заніжанасць грамадзянскіх маральных патрабаванняў паэтаў да сваёй творчасці, нявыхаванасць густу.

### 3

Добра помніцца, як бурна і ўпэўнена ўвайшоў у нашу паэзію, «нікога не спытаўшы», Рыгор Барадулін, як яскрава адлюстравалася ў яго «Вечары над Таболам» працоўная героіка цалінных будняў. Поспех Барадуліна і большасці паэтаў, яго равеснікаў, быў абумоўлены тым, што яны звярнуліся да таго новага, што несла ў сабе жыццё, што з'явілася здабыткам стваральнай дзейнасці савецкага чалавека.

Сёння ёсць шмат думак, перажыванняў і эмоцый у нашых сучаснікаў, якія ў творах маладых паэтаў знаходзяць прыблізны і кволы водгук, а то і ўвогуле не знаходзяць яго. Адбываецца навукова-тэхнічная рэвалюцыя, вырашаюцца звязаныя з ёю складанейшыя пытанні сацыяльнага, ідэалагічнага і псіхалагічнага быцця сучас-

нага чалавека, а маладая паэзія нібыта не заўважае іх, не ўлічвае аграмадных зрухаў у сённяшнім свеце, які змяняецца літаральна на нашых вачах.

Маладым не стае адкрыццяў у галіне новай тэматыкі. Тое, пра што яны ў пераважнай большасці сваёй пішуць, выглядае вельмі прыватным, неістотным. Залішне часта аддаюцца яны сентыментальным успамінам аб дзяцінстве.

Ад дажджу хаваліся пад стрэхамі,
А ўшчукаў,—
як сонца вестуны,
На кійках па лужынах мы ехалі,
Закасаўшы да кален штаны...
(В. Ракаў).

Ну, добра, «ехалі», але чаму пра гэта абавязкова трэба паведаміць нам, чытачам?

Нешта ж ёсць у той пары, што
клікае,
Чым заўжды і ў старасць даражыш,
З сэрца неспакойнага не выкінеш,
Хоць па ручайках не пабяжыш...—

адкуль узялося гэтае **клікае, ушчукаў** і іншыя моўныя неахайнасці?

Колькі тут банальнага, агульнага! І гэта ў паэта «са стажам»!

У 1958 годзе Р. Барадулін напісаў свой лепшы верш тых часоў—«Бацьку».

Не выйшаў ты і ў гэты раз
Мяне спаткаць, паднесці рэчы...

З тых пор гэты матыў вандруе з кнігі ў кнігу, з верша ў верш. Так, многіх сыноў і дачок вайна пакінула бязбацькавічамі, і калі, скажам, М. Мінчанка піша ў вершы «Брату» пра тое, што бацька не вярнуўся з вайны («загінуў бацька, але ён жывы усім нам сніцца»), то аўтару, вядома, спачуваеш, але бачыш, што жыццёвы факт не знайшоў у яго свежага эстэтычнага выяўлення. Гэтага ж не хапае вершу М. Шаўчонак «...Знаёмых і незнаёмых...»

Усіх вас прашу я, людзі:
Знайдзіце мне бацькаў здымак!

Сама па сабе такая рэч, вядома, кранае, але расказана пра ўсё вельмі прыблізна.

На гэтую ж тэму ёсць вершы ў М. Парахневіча («Бацьку»), У. Дзюбы («Хлапчукі») і ў іншых паэтаў, але ў іх мала навізны.

«Даўно вядома,—піша Ф. Яфімаў у рэцэнзіі на кнігу вершаў Н. Тулупавай,—што вершы павінны гаварыць або пра зусім новае, або па-новаму аб старым. Але што можа быць у паэзіі новым? Сапраўды, у паэзіі ўжо было ўсё. Усё, апрача самога паэта, усё, апрача яго асобы, адзінай і непаўторнай... Тыя вершы ўдаюцца, чытаюцца і ўспрымаюцца, у якіх адлюстравалася нешта ад асобы паэта». Гэта правільна, аднак нельга недаацэньваць аб'ектыўнай навізны самога жыцця і ўмення паэта глыбока спасцігнуць яго сэнс.

Магчыма, у адчуванні жыццёвай дыялектыкі, у выбары тэмы якраз і знаходзіць сваё першапачатковае выяўленне асоба паэта, яго грамадскае і творчае аблічча. Іншая справа, наколькі глыбока ўдалося паэту ўвасобіць новую тэму ці праблему ў жывую тканіну мастацкіх вобразаў, надаць ім сапраўднае паэтычнае гучанне.

Цікавая з'ява ў сучаснай нашай маладой паэзіі—вянок санетаў У. Дзюбы пад назвай «Выток», змешчаны ў яго першай кнізе «Вуліцы без назваў». Сімпатычна ўжо тое, што аўтар шукае паэзію ў справах і думках сваіх сучаснікаў, у працоўных буднях рэспублікі. У старажытнай форме санета ён расказвае пра такую **сучасную** падзею, якой з'яўляецца адкрыццё нафты на Беларусі. Спроба У. Дзюбы—не столькі пошук «сваёй» традыцыі, колькі эксперымент. Паэт хоча ў «вянок» уплесці ўсё—удзячнасць роднай зямельцы за яе скарбы, разняволены чалавечы геній, карціны партызанскага блакаднага ваеннага мінулага, пасляваенныя цяжкасці і іншае—і... недзе вянок «разрываецца», не ў сілах падпарадкаваць усё гэта адзінству сваёй структуры. Парушаецца факусіроўка аўтарскага бачання, яно здрабняецца на мноства слаба звязаных паміж сабой малюнкаў. Не будзем катэгарычна сцвярджаць, што «вянок санетаў»—цалкам непрыдатная для вырашэння дадзенага зместу форма. Справа ў тым, наколькі гэты жанр з яго цвёрдымі эстэтычнымі патрабаваннямі арганічны для паэтычнай свядомасці Дзюбы. Твор прайграе ад таго, што ў ім часта за агульнарытарычнымі фразамі не бачна канкрэтная асоба—чалавек, які разгадвае таямніцы зямлі. Большасць сіл паэт патраціў на «пляценне» самога «вянка».

І ўсё ж «Вянок» цікавы сваім зваротам да сучаснасці. Ён сведчыць яшчэ і аб тым, як напружана ўжываецца паэзія ў новыя тэмы і як нялёгка яны ёй даюцца. «Вянкі санетаў» напісалі А. Сербантовіч, Н. Гілевіч, Х. Жычка. Крытыка, помніцца, станоўча ацаніла іх вопыт. Там форма ўспрымалася як натуральнае і заканамернае ўвасабленне зместу, звязанага з тэмай вайны, з вялікімі ахвярамі, якіх яна патрабавала ад народа. Дзюба такога зліцця зместу і формы не дасягнуў, але задаткі паэтычнай асобы ў яго творы праявіліся.

Неблагое ўражанне пакідаюць вершы У. Дзюбы «Ваенная двухпутка», «Першы дзень вайны», «Ты помніш, маці...». Удаўся паэту верш, што даў назву ўсяму зборніку—«Вуліцы без назваў»: дзеці малююць на асфальце дамы, вуліцы, гарады—дзіўны свет, які вабіць сваёй невядомасцю і рамантычнасцю. Чалавеку радасна яго адкрываць. Добра, што малады паэт шукае свой ракурс бачання, свой падыход да матэрыялу, сваю тэму.

Шырэйшы тэматычны гарызонт у Я. Крупенькі. Піша ён пра радзіму, пра вёску, маці, каханне і г. д. Вылучаецца сваёй сур'ёзнасцю верш «Курганы»: «Прайдзі мой край—усюды курганы, нямыя сведкі вечнасці яны. Адным—стагоддзі, а другім—гады. Схавалі чалавечыя сляды...» Паэт добра адчувае сам рытм верша, яго настрой і эмацыянальную афарбоўку. Можна было б працытаваць і яшчэ многія добрыя радкі з кнігі «Нядзеля», а некаторыя вершы прывесці поўнасцю—яны вартыя таго. Але хочацца сказаць пра недахопы, якія перашкаджаюць творчаму росту паэта.

Як ні дзіўна, Крупеньку ў нечым перашкаджае ўласны паэтычны вопыт, правільней—уменне складаць вершы. Адзнакі гэтага ўмення, інакш кажучы, рамясла, відаць у наступным вершы, які нагадвае сентыментальную, чуллівую, а значыць, дрэнную прозу:

Ты—мая весняя раніца—
Ласкава ў акно зазірнула
Першым праменем сонечным—
І працягнула рукі
Цёплыя-цёплыя.
Такія рукі
Могуць быць толькі
У аднаго чалавека—
Маці.
Ты—мая весняя раніца—
Засмяялася звонка-звонка,
Так можа смяяцца
Толькі адзін чалавек на зямлі—
Маці.

Паэту на гэты раз здрадзіў эстэтычны густ: пра маці **так** пісаць нельга. Яшчэ пра сваю каханую дзяўчыну юнаку—можна зразумець, а пра маці—«ласкава ў акно зазірнула», «працягнула рукі цёплыя-цёплыя», «весняя раніца» і г. д.—не, паэт жа не дзіця па ўзросце...

Крытыка, ацэньваючы новую кнігу, рэдка ўспамінае імя рэдактара. І дарэмна. У поспеху аўтара, як і ў недахопах кнігі, ёсць заслуга і яе рэдактара. Скажам, «Нядзелю» Я. Крупенькі рэдагаваў У. Машкоў, і ён мог бы з большай патрабавальнасцю паставіцца да кнігі, такія вершы, як «Мінская вуліца ў Маскве», «Расціць жыты...», «Сонечны зайчык...», «Іду...» наогул не ўключаць. У кнізе ёсць радкі проста банальныя, невыразныя, якія нагадваюць хутчэй за ўсё чарнавыя накіды.

Я сустрэчы з табою рад
Любою парою,
Легендарны Ленінград—
Радзіма герояў,—

сказаць так пра Ленінград—значыць нічога не сказаць. Альбо пра што напісана наступнае чатырохрадкоўе:

Цеплынёю дыхае ралля.
Прарастаюць ў цішыні зярняты,
І, як доктар,
слухае зямля—
Моцна сэрца б'ецца
у салдата.

Пра якога салдата ідзе гаворка? Чаму яго сэрца раптам стала біцца моцна? І чаму сэрца слухае зямля? Чым верш карацейшы, тым ён павінен быць змястоўнейшы, з багатым падтэкстам—кожнае слова на вагу золата. У прыведзеным чатырохрадкоўі такога не атрымалася, а гэта сведчыць пра нізкую патрабавальнасць аўтара да сябе.

Ёсць вартыя ўвагі вершы ва Уладзіміра Фаміна ў зборніку «Падслухаў сэрца». Гэта—«Характар», «Рукі маці», «Бэз», «Нам у трыццаць...» У Фаміна багаты жыццёвы вопыт, але ў вершах ён адлюстраваўся **вельмі** вузка. Не адчуваецца ў паэта **сваёй** галоўнай тэмы. Ён нярэдка абмяжоўваецца даўно вядомымі, прапіснымі ісцінамі: «Быць спакойным яно (мора—**У. Г.**) не можа—значыць, мору патрэбна воля». У такой сітуацыі якраз і адбываецца «ўцечка» грамадзянскага запалу і тэмпераменту. Некаторыя вершы маюць уяўна грамадзянскі характар, нават нясуць адзнакі безгустоўнасці:

Аб'едкаў мне ў жыцці
Не трэба,
Я палавініць не люблю...
Хачу трымаць рукамі неба,
Хачу абняць усю зямлю.

Як сказаў Казьма Прутков, нельга абняць неабдымнае. І трэба пазбягаць рыторыкі.

Сацыяльна-грамадскія матывы гучаць у Фаміна, як і ў большасці іншых маладзейшых паэтаў, у асноўным у вершах на антываенную тэму. Аднак і гэтым вершам нестае новага жыццёвага напаўнення, хоць і адчу-

ваецца, што многае з таго, пра што ў іх гаворыцца, аўтар сам пераЖыў.

У жыцці ж нам хапіла спаўна.
На бацькоў сваіх
Доляй падобны.
Нас не мёдам паіла вайна
І карміла
не булкаю здобнай.
Па шляхах басаногімі нас
Гналі слоты,
вятры
і завеі.
У блакадных балотах
не раз
Мы, бязвусыя,
Рана сівелі...

Не магу адмовіцца ад уражання, што падобнае недзе (у паэтаў папярэдняга пакалення) я ўжо чытаў.

Амаль кожны з паэтаў імкнецца расказаць пра сваё вясковае дзяцінства, пра бацьку, маці, роднае поле, лес, хату, раку... Нічога благога ў гэтым няма, але нельга не адзначыць наіўнасць і павярхоўнасць многіх радкоў, непрыхаваную іх інфармацыйнасць:

Дзе б я ні быў, бацькоўскі дом
Мне служыць маяком.
Стаіць калодзеж пад акном
З пявучым жураўлём.
(Я. Крупенька).

Ахвотна верыцца, што ўсё гэта так, аднак радкі начыста пазбаўлены навізны, яркасці фарбаў, непаўторнасці дэталяў, усяго таго, што сведчыла б пра наяўнасць цікавай і арыгінальнай асобы паэта.

Радзей, чым хацелася б, выходзіць за межы дзіцячых успамінаў, асэнсаваных, праўда, у святле пазнейшага вопыту, такі здольны паэт, як Іосіф Скурко. Хутка атрымаем яго першую кнігу—зборнік вершаў «Бацькоўскі парог», будзем спадзявацца, што яна пашырыць уяўленне пра творчасць паэта.

Надта марудна пашыраюць свае грамадскія далягляды і ўяўленні многія з тых, у каго першая кніга засталася даўно ззаду, а на парозе—другая. Шлях да другой кнігі часцей бывае больш цяжкі, чым да першай. Здараецца, і нярэдка, што чалавек вычарпаў сябе ў першай кніжцы і на другую яго нестае.

Цікава заявіла пра сябе Вольга Іпатава першым зборнікам, які выйшаў некалькі гадоў назад. Было відаць, што ад паэтэсы можна чакаць многае. Аднак яна пакуль што спраўдзіла далёка не ўсе нашы спадзяванні. Прынамсі, тое, што друкавалася ў перыёдыцы, задавальняе не зусім.

Задоўга не раблюся я
дарослай.
Ва ўсіх учынках холадна —
цвярозай,—

гэта радкі з верша В. Іпатавай «Задоўга не раблюся я дарослай...», надрукаванага ў «Літаратуры і мастацтве». Не пра такую «халодна-цвярозую» дарослаць у дачыненні да самой Іпатавай ідзе гаворка, а пра дарослаць асобы, яе грамадзянскія маштабы, сталасць мастацкага мыслення.

Пэўнае развіццё ў творчасці маладых атрымалі інтымныя тэмы і матывы. Каханне, адносіны ў маладой сям'і, дружба—пра ўсё гэта, як і трэба было чакаць, маладыя пішуць ахвотна і шмат. І гэта натуральна. «Паэзія сэрца мае такія ж правы, як паэзія думкі»,—лічыў М. Г. Чарнышэўскі.

Нельга пэўна сказаць, за што ты любіш таго ці іншага чалавека, аднак паэзія заўсёды высока цаніла чалавечую здольнасць любіць глыбока, да самазабыцця. Нядаўна выдадзеная анталогія беларускай любоўнай лірыкі «Зорка Венера» яшчэ раз засведчыла гэта.

«Вечнае каханне» загаварыла са старонак кнігі Віктара Ракава «Акно ў зялёны сад». У паэта строгія маральныя патрабаванні да свайго кахання, але часам настолькі звужаныя, што мала верыш у сапраўднасць пачуцця.

Я думаў, што бясконца буду жыць
Тым пачуццём, якім цябе авеяў.
Ды памыліўся—твой пагляд савее,
Калі удача ад мяне бяжыць.
Ну як, скажы, з табой мне, гэткай,
жыць?

Ты мне ніякіх пісьмаў не пішы.
Пайшоў я ў свет, назад каб не
вярнуцца.
Гукай таго, хто ўмее нізка гнуцца,
Хто табе сёння па тваёй душы.
Чытаць не буду... Пісьмаў не
пішы...

Па кантрасце ўспамінаецца славутае пушкінскае «Я вас кахаў...» з яго сапраўдным гуманізмам і чалавечнасцю. І ўсё ж такі ў кнізе Ракава асоба паэта больш поўна—у параўнанні з іншымі яго вершамі—раскрылася менавіта ў інтымнай лірыцы. Хоць, вядома, ёсць вартыя ўвагі і вершы «іншага складу». Значна ямчэй і свяжэй у параўнанні з іншым яму ўдалося сказаць пра родны кут. Прыцягвае ўвагу і прымушае ўспомніць і падумаць пра сваё, роднае верш В. Ракава «Дворышчаў прывычныя прыкметы...» Тут ёсць свае разважанні пра той куток зямлі, які ёсць у кожнага, якому кожны абавязаны сваім нараджэннем.

Хіліць на роздум верш К. Камейшы «Лілі», прысвечаны блізкаму чалавеку—жонцы. Верш напісаны ў характэрнай для маладога паэта сцішанай, разважлівай манеры. Але голас яго на гэты раз гучыць занадта камерна—маленькая сям'я, маленькая кватэра, свой сямейны мікрасвет... І хоць «шчасця непрыкметная падкова пад нагою рысака звініць» (пры чым тут конь?), аднак гэтаму мікрасвету яўна бракуе сувязі з тым вялікім светам штодзённай працы, барацьбы, жыцця, у якім усе мы жывём. Казіміру Камейшу—аднаму з самых цікавых нашых маладых паэтаў—трэба шырэй мысліць, каб голас яго гучэў на болей высокіх грамадзянскіх нотах, каб у ім адчувалася большая маральная адказнасць за тое, што адбываецца ў жыцці.

Верш М. Парахневіча «Дачка» таксама мае інтымны, «сямейны» характар. У ім шмат бацькоўскай пяшчоты, і каб яна не была выказана ў лоб, задужа прамалінейна, гэта быў бы, можа, адзін з лепшых вершаў паэта.

Радок у Парахневіча асабліва пераканаўча і паэтычна гучыць там, дзе гаворыцца пра асабіста зведанае, што стала часткай ягонага вопыту. Такія вершы «А быць магло б: адно імгненне...», «Красунь нямала ёсць на свеце...», «Адзінства» і інш., у тым ліку цудоўны па свежасці фарбаў верш «Усе—у Крым...» Вонкава—гэта паэтычная спрэчка з тымі, хто кожнае лета шукае экзотыку ў «паўднёвых мясцінах».

Не трэба мне паўднёвых тых
экзотык.
Навошта мне той пабярэжны гам!
Я за адно—за клёў хітрухаў-
плотак
Пуцёўку прафсаюзную аддам.

Бяры і едзь. Да пляжу.
Да прыбою.
Ляжы на сонцы. Ці драмі ў цяньку,
Бо ты не знаеш, што гэта такое—
Наварыстая юшка ў кацялку.

У ёй усё: сівы туман затокаў
І тміну смак, што выспеў на лугах,
І мяккі водар ёдзістых асокаў,
І свежасць ранку, і вуголля пах.

Шкада, што верш замыкаецца паэтызацыяй рыбалкі і агітацыяй за адпачынак у межах Беларусі—тэма дае надзвычай шырокі інтэлектуальны прастор. Тым не менш хочацца сказаць паэту дзякуй за тое, што ён так свежа і непасрэдна нагадаў нам тую наймілейшую часіну, калі «на зоры займае».

Інтымная, прыродаапісальная лірыка, як любая іншая галіна паэзіі, дае паэту магчымасць на ўвесь голас выказаць сваё грамадзянскае крэда. Але такіх вершаў, па праўдзе кажучы, не знойдзеш у нашых маладзейшых паэтаў. А, скажам, у таго ж Барадуліна нярэдка можна натрапіць на такі менавіта верш:

Дзень добры,
родны бор!
Даўно цябе не бачыў.
Ну, як твой смалазбор,
Падсочаны бядача?

Паэт развіў у сабе здольнасць звязваць «прыроднае», «лясное» з трывогай чалавека другой палавіны дваццатага стагоддзя. І як здорава, дзякуючы гэтай сувязі, гучыць верш! Як цікава «іграе» тут сваімі адценнямі слова «падсочаны»!

Часам інтымныя вершы некаторых паэтаў будуюцца па схеме: я цябе чакаў, а ты пайшла з другім. Дзяўчата часта пішуць пра тое, як любы здрадзіў ім, і просяць лівень, каб «змыў чалавека таго сляды, ...якому я, як табе, давярала» (М. Шаўчонак). Што ж, чалавечы лёс неаднолькавы, у адным выпадку ён складваецца шчасліва, у другім—не.

За паваротам зніклі рэйкі.
І колькі ў далеч ні глядзець—
Ужо ніколі, нават зрэдку,
Цябе не ўбачыць, не сустрэць.

Стаю адна. Туман бялёсы
Ахутаў з галавы да ног.
...І разыходзяцца два лёсы
Па тонкіх лініях дарог.

Такія вершы кранаюць аматараў прыгожых паэтызмаў, але вялікага душэўнага перажывання не выклікаюць...

## 4

Для паэта няма больш высакароднай мэты, чым стварэнне вобраза героя нашых дзён, раскрыццё духоўнага багацця і паэзіі працы тых звычайных людзей, хто будуе трактары і здабывае нафту, узводзіць гарады і вырошчвае хлеб, працуе на атамных рэактарах і разгадвае тайну жывой клеткі! Няпроста зразумець яго псіхалогію, складаную дыялектыку душы, маральныя ідэалы, але лірык на тое і лірык, што, гаворачы ад сваёй асобы і пра сябе, расказвае ў той жа час і пра іншых. Вобраз сучасніка ў паэзіі выступае найбольш ярка ў форме лірычнага героя—«я» паэта.

Трэба сказаць, што паэтычная аднастайнасць і маральна-грамадзянская нясмеласць прыкметна збяднілі не толькі характар героя і яго ўяўленні пра жыццё, але і самую мастацка-вобразную фактуру твораў. Міжволі ўспамінаецца першая, юнацкая, кніжка

Г. Бураўкіна «Майская просінь»—які цікавы характар быў заяўлены ў ёй! Цяпер такіх герояў вельмі нестае маладой паэзіі. А калі ў паэта няма канкрэтнага героя—роднага, любімага, з выразным сацыяльным, маральным, псіхалагічным аблічам,—значыць няма каму думаць, трывожыцца, радавацца, няма каму задаваць пытанні жыццю.

Зрэшты, не скажу—знешняе аблічча гэтага чалавека праступае ў вершах У. Скарынкіна:

Цяжкі дастаўся крыж
Табе, што ні кажы...
Ізноўку ты ляціш
На Ніжнія Крыжы.

Дыхнуў мароз на шкло—
Намаляваў панты.
Не грэюць, як назло,
Настылыя унты.

Кіруюцца сябры—
Хто ў Адлер,
Хто ў Парыж.
Над трэцім угары
Гарыць
Паўднёвы Крыж.

Табе ж з маленства,
Друг,
Па сэрцы неспакой.
І стаў Палярны круг
Арбітаю тваёй.

Толькі адкуль гэтае амаль някрасаўскае «цяжкі дастаўся крыж» у дачыненні да сучаснага лётчыка, які, я упэўнены, любіць сваю прафесію, як гэта ўвогуле ўласціва лётчыкам. Яны не могуць не лятаць, іх проста цягне ў неба. Далей, адкуль аўтар узяў «панты́» (з націскам на апошнім складзе), бо калі ён меў на ўвазе аленнія рогі, то гэта па́нты. Цікавая дэталь: авіятар, інжынер, Скарынкін рэдка звяртаецца да матэрыялу, які дае яму яго справа, яго работа.

Пачаць гатовы
кожную гадзіну
Ў душы маёй
паэт і інжынер
Паміж сабой
смяротны паядынак,—

прызнаецца У. Скарынкін, але большасць яго вершаў—пра дарагую сэрцу вёску, мясціны дзяцінства. Вершам, у якіх паэт спрабуе асэнсаваць сваю работу, нестае выразнасці і смеласці думкі. Як гэтаму, напрыклад, васьмірадкоўю:

Святлом сіняватым поўня
Апырскала самалёты.
І сталі нагадваць
раптоўна
Яны незямныя істоты.

Паблiскваюць росы на «Ілах».
Маўчаць да пары маторы.
Гатовыя ў неба
на крылах
Узняць каляровыя зоры.

Такі шматабяцаючы зачын і такое ардынарнае заканчэнне! Цяжка даецца паэту гэтая тэма, але якраз яна і з'яўляецца яго тэмай, і яму над ёй працаваць...

Тыя, хто любіць паэзію, з цікавасцю сочаць за выступленнямі ў друку Святланы Басуматравай. Што вабіць перш за ўсё ў яе вершах—дык гэта шчырасць, часам нават здзіўляючая. У асобе Басуматравай беларуская літаратура мае, відаць, вельмі здольную і перспектыўную маладую паэтэсу. Яе вершы нясуць на сабе адзнаку свежасці, непаўторнасці і праўдзівасці лірычнага перажывання. Гэтыя якасці прысутнічаюць і ў вершах, надрукаваных у трэцім нумары «Маладосці» за мінулы год.

Якая восень—сум і прыгажосць,
Спакой і смутак, золата і чырвань.
Вось-вось гатова адляцець у вырай
За жураўліным клінам маладосць.
Хай лістапад. Я веру, што мяне
І заўтра будзе радаваць світанне.
Што светлае і вечнае каханне
Мой неспакойны лёс не абміне.
Не вабіць ні вядомасць, ні рублі,
Аддам усё адзіным двум
патрэбам—
Сумленна жыць пад родным
мірным небам,
Любіць усё жывое на зямлі.

Паэтэсе адно трэба выходзіць на шырэйшы «аператыўны прастор», уключыць у арбіту сваёй творчай думкі больш шырокія тэматычныя і ідэйныя пласты рэчаіснасці, узнімаць свае «патрэбы» да ўзроўню патрэб грамадзянскіх, інакш кажучы, выхоўваць у сабе пачуццё асобы. Таму што элементарныя паняцці, першыя каштоўнасці: вернасць, дабрата, асабістая сумленнасць—абавязковыя ўмовы, каб быць чалавекам. І ўсё ж такі гэтага мала герою нашага складанага часу. Яму неабходны яшчэ грамадскі інтэлект, грамадзянскі тэмперамент, паслядоўныя перакананні, мужнасць і ўменне за іх змагацца.

Сярод сённяшніх маладых не проста знайсці паэта, які б, хай сабе і ломкім голасам, задаваў пытанні—сабе і чытачам. Нельга ж усур'ёз успрымаць такое, скажам, «пытанне»:

Чаму, сябры, скажыце, сам не
ведаю,
Я, нібы птушка, песню заспяваў?
(Я. Крупенька).

Тым больш узрадуешся, калі раптам натрапіш на сапраўды ўдумлівую лірыку, якая патэнцыяльна змяшчае ў сабе і запытанне, і роздум, і імкненне даследаваць з'яву.

Вось гэтым—пытаннямі, аналітычнасцю думкі, імкненнем паэта ў што б гэта ні стала дайсці да ісціны,—хвалююць вершы Уладзіміра Верамейчыка («Маладосць» № 8, 1972).

Людзі! Чаго леціцё вы у космас?
Што вы шукаеце там?
Клалі б ля рэчак зямныя пракосы,
К спелым хадзілі жытам.

Людзі! Навошта яна вам—Венера?
Блудзіць няхай між нябёс!
Можа, ўзламаўшы касмічныя
дзверы,
Зойдуцца сэрцы ад слёз?

Людзі! Чаму ў адказ анямелі,
Ладзячы струны ракет?
Ладзілі б лепей дзецям вяселлі,
Песні б пускалі ў сусвет!

І далей, з касмічнага плана гаворка пераходзіць у зямны, бытавы, чалавечы:

Людзі! А, можа, з планеты далёкай
Госці збіраюцца к вам,
І мудрацы паміж зорных аблокаў
Шлях паказалі сынам?..

Людзі! Я поўнасцю вас разумею:
Госця за вёскай заўжды
Бацька страчаў ліхтаром у завею,
У спёку—з біклагай вады.

Змерзне—падасць ён кажух
абагрэты,
Спёка—з біклагі глынуць...
Людзі!
Да зорак вас не ракеты—
Шчодрыя сэрцы нясуць!

Прынцыпова важна, што ў сваіх публіцыстычных вершах У. Верамейчык застаецца мастаком: праўда перажыванняў спалучаецца ў яго з харастаном адчування жыцця, грамадзянскі пафас—з асобаю паэта.

Значнасць асобы паэта і героя, моцная зрошчанасць з жыццём, з яго штодзённай прозай паяўляюць духоўны патэнцыял паэзіі. Праблема духоўнасці, павагі да духоўных працэсаў жыцця сведчыць пра актыўнасць паэтычнага мыслення.

Добра запомніліся дзве падборкі вершаў Р. Семашкевіча ў студзеньскіх нумарах часопісаў «Полымя» і «Маладосць» за мінулы год. Семашкевіч імкнецца паказаць жыццё чалавечага духу, народнай свядомасці, неадрыўнай ад побыту, але здольнай часамі ўзносіцца над ім высока, туды, «дзе другі абсяг відзён». Пра гэта—верш «Полька ў вёсцы Пяціхатка», успаміны паэта пра канкрэтную з'яву—звычайныя вясковыя танцы. Але як пададзена гэта самая полька—праз звычайны бытавы план відаць абрысы іншага, больш шырокага, я б сказаў нават, філасофскага плану—«шлях сюды, як Млечны Шлях». А ў тым жа нумары «Маладосці» змешчаны такія проста выдатныя вершы, як «Развітанне з садам», «Летнія малюнкі», у «Полымі»—«Вяртанне кніг», «Паляванне».

Адны паэты—ясныя, простыя, яны адразу раскрываюць свае каштоўнасці, другія патрабуюць больш засяроджанага стаўлення да сябе. З ліку апошніх—Рыгор Семашкевіч. Многія вершы яго шматпланавыя, як напрыклад, тое ж «Развітанне з садам». З кім размаўляе паэт? З садам, з сябрам ці з самім сабою? Аб чым ідзе гаворка? Аб жыцці, аб пасталенні чалавека, аб тым, што застаецца з ім з дзіцячых год назаўсёды. Творы Семашкевіча патрабуюць значнага інтэлектуальнага напружання, але гэтая спелая паэзія шчодра ўзнагародзіць вас за ўвагу. Паэт добра адчувае момант эстэтычнай узаемасувязі формы і зместу: думка свеціцца ў радку ўсімі сваімі фарбамі і адценнямі.

Не вельмі многа друкаваўся мінулы год А. Разанаў, каб скласці поўную думку пра ягоны творчы рост. У «Літаратуры і мастацтве» (14 студзеня 1972) змешчаны верш «Першапраходцы», у якім паэт вельмі ўжо, мне здаецца, сумна ўяўляе сабе лёс тых, каго называе «першапраходцамі»:

Адпрацаваўшы, на спачын,
ледзь цені чуйныя пабеглі,
не засмучоныя нічым,
нічым не ўцешаныя леглі.

І хоць верш заканчваецца на больш упэўненай ноце, мяне, чытача, не пакідае адчуванне нейкай маркоты:

Але праз веянне начэй
у нейкі момант недзялімы—
любоў... смуга...—
да іх вачэй
цішком схілялася Радзіма.

Крыўдна, што гэты вельмі здольны паэт пайшоў у вершах, здаецца, больш ад кнігі, чымся ад жыцця. Адсюль—некаторая абстрактнасць у яго апошніх публікацыях.

60-я гады былі цікавыя з'яўленнем у паэзіі некаторых новых, невядомых да гэтага жанраў. Адышлі ў нябыт панегірыкі, на іх месца з'явіліся свежыя «чорнарабочыя» жанры, такія, як, напрыклад, «лірычны рэпартаж»—з калгаса, з завода, навабудоўлі. «Полымя», і «Маладосць», і «Беларусь», і «ЛІМ» даволі часта друкавалі на сваіх старонках лірычныя рэпартажы Г. Бураўкіна, Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, В. Макарэвіча і іншых. Аднак гэты жанр, нягледзячы на сваю аператыўнасць, аказаўся недаў-

гавечным (паэмы, скажам, ён не мог замяніць), і сёння—у 1973 годзе—яго ўжо амаль не сустрэнеш, бо паэзія стала больш глыбокай і ўдумлівай, і «рэпартажнасць» яе не можа задаволіць. Аднак і зараз мы маем права патрабаваць, асабліва ад маладой паэзіі, большай разнастайнасці і свежасці. Дарэмна мы будзем шукаць у ёй сёння, напрыклад, сатырычных твораў ці хоць бы гумарыстычных—і гэта лішні раз паказвае на слабую сувязь з жыццём.

### 5

Расказваюць. што ў старажытных японскіх мастакоў быў такі звычай: майстра, які дасягнуў зеніту славы і вядомасці, раптам ад усяго гэтага адмаўляўся, мяняў прозвішча і зноў пачынаў усё спачатку... Такі ўчынак сведчыць, па-першае, аб вялікай патрабавальнасці, з якой ставіліся мастакі да сваёй творчасці, па-другое, аб іх вялікай мужнасці.

Падобныя прыклады можна адшукаць у гісторыі літаратуры і мастацтва многіх народаў.

Іншая справа сёння: асабовы пачатак у літаратуры ўзрос настолькі, што ахапіў сабою ўсе бакі творчага акту, пачынаючы выбарам праблемы і канчаючы індывідуальным стылем мастака, стаў абавязковай і неад'емнай якасцю самога твора. Каб я не ведаў, скажам, што вось гэты верш—

Ёсць у нас гаспадары,
Што топчуцца па дабры,
А дабра не бачаць.
Можа я стары бурчун,
У шчарбаты б'ю чыгун,
Дык няхай прабачаць,—

напісаў Якуб Колас, твор страціў бы для мяне ці не палавіну сваёй прывабнасці.

Леў Талстой прызнаваўся, што, чытаючы твор, незалежна ад таго, пра каго там напісана, ён перш за ўсё шукаў душу самога мастака, яго асобу.

Яе, асобу, я напаткаў у кнізе Л. Дайнекі «Бераг чакання». Помню яго першую кнігу «Галасы», якая выйшла некалькі гадоў назад. «Бераг чакання»—значны крок наперад у творчым і грамадскім развіцці паэта.

Вуголле спаленых хацін.
І чорны дым. І чорны вецер.
У кожнага свая Хатынь.
І ўсё ж Хатынь адна на свеце.
У кожнага свая Хатынь—
Хатынь ці ў Віцебску, ці ў Мінску.
Ды ў посвіст куль, у грукат мін
Пайшоў бы я, каб мёртвы сын
Падняўся з Вашых рук, Камінскі.

Сказана так шчыра і рашуча, што паэту верыш адразу, без ваганняў. Што паэт імкнецца ісці ўпоравень са сваім часам, гаворыць верш «Буслы дваццаць першага веку», з яго трывогай пра тое, каб пер'е буслам не абскуб «цывілізацыі вецер». У вершах Дайнекі адчувальны грамадзянскі напал, мужнасць і маральная бескампраміснасць. Перад намі паэт без ілюзій, гэтым і цікавыя яго лепшыя вершы.

Аднак, хвалячы Дайнеку, яго за многае трэба і крытыкаваць. Творы, якія складаюць яго новую кнігу, якасна няроўнацэнныя. Побач з добрымі ёсць вершы «прахадныя», якія выглядаюць самі па сабе даволі прыстойна, а ў суседстве з тымі ж «Бусламі...», «Самалётам», «Партызанскай кашай», «Сузор'ем Арла» пакідаюць не самае лепшае ўражанне.

Паводле лепшых традыцый беларускай літаратуры ў асобе пісьменніка прызванне мастака заўсёды спалучалася з абавязкам грамадзяніна. Разам з тым нельга трактаваць грамадзянскасць і ідэйнасць у вузкім плане. Сёння нам да густу тая паэзія, якая ўся пранізана прагай пазнання і страснага сцвярджэння пазнаных ісцін. Нам не вельмі імпануюць паэты, якім усё ясна ад нараджэння, у якіх няма ніякіх турбот, пытанняў, а ёсць толькі адна (гэта ў іх 20 год!) сталасць, адукаванасць і падкаванасць. Не надта цікавыя яны як людзі, а значыць, і як паэты. У гэтым сэнсе павучальны вопыт і лёс тых, хто прыйшоў у паэзію ў другой палавіне 50-х гадоў і ў пачатку 60-х. Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Сцяпан Гаўрусёў, Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Уладзімір Караткевіч, Еўдакія Лось, Юрась Свірка і іншыя—усе яны ішлі ў літаратуру настойліва, падчас фарсіравана, імкнучыся абавязкова сказаць сваё слова.

У іх паэзіі надзвычай дакладна і праўдзіва адбіліся жыццёвыя дарогі цэлага пакалення: украдзенае вайной дзяцінства, цяжкасці, нястачы пасляваеннай пары. Нас да гэтага часу вабіць у паэзіі Ю. Свіркі тое, што яна не баіцца жыццёвых, быццам бы зусім не «паэтычных» праблем. Паэт гаворыць пра іх публіцыстычна, аднак яго вершы ў той жа час не пазбаўлены і спакойнага засяроджанага роздуму. Асоба паэта праяўляе і сцвярджае сябе ў разнастайнасці актыўных адносін да жыцця, у пошуках, часам нялёгкіх і пакутлівых.

З цікавай паэмай «Вянок» у дзесятай кніжцы часопіса «Маладосць» за мінулы год выступіў Р. Тармола. Ствараецца ўражанне, што паэт доўга шукаў сваю тэму, новы падыход да яе. Тое, што ён знайшоў, цікава і па задуме, і па выкананні. «Піянеру Колю Гойшыку, камсамольцу Міколу Кедышку, камуністу Мікалаю Гастэлу» прысвечаны яго «Вянок».

У восьмым нумары «Маладосці» за мінулы год Анатоль Грачанікаў надрукаваў свой верш «Школа танцаў», у якім ёсць усё—і жарт, і гумар, і іронія, і разам з тым вельмі шмат сур'ёзнага. Ёсць падставы гаварыць аб тым, што ў творы ў своеасаблівым успрыняцці адбіліся некаторыя вельмі істотныя, у тым ліку супярэчлівыя бакі сучаснасці. Цікава выступіў паэт і на «Паэтычнай паверцы» ў «ЛіМе» (31 сакавіка мінулага года). Наяўнасць асобы паэта азначае павелічэнне «працэнта» жыцця ў яго творах, узмацненне грамадзянскага пачатку паэзіі.

Вядома, нельга чакаць, каб у маладых асоба выяўляла сябе так стала і выразна, як у П. Броўкі, М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, А. Пысіна, М. Лужаніна і многіх, многіх іншых, чыя паэзія раскрыла працэс духоўнага развіцця чалавечай асобы ў барацьбе за сацыялізм і камунізм. Засмучае другое: маладыя менш, чым трэба б было, вучацца ў старэйшых. Таму, калі сустрэнеш у іх уплывы Танка, Куляшова, Панчанкі, то гэта толькі радуе. Больш трэба чытаць сваіх добрых настаўнікаў, вучыцца ў іх! І набываць свой уласны жыццёвы вопыт. Нешта не чуваць апошнім часам, каб хто з маладых паехаў некуды на новабудоўлю, пажыў яе клопатам. Паранейшаму перад паэзіяй вострa стаіць праблема прафесійнага вывучэння жыцця, творчай актыўнасці, праблема самастойнасці і ініцыятывы ў падыходзе да пытанняў жыцця, якое сёння больш чым калі вымагае ад паэта праўды аб сучасніку.

У «Дні паэзіі», які выйшаў у мінулым годзе ў Маскве, змешчаны ліст Аляксандра Твардоўскага паэту Канстанціну Ваншэнкіну ў адказ на дасланую ім кнігу вершаў. У кнізе, пісаў Аляксандр Трыфанавіч, «**проста няма дрэнных вершаў** (падкрэслена А. Твардоўскім.—**У. Г.**),—у самым прахадным вершы—то зоркасць вока, то думка, то выраз,—што-небудзь—ды ёсць». І кніжка ў цэлым добрая, гаворыць Твардоўскі, «хваліць яе будуць з поўнай падставай», адзначаючы творчую прадуктыўнасць Ваншэнкіна, але,—працягвае ён далей,—«я не знайшоў, каб гэта прадуктыўнасць была ў плане і духу якойсьці генеральнай думы, захаплення якім-небудзь пачуццём, задачай, пошукам,—не, усяго патроху, але ў асноўным тая ж вельмі прыемная (пакуль што!) любоў да ўсіх жыцейскіх колераў і адценняў, г а т о ў н а с ц ь  а д к л і к н у ц ц а  н а  ў с ё, што ідзе ў душу: на снег, на дождж, на прачытаную кнігу, праслуханую песеньку, заўважаную падрабязнасць той ці іншай карціны,—і адклікнуцца хораша, выразна, аднак ужо, даруйце мне, з некаторай набітасцю рукі ў малых сакрэтах творчасці».

Заўвага Твардоўскага актуальная, як ніколі.

Сёння сілы савецкіх людзей скіраваны на паспяховае выкананне заданняў дзевятай пяцігодкі, на ўзрастанне эканамічнай магутнасці краіны, умацаванне міру паміж народамі, на далейшы ўздым сацыялістычнай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, навукі і культуры.

«На якой вышыні мой сцяг?»—вось тое галоўнае, сфармуляванае Піменам Панчанкам пытанне, над якім абавязаны задумацца кожны сучасны паэт, калі ён усур'ёз ставіцца да сябе як да літаратара-грамадзяніна, заклікanaга спецыфічным сродкам—мастацкім словам—удзельнічаць у сучасным жыцці, рухаць яго да вяршынь прагрэсу.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ.**



**Іван АРАБЕЙКА. «УСЛЕД ЗА СОНЦАМ». Першая кніга паэта. Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мінск, 1972.**

# УСЛЕД ЗА СОНЦАМ, АЛЕ—ПА ЗЯМЛІ!

Нараджэнне серыі «Першая кніга паэта», якую выдавецтва «Беларусь» пачало выпускаць гадоў пяць назад, стала сапраўдным святам для ўсіх аматараў нашай паэзіі. І як было не радавацца: некалькі першых зборнікаў за адзін год! Ды мінуў час, тоненькіх кніжак з сілуэтам какетлівага пегаса на вокладцы сабралася ўжо ладнаватая бібліятэка, яны сталі на паліцах кнігарань звычнай і будзённай з'явай, і першая радасць паступова саступіла месца развазе, цвярозаму аналізу набыткаў і пралікаў як усёй серыі, так і паасобных яе выданняў.

Аднак першая кніга ўсё ж першая, і яе з'яўленне — хвалюючая падзея не толькі для самога паэта, але і для чытачоў. І няхай сабе імя, якое стаіць на вокладцы, знаёмае табе па газетных ці часопісных публікацыях, усё адно першую кнігу бярэш у рукі са своеасаблівым пачуццём. І, пэўна ж, ніводзін чытач (і крытык таксама, бо ён у першую чаргу чытач) не ставіць перад сабой мэты адшукаць у паэта агрэхі, пралікі зместу і формы. Наадварот, пры знаёмстве з першай кнігай жывеш спадзяваннем на адкрыццё, чаканнем стрэчы з цікавым субяседнікам, які раптам шчыра і даверліва, так, як умее толькі ён, павядзе цябе ў нявыдуманы свет сваіх думак, пачуццяў, перажыванняў і ўяўленняў.

І толькі тады, калі спадзяванне не спраўджваецца, пачынаеш шукаць прычыны, чаму тое, што напісаў паэт, не знайшло ў табе водгуку, чаму яго лірычная споведзь не выклікала ў тваёй душы адпаведнага суперажывання. Найбольш засмучаюць у такіх выпадках не паасобныя агрэхі стылю (майстэрства з цягам часу прыйдзе), а адсутнасць у паэта **сваёй** тэмы, жыццёвай пазіцыі, акрэсленага пафасу. А гэта азначае, што за лірычным героем вершаў нельга ўгледзець адметнай чалавечай асобы.

Прыкра, вядома, калі маладога паэта ў першай кнізе напаткае такое. І тым не менш крытыка не толькі павінна, але і абавязана гаварыць пра гэта. Суровая, справядлівая і, вядома ж, добразычлівая ацэнка першых крокаў маладога творцы куды больш карысная, чым штосьці невыразнаабыходлівае ці бяздумна-хвалебнае. А між тым крытыкам не-не ды і даводзіцца выслухоўваць папрокі накшталт: «Што ж ты яго так адхвастаў, братка? Першая кніжачка, а ты...» І гэта пра рэцэнзію памяркоўную, нават сяброўскую па тоне...

Гаворыцца гэта не для таго, каб застрахавацца ад падобных папрокаў, а каб падкрэсліць: серыя «Першая кніга паэта» патрабуе да сябе большай увагі нашай крытыкі, бо ў апошні час у гэтай серыі колькасць пачала пераважаць над якасцю. Хай толькі чытач не зразумее нас так, што мы—за скарачэнне колькасці. Крый божа! Толькі за павышэнне якасці...

Сярод леташніх серыйных кніжак—зборнік вершаў Івана Арабейкі «Услед за сонцам». Ёсць у ім творы, якія відочна сведчаць, што аўтар—чалавек, безумоўна, здольны, надзелены паэтычным бачаннем свету. Нельга, напрыклад, не знайсці душэўнага паразумення з паэтам, чытаючы такія яго радкі:

Прайшлі мае пазёмкі на палянах.  
Апалі хмелю белыя брыжы.  
У вогненных набедрыках маланак  
Размашыста пранесліся дажджы.  
На гонкіх верацёнах камарыных  
Дапрала маё лета вечары.  
Вятры цяпер у гнёздах пад адрынай  
Зазвоняць, бы ў гаршчочкі ганчары.  
І спяць медзведзяватыя, цяжкія,  
Чмялямі пачапаныя стагі.  
Я знаю, ёсць куткі і не такія,  
Ды толькі гэты—самы дарагі.

І няхай сабе думка тут не новая, усё ж шчырыя словы прызнання ў любові да роднага краю не застаюцца для нас без водгуку.

У актыў маладога паэта можна залічыць таксама вершы «У хаце сонечна было», «Я з тых мясцін», «Бывайце, светлыя гады...», «Невядомы пагранічнік», «У Брэсцкай крэпасці», «Паміраю, але не здаюся» і некаторыя іншыя. Яны не аднолькавыя па сваёй ідэйна-мастацкай значнасці, аднак прыцягваюць нашу ўвагу перш за ўсё натуральнасцю душэўнага перажывання лірычнага героя, даверлівасцю інтанацый і, што асабліва хочацца падкрэсліць, жыццёвасцю зместу.

Нямала напісана ў нас вершаў пра бессмяротную цытадэль над Бугам. Апаленыя пякельным агнём руіны—сведкі неўміручага подзвігу абаронцаў Брэсцкай крэпасці—уразілі і нашага паэта, і ў яго душы нарадзіліся хвалююча-афарыстычныя радкі:

Цагліны—  
ярасцю твары скажоныя.  
Маўчыць нямая сцяна.  
Цэнтральны востраў,  
як камень жорнавы,  
Дзе столькі перамалола вайна!

Чыстым, празрыстым смуткам кранаюць вершы «Бывайце, светлыя гады...» і асабліва—«У хаце сонечна было»:

А маці больш не месіць хлеба,  
Цяжкога хлеба на вадзе.  
І з рук яе, як месяц з неба,  
На бляху цеста не ўпадзе.  
А я любіў, як цеста бродзіць,  
Калі за край дзяжы цякло.  
Казала маці: «Хлеб усходзіць!»  
І ў хаце сонечна было...

Ну а астатнія тры дзесяткі вершаў, змешчаныя ў зборніку?

На першы погляд, гэта вершы як вершы. У асобных з іх—нямала ўдалых радкоў, моцна зробленых строф, трапных дэталяў: «даль, страляючы лейцамі, коціць воз паражнём», «нібы перасохлыя поршні, пампуюць пітво кадыкі», «на пустым рукаве Мухаўца мост, як быццам павязка жалобы» і г. д. Тым не менш, радуючыся паасобным знаходкам, гартаеш старонкі кніжкі без прыкметнага жадання штосьці перачытаць, супаставіць сказанае паэтам са сваім уласным вопытам.

Што больш за ўсё псуе многія вершы кніжкі «Услед за сонцам»? Адсутнасць жыццёвага зместу. У аснове твораў ляжаць нібыта зусім рэальныя факты, падзеі, з'явы, сітуацыі, ды бяда ў тым, што паэт не ў іх чэрпае паэзію, а наадварот, уціскае іх у загадзя прыгатаваныя, часам шаблонныя, узятыя напракат паэтычныя рамкі і ўяўленні. Карацей кажучы, паэт сувымярае свае думкі і пачуцці не з жыццём, а са светам паэзіі, займаецца не жывапісаннем, а канструяваннем. У выніку на змену жывому пачуццю ў яго вершах прыходзіць халодная рацыяналістычнасць, на змену шматфарбнай і водарнай карціне—размаляваная схема, на змену самому працэсу чалавечай думкі і пачуцця—больш або менш удала сканструяваная формула.

Звернемся да прыкладаў. Вось верш «Клён». Чым прывабіла паэта дрэва? «Заўжды бяду папераджаў звонам у падвешаную рэйку... А цяпер і сам вось загарэўся». Мусіць, сапраўды ёсць ад чаго ўзрушыцца лірычнаму герою, ды, чытаючы верш, ye, гэтай узрушанасці, мы не заўважаем: уся яна растварылася ў чыста «паэтыцкіх» рэаліях («Над дарогай клён мой залаты—мой адвечны сум па прыгажосці... Хоць бы водгалас твой ціхі пераняць, чысціню і твой напеў высокі, ад якога над страхой звіняць песняю малінавай аблокі. Чуйны лісцік выкрасае звон тонкімі пазногцямі па рэйцы. З гэтым звонам для сяла ты, клён, нібы растрывожанае сэрца...»). Нават асноўная думка верша, заключаная ў апошніх радках,—таксама са свету таннай паэзіі: «Падары мне сваю долю, клён, і нічога болей мне не трэба».

З кароткай біяграфічнай даведкі нам вядома, што паэт пасля сканчэння політэхнічнага інстытута працаваў на шклозаводзе «Нёман». Тым з большай цікавасцю чытаем мы верш «У шліфоўні». Здавалася б, ужо тут нічога не трэба было выдумляць, не трэба было шукаць нейкіх асаблівых шляхоў да сэрца чытача—гаворка ідзе пра асабістае, зведанае. Ды вось:

Тут звон, тут работа карунду,  
І я праз чыёсьці плячо  
Гляджу, як на вазах карункі  
Старанна выводзіць дзяўчо.  
Алмаз—найцвярдзейшы у свеце—  
І самы празрысты крышталь  
Павінны ў руках яе стрэцца,  
Каб цуд невыказны прадстаў.  
Гіпнозам ці чым ашуканы,  
Я з месца не ў сілах сысці,  
Разбілася сонца на гранях,  
Каб мне шанцавала ў жыцці.

Зноў канструяванне, словы і выразы прыблізныя, халодныя, прыдуманыя для запаўнення схемы.

Пачынаецца даўні абрад,  
Пакланенне святое, як музе.  
Апускаюцца ціха на лузе  
Чорна-белыя клавішы ў рад...

Гэта—пачатак верша «Адлёт буслоў».

З палону літаратуршчыны паэт не вызваляецца нават там, дзе гаворыць пра самае дарагое і незабыўнае. «І я тады хоць серп твой нёс дадому, як беркута якога на плячы»,—так канчаецца верш «Маці». Адкуль ён, гэты экзатычны беркут, у маленстве хлапчука з Брэстчыны? Усё адтуль жа, адкуль і згаданыя вышэй «чорна-белыя клавішы»,—з уяўнай паэзіі.

Часам вось такое неадольнае жаданне выказацца вельмі «паэтычна» прыводзіць да кур'ёзаў: верш пачынае гучаць гумарыстычна. Вось, калі ласка:

Гэта ты забрала промні,
Сцяла горла салаўю
І пайшла, а я, як помнік,
Анямелы тут стаю.

Багата ў кніжцы і моўна-стылёвай неахайнасці. У вершы «Тут мне не спіцца...», якім адкрываецца зборнік, чытаем: «Сухі скразняк, як кот-свавольнік...» Слова «сухі» тут відочна выпадковае, яно трапіла ў радок дзеля рытму. Далей: «І часам пысу ён лагодна у жменю торкае маю...» Наўрад ці можна торкнуцца пысаю ў жменю—мо ў руку, у далонь? У вершы «Вось лета з прыпарам адвечным...» ёсць такія радкі: «Мы ад ранку копы на жардзінах носім міма тоненькіх асін». Гэтыя асіны, ды яшчэ тоненькія, прыцягнуты сюды зноў жа толькі рыфмай. «Струмень за шыяй холадам казыча»,—пачынае паэт адзін з вершаў. «Струмень за шыяй»—гэта штосьці не суладнае з граматыкай. «Мы здолелі са страшным рыпам кола гісторыі няўмольнай павярнуць»,—чытаем у наступным вершы. Да чаго стасуецца тут гэты «страшны рып»? Да назоўніка «кола» ці да дзеяслова «павярнуць»— невядома.

Такіх прыкладаў можна прыводзіць шмат, і за тое, што іх мнагавата, варта папракнуць не толькі маладога аўтара, а і рэдактараў кнігі—К. Цвірку (грамадскага) і М. Ваданосава...

Паэту трэба, вядома, ісці за сонцам— урэшце, гэта запавет вялікіх Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, пакінуты маладым песнярам. Але ісці ўслед за сонцам трэба ўсё ж па зямлі, пільна ўзіраючыся ў жыццё, не адрываючыся ад надзённых людскіх клопатаў і турбот. Над гэтым варта задумацца І. Арабейку. І не толькі яму.

**Мікола ГІЛЬ.**




**А. П. МАТРУНЁНАК.**
**«ПСІХАЛАГІЧНЫ АНАЛІЗ У СУЧАСНЫМ БЕЛАРУСКІМ РАМАНЕ».**
**Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1972.**

# СВАІМ ШЛЯХАМ

На сучасным этапе развіцця літаратурнай навукі вялікую цікавасць мае праблема псіхалагічнага аналізу, асэнсавання і абагульнення багатага літаратурна-мастацкага матэрыялу. Пачатак у гэтай справе, і, скажам адразу, пачатак удалы, зрабіў малады даследчык А. П. Матрунёнак у сваёй кнізе «Псіхалагічны аналіз у сучасным беларускім рамане». Такога характару праца—ці не першая ў нашым літаратуразнаўстве і ўжо гэтым выклікае асаблівую цікавасць.

Даследаванне Матрунёнка грунтуецца на шырокай навуковай аснове і вызначаецца важкасцю тэарэтычных вывадаў і абагульненняў. Разам з тым, у ім дастаткова канкрэтнага літаратурнага матэрыялу, які ў такім плане не выкарыстоўваецца ўпершыню.

Праблема псіхалагічнага аналізу, як зазначае даследчык, яшчэ не распрацавана «нават у сваіх вузлавых частках». Дастаткова сказаць, што ў нас няма ніводнага артыкула, дзе пытанні псіхалагічнага аналізу ў таго ці іншага пісьменніка ў тым ці іншым творы разглядаліся б глыбока і ўсебакова. Даследчыку давялося нялёгка. Трэба было абраць правільны кірунак, правільны прынцып даследавання. Думаецца, яму гэта ўдалося. Прывёўшы словы вядомага тэарэтыка літаратуры М. Верлі «Да таго часу, пакуль мы імкнёмся класіфікаваць пэўныя індывідуальныя формы індуктыўным шляхам, як бы знізу, мы не можам прыйсці да ідэі тыпу», аўтар робіць вывад, што «вырашэнне найбольш агульных тэарэтычных аспектаў псіхалагізму трэба звязваць не толькі з аналізам канкрэтных характараў у канкрэтных творах, але і з прадметам літаратуры наогул, з чалавекам і прынцыпамі яго пазнання». Спалучэнне шырокіх тэарэтычных абагульненняў з канкрэтным дэталёвым разглядам творзў у гэтай працы дало добрыя вынікі.



Абапіраючыся на дасягненні сучаснага літаратуразнаўства, у першую чаргу на работы М. Храпчанкі і В. Кожынава, а таксама на работы вучоных-псіхолагаў, Матрунёнак дае сваю класіфікацыю асноўных прынцыпаў псіхалагічнага аналізу ў мастацкай літаратуры, у прыватнасці, у рамане. Дагэтуль найчасцей можна было сустрэць разважанні аб дзвюх формах псіхалагічнага аналізу — аналітычнай і дынамічнай. Выключэнне рабілася толькі для Л. Талстога. Матрунёнак слушна даводзіць, што спосаб усебаковага высвятлення псіхікі чалавека, у якім як бы ўраўнаважваецца знешняе і ўнутранае, суб'ектыўнае і аб'ектыўнае, з'яўляецца не выключэннем, а такой жа заканамернасцю, як і іншыя спосабы. «Адзначым, дарэчы, — піша даследчык, — што гэты спосаб раскрыцця псіхалогіі найбольш адпавядае сінтэтычнай прыродзе жанру рамана. Можна нават сцвярджаць, што ў рамане ён знаходзіць тое ідэальнае асяроддзе, якое не могуць даць яму ніякія іншыя жанры». Такім чынам, у кнізе акрэслены тры прынцыпы, тры спосабы псіхалагічнага аналізу ў рамане: дынамічны, аналітычны, «усебаковы». Для пацвярджэння сваёй канцэпцыі даследчык робіць шырокі экскурс у гісторыю як сусветнага, так і рускага і беларускага рамана.

Праблема, якой прысвечана праца А. Матрунёнка, не з'яўляецца чыста тэарэтычнай. Яна надзвычай цесна звязана з літаратурнай і крытычнай практыкай, бо пры рэалізацыі ў рамане розныя тыпы псіхалагічнага аналізу даюць розныя тыпы самога рамана, якія маюць свае спецыфічныя мастацкія законы, свае фармальныя асаблівасці. Што ж датычыцца разумення саміх тыпаў псіхалагічнага аналізу, то гнуткасць і ўсебаковасць іх разумення даследчык добра прадэманстраваў, разглядаючы раманы І. Шамякіна «Сэрца на далоні», Я. Брыля «Птушкі і гнёзды», І. Мележа «Людзі на балоце». А. Матрунёнак далёкі ад таго, каб аддаваць перавагу таму ці іншаму прынцыпу, таму ці іншаму тыпу рамана. Уся справа ў якасці, якая ў канчатковым выніку і апраўдвае ці, наадварот, дыскрэдытуе прынцып.

Дынамічны прынцып абмалёўкі герояў звязаны ў першую чаргу з узнаўленнем знешняга жыцця чалавека, аб'ектыўнай формы існавання яго псіхікі. Псіхалогія чалавека тут раскрываецца праз падзеі, дзеянні, учынкі. На думку даследчыка, у сённяшнім беларускім рамане найбольш поўна і паслядоўна гэты спосаб выкарыстоўвае І. Шамякін. «Сэрца на далоні», напрыклад, «пачынае нагадваць сабой драму, у якой унутранае дзеянне часцей за ўсё выступае толькі як падтэкст, своеасаблівая «падводная плынь». У форме рамана Шамякіна на першы план вылучаецца дыялог. «...Дыялогі, размовы займаюць амаль

удвая больш той «плошчы» рамана, якая адведзена Шыковічу, перад усімі астатнімі сродкамі, узятымі разам». Прынцып гэты праводзіцца вельмі паслядоўна. Падкрэсліваючы ўменне Шамякіна надаваць дыялогу напружанасць, цікавасць, аўтар адзначае і недахопы: адсутнасць у многіх дыялогах падтэксту, унутранага дзеяння як асноўных носьбітаў характарыстычнасці герояў; няўвагу да індывідуалізацыі мовы.

Найбольш паслядоўным прыхільнікам аналітычнага псіхалагізму ў сучаснай беларускай прозе А. Матрунёнак лічыць Янку Брыля, «бо ён лірык па характары свайго таленту». У рамане «Птушкі і гнёзды» «нават само знешняе дзеянне — рухі, жэсты, учынкі, дэталі знешняга аблічча, абставін, пейзажныя замалёўкі — уваходзяць у ланцуг унутранага дзеяння як яго састаўная частка»,— зазначае даследчык і развівае сваю думку далей: «Перад намі, такім чынам, не што іншае, як своеасаблівы «паток свядомасці», які «цячэ» не толькі ў рэчышчы аб'ектыўнага, знешняга дзеяння, але і па сваіх уласных, толькі яму адпаведных унутраных законах, заснаваных на асацыятыўным счапленні асобных матываў, на шматлікіх успамінах, што ўрываюцца ў гэты «паток» і надаюць яму іншы кірунак». У сувязі з гэтым унутраная мова становіцца галоўным і амаль што адзіным сродкам абмалёўкі характараў, убіраючы ў сябе іншыя сродкі (нават у нейкай ступені дыялог). Аналіз унутранай мовы—у форме няўласна-простай мовы і ў форме ўнутранага маналогу—праведзены на добрым эстэтычным узроўні. Тут ёсць адчуванне праўды руху характараў, а таксама спецыфікі таленту пісьменніка.

Дарэчы, гэта ўласціва і аналізу раманаў Шамякіна і Мележа. Матрунёнак не падпадае бяздумна пад уладу пісьменніка. У яго ёсць свая канцэпцыя, свой погляд на рэчы, і гэта з'яўляецца той меркай, з якой ён падыходзіць да ацэнкі творчасці пісьменніка або яго твора. Таму вывады яго ў пераважнай большасці аргументаваныя, доказныя, хоць яму часам шкодзіць залішняя катэгарычнасць, імкненне жывую літаратурную з'яву абавязкова падпарадкаваць канцэпцыі.

Імкненне да сінтэзу аналітычнага і дынамічнага псіхалагізму Матрунёнак бачыць у раманах І. Мележа «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». «Характар,—гаворыцца ў даследаванні,—раскрываецца надзвычай поўна і ўсебакова дзякуючы таму, што мы бачым яго адначасова і звонку, вачыма аўтара (у дзеяннях, учынках, аўтарскіх апісаннях, простай мове), і знутры, праз унутраную мову самога героя». Робіцца шмат цікавых назіранняў над сродкамі аналізу чалавечых характараў, створаных Мележам, тонка прасочваецца мастацкае ўзаемадзеянне знешняга выяўлення псіхалогіі характараў і ўнутранага самавыяўлення, арганічнасць і багацце сродкаў аналізу.

Ідучы ад шырокіх тэарэтычных пасылак да канкрэтнага аналізу асобных твораў, характараў, А. Матрунёнак заўсёды мае на ўвазе гістарычны рух мастацкага мыслення, яго сучасны ўзровень. Гэта дае яму падставы

## ● ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ ● ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ ●

**«КЛУБ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЙ ДРУЖБЫ».** Так называецца кніжка, якая выйшла ў выдавецтве «Народная асвета» (1972 г.). Аўтар яе П. С. Кашанскі працуе ў Яромінскай сярэдняй школе Гомельскай вобласці. Вучні гэтай школы, члены клуба інтэрнацыянальнай дружбы, трымаюць цесную сувязь з равеснікамі з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, абменьваюцца думкамі і ўражаннямі па розных пытаннях, што ўзнікаюць у іх.

Кніга будзе цікавая не толькі для вучняў старэйшых класаў, але і для настаўнікаў і выхавацеляў. Выдадзена на рускай мове.

**«ЗАГАДКІ».** Выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла ў свет аб'ёмістую працу беларускіх вучоных-фалькларыстаў, у якой найбольш поўна сабраны беларускія народныя загадкі. Складальнікі М. Я. Грынблат і А. І. Гурскі сістэматызавалі іх па гісторыка-тэматычным прынцыпе, і чытач лёгка адшукае патрэбную загадку, зазірнуўшы ў змест.

У кнізе ёсць уступны артыкул і каментарыі, у якіх даецца тлумачэнне многіх загадак, а таксама расказваецца пра гісторыю развіцця беларускай загадкі і яе вывучэнне.

Кніга адрасуецца ў першую чаргу спецыялістам па фальклоры. Але яна будзе цікавай і для філолагаў, гісторыкаў, этнографаў, настаўнікаў і наогул для ўсіх, хто любіць народную мудрасць.

**«ВІТРАЖ».** Новая кніжка вядомага беларускага пісьменніка Янкі Брыля. У ёй сабраны апавяданні і дарожныя нарысы, а таксама нарысы аб прыродзе і чалавеку.



быць прынцыповым і патрабавальным у ацэнцы сённяшняга стану літаратуры і творчасці тых пісьменнікаў, чые раманы ён даследуе. Але ў асобных момантах, у прыватнасці пры аналізе ўнутранага маналогу ў раманах Брыля і Мележа, папрок у традыцыйнасці набывае самамэтнае значэнне.

І яшчэ адна заўвага. Ва ўступе гаворыцца пра псіхалагічны раман. І Матрунёнак—складваецца такое ўражанне—любы раман лічыць псіхалагічным на той падставе, што ў ім ёсць чалавечыя характары і неяк раскрываецца іх псіхалогія. Больш мэтазгодна, відаць, лічыць псіхалагічным раман, дзе праз псіхалагічнае пераламляецца сацыяльнае, бытавое і г. д., а не наадварот.

Увогуле ж кніга «Псіхалагічны аналіз у сучасным беларускім рамане» вызначаецца разуменнем і адчуваннем жывой матэрыі літаратуры, клопатамі за яе высокі чалавеказнаўчы ўзровень. І ў гэтым яе каштоўнасць.

**Серафім АНДРАЮК.**




**Казімір КАМЕЙША. «МЕМБРАНА». Выдавецтва «Беларусь», 1972.**

# АД ДЭТАЛІ— ДА ДУМКІ

Другая кніга Казіміра Камейшы (першая, «Восеньскія позвы», выйшла ў 1969 годзе) даволі багатая на знаходкі. Малады паэт вобразна бачыць («Той дом стаяў, як генерал, з лампасамі гнядога хмелю»), умее падслухаць ледзь чутныя гукі зямлі («як скрыпка, іграюць дзверы на стомле-

## ● ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ ● ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ ●

Кожны твор у зборніку — гэта роздум аўтара пра тое, што ён бачыць у жыцці, у чым удзельнічае сам. І пра што б ён ні расказваў — пра дзяцінства, пра сустрэчы з цікавымі людзьмі, пра чалавечую дружбу — дружбу цэлых народаў,— шчырасць яго апавядання, даверлівасць да чытача кранае і глыбока хвалюе.

У творах, змешчаных у «Вітражы», размова ідзе не пра нешта выключнае, незвычайнае, а пра самае будзённае. Але гэтая будзённасць, убачаная вачамі мастака, раскрытая з нейкага новага боку, ператвараецца для нас у свята — свята сустрэчы з сапраўдным мастацтвам, і паэзія дзяцінства пісьменніка становіцца *нашай паэзіяй*, яго думкі пра жыццё трывожаць і нашу душу.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мінск, 1972.**

**«АГЕНЬЧЫК У АКНЕ»** — новая кніжка Сяргея Грахоўскага. Адрасуецца чытачам малодшага школьнага ўзросту. Большасць апавяданняў прысвечана У. І. Леніну і героям грамадзянскай вайны. Расказвае аўтар і пра нашых маленькіх сучаснікаў, пра іх гульні, забавы, першыя сур'ёзныя турботы. Аўтар умее тонка пранікнуць у іх душу, прасачыць яе парыванні.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мінск, 1972.**

**«ПАДАРОЖЖА Ў ЮНАЦТВА».** Чытачы даўно ведаюць таленавітага празаіка Івана Навуменку, аўтара апавяданняў пра юнацтва, апаленае вайной.

Новая яго кніга выйшла ў серыі «Бібліятэка беларускай прозы». У яе ўвайшлі леп-

ным вушаку», «і гулі ад пчол працяж-на ліпы, ці званы у ліпах тых гулі»), добра адчувае прыроду («і жоўты ліст да шыбіны прыклала (восень — **Ю. Г.**), як хустачку да мокрага ілба»). Нават гэтыя прыклады сведчаць пра тое, што аўтар валодае так званым сёмым пачуццём успрыняцця свету.

Журавінавы водсвет
пад крыламі выраю.
Развітальным святлом загараецца
шлях.
Кіслай,
мокрай,
і сумнай,
і шчыраю
Ты бываеш увосень, мая зямля.
І сустрэчы, іростані дораць дарогі.
Ты дала мне, зямля,
незлічонае мноства
дарог.
Устрывожана ты
жураўлінай
трывогай.
Самай ціхай з усіх мне вядомых
трывог.
Збраснявела вясло
на прычале азёрным —
Астывае ля лодкі падбітым
крылом.
Нават сэрца сягоння трывозе
пакорнае,
Хоць пакорным ніколі яно
не было.

Проста, у раўнавазе слова і думкі разгортваюцца перад чытачом гэтыя і іншыя творы, да якіх можна аднесці «Ранак рознагалосы...», «Смалой рубцуецца кара...», «У млыне», «Раёва», «Першае паляванне». Гэты пералік, вядома, вельмі ўмоўны. З такім жа поспехам можна было б назваць і іншыя вершы кнігі, вылучаючы ў іх тыя ці іншыя станоўчыя бакі і асаблівасці.

З паэтычнай дэталлю Казімір Камейша абыходзіцца ў меру чула і ашчадна. Вось як, напрыклад, імпануюць характару верша, думкам яго лірычнага героя — палоннага салдата — радкі:

І сэрца грукне так балюча
У грудзі, быццам іх ірве:
Як разарваны дрот калючы,
У небе вырай праплыве.
(«Калі прыпомніш»).

Вольны вырай, разарваны калючы дрот як сімвал свабоды, чалавечая туга і боль вязня — усё гэта стварае надзвычай экспрэсіўны малюнак.

Вядома, можна запярэчыць, што, маўляў, дэталь сама па сабе, як кажуць, пагоду не робіць. Сапраўды, ёсць у Камейшы верш «Донары», у якім мы знойдзем такое назіранне: «робяць раптам донара са звонкай і ўзносістай сасны» ды і іншыя неблагія дэталі, а вось цалкам верш не мае шырокага гучання. Чаму? Таму, што паэт, нібы нанізваючы на шнурок паэтычныя тропы, не заўважыў, як непрыкметна прыйшоў да дэкларацыйнага вываду адвечнасці жыцця якраз там, дзе трэба было гэтую думку выказаць праз нейкі істотны і глыбокі штрых, які прымусіў бы чытацкую думку засяродзіцца на сабе. Тое ж самае можна сказаць і пра вершы «Па імшаным пагосце...», «На тым узгорку, за дарогаю...». Апошні з іх — прыклад таго, ад чаго Камейшу як паэту трэба катэгарычна адмаўляцца. Думаю, што гэта зразумее і сам паэт, калі перачытае радкі:

На тым узгорку, за дарогаю
Руды пясок акамянеў.
Былую песню вечаровую
Пяе аса на палыне.
Не забягу вады напіцца —
Са студні выглянуў тарчак.
І адзінокая суніца
Спаўзла крывёй у малачай.

Такое, відаць, завецца абязлічкай слова.

А вось адваротны прыклад, дзе ўсё да месца, выказана нешматслоўна, належным тонам і ладам:

Смалой рубцуецца кара.
Азяб — ідзі пагрэйся:
Ля муравейніка-кастра
Брусніччнік разгарэўся.
Хаджу між сонных саснякоў,
Дзе сон — сама праўдзівасць,
Дзе ўсё — звычайнасць, у якой
Мяжуе дзіва з дзівам;
Дзе сувязь з небам і зямлёй,
І з вечнасцю,
і векам...
Дзе ўсё у значнасці сваёй
Мяжуе з чалавекам.

І не трэба пасля гэтага Камейшу тое-сёе «пазычаць» у другіх («Трамвай, які аддаляецца», «Крылатасць»), не варта выдумляць назвы для раздзелаў кнігі і невядома па якім прынцыпе размяркоўваць пад імі вершы — удалая рэч будзе гаварыць сама за сябе.

Казімір Камейша можа і павінен пісаць яшчэ лепш. «Да лета наступнага хопіць клёпу на нашых косах», — гаворыць ён у адным са сваіх вершаў. Гэтыя словы, калі аднесці іх да самога паэта, гучаць як абяцанне. Будзем жа чакаць вершаў з добрым паэтычным «клёпам».

**Юрка ГОЛУБ.**



## ● ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ ● ПАПЫТАЙ У КНІГАРНІ ●

шыя творы, напісаныя ў розныя гады. Іх героі — тыя, каму споўнілася семнаццаць. Самы час радавацца жыццю, марыць, кахаць. А тут — вайна. І юнакі становяцца на шлях барацьбы...

У творах Івана Навуменкі прываблівае лірызм, глыбокае пранікненне ў псіхалогію маладога чалавека, тонкі гумар. Пісьменнік умее ўбачыць і паказаць нясмеласць першага кахання, радасць юначага шчасця.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мінск, 1972.**

**«МАСТАЦТВА, ЯКОЕ ВА ЎСІХ НА ВІДУ».** Вясной 1918 года У. І. Ленін запрасіў да сябе народнага камісара асветы А. В. Луначарскага, каб абмеркаваць пытанні развіцця манументальнага мастацтва. Правадыр як выдатны палітык і дзяржаўны дзеяч бачыў галоўную мэту манументальнай прапаганды ў распаўсюджванні рэвалюцыйных ідэй па ўсёй краіне, у камуністычным выхаванні працоўных. Успамінам пра гэты факт аўтар кнігі Б. Элентух пачынае расказ пра беларускія помнікі манументальнай скульптуры, што створаны за гады Савецкай улады.

У кнізе даецца падрабязнае апісанне помнікаў, раскрываецца гісторыя манументальнага мастацтва. Многа ўвагі ўдзяляецца мемарыялам «Хатынь», «Брэсцкая крэпасць», «Курган Славы».

**«Выдавецтва «Народная асвета», Мінск, 1972.**

**«МАТЭМАТЫКА.** Курс школы для паступаючых у ВНУ і тэхнікумы». Гэта дапаможнік для тых, хто рыхтуецца паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы і тэхнікумы. Аўтар яе — Н. В. Мяцельскі. Кніга пабудавана так: спачатку даецца тэарэтычны матэрыял, затым практыкаванні, адказы і ўказанні па рашэнні, потым зноў кантрольныя заданні і адказы. Такім чынам, кожная тэма падмацоўваецца практыкаваннямі, задачамі і прыкладамі.

**Выдавецтва «Вышэйшая школа». Мінск, 1972.** На рускай мове.

ДА 80-ГОДДЗЯ

З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

МАКСІМА ГАРЭЦКАГА



# ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА

У гісторыі развіцця беларускай культуры пачэснае месца па праве належыць Максіму Гарэцкаму, выдатнаму пісьменніку, вучонаму, публіцысту.

У Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР і архіве АН БССР захоўваюцца дакументы, якія дазваляюць значна расшырыць нашы ўяўленні пра жыццё і дзейнасць Максіма Іванавіча Гарэцкага.

Уяўляе цікавасць знойдзеная ў службовых спісах супрацоўнікаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта за 1923 год рэгістрацыйная анкета, напісаная ўласнаручна Максімам Гарэцкім:

«1. Прозвішча — Гарэцкі.

2. Імя — Максім.

3. Імя па бацьку — Іванавіч.

4. Дакладны адрас — Мінск, Савецкая, 97-6.

5. Час нараджэння — 1893.

6. Месца нараджэння — Меншая Багацькаўка, Шамаўская вол., Мсціслаўскага павету.

7. Нацыянальнасць — беларус.

8. Родная мова — беларуская.

9. Паходжанне (саслоўнае) — селянін.

10. Сямейнае становішча — жанаты.

11. Склад сям'і і месца яе прабывання — жонка і двое дзяцей, у Менску.

13. Адукацыя агульная (ніжэйшая і сярэдняя школы і час сканчэння) — Альшанская другакласная школа Аршанскага павету — 1908 г., землямерна-агранамічная школа ў Горах-Горках Магілёўскай губерні — 1913.

14. Адукацыя вышэйшая (падрабязна з указаннем часу заканчэння) — слухаў лекцыі ў Маскоўскім археалагічным інстытуце на I курсе ў 1918—1919 г. (гісторыя мастацтва).

15. Спецыяльнасць — беларуская літаратура.

16. На якіх мовах, акрамя роднай, гаворыць, піша, чытае (указаць падрабязна) — расійская і польская.

17. Папярэдні занятак: а) да Кастрычніцкай рэвалюцыі і б) пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. — Каморнік (землямер), рэпарцёр, настаўнік, літаратар.

18. Вучэбная спецыяльнасць (галіна і прадмет выкладання) — беларуская літаратура.



19. Якімі тэхнічнымі і практычнымі навыкамі валодае і дзе працаваў. — Умею усякую сельскагаспадарчую работу, умею каморніцтва.

20. Папярэдняя вучэбная і навуковая работа. — Быў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Віленскай беларускай гімназіі, на беларускіх і літоўскіх настаўніцкіх курсах у Дзвінску (Латвія).

21. У якіх навуковых таварыствах і камісіях удзельнічаў або ўдзельнічае. — Інстытут беларускай культуры ў Менску, беларускае навуковае таварыства ў Вільні.

22. Якія мае навуковыя або літаратурныя працы — «Гісторыя беларускай літаратуры», «Хрэстаматыя беларускай літаратуры», «Беларускія слоўнікі», апавяданні.

23. Ці мае навуковую ступень — не.

24. Ці займаў калі-небудзь выбарныя пасады, дзе і калі. — Кандыдат Менскага гарадскога савету, 1923 г.

25. Адносіны да воінскай павіннасці (дзе служыў і ў якіх чынах). — Бамбардзір 2-й батарэі 27-й артылерыйскай брыгады.

Па набору ўвосень 1918 года ў Смаленску прызнаны зусім нягодным за ранамі для службы, дакумент прапаў.

26. Ці састаяў у Прафесіянальным саюзе, у якім менавіта, з якога часу. — Сябар беларускага Настаўніцкага саюза ў Вільні з 1919 г. (№ 31), цяпер сябар саюза працаўнікоў асветы.

27. Ці спачувае або належыць да якой-небудзь палітычнай партыі. — Беспартыйны.

Подпіс М. Гарэцкі.»

У 1923 годзе рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта У. І. Пічэта запрашае Максіма Гарэцкага выкладаць беларускую мову на рабочым факультэце БДУ.

З першых сваіх лекцый Максім Іванавіч стаў адным з самых любімых выкладчыкаў. Ён пакінуў незабыўны след у памяці многіх выпускнікоў рабфака. Аўтару гэтых радкоў удалося знайсці выпускнікоў рабфака БДУ, якія слухалі лекцыі Максіма Гарэцкага. Вось што яны расказваюць:

**К. Л. Кулакоў** (студэнт рабфака БДУ 1923—1925 гг., артыст Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра імя А. М. Горкага, персанальны пенсіянер): «...Максіма Гарэцкага мы вельмі любілі. Ён быў душой рабфака. Выкладаў беларускую мову, і яна ў яго вуснах гучала цудоўна. Максім Іванавіч быў вялікі знаўца фальклору, вельмі любіў тэатр.

На рабфаку тады вучыліся рабочыя, сяляне і дэмабілізаваныя чырвонаармейцы, і ўсім было аднолькава цікава слухаць лекцыі Гарэцкага. Калі называць прапагандыстаў беларускай літаратуры і мастацтва, то ў першую чаргу ім быў Максім Гарэцкі».

**З. І. Вінакур** (студэнт рабфака 1922—1925 гг., адказны работнік Дзяржплана БССР).

«У 1923—1925 гадах у нас на рабфаку чытаў беларускую мову Максім Гарэцкі. Уражанне было незабыўнае. Гэта быў вельмі сардэчны, уважлівы і таленавіты лектар і выкладчык.

Мне ўспамінаецца такі эпізод. Беларускі дзяржаўны тэатр ставіў спектакль Я. Міровіча «Машэка». Перад спектаклем на сваіх лекцыях Максім Іванавіч расказаў нам пра змест і ідэйную накіраванасць п'есы. Потым павёў нас у тэатр. У час спектакля увесь час быў з намі, тлумачыў, што каму было незразумела. Таксама некалькі разоў Максім Іванавіч вадзіў нас у гістарычны музей, хоць гэта не ўваходзіла ў яго абавязкі.

Прайшло амаль 50 гадоў, а перад маімі вачыма як жывы стаіць вобраз выдатнага пісьменніка, выкладчыка і чалавека Максіма Гарэцкага».

Незадоўга да прыезду Максіма Гарэцкага ў Мінск рэктар БДУ У. І. Пічэта запрасіў на пасаду выкладчыка беларускай мовы педфака Якуба Коласа, але працаваць у БДУ Якуб Колас пачаў амаль адначасова з Максімам Гарэцкім — у пачатку лістапада 1923 года.

Паміж двума вядомымі пісьменнікамі завязваюцца шчырыя, сяброўскія адносіны.

У канцы 1929 года Максім Гарэцкі разам з Якубам Коласам па жаданні студэнтаў ствараюць гурток беларускай культуры на рабфаку БДУ.

З членаў гуртка ўдалося адшукаць І. Л. Сацункевіча і Х. Л. Вайнера.

**І. Л. Сацункевіч** успамінае: «На занятках гуртка лекцыі нам чыталі дзеячы беларускай культуры. Максім Гарэцкі і Якуб Колас запрашалі да нас

на сустрэчы Цішку Гартнага, Змітрака Бядулю, Міхася Чарота і іншых беларускіх пісьменнікаў і паэтаў.

Многае згладзілася з памяці. Як ні кажы, а прайшло 48 гадоў. Я толькі памятаю, што мы знаёміліся з беларускім фальклорам, разбіралі некаторыя мастацкія творы з удзелам аўтараў.

Занятк гуртка вельмі былі цікавыя, мы іх наведвалі ахвотна. Як Максім Гарэцкі, так і Якуб Колас гарэлі жаданнем перадаць нам свае веды, любоў да беларускай літаратуры і мастацтва. Работа ў гуртку беларускай культуры прынесла нам карысць у далейшай вучобе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце і ў нашым далейшым жыцці»...

Акрамя ўніверсітэта, М. Гарэцкі выкладаў беларускую мову і літаратуру ў камвузе. У канцы 1926 года наркамасветы БССР паслаў яго ў Горкі загадчыкам кафедры беларусазнаўства Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Дацэнтам гэтай кафедры ў той час быў Юры Паўлавіч Гаўрук—вядомы ўсім нам пісьменнік Юрка Гаўрук.

Сярод студэнтаў сельскагаспадарчай акадэміі, якія слухалі лекцыі М. І. Гарэцкага, былі Уладзімір Елісеевіч Лабанок (Герой Савецкага Саюза, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР), Аляксандр Сцяпанавіч Вечар (цяпер акадэмік АН БССР) і іншыя.

**А. С. Вечар** успамінае:

«З пачуццём вялікага задавальнення даведаліся мы, што лекцыі па беларускай літаратуры на нашым курсе будзе чытаць вядомы беларускі пісьменнік Максім Гарэцкі. Некаторыя з нас былі знаёмы з яго творамі. Лекцыі Максіма Іванавіча вызначаліся глыбокім зместам, вялікай эрудыцыяй, народным гумарам, папулярнасцю. Праз некаторы час на яго лекцыі пачалі прыходзіць студэнты з іншых курсаў і факультэтаў. Як ніхто іншы, ён прывіваў нам любоў да беларускай літаратуры, якую я пранёс праз усё жыццё...»

Пасля прыезду ў Мінск Максім Гарэцкі быў запрошаны на работу ў тэрміналагічную камісію Інбелкульта. Тут яму давялося працаваць разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Разам з М. Байковым Максім Гарэцкі прыняў актыўны ўдзел у рабоце слоўнікавай камісіі Інстытута беларускай культуры. У 1924 годзе ў свет выходзіць «Практычны расійска-беларускі слоўнік» (аўтары Байкоў М. і Гарэцкі М.).

А праз год Максім Гарэцкі быў выбраны правадзейным членам Інстытута беларускай культуры.

Згодна пастановы Прэзідыума Інбелкульта ад 9 лютага 1925 года, ён назначаецца загадчыкам секцыі мовазнаўства і літаратуры. Не праходзіць і месяца, як ён прызначаецца сакратаром Літаратурнай камісіі Інстытута беларускай культуры (старшынёй—прафесар І. Замоцін).

Максім Гарэцкі прымаў актыўны ўдзел у рабоце фальклорнай камісіі Інбелькульта, у якой працавалі Б. Эпімах-Шыпіла, Я. Купала і Я. Колас.

Народныя песні з дзяцінства вабілі Максіма Іванавіча. Ён удзельнічаў у многіх фальклорных экспедыцыях, арганізаваных Інстытутам беларускай культуры. Як успамінае вядомы беларускі кампазітар М. І. Аладаў, якому давялося супрацоўнічаць з Максімам Гарэцкім, адна з такіх экспедыцый была наладжана на радзіму пісьменніка ў вёску Малая Багацькаўка. Максім Іванавіч працаваў з вялікім энтузіязмам. Пазней, у 1928 годзе, выйшаў зборнік «Народныя песні з мелодыямі», падрыхтаваны М. Гарэцкім у сааўтарстве з кампазітарам А. Ягоравым. Цікава адзначыць, што 318 беларускіх песень, змешчаных у зборніку, пісьменнік запісаў ад сваёй маці Афрасінні Міхайлаўны.

Займаецца ён і літаратуразнаўствам. З-пад яго пяра выходзяць артыкулы «Колькі слоў аб творах і мове М. Лынькова» і «Мастацкая проза сучасных маладнякоўцаў»—першае навуковае даследаванне гісторыі гэтай масавай літаратурнай арганізацыі.

13 кастрычніка 1928 года была прынята пастанова ЦВК і СНК БССР аб рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Акадэмію навук БССР. Пры акадэміі была створана Тэрміналагічная камісія, вучоным спецыялістам якой быў прызначаны Максім Гарэцкі...

М. Гарэцкі быў добрым выхаваўцам, чулым і клапатлівым бацькам. Пра гэта сведчаць яго пісьмы сваім дзецям Лёню і Галі, якія ветліва прадаставіў мне вядомы літаратуразнаўца Дзмітры Бугаёў, аўтар манаграфічнага нарыса «Максім Гарэцкі». Вось урыўкі з пісем:



4/I-1932.

«...Дзякуй табе, Лёня, што пацешыў мяне сваімі лістамі і малюнкамі, а цяпер дзякую і табе, Галінка. Я быў дужа рад, што і ты адгукнулася. Маладзец, што пасабляеш маме...

А якія ж ты кніжкі бярэш, Галя, у школьнай бібліятэцы? І якія ты, Лёнечка, чытаеш?—таксама напішы».

14/I-1932.

«Маладзец, Лёня, што памагаеш маме ў рабоце. І Галя маладзец, што дапамагае, ужо і бандэроль сама насіла...»

4/III-1932. «Леаніду Максімавічу Гарэцкаму.

...Перадай прывітанне Галі і ў дзень яе нараджэння будзь з ёю ўвесь дзень асаблівa ласкавы і ў гэты дзень сыграй ёй што-небудзь на гармоніку, калі нікому не будзеш перашкаджаць...»

30/III-1932 г.

«...Добра, Лёня, што ты цяпер больш чытаеш... Але, мусіць, трэба ўжо табе чытаць некаторыя апавяданні Гогаля, Пушкіна. Яшчэ была ў нас кніжка «Гайавата» Лангфэла, можа яна спадабаецца. Парайся з мамаю, што чытаць. І пытайся ў школе, якія кніжкі браць у бібліятэцы...»

Старанні Максіма Гарэцкага выхаваць сваіх дзяцей свядомымі будаўнікамі сацыялістычнага грамадства, патрыётамі Радзімы не прапалі дарэмна. Яго сын, Леанід Максімавіч Гарэцкі, будучы афіцэрам Савецкай Арміі, загінуў смерцю храбрых у час Вялікай Айчыннай вайны. Дачка, Галіна Максімаўна, стала настаўніцай. Цяпер яна разам са сваёй маці Леанілай Усцінаўнай Чарняўскай жыве ў Ленінградзе...

На жаль, яшчэ не ўсё вядома нам аб жыцці і творчасці М. Гарэцкага, пісьменніка, вучонага, чалавека. А ён варты нашай павагі, нашай удзячнай памяці. Таму кожны жывы штрых да яго біяграфіі не можа не цікавіць і не радаваць нас.

**Марк ІОФЕ.**



# У ГУЛЬНІ ПЕРАМАГАЕ ЗНАХОДЛІВЫ

Калі за дошкай сустракаюцца вопытныя шашачныя майстры, вынік партыі робіцца відавочны толькі пасля складанай пазіцыйнай барацьбы. Тут за, здавалася б, простымі і натуральнымі ходамі схаваны тонкія манеўры і папярэдне падрыхтаваныя нечаканыя камбінацыі. У час паядынку ігракам трэба бывае разгадваць дзесяткі простых і складаных пастак, а потым імкнуцца ўдала пазбегнуць іх. У кожнай сустрэчы майстроў рыхтуюцца такія камбінацыйныя хітрыкі, але больш за ўсё нечаканых ўдараў бывае ў партыях юных шашыстаў. І гэта зусім невыпадкова і нікога не здзіўляе, таму што ўменне паважаць сілу партнёра і яго камбінацыйны талент прыходзіць не адразу, а паступова, з узростам і спартыўным вопытам. Пакуль жа шашыст малады, ён бесперастанку прыдумвае адну пастку за другой, пераканаены, што лепшую з іх праціўнік не здолее разгадаць. І тут звычайна шчасце прыходзіць да больш вынаходлівага.

Юныя шашысты 22-й сярэдняй школы горада Мінска маюць вялікія шашачныя традыцыі. У камандных спаборніцтвах піянерскіх дружын «Дзіва-шашкі» яны здолелі выйграць першынство Савецкага Саюза. Паглядзіце, якім прыгожым прыёмам выйграў партыю самы малады ўдзельнік гэтай каманды Алег Міронаў.

| **А. Міронаў** | **Б. Магільнер** |
|---|---|
| 1. c3—d4 | f6—g5 |
| 2. b2—c3 | g7—f6 |
| 3. g3—f4 | h8—g7 |
| 4. c1—b2 | b6—a5 |
| 5. d4—c5 | |

Гэтым ходам белыя пазбягаюць цікавай пасткі. Прайгравала 5. d4—e5?? f6 : d4, 6. c3 : e5 g7—f6! 7. e5 : g7 e7—f6, 8. g7 : e5 a5—b4!!, 9. a3 : e7 d8 : d4 10. e3 : c5 g5 : e7 з выйгрышам.

| | |
|---|---|
| 5. . . . . . | d6 : b4 |
| 6. a3 : c5 | c7—b6 |
| 7. c3—d4 | d8—c7 |
| 8. f4—e5 | e7—d6 |
| 9. a5 : e7 | f6 : d8! |

Цяпер чорныя разгадалі задуму праціўніка. Спроба выйграць шашку шляхам f8 : f4 вядзе да пройгрышу пасля 10. b2—a3!, і чорныя не маюць ніводнага ходу.

| | |
|---|---|
| 10. d2—c3 | b6—c5 |
| 11. d4 : b6 | a7 : c5 |
| 12. e3—f4 | g5 : e3 |
| 13. f2 : b6 | b8—a7 |
| 14. g1—f2 | a7 : c5 |
| 15. f2—e3 | c7—b6 |

Чорныя зноў апынуліся на вышыні. У выпадку ходу d8—e7 ці f8—e7 белыя праходзяць у дамкі пасля 16. e5—d6! c7 : e5, 17. e3—d4 c5 : e5, 18. c3—b4 a5 : c3, 19. b2 : h8 і г. д.

| | |
|---|---|
| 16. h2—g3 | d8—e7?? |

Нарэшце такі, чорныя не заўважылі хітрай пасткі і адразу ж паплаціліся за памылку.

**Б. Магільнер**




**А. Міронаў**

| | |
|---|---|
| 17. e3—d4! | c5 : e3 |
| 18. g3—f4! | e3 : g5 |
| 19. e5—f6 | g7 : e5 |
| 20. c3—b4 | a5 : c3 |
| 21. b2 : a5 | |

І чорныя здаліся.

**Макс ШАВЕЛЬ, міжнародны майстар.**

# ПРАВЕРЦЕ СВАЕ РАШЭННІ

Паведамляем скарочаныя рашэнні шашачных кампазіцый, якія былі змешчаны ў «Маладосці» №№ 10 і 12 за 1972 год.

Задача Э. Бучля. 9—18 (7А), 20, 42. А(12), 21, 20, 47, 46 : 37.

Канцоўка Б. Шавярдзяна. 31 (36), 24, 38, 21, 25х.

Задача М. Пустыннікава. 1 (45А), 46, 41. 1—34, 39—33, 10, 42, 41, 43—39, 37, 47. А (44), 40, 50—44, 44—39, 38, 46—41.

Канцоўка Я. Гобіньша. 31, 45, 33, 29, 43, 32х.

Канцоўка Н. Бекбасарава. 31, 12, 3, 10, 24, 14х.

Камбінацыі М. Іржаўскага. I. 1cb4 2. ec3 3. de5 4. hb6 5. ac3x. II. 1. fe3 2. fg5 3. dd8 4. dg5 5. ge7x III. 1. ab8 2. ed2 3. ae5 4. bf4 5. gf2x.

Канцоўка Д. Палонскага. 1. cd6! ea5 2. de3 3. ce1 4. ed2 5. gf2 6. hd6!x.

Канцоўка Н. Піліпенкі. cb6, ed2, ac3, fe5, hg3x.

Канцоўка В. Пакальнішкіса. cd2, cd4, (ce3), fd4, gc7, ed2, gf2, ha3x.

Эцюд Д. Гаджыбабірава. f6 (a3), g7 (b2A), f8 (a1), fe5 (b2), a3x. A (b4), c5, h8x.

Канцоўка Р. Пракса. hg7, bc5 (dd2), bc3 (db2), fg8, ae3, df6x.

# АДАМ МІЦКЕВІЧ І... ШАШКІ

Мусіць, мала хто ведае, што вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч захапляўся шашкамі. Мала хто ведае і тое, што ён напісаў паэму «Шашкі» («Warcaby»). Упершыню паэт прачытаў сваю паэму, у якой было 214 радкоў, 29 красавіка 1819 года на пасяджэнні таварыства філаматаў (тайнай арганізацыі віленскіх студэнтаў). У 1821 годзе ён дапісаў да паэмы яшчэ 68 вершаваных радкоў. «Шашкі» былі прысвечаны Францішку Малеўскаму — бліжэйшаму сябру паэта па ўніверсітэту і таварыству філаматаў.

А. Міцкевіч бачыў у шашках перш за ўсё цікавы занятак, добрую магчымасць карысна правесці час, калі на дварэ гуляе завіруха альбо імжыць дождж; лічыў, што шашкі даюць вялікі зарад бадзёрасці і цудоўнага настрою. Гульню ў шашкі ён супрацьпастаўляе некаторым шумным і азартным гульням накшталт даміно і картаў.

«Шашачная дошка не церпіць чужых, за ёй сядзяць альбо каханкі, альбо сябры»,— сцвярджае паэт і тут жа дадае, што шашкі не павінны служыць карыслівым мэтам, што яны павінны збліжаць людзей. А. Міцкевіч прыгадвае ў паэме сваю каханую Марыанну-Еву (Марылю) Верашчака, хоць к таму часу яна была ўжо нарачонай графа Путкамера: «Мы былі адно да аднаго так блізка тварамі і сэрцамі! Толькі дошка ляжала між намі».

Мяркуючы па вершах, паэт добра ведаў асноўныя прынцыпы гульні ў шашкі. Напрыклад, зусім слушная яго парада пачаткоўцам займаць кутнія палі шашачнай дошкі, бо «пачаты ў цэнтры бой пад сілу толькі майстру, у ім пачаткоўцу лёгка ўсё адразу страціць». Шашкі для паэта — гэта складаная гульня, калі, вядома, рабіць асцярожныя і дакладныя хады. Перамога, здабытая выпадкова, у выніку таго, што супернік штосьці празяваў, не прыносіць сапраўднай асалоды. З другога ж боку, той, хто «бяздумна кідаецца ў агонь, спяшаецца, траціць раўнавагу», выглядае, прынамсі, смешна.

У пісьмах А. Міцкевіча ўпамінаюцца і шахматы, а ў адной з англійскіх кніг пра польскага паэта ёсць рэпрадукцыя малюнка, на якім А. Міцкевіч і князь Галіцын сядзяць за шахматнай дошкай. (Рым, 1830 год). У паэме «Шашкі» паэт, даючы высокую ацэнку шахматам, выказвае пажаданне, каб такімі ж папулярнымі ва ўсім свеце сталі і шашкі.

Адам Міцкевіч быў вялікім аматарам гэтай сапраўды народнай гульні, глыбока ўсвядоміў яе мудрасць і прастату. Інакш ён наўрад ці змог бы так горача і палка апець шашкі ў сваёй паэме.

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ.**
**майстар спорту СССР.**

# МУЗЕЙ ТРАМВАЯ

«Якія вы ведаеце музеі?» На такое пытанне кожны з нас назваў бы, відаць, некалькі агульнавядомых музейных устаноў. А між тым музеі бываюць самыя розныя, падчас настолькі незвычайныя, што напачатку адны назвы іх выклікаюць нярэдка ўсмешку, а то і недаўменне. Мяркуйце самі. Дацкі фермер Хансен стварыў адзіны ў свеце музей птушынага пер'я, а ў румынскім горадзе Орадзе існуе музей яек. У Латвіі створаны музей бульбы, у горадзе Енджэюве (ПНР) ёсць музей гадзіннікаў, а пры сусветна вядомай фабрыцы «Світ» у горадзе Готвальдава (ЧССР) існуе музей абутку. У Чэхаславакіі ёсць і яшчэ адзін цікавы музей—музей аўтамабіляў. Можна таксама ўспомніць тут пра музеі спірту—у Эстоніі, званоў—у ГДР, він—у Грузіі, лямп-газовак—у Польшчы, музей пернікаў маскоўскага архітэктара Вінаградава, музей цэглы венгра Кесена і многія іншыя. Нягледзячы на знешнюю незвычайнасць, многія з іх уяўляюць для наведвальнікаў вялікую цікавасць.

А ці ёсць падобныя музеі ў Беларусі?

Кожны, хто быў у Віцебску, ведае, што ў нашым старажытным горадзе над Дзвіной (дарэчы, у 1974 годзе Віцебск будзе адзначаць сваё тысячагоддзе) ёсць трамвай. Але, мусіць, далёка не ўсім вядома, што віцебскі трамвай—адзін са старэйшых у Расіі. У 1898 годзе, калі яшчэ ў Маскве і Пецярбурзе панавала славутая конка, у невялікім губернскім горадзе быў урачыста адкрыты электрычны трамвай—першы ў Беларусі.

У Віцебску пры трамвайным упраўленні ў 1966 годзе створаны і першы, адзіны ў краіне, музей трамвая. Адным са стваральнікаў яго, а зараз—грамадскім дырэктарам з'яўляецца Леанід Аляксеевіч Забела. Яшчэ ў 1959 годзе ён пачаў збіраць матэрыялы для гэтага музея: наладзіў перапіску з ветэранамі працы, знаёміўся з літаратурай па гісторыі трамвайнай справы ў Расіі. Паступова набраліся цікавыя дакументы, фотаздымкі, макеты.

Будаўніцтва трамвая ў Віцебску пачалося ў 1896 годзе. За два гады было пракладзена пяць кіламетраў рэек па двух маршрутах. Работай кіраваў інжынер Разенталь. Урачыстае адкрыццё адбылося 14 ліпеня 1898 года. У гонар гэтай падзеі кампазітар А. Крамер напісаў нават спецыяльны «Марш-трамвай».

У экспазіцыі музея—макеты першых трамвайных вагонаў, якія паступалі ў Расію з Заходняй Еўропы. Тут жа і макеты першых айчынных вагонаў. У адной з вітрын—калекцыя грашовых знакаў царскай Расіі: гэтымі манетамі пасажыры плацілі за праезд. Дарэчы, плата за праезд была высокая, і таму новым віцебскім транспартам карысталіся толькі багатыя людзі.

Многія экспанаты музея расказваюць аб цяжкіх умовах, у якіх працавалі некалі віцебскія трамвайшчыкі. Рабочы дзень цягнуўся шаснаццаць гадзін. І не дзіўна, што рабочыя трамвая былі першыя, хто стаў на шлях барацьбы супраць царызму. У ліпені 1905 года яны стварылі свой прафсаюз. Пазней віцебскія трамвайшчыкі бралі актыўны ўдзел ва ўстанаўленні Савецкай улады ў горадзе і губерні.

Асобны стэнд прысвечаны станаўленню віцебскага трамвая пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Тут жа—службовыя пасведчанні рабочых трамвайнага парка, матэрыялы пра будаўніцтва новых трамвайных ліній.

У трамвайным дэпо працавалі многія рабочыя дынастыі. Пра некаторыя з іх расказваюць экспазіцыі музея. Напрыклад, сям'я Цымляковых. Першы з Цымляковых прыйшоў у дэпо ў год адкрыцця трамвая і працаваў тут аж да 1940 года. Яго дачка стала вагонаважатай у 1933 годзе і працавала да 1959 года, адсюль пайшла на заслужаны адпачынак.

Асаблівую цікавасць уяўляюць пісьмы рабочых камунальнай гаспадаркі, куды ўваходзіла ўпраўленне трамвая, да Уладзіміра Ільіча Леніна. У экспазіцыі—фотакопіі гэтых пісем. У мясцовым архіве знойдзена і справа аб залічэнні У. І. Леніна машыністам віцебскай гарадской электрастанцыі, якая забяспечвала электрычнасцю трамвай. У ёй ёсць такія радкі: «Старшыня Савета Народных Камісараў тав. Ленін Уладзімір Ільіч выбіраецца ганаровым машыністам Віцебскай гарадской цэнтральнай электрастанцыі з 2 ліпеня для таго, каб работу яго выконвалі і неабходнае дзяжурства неслі за яго... рабочыя прадпрыемстваў «Вадасвет». Аклад, які належыць яму па стаўках Саюза камунальнікаў, перадаваць на карысць Чырвонага паветранага флоту... Копію гэтага загада і ўсёй перапіскі, якая тычыцца яго, пасланць тав. Леніну».

У гэтым годзе віцебскаму трамваю спаўняецца 75 гадоў.

**Аркадзь ПАДЛІПСКІ.**





# ЯК ПЕРАМАГЧЫ ЦЫГАРЭТУ?

Як адвыкнуць ад тытунёвага зелля? Пра гэта ўсё больш задумваюцца не толькі самі курцы, але і ўрачы. Асабліва насцярожвае тое, што гэта шкодная звычка, накшталт «моды», пачала ўсё больш распаўсюджвацца сярод жанчын і нават дзяўчат.

Аб шкодзе тытуню напісана многа, выпушчана шмат кароткаметражных фільмаў і плакатаў, якія заклікаюць кінуць курыць. Аднак— ці то ад лёгкадумнага пераймання, ці то ад таго, што людзі не ўяўляюць сабе, якую шкоду чалавечаму арганізму прыносіць нікацін,—«ахвяр» курэння не меншае.

А між тым нікацін—атрута, і вельмі моцная. Тытунёвы дым, праходзячы праз поласць рота, носа, гартані, праз трахею, бронхі і альвеолы лёгкіх, асядае на слізістай абалонцы дыхальных шляхоў. Працяглае курэнне прыводзіць да таго, што ў трахеях і бронхах накопліваюцца нікацін і прадукты згарання тытуню—смолы. А яны, як вядома, валодаюць канцэрагеннымі ўласцівасцямі, г. зн. выклікаюць утварэнне злаякасных пухлін. Тыя, хто курыць, часцей стамляюцца, у іх пагаршаецца слых, зрок, псуюцца і пачынаюць выпадаць зубы, запаляюцца дзясны. Небяспека захворвання ракам лёгкіх у таго, хто выкурвае ў дзень ўсяго толькі 10 цыгарэт, павялічваецца ў 10 разоў. Чалавек, які дасягнуў 35-гадовага ўзросту і ўпарта працягвае курыць, скарачае сваё жыццё на 5 гадоў—да такога вываду прыйшлі стакгольмскія вучоныя ў выніку праведзеных за апошняе дзесяцігоддзе навуковых даследаванняў.

Курэнне вельмі шкодна ўплывае і на сардэчна-сасудзістую сістэму. Ад нікаціну звужаюцца крывяносныя сасуды, а гэта прыводзіць да агульнага пагоршання самаадчування. У курыльшчыкаў на 5—10 працэнтаў паніжаецца забеспячэнне тканак арганізма кіслародам. Сэрца чалавека, які курыць, б'ецца мацней, чым звычайна. Інфаркт у курыльшчыкаў бывае ў 12 разоў часцей, чым у тых, хто не курыць.

Арганізм людзей, якія кураць, інтэнсіўна губляе аскарбінавую кіслату—вітамін С, недахоп якога прыводзіць да развіцця гастрыту, язвеннай хваробы, катару страўніка і нават да расстройства разумовай дзейнасці. Псіхічныя захворванні ў курыльшчыкаў—частая з'ява. Чадны газ, які знаходзіцца ў тытунёвым дыме, шкодна дзейнічае на нервовыя клеткі сетчатай абалонкі вока. Многія пачынаюць горш адрозніваць колеры, горш бачыць у цемнаце, у іх парушаецца дакладнасць рухаў, вокамер.

На жаночы арганізм курэнне ўплывае асабліва шкодна. Даследаванні вучоных з Аксфардскага ўніверсітэта паказалі, што жанчыны, якія кураць у час цяжарнасці, рызыкуюць нараджаць нежывых дзяцей. Прыкладна ў 20 са 100 цяжарных жанчын, якія выкурваюць ад адной да дзесяці папярос у дзень, нараджаюцца мёртвыя або хворыя дзеці. У тых, якія выкурваюць больш як дзесяць папярос штодзённа, узнікае небяспека нарадзіць дзіця-калеку. Маці, якая курыць, прыносіць шкоду не толькі сабе, але і дзіцяці: у яе нехапае малака, і дзіця даводзіцца дачасна пераводзіць на штучнае харчаванне.

Дык як жа кінуць курыць таму, хто ўжо прывык да тытуню, як кажуць, уцягнуўся?

За мяжой (ГДР, Балгарыя, Чэхаславакія, Англія) жадаючых кінуць курыць лечаць антынікацінавымі таблеткамі або метадам псіхічнага ўздзеяння. Але такім спосабам можна толькі на нейкі час выклікаць агіду да тытунёвага дыму, прыглушыць жаданне курыць. Каб адвыкнуць ад тытуню, трэба мець сілу волі самому курцу. На жаль, многія курцы, устрымаўшыся некалькі дзён ад цыгарэт, не вытрымліваюць і зноў пачынаюць курыць. Яны скардзяцца, што не могуць без папяросы, што ўсё ў іх валіцца з рук, баліць галава, адчуваюць нейкую непрыемную сухасць у роце, што ім цяжка сканцэнтравацца.

Гэтая рэакцыя арганізма зусім зразумелая. У курца ўмоўныя рэфлексы выпрацоўваліся гадамі, і адвыкнуць ад іх адразу не так лёгка. Боль у галаве, стома і разгубленасць—гэта проста вынік ломкі выпрацаваных умоўных рэфлексаў. Медыцына не ведае ніводнага выпадку, каб, кінуўшы курыць, чалавек памёр або пагоршылася яго здароўе. Наадварот, ён становіцца больш устойлівы супраць хвароб, бадзёры, энергічны, жыццярадасны.

Кінуць курыць трэба адразу, без ваганняў і адкладванняў. Вядома ж, рабіць гэта лягчэй напачатку, калі чалавек яшчэ не стаў заядлым курцом, карацей кажучы—чым раней, тым лепш.

**Уладзімір ФІЛІПОВІЧ.**

● **Марат ЯГОРАЎ**

# АВАРЫЙНАЯ СІТУАЦЫЯ

Усё, здаецца, у гэтай сесіі ішло гладка. Сцяпан Таўкура, студэнт другога курса філалагічнага факультэта, з палёгкай уздыхнуў: застаўся апошні экзамен. Нават, можна сказаць, не экзамен, а так — глупства. Падумаеш, прадмет — літаратура.

У Сцяпана была свая ўласная сістэма здачы. Яна яму ўжо не раз дапамагала ў цяжкіх сітуацыях. Асноўным звяном з'яўлялася шпаргалка. Лепш, калі чужая — менш клопату.

Да апошняга часу Сцяпанава сістэма ў цэлым дзейнічала цудоўна. Праўда, бывалі асечкі: як ні круціўся, запаветнага траяка не атрымліваў. Не бяда. Сцяпан рабіў другі заход да выкладчыка, трэці. Адным словам, браў асадай.

Надышла, нарэшце, чарга літаратуры. Сцяпан лісліва глядзеў у вочы Настассі Сымонаўны. «Вось, маўляў, я бедны-няшчасны. Вучуся, вучуся, нават няма калі вачэй ад кнігі падняць. Хоць бы хто-небудзь паспачуваў...»

Гаварыў Сцяпан, як заўсёды, шпарка. Ён нават ні разу не глянуў у свой білет. Дый навошта? Выдатная шпаргалка дала вычарпальны адказ. А як Сцяпан прыдбаў гэтую шпаргалку? Гэта цэлая гісторыя. Сам ён не вельмі любіў сядзець і выпісваць з кніг і канспектаў разумныя думкі на складзеную гармонікам паперку. Нашто траціць сілы і час, ці не лепш узяць у другіх? Лепш за ўсё ў суседняй групе. Пасля паспяховай здачы экзамена студэнт — шчодры.

Праўда, на гэты раз выйшла невялікая загвоздка. Кінуўся Сцяпан да аднаго, да другога — ніхто не дае. Той-сёй здзекуецца нават. Кажа: без шпаргалкі здаём. Так ім і паверыў Сцяпан. Ды хіба можна... Не, тут не абышлося без змовы. Ясна, зайздросцяць. Але нічога — у другой групе хлопцы памяркоўныя.

І бывае ж такое, адразу пашчасціла. У адным з пакояў інтэрната, дзе жылі хлопцы з суседняй групы, сядзеў Мішка Хрушч. Абклаўся кнігамі, карпее. «Вось дзівак,— падумаў Сцяпан.— Навошта так старацца, калі на акне ляжыць цудоўная шпаргалка? Можа толькі выгляд падае, што займаецца. Дык ужо не перада мной!»

А шпаргалка, нібы магніт, цягне Сцяпана ўсё бліжэй і бліжэй. На першай старонцы было ясна напісана: літаратура. Якраз тое, што трэба.

Сцяпан імгненна ацаніў сітуацыю. Ён у Мішкі прасіў? Прасіў. Але ён не даў? Не даў. Значыць, трэба забраць. Тым больш, што экзамен у яго толькі заўтра. Вярну праз некалькі гадзін. Нічога, палаецца крыху і перастане. А экзамен здасць. Кароценькая хударлявая фігурка Сцяпана непрыкметна падабралася да акна. Шпаргалка за спіной. Цяпер трэба адцягнуць увагу...

— Міша, га, Міша, дай крытыку на некалькі гадзін.

— Не бачыш, самому патрэбна,— буркнуў Міша, не ўзнімаючы на Сцяпана вачэй. А той, святая прастата, не міргаючы глядзеў сваімі крыштальна чыстымі блакітнымі вачыма. Светлыя ўскудлачаныя валасы павінны былі рабіць уражанне страшэннай занятасці і заклапочанасці.

— Ну няма, дык няма. Пайду далей,— з гэтымі словамі Сцяпан, заціснуўшы ў руцэ выратавальную шпаргалку, нячутна выслізнуў з пакоя.




...Адказваў Сцяпан Таўкура натхнёна. Гаварыў, гаварыў, гаварыў. Гэта таксама адзін з прыёмаў яго сістэмы. На ўсякі выпадак ён перапісваў са шпаргалкі адказы на некалькі білетаў, і гэта дазваляла «бліснуць эрудыцыяй» — вось колькі я ведаю!

Час ад часу Сцяпан пазіраў на Настассю Сымонаўну, каб пераканацца, якое ўражанне робіць яго адказ. Звычайна твар экзаменатара крывіўся, быццам ад зубнога болю. Калі не перапыняе — значыць, усё ў ажуры. А тут глянуў і абамлеў. Настасся Сымонаўна ўсміхалася. Ды што там усміхалася... На самой справе, чаго гэта яна так... Гэта ж сур'ёзная справа — экзамен. А яна... Яшчэ выкладчыца, называецца...

І тут Настасся Сымонаўна не вытрымала. Яна са смехам працягнула Сцяпану заліковую кніжку і зусім несур'ёзным голасам сказала:

— Усё гэта, таварыш Таўкура, вы мне раскажаце на наступнай сесіі.

У калідоры Сцяпан, нарэшце, разабраўся, што ў спешцы сцягнуў у Мішкі шпаргалку, якую той выпрасіў у трэцякурснікаў.

Вось табе і аварыйная сітуацыя...

Мал. **С. Волкава.**